

ДАРОГАЮ ВЯСНЫ

РЭХА МАЛАДОСЦІ

СОНЦА НАД МАІМ
АСЕННІМ САДАМ

ЗА ТВОРАМІ ШУШКЕВІЧА
ЧАРГА

КАЗАЧНЫ ЦЕРАМ



# Станіслаў Шушкевіч

## ВЫБРАНАЕ



ВЕРШЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1988

ББК 84 Бел 7
Ш 98

*Прадмова А. Марціновіча*

*Мастак А. Каравай*

Станислав Шушкевич (род. в 1908 г.) — старейший белорусский поэт. В сборник вошли стихи из книг, вышедших в 1930—1984 гг.: «Дорогой весны», «Стихи», «Вслед за мечтами», «Эхо молодости».

Стихи посвящены Родине, сыновьям земли белорусской Я. Купале, Я. Коласу, М. Богдановичу, братской дружбе народов. Есть в книге и юмористический раздел, в котором собраны веселые шуточные стихи.

Ш $\frac{4702120200-126}{М 302(03)-88}$ 109—88

ISBN 5-340-00109-1

## «НЕКАЛЬКІ СЭРЦАМ НАПІСАНЫХ КНІГ...»

Ёсць пісьменнікі, сама прысутнасць якіх заўсёды дорыць хвіліны радасці і задавальнення. Цудоўныя людзі, добрыя субяседнікі, спагадлівыя старэйшыя таварышы, яны аптымізмам і жыццядайнасцю сваёй лёгка захапляюць іншых, шчодра выпраменьваючы святло душы.

Такім бачыцца ўсім, хто ведае яго, Станіслаў Шушкевіч, адзін са старэйшых беларускіх літаратараў, чалавек нялёгкага жыццёвага лёсу, пісьменнік светлага таленту, які самаадданa служыць літаратуры, народу, па-сапраўднаму адказны за кожнае сваё слова.

Яно ж, гэтае слова, у творчасці С. Шушкевіча — шматаблічнае ў сваім выяўленні. Найперш чытачы ведаюць С. Шушкевіча-паэта — і «дарослага», і аўтара шматлікіх кніг для дзяцей. Ёсць яшчэ і Шушкевіч-празаік — удумлівы, разважлівы з уменнем выхопліваць з паўсядзённага жыцця сацыяльна-значныя сюжэты. Шушкевіч-мемуарыст валодае чуйнай памяццю, якая дазваляе яму нагадваць найцікавейшыя факты з жыцця дзесяткаў пісьменнікаў, яго сяброў і равеснікаў, хто заўчасна пайшоў з жыцця.

Шушкевіч-гумарыст не адмаўляецца ад з'едлівай сатыры.

З поспехам С. Шушкевіч выступае і ў галіне крытыкі. Добра вядомы як перакладчык.

Аўтар некалькіх дзесяткаў кніг, ён сёння дакляруе чытачу аднатомнік выбраных твораў. Па гэтым аднатомніку можна меркаваць аб значнасці таленту пісьменніка, вызначыць асноўныя накірункі яго творчасці, прасачыць, як ад звычайнага, па-юначы непасрэднага ўспрыняцця жыцця паэт перайшоў да яго глыбокага асэнсавання, спасціжэння ва ўсёй шматграннасці і складанасці.

Уваходзіў С. Шушкевіч у літаратуру ў сярэдзіне дваццатых гадоў. Гэта быў час, калі да актыўнай творчасці пачалі далучацца дзеці «ад сахі». Нават не дзесяткі іх, а сотні — маладых, апантаных, упэўненых, што менавіта яны, а не хто іншы, скажуць сваё слова і пра сам час, і пра гераічную эпоху — браліся за пяро. Экзамен на майстэрства вытрымлівалі дзесяткі, а то і адзінкі. Ся-

род апошніх быў і С. Шушкевіч, сын беззямельнага селяніна з вёскі Бакінава цяперашняга Дзяржынскага раёна.

«Невялічкі панскі маёнтак Бакінава,— успамінае Станіслаў Пятровіч,— быў акружаны наўкол сасновым борам і дубовымі гаямі. Частка парабкоўскага дома, у якім жылі мае бацькі, знаходзілася ў лесе, другая палова гэтай хаціны, нібы спалохаўшыся, углядалася ў невялічкі кавалак поля, на лугавінку ўздоўж дубровы і на забалочаную рачулку. У гэтай ціхай, маляўнічай мясцовасці 19 лютага 1908 года ўпершыню пацалавала мяне мая маці, Ружа Вінцэсеўна Доўнар».

Жыццёвыя абставіны склаліся так, што неўзабаве сям'я Шушкевічаў апынулася ў Смаленскай губерні і толькі ў пачатку імперыялістычнай вайны вярнулася на радзіму. «Сталай работы для бацькі не знайшлося ні ў горадзе Мінску, ні ў блізкіх памешчыцкіх маёнтках,— прыгадвае пісьменнік.— Часова ён працаваў на мінскай гарадской электрастанцыі рабочым кацельнай, пасля парабкаваў падзённа ў заможных землеўласнікаў. Нарэшце ўдалося знайсці працу ў маёнтку Сенніца».

У 1921 годзе Стасік Шушкевіч пайшоў адразу ў другі клас мясцовай пачатковай школы. Яму пашанцавала. Настаўніцай была Алімпіяда Васільеўна Сонцава, якая яшчэ ў 1889 годзе вучыла Янку Купалу. «Гэта старэнькая, напаўсляпая і адзіная настаўніца,— з прыязню таворыць С. Шушкевіч,— навучыла мяне любіць і шанаваць сваю родную мову, любіць радзіму, народ».

Пашанцавала яму і тады, калі пасля заканчэння Сенніцкай школы вучыўся ў 11-й працоўнай Мінскай сямігодцы. Паблізу ад яе знаходзіліся рэдакцыі газет «Малады араты» і «Чырвоная змена». Школьныя настаўнікі — пісьменнік Адам Бабарэка, мастакі Анатоль Тычына і Уладзімір Кудрэвіч, звярнулі ўвагу на дапытлівага хлопчыка, заахвоцілі яго да творчасці. Яму і самому хацелася нешта напісаць ці намаляваць.

Дэбют адбыўся ў жалобны студзеньскі дзень дваццаць чацвёртага года, калі краіна развітвалася з Уладзімірам Ільічом Леніным. С. Шушкевіч напісаў верш, прысвечаны Ільічу, і аднёс яго ў рэдакцыю газеты «Савецкая Беларусь». Неўзабаве першы твор маладога аўтара быў надрукаваны, а праз колькі часу з'явілася і падборка ў часопісе «Малады араты» — С. Шушкевічам зацікавіўся рэдактар выдання Ілары Барашка.

Памятны для С. Шушкевіча і 1926 год — скончыўшы сямігодку, ён паступіў у Мінскі педагагічны тэхнікум, у якім выкладаў Якуб Колас. У гэтым жа годзе без заявы, завочна, быў прыняты ў літаратурную арганізацыю «Маладняк».

Верш «Радасць мая звоніць...», якім адкрываецца аднатомнік, якраз і датуецца 1926 годам. Ды і калі б пад творам не стаяла

дата яго напісання, лёгка ўгадаць, што спавядаецца малады паэт:

Скамячу, як снежку,
Радасць я сваю
І шпурну з усмешкай
Сённяшняму дню.

Радасць мая звоніць
Словам маладым
Ад сялянскіх гоняў,
Ад сялянскіх ніў.

Акрылены жыццёвымі планамі і марамі, упэўнены ў заўтрашнім дні, васемнаццацігадовы аўтар шырока адкрытымі вачыма прыглядаўся да рэчаіснасці, апяваў жыццё радасна, звонка і памаладому захоплена. Адсюль — і юначая задзірыстасць, так характэрная «маладнякоўцам». Ды ці толькі ім. Уважліва перачытваеш раннія вершы П. Броўкі, П. Глебкі, М. Хведаровіча, А. Звонака і іншых паэтаў, чыя творчасць брала пачатак менавіта ў гэты час, і адчуваеш агульнасць матываў:

Дзень мне усміхнецца,
Ён такі, як я.
Ну, дык хто памкнецца
Радасць утрымаць?

«Маладнякоўскія» матывы ўгадваюцца і ў вершы «Ціхім н стаяў...»:

Сноп ваконнага мізэрнага святла
Малаціў разгулісты вятруга.
Ў хмарах месяц дагараў датла
І хістаўся, нібы валацуга.

Аднак паэзія С. Шушкевіча паступова пачынае напаўняцца клопатамі і хваляваннямі, якімі жылі аднагодкі пісьменніка. Аўтар не проста «выплаўляе» запал юнацкай душы ў аптымістычныя радкі, а і спрабуе ўважлівей прыгледзецца да падзей дня. Пашыраецца тэматыка твораў — «Таварышу з Заходняй», «На Асінбуд», «Гэта ж з намі наш таварыш Бруна...» і іншыя. З'яўляецца нізка «Захад». Сёння, калі маеш магчымасць чытаць творы паэтаў, творчасць якіх мужнела ва ўмовах заходнебеларускай рэчаіснасці — ранні Максім Танк, В. Таўлай, М. Машара, П. Пестрак і іншыя, адчуваеш, што С. Шушкевічу, які ведаў аб тым, што адбываецца за кратамі, толькі з паведамленняў газет і радыё, удалося адчуць сам напал барацьбы.

Характэрны ў гэтым сэнсе верш «Кулямёты ў акне». Сама дынаміка радка настройвае на своеасаблівае ўспрыманне. Быццам прысутнічаеш там, дзе яшчэ льецца кроў:

Страсянуўся вуліц стык.
Што там?
Хто там?
Што за гвалт?
Мо пажар, а мо абвал?

Там, дзе шыльдаў льсніцца шкло,
Хтосьці выклеіў ізноў:
«Хай мацнее камсамол!»
Кулямёты у акне...
Шуцман вокам не міргне.

І сёння натхнёна гучыць «Паходны марш»:

Мацней, гарніст,
Грамчэй, гарніст,
Грамчэй іграй
Трывогу!
Напорней крок,
Чырвоны полк,
Бо наш не дрэмле
Вораг...

Пасля другога курса педтэхнікума С. Шушкевіч працуе ў Кніжнай палаце і Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна, загадвае бібліятэкай тагачаснага Інстытута сельскай і лясной гаспадаркі, заканчвае крытычна-творчае аддзяленне літаратурнага факультэта Вышэйшага педагагічнага інстытута імя М. Горкага — у чэрвені 1934 года адбыўся першы і адзіны ў гісторыі Беларусі выпуск літаратараў-прафесіяналаў. Вучобу спалучае з работай у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», затым працуе ў рэдакцыях «Калгаснік Беларусі» і «Звязда».

На жаль, пасля гэтага ў яго творчасці наступіў дваццацігадовы перапынак. Стаўшы ахвярай культу асобы, С. Шушкевіч вымушаны быў займацца іншымі справамі. Жыў у Сібіры, працаваў цеслем, шахцёрам, бухгалтарам саўгаса, работнікам геалагічных партый і экспедыцый. Праўда, праз дзесяць гадоў вярнуўся на радзіму, два гады настаўнічаў, ды зноў неабгрунтаваныя абвінавачванні... Не да вершаў, ды толькі развітацца з паэзіяй ён ужо проста не мог. Творы, датаваныя тым перыядам, боль сэрца і пакуты душы:

Асыпаецца жоўты сад.
Лістапад ідзе, лістапад.
Сцежка скопана капяжом
Ля акна майго, як нажом.

Вяртаўся паэт на Беларусь восенню пяцьдзесят шостага... Калі плыў на катэры па Ангары, нарадзіўся адзін з лепшых яго вершаў — «Белы мой лебедзю»:

Белы мой лебедзю, мой пабрацім,
Над Ангарою з табой праляцім

І над тайгою гарыстай пакружым.
Шмат тут прастору смелым і дужым.
Мужным і дужым!

З другой паловы 50-х гадоў імя С. Шушкевіча зноў трывала прапісваецца ў беларускай літаратуры. Перажытае, вядома, паклала адбітак на яго паэзію, якая стала больш жыццёвай, разважлівай, але яно не магло забраць у аўтара асноўнага — яго жыццялюбства, веры ў людзей, яго ўлюбёнасці ў родную зямлю. Матывы адданасці Бацькаўшчыне, сяброўства, дружбы, кахання ў вершах гучаць упэўнена. Творы пішуцца на адным дыханні, бо шмат назбіралася назіранняў і ўражанняў і так многа хацелася сказаць чытачу.

Праўда, калі-нікалі ў сэрцы і сумам адгукалася трывога па мінулай маладосці: «Выпаў белы снег на скроні... Пэўна, не растане? Ліха рвуцца мае коні, мчуся да змяркання». Хваляванне дваякім пачуццём напаўняла душу — упэўненасць і смутак зліваліся між сабой: «Даганю я свае леты хоць на ўскраі свету, маладосць мая! Ах, дзе ты? Не відаць адгэтуль». Што ж, паэта можна і трэба было зразумець, бо вельмі няпроста і нялёгка скараліся яму літаратурныя вяршыні, калі некаторыя з равеснікаў, з кім некалі пачынаў разам, далёка вырваліся наперад. Але ж было ў С. Шушкевіча тое, што чалавеку дадзена прыродай — талент. Засталася працалюбівасць і вера як у свае сілы, так і ў прававу справы партыі.

Ён піша шмат, верачы ў сваю паэтычную зорку. «Дарогаю вясны», «Услед за марамі», «Навальніца», «Сябрам» — адзін за адным выходзяць зборнікі. Яны — працяг таго, першага («Вершы»), што пабачыў свет яшчэ ў 1934 годзе. Зноў напаўняе аўтара пачуццё замілавання жыццём, якому ён радуецца гэтак шчыра, даверліва, як і ў гады маладосці: «Я, напэўна, нецвярозы, майскім сонцам захмялеў. Разбягаюцца бярозы, як пачулі звонкі спеў». Усё гэта выказваецца ненавязліва, таму верыш лірычнаму герою паэта, адчуваеш, што ён і сапраўды па-ранейшаму юны пачуццямі і марамі.

Вершы «Памяці Веры Харужай», «Петрусю Броўку», «Зварот да музы», «Вязынка», «Ён застанецца векапомным», «Катловішча ад бомб укрылі хмызнякі» — творы напружанага ўнутранага пачуцця, выразна акрэсленага публіцыстычнага гучання, скандэнсаванай думкі. Тое, пра што гаворыць у іх аўтар, успрымаецца быццам адзін, з працягам, маналог нашага сучасніка, калі падводзіцца пэўны рахунак зробленаму, робіцца спроба ацаніць вартасць і каштоўнасць яго. Разам з тым наперадзе бачацца шырокія прасцягі, да вабных агнёў якіх хочацца імкнуцца. У гэтай жыццёвай апантанасці, пастаяннай празе адкрыццяў — больш знач-

ных, чым сёння, і новых — адна з прывабнейшых рыс творчасці С. Шушкевіча. Паэт не спыняецца на дасягнутым, ён верыць у заўтрашні дзень, бо добра разумее, што заспакоенасць, сцішанасць небяспечныя для паэзіі.

Гэта добра засведчыла адна з апошніх кніг С. Шушкевіча «Рэха маладосці» (1984). Голас лірычнага героя ў ёй пазнаеш адразу. У яго споведзі — споведзь пакалення і споведзь людзей, што не здрадзілі свайму грамадзянскаму і чалавечаму абавязку і якія сёння знаходзяцца ў жыццёвым страі, адчуваючы сябе духоўна маладымі:

Мы не згіналіся ў крук
І не шукалі вырай.
І дзе б мы сёння ні былі,
Адзін другога ўспомнім.
Нам крылы час не апаліў...

Лірычны герой С. Шушкевіча не староннi сузіральнік:

Я адчуваю на плячы
Дасюль рукзак паходны,
Іду, імкнуся ўдалячынь,
Спакойна жыць не згодны.

Арганічна ўпісаўся ў зборнік цыкл «З крымскага сшытка», у які ўвайшлі і вершы, прысвечаныя Максіму Багдановічу, які знайшоў сваё апошняе прыстанішча «ў краіне светлай». «Стары Крым», «Увысь, увысь на Аргамыш», «Пісаў апошні верш...», «Каля мора, у далёкай Ялце» — гэтыя і іншыя творы напоўнены роздумам аб месцы Багдановіча ў літаратуры, значнасці яго грамадзянскага і пісьменніцкага подзвігу. Важна, што ў іх вобраз Максіма-Кніжніка падаецца не «забранзавелым», а жывым, зямным...

Раздзел «Сонца над маім асеннім садам» — самыя новыя творы паэта. У іх лірычны герой у многім ранейшы. Гэта — чалавек, які ніколі не парываў сувязі з народам, шчодра ўлюбёны ў зямлю, ён дбайны працаўнік, што лічыць за гонар засведчыць:

Я рад, што маю сіл яшчэ багата,
Што мазалі не сцерліся ад кіркі, ад сякеры.
На дрэвах снег бялее, нібы вата.
Я насцеж для паходу адчыняю дзверы...

Снег, нібы вата на дрэвах. Зіма на падыходзе, ды не астудзіў паэт сваё сэрца, не растраціў душэўнай дабрыні і чуласці. Гумару і дасціпнасці — таксама. Ён, як пераконвае раздзел «За творамі Шушкевіча чарга», умее пасмяяцца не толькі з іншых, але і з самога сябе. На гэта, як вядома, здатны толькі сапраўдны талент. Сатырычна-гумарыстычная падборка атрымалася тэматычна разнастайнай і значнай па сваім гучанні.

Адна з галоўных тэм у С. Шушкевіча-гумарыста — пісьменнік і літаратура. Тут С. Шушкевіч не цырымоніцца. Дзе патрэбна — падпярчыць, а дзе і проста гэтак паблажліва ўсміхнецца: маўляў, што возьмеш з чалавека, які ў літаратурны абоз трапіў выпадкова:

Ён трымаўся за сталіцу,
Як малое за спадніцу.
І лічыў ён карай боскай
Заглянуць часамі ў вёску.
Са свайго старога кія
Браў матывы гарадскія,
І чыталі часта мышы
Яго творы ў цёмнай цішы.

Вартасць гумарыстычна-сатырычных вершаў С. Шушкевіча ў іх надзённасці. Аўтар не бярэцца за сюжэты езджаныя-пераезджаныя, не спрабуе нешта выціснуць «з пальца». Само творчае жыццё падказвае яму тэмы. Як, скажам, у гэтым творы — «Пра аднаго з мемуарыстаў»:

Чыталі?.. Што ж — разявілі раты?..
Ён з класікай даўно на «ты»...
Яго калісь, бывала,
Здалёк вітаў Купала,
І пры сустрэчы Колас
Рабіў лагодны голас.

Перападае ад С. Шушкевіча і тым, хто «марыць пра бяссмерце, па славу лезе з ёмістаю лыжкай», і хто «пячэ вершы, як аладкі», і хто «на пядзю не падрос, а ўгару тапырыць нос»... Адным словам, было б жаданне, а пісаць ёсць пра што. Гэта тычыцца і літаратурных пародый. Жанр — не з лёгкіх, не абмінуў яго і С. Шушкевіч. Яму ўдаецца дасціпна высмеяць таго-сяго з сабратаў па пяру, калі ў пагоні за ўяўнай вобразнасцю паэты пачынаюць страчваць пачуццё меры. Праўда, будзем шчырымі, не заўсёды ў пародыях захоўвае яго і сам С. Шушкевіч. Калі-нікалі з'яўляюцца матывы выпадковыя, нават праслізне нешта асабістае, пра што наўрад ці чытач і здагадаецца, бо яно тычыцца ўзаемаадносін у літаратурных колах.

Творы для дзяцей — вершы, пацешкі, казкі — занялі ў аднатомніку тры самастойныя раздзелы. Здавалася б, нямала, але калі б сабраць разам усё, што напісана С. Шушкевічам для маленькіх — найперш ім адрасуе дзядуля Стась свае творы,— атрымаўся б амаль самастойны том. Тое, што ўвайшло ў аднатомнік, дае ўяўленне аб адным з самых цікавых сучасных беларускіх дзіцячых пісьменнікаў, які піша для маленькіх нямнога-нямала, а пяцьдзесят гадоў — першая дзіцячая кніжка С. Шушкевіча «Звярыны баль» выйшла яшчэ ў 1936 годзе.

На творах С. Шушкевіча выхавалася ўжо не адно пакаленне дзяцей. Многія з яго вершаў чытачы старэйшага ўзросту ведаюць на памяць. Хоць бы гэты — «Пайшоў коўзацца каток», напісаны ў 1957 годзе:

Пайшоў коўзацца каток
На рачулку, на лядок,
Як імчаўся, на хаду
Праваліўся у ваду.
Замачыў ён чаравічкі,
І касцюм, і рукавічкі.
Нетрывалы быў лядок.
Непаслушны быў каток.
А яму ж казала маці,
Каб лавіў мышэй у хаце,
Каб маленькіх калыхаў
І на цёплай печы спаў.

Вершы «Пайшоў коўзацца каток», «Журавель варыў кісель», «Зайка-школьнік», «Колькі кіпцікаў у кошкі» даўно сталі хрэстаматыйнымі. Напісаныя проста, не мудрагеліста, з разуменнем запатрабаванняў «чамучак», яны ў добрай меры дыдактычныя, але на першы план выходзіць выхаванне не праз павучанне, а праз паказ, раскрыццё канкрэтнай сітуацыі. Дзеці самі атрымліваюць магчымасць высветліць, правільна ці няправільна паступалі героі, былі яны паслухмянымі ці неслухамі.

Паэзія С. Шушкевіча для дзяцей меладычная ў сваёй аснове. На гэта звярнулі ўвагу кампазітары. Дзякуючы М. Чуркіну, Я. Цікоцкаму, Ю. Семяняку, Д. Лукасу загучалі песнямі шмат якія вершы. Зацікавіла творчасць беларускага паэта і ўкраінскага кампазітара Л. Лявітаву. Дзеці з братняй рэспублікі знаёмы сёння з 24 песнямі, напісанымі на словы С. Шушкевіча.

...Выданне выбраных твораў — заўсёды падрахунак аўтарам пэўнага перыяду ў яго жыцці. На календары С. Шушкевіча — 80. Сцвярджаць, што ўзрост гэты — малы, нельга. Пражыта вельмі і вельмі шмат.

Аднак набыткі вельмі важкія. Ды такія, якім многія могуць пазайздросціць, таксама як і нязгаснай любові С. Шушкевіча да жыцця. Заўсёды, калі даводзіцца сустракацца са Станіславам Пятровічам — а ён часты госць у «ЛіМе», у якім працаваў не толькі ў гады сваёй маладосці, але і з 1958 па 1970 год, калі пайшоў на заслужаны адпачынак.

Хочацца верыць, што наперадзе ў С. Шушкевіча яшчэ будзе «некалькі сэрцам напісаных кніг». Іх удзячныя чытачы чакаюць.

*Алесь МАРЦІНОВІЧ*



## РАДАСЦЬ МАЯ ЗВОНІЦЬ...

Скамячу, як снежку,
Радасць я сваю
І шпурну з усмешкай
Сённяшняму дню.

Радасць мая звоніць
Словам маладым
Ад сялянскіх гоняў,
Ад сялянскіх ніў.

Ад дуброў шумлівых,
Ад вясковых хат,
Дзе жыцця імклівы
Крочыць новы лад.

Дзень мне усміхнецца,
Ён такі, як я.
Ну, дык хто памкнецца
Радасць утрымаць?

Скамячу, як снежку,
Радасць я сваю
І шпурну з усмешкай
Сённяшняму дню.

*1926*

## КАЛЯ ХАТКІ, СЭРЦУ МІЛАЙ...

Каля хаткі, сэрцу мілай,
Пахінулася рабіна
І шаптала ў комін-вуха
Ціха, ціха. Ветрык слухаў,
Яе шэпты ветрык слухаў.

А ў лісточках той рабіны
Ліўся голас салаўіны,
А пад ёю вечарочкам
Расцвітала васілёчкам —
Наша шчасце расцвітала.

Але выпала часіна,
Яна з мілай разлучыла.
Я паехаў. Горад шумны
Прывітаў мяне навукай,
Прывітаў мяне навукай.

Не звіліся з сумам грудзі
Ў маёй мілай. Помніць будзе,
Што казаў я ёй учора.
Я казаў, вярнуся скора,
Да яе вярнуся скора.

А прыеду не такім я...
Ой, зусім я стану іншым,
Прывязу я скарб над скарбы,
Ім дзяліцца без пагарды
Буду я тады з усімі.

А ў лісточках той рабіны
Будзе ліцца салаўіны
Голас ціхі. А пад ёю
Будзем з мілаю маёю
Аб каханні байкі баяць.

Каля хаткі, сэрцу мілай,
Пахінулася рабіна
І шаптала ў комін-вуха
Ціха, ціха. Ветрык слухаў,
Яе шэпты ветрык слухаў.

*1926*

## СМЯЕЦЦА МЕСЯЦ...

Смяецца месяц залаты
У срэбна-сіняй зорнай далі
З таго, што шэрыя платы
У шапках беленькіх пасталі;

Што дрэвы срэбнае галлё
Схілілі ціхенька да долу.
Што ўся зямля гарыць агнём
Ад снежных зорак брыльянтовых.

Смяецца месяц... Цішыня
Усё маўклівасцю скавала,
І толькі весела скрыпяць
Палоззі лёгкіх шпаркіх санак.

А конь, падняўшы галаву
І узмахнуўшы буйнай грывай,
Бяжыць. І бачыш, патануў
Лясок за горкаю ў лагчыне.

І зноў гара, далей за ёй
У пойме ціха дрэмлюць вербы,
Пад імі снег і сіні лёд
Абрус рацэ саткалі срэбны.

*1927*

## ЦІХІМ Я СТАЯЎ...

Сноп ваконнага мізэрнага святла
Малаціў разгулісты вятруга.
Ў хмарах месяц дагараў датла
І хістаўся, нібы валацуга.

Старац клён, апёршыся аб плот,
Прасціраў касцястыя далоні
І лічыў, прабегла колькі год,
Год, якіх ніколі не дагоніш...

Вёска спала. Ціхім я стаяў,
Захапляўся прыгажосцю ночы...
Ах, радзіма любая мая,
Да цябе я радасным прыкрочыў!

Чую сэрца я твайго разгул,
І міжвольна я табе прарочу,
Што машынных песень шумны гул
Да цябе прыйсці цяпер ахвочы.

Сноп ваконнага мізэрнага святла
Малаціў разгулісты вятруга.
Вёска спала. Ціхім я стаяў...
І схаваўся месяц-валацуга.

*1928*

## ТАВАРЫШУ З ЗАХОДНЯЙ

Асвячае шлях для нас адна паходня,
Мэта ў нас таксама ёсць адна...
Ты прыйшоў з пакрыўджанай Заходняй:
Знаю — гэта панства бізуна.

І цяпер, калі халодны вецер
Засыпае снегам нам акно,
Успаміны, быццам дрэва вецце,
Нахіляюць сумнае чало.

Вёска... Беднасць... Згніўшая салома
На старой прыгорбленай страсе.
Двор, закіданы струхнелым ломам.
Апусцелы ў свіране засек.

Плот паломаны, скрыпучыя вароты,
Крык дзіцячы, шум гарбатых верб.
Бацька йдзе падзённа на работу,
Быццам бачу я яго цяпер.

Часты стук бліскучых карабінаў.
І надрыўны праразлівы плач.

За нядоімку апошнюю скаціну
Гоняць вуліцай, пагрозліва крычаць.

Асвячае шлях для нас адна паходня.
Мэта ў нас таксама ёсць адна...
Прыйдзе час, калі і над Заходняй
Расцвіце Усходняя Зара.

*1928*

## ЗНОЎ СТРЭЛКА ВЕРНЕЦЦА...

*Васілю Кавалю*

Зноў стрэлка вернецца на цыферблаце
На тое месца, скуль пайшла...
І толькі маладосць, мой браце,
Не знойдзе пройдзены свой шлях.

Не знойдзе пройдзенай сцяжыны,
Дзе слуп дарожны — дваццаць год...
Пачуццяў вогненных руіны
Ёй на дарозе створаць плот.

Але нішто нас больш не схіліць,
З журбой, пакорай не ісці.
Надзейны шлях мы не згубілі,
Сталець мы будзем і расці.

Зноў стрэлка вернецца на цыферблаце
На тое месца, дзе была,
А маладым, мой любы браце,
Як і вясне — адкрыты шлях.

*1928*

## НА АСІНБУД...

Імчаў змораны цягнік —
Глухія, мокрыя вагоны,
І змрок вячэрняй цішыні
Будзілі спуджана вароны.

Мігалі светлыя агні
Ў падонні вулічнае лужы,
І дзень схіліўся да зямлі,
Стары, прамоклы і нядужы.

А рыштаванні горда ўвысь
Глядзелі смела і спакойна.
Хадзіў адважны вартавы,
І хлюпаў дождж аб падаконне.

І ад балотнага багна,
Дзе вольхі ціхія пасталі,
Цадзіўся выцвілы туман
І разліваўся рогат сталі.

І дзень схіліўся да зямлі,
Стары, аджыты і адпеты,
Каб заўтра маладым прыйсці
З вялікай радасцю планеты.

*1929*



## З нізкі «Захад»

### ПЕРАД ЗАБАСТОЎКАЙ

Расквітацца мы з ярмом умеем,
Бо ў душы мы смагу волі песцім.
Годзе быць прыкутым Праметэем,
Навальніцу гневу час узнесці.

Не спалохаюць выбоі на дарогах,
Пройдзем праз дажджы, віхуры, веі.
Разнясём дарэшты воўчы скогат,
Раскрышыць мы ворага умеем.

Нашых слёз ніхто нідзе не ўбачыць.
Хоць парвіся на кавалкі сэрца.
Досыць стогнаў, енкаў, болю, плачу —
З нас ніхто з пакорай не сагнецца.

Узаўецца сцяг над нашым неспакоем,
Чырвань гляне вуліцам у вочы.
Той, хто нашу волю перакроіў,—
Сёння бой апошні з намі сточыць.

Адзавецца пад нагамі камень,
Вуліцу заслоняць барыкады.
Гэты гнеў, узрошчаны вякамі,
Будзе смерцю і змаганнем падаць.

Мы ўмеем гневацца, ды як яшчэ умеем,
І расплату кожнаму дадзім па чэсці.
Чуеце, сірэны голас тлее,
Чуеце, завод нясе уздыму весці.

## КУЛЯМЁТЫ Ў АКНЕ

Кулямёты у акне...
Шуцман быццам анямеў.
Нават вокам не міргне,
Настарожаны жаўнер.

Пляц замоўк, заснуў, заціх.
Тут нікому не прайсці.
Шуцман стаў, як востры цвік.
Ён да выпраўкі прывык.

Раптам свіст,
трывога,
крык.
Страсянуўся вуліц стык.
Што там?
Хто там?
Што за гвалт?
Мо пажар, а мо абвал?

Там, дзе шыльдаў льсніцца шкло,
Хтосьці выклеіў ізноў:
«Хай мацнее камсамол!»
Кулямёты у акне...
Шуцман вокам не міргне.

## ХЛЕБ

У вітрыне белы пульхны хлеб,
Кішаня даўно забылася пра маркі.
Цень за мной блукае, як шкілет,
У вітрынах белы пульхны хлеб,
Кішаня даўно не мела маркі.

На руках крывавяць мазалі:
Быццам тратуар стары — не рукі.
Ах, які харошы хлеб спяклі,
Нават сэрца пачынае стукаць.
І мякчэць пачалі мазалі.

Як наліха цэдзяць ліхтары
Малако святла у гэту шэрань.
Кроў апошняй цеплынёй гарыць,
Дзе ж сягоння буду я вячэраць,
Дзе прытулкам расхінуцца дзверы?

У вітрынах белы пульхны хлеб,
Кішаня даўно забылася пра маркі...
А мільённы сунецца шкілет
На спакой палацаў і фальваркаў...
Буду мець я хутка белы хлеб.

## АРЫШТ ТАВАРЫША

За горадам Вілейка з Віллёю
Сустрэліся па-сяброўску
І пабеглі лугамі, лясамі, паўзгоркамі,
А мне ніяк не сустрэцца з ёю
Паміж гэтага вулічнага лёскату,
Паміж гэтых кварталаў прагорклых.

Аваднямі разгудзеліся аўтамабілі,
Газетчыкі фальшывяць да болю,
І рамізнікі лаюцца дзіка.
Няўжо ж яе, дарагую, злавілі?
Няўжо ж не ўбачу яе тут болей?
Няўжо ж папалася на вока шпіку?

Тлустыя вітрыны раздражнілі голад,
На сэрца ўзбіліся ястрабы суму
І разрываюць яго на часткі.
І чую за плячыма трывожны голас,
І чую — перапоўніліся крокі шумам.
Няўжо ж і мне тут рыхтуюць пастку?

І перадае ўсхваляваны таварыш:
«Ля Вастрабрамскай злавілі Ганку,
Не ўсюды разаслалі пракламацыі».
І аблівае пот мяне ліпкім варам,
Хвілінная адзінота зашчымела ранкай.
Хаця б не сарвалася дэманстрацыя...

А ля піўной разышоўся нейкі абарванец,
Бярэцца ў загрудкі з паліцыянтам
І стукае сябе заўзята ў грудзі.
Збіраюцца бабулькі ў касцёл на ружанец,
Мерна адбіваюць вызначанае куранты,
І вецер паперкі палінялыя круціць.

Вось і Вілейка з Віллёю
Сустрэліся па-сяброўску
І пабеглі лугамі, лясамі, паўзгоркамі,
А я не сустрэнуся з ёю
Паміж гэтага вулічнага лёскату,
Паміж гэтых кварталаў прагорклых.

І сабярэцца асірацелая ячэйка,
І скажуць: «Самая лепшая на Лукішках,
Самая лепшая не з намі...»
І будзе здавацца, што прычынілася века
Чорнага суму, глухога зацішша.
І кожнага раптам разбудзіць нянавісць.

Разыдуцца хмурнымі, адзінока, спакойна,
Каб заўтра сустрэцца сотнямі, тысячамі
Моцных, адважных, заўзятых шарэнгаў.
Пакрыёмымі сцежкамі будзе праводзіць іх поўнач,
І месяц, быццам дубцамі высечаны,
Будзе туляцца між хмар недалэнгаю.

За горадам Вілейка з Віллёю
Сустрэліся па-сяброўску
І пабеглі лугамі, лясамі, паўзгоркамі.
Сустрэнуся, сустрэнуся з ёю
Паміж кварталаў з лёскатам,
Паміж савецкіх кварталаў гордых!..

*1930*

# ПАХОДНЫ МАРШ

Мацней, гарніст,
Грамчэй, гарніст,
Грамчэй іграй
Трывогу!
Напорней крок,
Чырвоны полк,
Бо наш не дрэмле
Вораг.
    Ніякай літасці, ніякай жаласці
    Не атрымае вораг.
    Наперад крочым мы хадой ахвочаю,
    Сухім трымаем порах.
Там з-за граніц
Не змоўклі выць
На нас ваўкі
Штодзённа.
Мацней, гарніст,
Мацней, гарніст,
Бо з намі
Наш Будзённы.
    Ніякай літасці, ніякай жаласці
    Не атрымае вораг.
    Наперад крочым мы хадой ахвочаю,
    Сухім трымаем порах.
І хай рука
Варожых зграй
Кране спакой
Краіны,—
Адважны рой
Адважна ў бой
Магутнай хваляй
Хлыне.
    Ніякай літасці, ніякай жаласці
    Не атрымае вораг.
    Наперад крочым мы хадой ахвочаю,
    Сухім трымаем порах.
Бо кожны дзень
Нам след кладзе
Да сонца над
Сусветам.
І пойдзе свет

За намі ўслед,
За намі,
За Саветы.
Ніякай літасці, ніякай жаласці
Не атрымае вораг.
Наперад крочым мы хадой ахвочаю,
Сухім трымаем порах.

*1931*

## ПЕСНЯ ПАГРАНІЧНІКА

Часам ноч трывожна гляне
У твой бок,
Месяц згубіць ясны глянец
Жоўтых шчок.
Конь заржэ, ўзмахнуўшы грывай,
Захрапе
І памчыцца палахліва,
Быццам звер.
Але ты, спакойны, смелы,
Малады,
Скруціш моцна і умела
Павады.
Вораг воўкам будзе крыцца
Тут знарок,
Каб прабрацца, каб прабіцца
На наш бок.
Але ж ты, спакойны, смелы,
Малады,
Скруціш моцна і умела
Павады.
Не прарвецца вораг звонку
На наш бок,
Папярэдзіш куляй звонкай
Яго крок.

*1932*

* * *

Там, дзе межы
Поле рэжуць,
На палосках,
Дзе калоссі
Нагінаюць стан свой кволы
Да зямлі.
На палетку,
Дзе улетку
Плача песня
Ў паднябессі,
Шалясціць дзе серп сталёвы
У жнял.

Дзе сасонкі
Шумам звонкім
На курганнях
Ад світання
Абуджаюць ў сэрцы радасць,
Часам сум.
І дзе жаўрук
Песні шпарыць,
Ў сініх далях
Паміж хмарак,
Дзе ліецца сонца палкасць —
Там вясну

Маладосці
Ў сэрцы госкаў...
Кубак шчасця
І няшчасця
Не адзін там выпіў раз я...
Вось затым
Звонка сёння
Радасць звоніць,
Бо на гонях
Маіх родных
Шэры змрок паволі гасне.
Залаты

Промень сонца
У аконца
Нізкай хаты,

Цёмнай хаты
Заглянуў, жыццё пакратаў,
І яно
Шумназвонна,
Неўгамонна,
Бы паводкай
Борздаходкай
З-за старых, іржавых кратаў
Пацякло.

*1926*

## ГЭТА Ж З НАМІ НАШ ТАВАРЫШ БРУНА

У зале, дзе адбываўся антываенны кангрэс моладзі, на месца, што адведзена ў прэзідыуме нямецкаму дэлегату т. Бруна Тэш (адзін з чатырох камуністаў, пакараных смерцю ў Альтоне), быў ускладзены жалобны вянок.

*З газет*

Гэта смерць
З рукі культурных гунаў
Узняла тапор над ім.
Ружы цёмныя
На месцы Бруна
Са значком чырвоным «КІМ» —
Не прыбыў
З далёкае Альтоны
Дэлегат...
Над таварышам
«Руку закону»
Вынес кат,
Але рвецца
Голас юны
З смерці пут.
Гэта ж з намі
Наш таварыш Бруна,
З намі тут!
Гэта ж голас,
Голас яго смелы
Тысяч, сот.

Працінае свет,
Стары, збуцвелы,
Моцнае:
«Рот фронт!»
Гэта смерць
З рукі культурных гунаў
Узняла тапор над ім.
Ружы цёмныя
На месцы Бруна
Са значком чырвоным «КІМ».

*1933*

## НАД МАГІЛАЙ

*Памяці Алеся Ліпнёвага,*
*пісьменніка-камсамольца*

Зазвінела маршам смутку медзь.
Развіталіся, мне больш цябе не ўбачыць.
Дзікая часамі гэта смерць,
І манер такі ў яе лайдачы.

Дзікая часамі гэта смерць,
Калі прэцца праз шляхі не тыя,
Калі крадзецца знянацку, неўпрыкмець,
У рады такія маладыя.

Калі крадзецца знянацку, неўпрыкмець,
Каб нанесці невідочна рану.
Зазвінела маршам болю медзь,
Зазвінела раптам, нечакана.

Звіс крылом падбітым чорны жаль.
Жыць так хочацца, і жыць так варта.
Дні вясновыя нясуць скрыжаль
Дзей адважных, смелых і упартых.

Дні вясновыя нясуць скрыжаль...
Наш парыў не раз на ёй запішам.
Смерці — старасці адвечны жах
Наша моладасць ушчэнт раскрышыць.

Смерці — старасці адвечны жах
Не стрымае моладасці, гарту.
Звіс крылом падбітым чорны жаль,
Жыць так хочацца, і жыць так варта.

*1933*

## НА ДВАРЫ МАІМ ЛІСТАПАД

Асыпаецца жоўты сад.
Лістапад ідзе, лістапад.
Сцежка скопана капяжом
Ля акна майго, як нажом.
А я кладачку пакладу
На пясок сыры, на ваду,
Кладку любай і прыгожанькай,
Не замочыць свае ножанькі.
Яна ж кажа: — Голуб шызанькі,
Дый зазімак ужо блізенька,
Я ж баюся яшчэ змоладу
Першых замаразкаў, холаду...
— Дык да ганачка ад варот
Пранясу цябе цераз лёд,
Пацалункамі засланю,
Гарачэйшымі ад агню.
Асыпаецца жоўты сад,
На двары маім лістапад.

*1940*

* * *

Дзе зерне мірна, без трывог,
Да сонца парастак пусціла,
Вайны бязлітаснай нарог
Скапаў жыццё пякельнай сілай.

Хіліла маці галаву
Над папялішчам, над магілай.

Але няўцешную ўдаву
Навала тая не скарыла.

Знайшла яна святую моц
За сына помсціць і за мужа.
Арала поле дзень і ноч,
Касіла, жала, ткала кужаль.

...Бывае, смутак зноў кране
І ажыве былая мука,—
Старая ўспомніць аб вайне
І пра свайго салдата-ўнука.

*1950*

## ЛЕТНІ ДОЖДЖ

Велізарная хмара
Прайшла над зямлёю,
Не прынёсшы дажджу,
Ні маланак, ні грому.
Трапяталі асіны
Пасінелай ліствою,
Адчуваючы сум,
Пераносячы стому.

І вось раптам таполя,
Расхінаючы голле,
Нахіляецца нізка
Над істужкай дарогі,
І за пыльным клубком
Вераску і шыголля
Вырываецца вецер
Ліхі, хуткаогі.

Сыпануліся кроплі
Ў адценнях вясёлкі
З невялічкай хмурынкі,
Што нырнула з-за дома,
Бліскапула маланка,
Кроіць неба на столкі,
І грукочуць над лесам
Раскацiста колы.

І напоены травы,
І напоены кветы,
І зямля стала свежай,
Бясконцай, маўклівай...
І ўжо сонечнай ласкай
Куст шыпшыны сагрэты,
І не сніцца больш ластаўкам
Поўдзень і вырай.

*1951*

## ПЭЎНА, НЕДЗЕ ЧУЕШ?

Думаў, выветрыцца боль з нутра
І у памяці сатрэцца вобраз любай,
Загарацца вочы стомленыя зноў цяплом
юнацкім,
Сэрца будзе біцца роўна і спакойна...
Але ж не...
Агонь гарыць, не гасне...
Бачу я цябе такой, як і калісьці:
Роднай, блізкай, дарагой, доўгачаканай.
А цябе няма. Павуцінне срэбрам рунь накрыла.
Журавы крычаць, ляцяць на поўдзень.
Я ж маўчу. Ты, пэўна, недзе чуеш,
Як маё балюча і трывожна б'ецца сэрца?

*1952*

## ХІБА ЎПЕРШЫНЮ ІДУ ПА КРУЧЫ?..

Быццам першы раз убачыў гэту покаць,
Быццам першы раз спускаюся з гары...
Ты хапаешся спалохана за локаць,
Суцішаеш крок да Ангары.

Хіба ўпершыню іду па коўзкай кручы
Да заснежаных вяршыняў гор?
Знаю нораў хваляў злых, кіпучых,
Бачыў жах парогаў і шывёр.

Сумаваў не раз па тых мясцінах,
Дзе льняныя косы, вочы — ружы цвет.
Браў калісь пад локаць я дзяўчыну,
Лепшую за ўсіх, за цэлы свет.

Васільковыя ў яе гарэлі вочы.
Больш такіх няма, клянуся я, павер...
Дык хутчэй уніз, сухар размочым:
Згаладаўся, як таежны звер.

*1954*

## ЖЫЦЬ ПРАЛЕСКАМ АДВЕЧНА

Як хлапчук,
я па роснай травіцы бягу.
Чую, воддалі бор
адазваўся, загуў,

Чую воддаль гаворку
і зямлі, і нябёс,
Усхвалёваны шум
пра жыццё і пра лёс.

Пракладаю сляды
і страсаю расу,
Разглядаю іскрынак
прывабных красу.

На далонях, здалося,
самацветы нясу...

Ды ўявілася раптам,
што з цемры начы
Засвісталі прарэзліва
совы, сычы...

На далоні гляджу.
Дзе ж падзеўся янтар?!
Белы вогненны грыб
шугануў аж да хмар...

І нічога няма...
Друз і попелу след...
Дзе ж мой казачны
сонечны свет?..

Азіраюся я,
на ўвесь голас крычу:
— Людзі, слухайце!
Больш не маўчу!

Узнімайся, ўвесь свет,
і уголас скажы:
— Жыць пралескам адвечна,
і нам вечна жыць
І са шчасцем
заўсёды дружыць.

*1955*

## ДЗЕ Ж ВЫ, ЛЕТЫ МАЛАДЫЯ?

Дзе ж вы, сані? Дзе ж вы, коні?
Дзе ж званочкі пад дугой?
Дзе ж заснежаныя гоні?
Сэрца будзіць неспакой...

Дзе ж вы, леты маладыя?
За якой гарой, ракой?
Завіруха нема вые
Над дарогаю крутой.

Ні слупоў няма, ні аркі,
Пасмы снегу загулі.
Вецер з'едлівы над каркам
Снежны сноп перакуліў.

Можа, бліснe ў чыстай шыбе,
Нібы зорачка, агонь?
Бачу, след глыбокі выбіў
Каля ганка чыйсьці конь.

За гару мігнулі сані,
Іх укрыў глыбокі яр,
А завеі — нібы здані,
А ў душы гарыць пажар.

Згасяць кроў маю завеі,
Пэўна, сілы не стае?
Ледзяныя мкнуцца шлеі,
Спадарожнікі мае.

Дзе ж вы, сані? Дзе ж вы, коні?
Дзе ж званочкі пад дугой?
Ды чаму ж яны не звоняць?
У каго спытаць, каго?

*1955*

* * *

Цяпло успомніў рук тваіх,
Адчуў вачэй святло.
Калісь дзялілі на дваіх
Усё, што ў нас было.
І час настаў, дабро і зло
Адзін я ў свет панёс,
Цябе са мною не было:
Такі нам выпаў лёс.
Мы ўсё дзялілі папалам.
Цяжар ліхіх хвілін
Табе ніколі не аддам,
Нясу яго адзін.

*1955*

## СВІТАННЕ

Над тайгою ракоча, шуміць навальніца,
Б'е пярун над гарою нязлічана раз.
Лівень лье. Асвяціла раку бліскавіца,
Ля палаткі касцёр задыміўся і згас.

Шмат каму гэтай ноччу не спіцца.
Над тайгою шалее, грыміць навальніца,
І марудна, нязносліва цягнецца час.

Вадаспады грукочуць, нясуцца па горах,
У палатку ўрываецца голас вятроў.
І маўкліва, спакойна бяссонны геолаг
На стале па каменнях рукою правёў.
А на горах грукочуць жалезныя колы,
І лісцяніцы падаюць грозна дадолу,
І шуміць, надрываецца, стогне галлё.

Навальніца заціхла, замерла пад ранак.
Многа дум на падпёртым рукою чале.
Усміхнуўся геолаг. Устаў нечакана,
Шэры камень пяшчотна узяў на стале,
Загарнуў у паперу і ў скрынку кладзе.
Гасне лямпа. Світае. Пачынаецца дзень.
Адазваўся арол на высокай скале.

*1955*

## КОЖНЫ КАМЕНЬ, ЗДАЕЦЦА, ГАВОРЫЦЬ...

Не магу я самотным сябе уявіць на хвіліну,
Хоць навокал мяне толькі неба, вада і тайга.
Адзіноцтва сваё, сам не ведаю, дзе я пакінуў.
Дзе пакінуў я сум? Дзе пазбыта туга?

Кожны камень, здаецца, адкрыта гаворыць,
Дрэва кожнае шэпча мне безліч сваіх таямніц.
І пячоры, і скалы, і маўклівыя горы
Адкрываюць мне сотні нязнаных дарог і граніц.

Закідаю на плечы рукзак: — Ну, наперад! — крычу.
Чую, водгулле голас панесла навокал.
Крылы дайце, арлы! Я вам шлях асвячу!
Паляцім да нязнаных вышыняў далёка.

*1956*

## СІБІРСКАЯ БАЛАДА

Прадзеда ў Сібір калісь саслалі.
Знялі кайданы. Далі тапор...
І цясаў бярвенні ён на палі,
Гарадзіў астрог-дазор.

І вятрам прыйшлося супыніцца —
Перад імі вырасла сцяна.
Нават ураганы, навальніцы
Сталі тое месца абмінаць.

Прабіваўся праз усе заставы
З агароджы той халодны жах:
Ненажэрны, двухгаловы і крывавы
Звіў гняздо на браме царскі птах.

Не адно паслала пакаленне
Ў гэты за́кутак сваіх сыноў,
Не прыждаў стары сабе збавення
За астрожным ледзяным акном.

Пахавалі старца пад гарою,
Крыж паставілі з лістоўніцы старой.
Падняліся восенню сырою
Пошум дрэваў, хваляў неспакой.

Гром пачуўся, і перун ударыў
Ў галаву арліную — спарыш...
І хваціў злачынную ахвяру —
Птаха царскага — стары Іртыш.

Спарахнеў на прадзеда магіле,
Згніў дашчэнту адзінокі крыж.
Цягне праўнука якаясь сіла,
Вабіць да сябе стары Іртыш.

Чуецца размова зноў наўкола —
Паміж гор, і скалаў, і тайгі.
Прадзед быў цясляр... А ён геолаг...
Спадчыннік памрэ тут ад тугі.

Неўзабаве везлі эшалоны
Па дарогах вугаль і руду...
Параходы ў прыстанях-затонах
Бралі нікель, золата, слюду.

Чуліся гудкі ля рэчкі на адхоне,
Правады, як струны, загулі.
Вецер сціх, не енчыць і не стогне,
Песні вольныя тайгою паплылі.

Дзе лістоўніца у неба стромка мкнецца,
Дзе ля скал сінее цёмны дол,
Пэўна, прадзеда адчула сэрца
Песню вольную, што льецца навакол.

*1956*

## ЗАКІД БЕССМЯРОТНАМУ

Зямля на экватары крыху вышэйшая.
*Ньютан*

Я весці спрэчкі не аматар,
Вялікім не магу пярэчыць,
Не быў я там, дзе ёсць экватар,
А пару слоў скажу, дарэчы.

Сцяна Ангарскае плаціны,
Што трыста трыццаць рэк трымае,
Вышэй, вядома, той мясціны,
Дзе шнур-экватар пралягае.

І, стоячы каля падножжа,
Сказаць Ньютону я гатовы:
«О бессмяротны! Быць не можа,
Што там вышэй! Гатоў даць слова:
Адгэтуль я невыпадкова
Свет бачу і Стары і Новы».

*1956*

## АНГАРА ПРАЧЫНАЕЦЦА

Зашумела рака — і таросы на бераг ірвуцца.
Ангара прачынаецца. Крыгі ідуць.
У рыбацкай маленькай хаціне-халупцы
Непакоіцца бабка старая, не можа заснуць.

Аніводнай паводкі не праспала ніколі,
Шмат іх — ціхіх, і шумных, і бурных прайшло.
І бярэ яна хлеба акраец і жменечку солі
І на бераг ідзе, апіраецца зломкам-вяслом.

Хлеб кідае ў раку. Прыпадае к зямлі на каленях:
— На, матуля, вазьмі! — І глядзіць яна ў цемень вады...
Асятры і сцярлядкі, шчупакі і таймені
Пасылай ты ў поплаўні нашы, сакі, невады!

А уводдалі рэйкі працяжна і глуха гудуць,
Цягнікі паімчалі вагоны цэменту, жалеза.
Ангара прачынаецца. Крыгі ідуць
І ўпіраюцца ў спіны нямых ледарэзаў.

А на скалах імшыстых будынкі да зор,
Рукі ўзнялі над імі дыбастыя краны,
І таежны шуміць знепакоена бор,
І гудуць трактары на прасторных палянах.

Ангара прачынаецца. У затоцы між скал
Падняліся плыты. Ах, ці вытрымаць тросам?!
Мужны-дружны задор, мужны-дружны запал
Тут мацнейшы ад сілы вады і ад сілы таросаў.

Загрымела зямля. Вадзяныя шугнулі слупы,
Залацістыя брызгі паднялі да сонца.
Рокат водгуллем звонкім і гулкім паплыў
Па гарыстых прасторах, бязмежных, бясконцых.

*1956*

## САМАРОДАК

Бліснула ніткай паміж гор дарога,
Кранула дол глухі, разрэзала лагчыну,
Сарвала край скалы над ярам-логам
І карагод бяроз на часткі разлучыла.

Старэнькі кедр задумаўся глыбока
Над гэтай рысай, гэтым доўгім шнурам,
І шумны вадаспад па камяністым стоку
Заракатаў цяжкім падземным гулам.

А ўнізе па тайзе, па неабсяжнай далі
Бягуць лугі ля рэчкі неадступна,
І росы буйныя, празрыстыя крышталі,—
Міжвольна цягнуцца да прагных вуснаў.

А вунь і дол пусты, наўкол ляжаць камені,
Хмызняк запылены, яго здушыла смага.
І падае ў ваду падмыты ельнік,
Каўшамі рве зямлю заўзята драга.

І далей, дзе гару чаромха апавіла
Квяцістым палатном у дзесяць столак,
Дзе вузкіх сцежак разбягаецца развілак,
Стаіць ля прыіска стары пасёлак.

І часта вечарам у клубе прыісковым
Бывае зала перапоўнена народам,
І выступае тут заўсёды свой, мясцовы,
Мясцовы рэдкі з рэдкіх самародак.

Яму прарочаць добрыя дарогі...
А навальніцай воплескаў грымяць далоні.
Пра Ангару, пра шумныя парогі,
Пра залатых людзей пяе гармонік.

*1956*

## БЕЛЫ МОЙ ЛЕБЕДЗЮ

Белы мой лебедзю, мой пабрацім,
Над Ангарою з табой праляцім
І над тайгою гарыстай пакружым,
Шмат тут прастору смелым і дужым,
Мужным і дужым!
Сіняе неба... Хіба ў Венецыі
Сонца ярчэй, чым вясною тут, свеціцца?!.
Хіба тут горшыя вочы ў каханае?!
Хіба тут сэрца не палымянае,
Сэрца дзявочае не палымянае?..
Гулка шалеюць і рвуцца парогі,
Нашы з табою не змераць дарогі...

Круцяць віры, закіпелі шывёры,
Плаўна ўзніміся, мой белапёры,
Лебедзю мой белапёры!
Вось і плаціна — нібы падкова.
Ўзнімемся смела з сілаю новай!
Хаты, палацы сонцам заззялі,
Рвуцца і пеняцца шумныя хвалі,
Хуткія шумныя хвалі.
Белы мой лебедзю, мой пабрацім,
Над Ангарою з табой праляцім
І над тайгою гарыстай пакружым,
Шмат тут прастору смелым і дужым,
Мужным і дужым!

*1956*

## ЧАРАДЗЕЙНЫ ШУКАЮ НАСТОЙЛІВА КЛЮЧЫК...

Накамарнік зрываю. Са скалы б'е крыніца.
Прагну піць. У далонях, як срэбра, вадзіца,
Як у люстры, ля ног маіх сіняе неба,
У таежнай глушы — што тут лепшае трэба?
У разведчыка нетраў — радавога салдата —
Ёсць сябры — малаток, і кайло, і лапата.
З імі смела ўзыходзіш на хрыбты аж пад зоры,
З імі смела ідзеш у цясніны, пячоры.
Ад імшыстай дрыгвы, ад гары і ад кручы
Чарадзейны шукаеш настойліва ключык.

Чарадзейны шукаеш настойліва ключык
Між абрывістых скал, каля рэчак грымучых.
Ты, Радзіма, бяры мой маленечкі рапарт:
Ключ ад скарбаў бязмежных, прастораў багатых.
Накамарнік скідаю. Са скалы б'е крыніца,
Адпачну. Жыватворнай нап'юся вадзіцы.
Як у люстры, ў вадзе ўжо зоры і неба.
О, як зроблена мала! О, як шмат яшчэ трэба!..

*1956*

## НА НЕБЕ ПАЎНОЧНЫМ

На небе паўночным паўднёвыя зоры
Паўднёвым агнём запалалі ў вадзе.
Ў глыбінях ангарскіх такія узоры,
Якіх не убачыць нікому нідзе.

І скалы, як вежы. Маўчыць узбярэжжа.
Заснулі бярозы, сасонкі, піхта.
Між водбліскаў дзіўных, у завітку сцежак
Мігае іскрынкай на ўзвышшы ліхтар.

Мае вы дарогі! Імкненні, трывогі!..
Радзіма, о светлая зорка мая!
І глуха ракочуць, крукочуць парогі,
Шумліва шывёры равуць і грымяць...

На небе паўночным паўднёвыя зоры
Паўднёвым агнём запалалі ў вадзе.
Ў глыбінях ангарскіх такія узоры,
Якіх не убачыць нікому нідзе.

*1956*

## Я ТАЯ, ПРА КАГО СКЛАДАЮЦЬ КАЗКІ...

Я цёплых слоў не чула і не знала ласкі...
Ты глянь на мой цудоўны стан, на пекнату.
Вось пра такіх складаюць толькі казкі,
Санеты ўзнёслыя паэты пішуць-ткуць.

Ля ног маіх у белым снежным шоўку
Ляжыць, вясны чакае Ангара.
Скажы, няўжо ты будзеш безумоўку
Мяне самотай, адзіноцтвам дакараць?

Кастрычнік хустачку накінуў мне на плечы,
Мароз яе брыльянтамі і золатам убраў.
Няўжо не знойдзеш слоў высокіх, чалавечых
І палюбіць не зможаш так, як брат?

А прыйдзе май, паклоніцца мне нізка
І кветкамі засыпле ўвесь прыпол,
І зоры вечарам наніжа у маністы,
Птушыны спеў пачуецца наўкол.

Прываражу цябе, вандроўнік незнаёмы!..
Ах, колькі у грудзях маіх агню, цяпла...
Ты будзеш тут блукаць па сцежках пакрыёма,
Па тых слядах, што першы сам праклаў...

Між гор тунгускіх я слыву Вясёлай [1],
Хоць не умею траціць звонкіх слоў,
Дык падымі смялей, зухвалец, голаў,
У вочы глянь, адкрый сваё чало.

А можа, сніш пра Альпы і Карпаты,
Няўжо між енісейскіх я найгоршая гара!
Ты паглядзі на край чароўны і багаты,
На гэты дол, дзе льецца Ангара.

Паслухай шум тайгі і гоман рэчак,
Дзе не адна стаіць мая сястра-гара.
Няўжо не знойдзеш слоў высокіх, чалавечых
І палюбіць не зможаш так, як брат!..

*1956*

## БАКЕНШЧЫЦА

Ангарой хадзіў наш кацер,
Змрокам, ноччу плыў не раз.
Там гарэў ліхтарык Кацін,
Вёў дарогай бурнай нас.

Мы міналі бакен гэты,
Чортаў востраў з вострых скал,
Праляталі, як камета,
Небяспечны вір і шквал.

---

[1] Назва гары.

Не было ў каго спытацца,
Ды яе ніхто не знаў.
Толькі бачыў — бакен Кацін
Лепш другіх заўжды палаў.

І цяпер, калі далёка
Я ад шумнай Ангары,—
Зноў пачуць жадаў бы рокат,
Дом пабачыць у бары.

Домік Кацін. Думкі, мары
Аб прасторах, аб вадзе...
Гэты вогнік і ліхтарык
Не забудуцца нідзе.

*1956*

## РАЗВІТАННЕ

Таежных сцежак абхадзіў нямала,
Нямала гор, нізін... І вось пара
З табой, дачкою грознага Байкала,
Надоўга развітацца, Ангара!..

Я не блукаў чужынцам тут бяздомным.
Глянь на далонь! Ты бачыш мазалі?..
І клубяць дымам вогненныя домны,
Дзе я з кайлом прайшоў, па той зямлі...

Каб ты грымець, лящець імклівей стала,
Бярвенні тут цясаў і камень біў.
Я так кахаў свавольніцу Байкала,
Як, пэўна, больш ніхто ніколі не любіў.

І для глыбінь кіпучых і празрыстых
Ад сэрца шмат зрабіў і шмат аддаў...
Што ж, развітаемся! Твой бераг камяністы
Мне новыя дарогі нагадаў.

*1956*

## ТЫ МНЕ СНІЛАСЯ, БЕЛАРУСЬ...

Ты мне ўдалечы снілася, Беларусь,
Кветкай казачнаю, лясною.
Сны ў дарогу з сабою заўсёды бяру,
Каб была ты ля сэрца са мною.

Я знаходзіў сцяжынку, дарогу дамоў
Не па сонцы і зорах, не па компасе, картах,
Чуў, як б'ецца трывожная кроў
І наперад вядзе мяне смела і ўпарта.

На спапеленай, стоптанай, збітай зямлі
Не знайшоў я сваіх ані бацькі, ні маці.
І браты, як снапы, на век вечны ляглі,
І засохла вярба на ўскраі сенажаці.

Зарасло папялішча травой, бызьнягом,
Збуцвянеў у падмурку, рассыпаўся камень,
Я напіўся нядолі і гора нагбом,
Да няшчасця твайго дакрануўся рукамі.

Зноў пабачыў цябе, Беларусь,
Непакорную, родную, шчырую, блізкую.
Ты была мне заўсёды, ў любую пару,
І надзеяй, і марай, і шчасця калыскаю.

*1956*

## Я ПРАПЛЫЎ БЫ АКІЯН...

Я прайшоў бы сто дарог,
Сто крутых пуцін,
Калі б толькі ў свеце мог
Любую знайсці.

Я праплыў бы акіян,
Сто шырокіх рэк,
Каб сказаць, што ты мая,
Любая, навек.

Паляцеў бы у Сусвет
Між нямых планет,
Каб сардэчны свой прывет
Падарыла мне.

Дзе жывеш, мая краса?!
Дзе?.. Цябе няма...
Восень сунецца з прысад,
Блізіцца зіма.

*1956*

## ЯКУБУ КОЛАСУ

Ах, скіньце чорны крэп! Паэт жыве!
Ён асушыў дрыгву, сабраў у крушню камень,
Мільёны слоў-зярнят засеяў дбала.
Ён не былінкай вырас у пустой траве,
Не гнуцца, а стаяць яму стагоддзямі-вякамі.
Дык не кажыце, што яго не стала!
О, маці Беларусь, твой сын жыве.

Навошта груз вянкоў-гірлянд сухіх,
Калі краіна-сад цвіце шчаслівым кветам.
Жыве паэт між намі тут...
Народ-асілак, волат, а не пан сахі,
Не любіць стужак чорных, траурных букетаў,
Не любіць горкіх слёз, стагнанняў і пакут...
Народ жыве! І не кранула смерць паэта!

*1956*

## РАЗБУДЗІЛІСЯ ПРАСТОРЫ...

Дрэмлюць сінія прасторы,
Мрояць радасныя сны.
Ціхі ранак зноў нам дорыць
Ласку сонечнай вясны.

Праз пустыні, акіяны
Чуем поціск братніх рук.
Белым квеценем прыбрана
Дарагая Беларусь.

Адгукнуліся музыкі
Звонам труб і звонам струн,
Хай плыве у свет вялікі
Голас наш — жыцця вястун.

Разбудзіліся прасторы,
Гасне ціш, і гаснуць сны.
Светлы дзень няспынна дорыць
Ласку сонечнай вясны.

*1956*

## НЕ ЧУЎ ТВАІХ Я ЦЁПЛЫХ СЛОЎ...

Не чуў тваіх я цёплых слоў,
Забыта злагада і ласка.
Цудоўны вобраз твой ізноў
Мігнуў вясны чароўным бляскам.
Як васілёк у ясны дзень
У прастаце сваёй бязмерны,
Няўжо мне лёс не давядзе
Сустрэць такім твой позірк верны.
Даўно не чуў я цёплых слоў,
Забыта злагада і ласка.
Цудоўны вобраз твой ізноў
Крануў мяне чароўным бляскам.

*1956*

## РАНІЦА

Туману выплыў пласт такі,
Што ўкрыў лугі і возера.
Ляцяць, як стрэлы, ластаўкі,
Дагнаць не ўспееш позіркам.

Ляцяць за кропляй вільгаці,
Драбніцай глею ліпкага —
Гняздо ім трэба вылепіць
У застрашку пад ліпкамі.

Калі з туману выгляне
І ветла гляне сонейка,
Засне табун на выгане,
Пастух задрэмле соладка.

Зязюля раптам спуджана
Пырхне ў зялёны зараснік,
А сітаўка над лужынай
Ад досвітку і зараз там.

Вясёлкамі іскрыстымі
У травах росы свецяцца...
Я рад, іду расхрыстаным,
Бо хораша на свеце так.

*1956*

## З ПЕРШАМАЕМ!

Нібы ветразі, сцягі на плошчах
Узнялі ў парыў і рух людзей,
За́клікаў і слоў гарачых пошчак
Кліча да вялікіх спраў і дзей.

Гляньце, як вясна нястрымная ступае,
Гляньце, як ляцяць патокі рэк.
З Першамаем, свет наш! З Першамаем!
З Першамаем, працы чалавек!

Хай жа з гэтай радаснай часіны
Змоўкнуць каркаць смерці вешчуны.
Людзі, станьце у саюз адзіны,
Станьце супярок няшчасця і вайны.

Гляньце на мой край, Кастрычнікам
Што шчаслівым поступам ідзе,
Дзе жыццё і праца сталі святам
Для мільёнаў радасных людзей.

Дзе, як ветразі, сцягі на плошчах
Паднялі ў святочны рух людзей,
Дзе чуваць шчаслівай песні пошчак,
Што заве да подзвігаў і дзей.

*1956*

## ЛАСТАЎКА

Любая ластаўка, ведаю, знаю,
Ты прылятаеш з далёкага краю,
Ты прылятаеш з далёкіх прастораў,
З выраю, з поўдня, з-за сіняга мора.
Цешышся небам блакітным, празрыстым,
Полем і рэчкаю, лугам квяцістым.
Па-над дарогаю, жытам, пшаніцай
Любіш імкліва лятаць і кружыцца.
Міла шчабечаш пад кожным акенцам,
Вымавіць хочаш нешта, здаецца,
Вымавіць хочаш, ведаю, знаю:
— Рада радзіме, роднаму краю!

*1957*

## СЭРЦА,
## ЧАЙКАЙ ЛЯЦІ!

Мора, няўжо я разгневаў
Хвалі твае?!.
Рвуцца, равуць, ненасытныя,
Дзікія...
Мне ўжо здаецца,
Што скрышаць мяне,
І сэрца, як чайка, мігне
Над іх страшнымі грывамі.
Сэрца чайкай мігне
І ўдалечы скрыецца.
Я ж скалою звалюся і лягу,
Пашчы хваляў прыкрыю ільвіныя...
Сэрца, ляці ў той край,

Што заву я Радзімаю,
Дзе сумуюць бары
І гаі салаўіныя,
Дзе сцвярдзелы пясок і каменні
Застылі, як птушкі ад лютых
Марозаў.
Сэрца, ляці, глянь у вочы
Азёраў глыбокіх,
Ты паслухай, што шэпчуць
Крыніцы празрыстыя...
Калі крылы не здрадзяць,
Даляці, не варочайся.
Дарагія мне тыя дарогі,
Дзе маленства прабегла маё
Басаногае...
Дык ляці, не спыняйся,
Вышэй і вышэй!..
Сэрца, чайкай ляці
На радзіму маю.

Мора, няўжо я разгневаў
Хвалі твае?!
Рвуцца, равуць ненасытныя,
Дзікія.
Мне ўжо здаецца,
Што раскрышаць мяне.
Сэрца, чайкай ляці
Над іх страшнымі грывамі.

*1957*

## ЯНКУ КУПАЛУ

Ён быў мне першай літарай
У першым буквары,
І першаю вясной
Сярод палёў гарыстых,
І першай кветкаю
Цудоўнае пары,
Сцяжынкай першаю
І шляхам прамяністым.

Калі Кастрычнік
Ленінскай рукой
Сарваў з народаў
Кайданы-аковы,
У вольным рокаце
Пары вялікай той,
Як гром вясны,
Яго пачуў я слова.

Ён разбудзіў
У сэрцы юнака
Пачуццяў цёплых
І вялікіх гукі.
Я кветку-папараць
Даўно шукаў,
Цяпер я да яе
Узношу свае рукі.

Ён быў мне першай літарай
У першым буквары,
І першай кветкаю
Цудоўнаю лясною...
Хай просты сказ
Аб слаўным песняры
Ляціць, як ластаўка
Імклівая вясною.

*1957*

## А ЗЯЗЮЛЯ ДАЦЯМНА КУКУЕ...

Сцелецца вячэрні сіні морак,
Пеніцца, злуецца, равецца мора.
Вочы карыя мае, мая любоў і гора,
Пэўна, зноў сустрэнемся няскора?..
А зязюля дацямна кукуе,
Прадвяшчае доўгія нам леты,
Вунь і месяц праменем вяслуе,
Лёгкай хмаркай скрыты і сагрэты.
Вочы карыя мае, любоў мая і гора...
Супакойся, сэрца, супакойся, мора!..

*1957*

## ПРЫХОД РАНІЦЫ

У парку досвіткам,
Над сцежкай роснаю,
Спакоем цешацца
Яліны з соснамі.

І вербы хіляцца,
Санліва віснучы,
Над плынню ціхаю
Маўклівай Свіслачы.

У Мінску будзяцца
Пакрыху вуліцы,
І цень у закутку
Да сценаў туліцца.

Прыходзіць раніца
З людзьмі параіцца,
З якою працаю
Ёй сёння справіцца.

*1957*

## ТЫ ВЕРНЕШСЯ...

Прайшла і ўсё забрала ад мяне:
Паўднёвы бераг,
неба, сонца, мора.
Халодны вецер ціха ў ветразь дзьме,
І лодка-човен вернецца няскора.
Пайшла і ўсё забрала ад мяне.

Вярніся, я няпраўду паўтараў,
Я сам сабе маніў,
казаў, што не кахаю.
Пара ж і мне ісці, даўно пара.
А я цябе адзіную чакаю.
Вярніся, я няпраўду паўтараў.

Я крыкну, водгулле мой боль навокал
Раскажа скалам, ручаінам, рэкам,
Прачнецца мора, уздыхне глыбока,
Як уздыхаюць грудзі чалавека.
Ты вернешся, каханая, здалёку...

*1957*

## КРАСАВІК

Полем, лесам, пералескамі,
Па зямлі, вясной абуджанай,
Красавік ідзе з пралескамі
Па праталінах і лужынах.

Ручайкі гудуць напорыста,
Распусцілі вербы голлейка,
На галінцы ціхім посвістам
Шпак вітае рана сонейка.

За дарогай, за прысадамі,
Млын з няспынным гулам-гоманам,
Там жаўрук дадолу падае
У быльнёг сухі, паломаны.

Дзе сасна расце высокая
Па-над рэчкай гаманліваю,
Бусел радуе нас клёкатам,
Прыляцеў ён з далеч-выраю.

І дарогаю, і трактамі,
Наўздагонкі нібы гоняцца,
Плуг бяжыць за гонкім трактарам,
Ажно поле гулам поўніцца.

Полем, лесам, пералескамі
Па зямлі, вясной абуджанай,
Красавік ідзе з пралескамі
Па праталінах і лужынах.

*1957*

## УСЛЕД ЗА ЛЕТУЦЕННЯМІ...

Зялёнымі абшарамі
Ляглі лясы, лугі.
Зрывае светлым заравам
Вясна вязьмо тугі.
Бягу за летуценнямі,
Імчуся з усіх сіл.
Цудоўнымі здзяйсненнямі
Іскрыцца небасхіл.
Над рэкамі, азёрамі,
Над дыванамі ніў —
Чароўнымі узорамі
Ўсё тое, што я сніў.

*1957*

## ЗІМЫ ХАЛОДНАЙ ПАСЛАНЕЦ

Па мяккай коўдры лісцяной
Ступае ціха лістапад.
На небасхіле лес сцяной
Стрымаць, здаецца, сонца рад.

Але ў вясёлкавым агні,
У кожным месцы з рань-пары,
Куды ні глянь, што ні кранi
Гараць сняжынкі-ліхтары.

Зімы халоднай пасланцы
Уміг губляюць прыгажосць.
І восень зноў ва ўсе канцы
Ступае, як жаданы госць.

Наўкол багаты лістапад,
Наўкол спакой і цішыня,
Глыбокі сіні далягляд
Увесь зямны абшар абняў.

*1957*

## ВЕРАСЕНЬ ПЛЯЦЕЦЦА ПАЗАЛОЧАНЫ...

Па дарогах і глухіх узбочынах
Верасень пляцецца пазалочаны.
А ў мяне душа сагрэта летам,
І здаецца свет мядовым кветам.

Верасень пляцецца. Слаўны верасень...
Я ж за імісці таксама мерыўся,
Ды адстаў. Пабуду разам з летам.
Песень жніўных шмат яшчэ не спета.

*1957*

## РОСЫ

Прачынаецца раніцай цёплай расінка,
Усміхаецца добраму сонцу з вітаннем і ласкай.
Ажываюць травіца, кусты, і асінка
Пачынае далонямі лісцяў задорыста пляскаць.

Колькі радасці!
Нават сям'я вераб'іная
Палінялыя крылы ўзнімае шырока-шырока,
Нібы хоча вось зараз, вось гэтай хвілінаю
Паляцець у нязнаны, нябачаны вырай далёка.

Маці мая!
Не сціраецца ў памяці гэта хвіліна.
Ты з трывогай аднойчы прачнулася нейкай,
Серп з-пад бэлькі ўзяла, паглядзела на сына.
І расінка свяцілася ярка на вейках.

Маці мая!
Мае першыя леты! Дарагое дзяцінства!
Ты пайшла. Разбудзіў я малую сястрыцу.
Нехта крыкнуў сурова на панскім дзядзінцы...
На акне луста хлеба і кубак з вадзіцай...

Ці ж забудзецца гэта хвіліна цяжкая, матуля!
Разламалі з сястрою мы хлеб і так снедалі смачна,
На палічцы знайшлася пякучка-цыбуля.
Я расінку ў сястрыцы на вейках убачыў.

Памятаю, што ранак быў цёплы і росны
І цудоўныя кроплі-расінкі іскрыліся сонцам.
Ці ж забудзецца хата старая, разбітыя кросны,
Луста хлеба, сляза і сляпое аконца.

*1957*

## КРУШНЯ

Было даўно.
І нібы гэта сніцца:
Прыйшлі — было іх трое — родныя браты.
На крушні селі двое, трэці быццам
Быў тут чужым ці толькі панятым.

Кароткаю зусім у іх была размова,
Але нямала думалі прад гэтым,
як тут быць.
Дзве дзесяціны поля раздзялілі напалову,
А трэцяму куды ісці, як жыць?

Мой бацька не спрачаўся,
хіба ж сэрца камень;
Не быў цвярдым, настойлівым, упартым,
Хоць гэту крушню склаў уласнымі рукамі,
Але асесці тут і жыць, лічыў, не варта.

Нямала абхадзіў маёнткаў і фальваркаў,
Ён шмат чужога поля заараў і не рабіў агрэхаў.
Ярмо здавалася зусім яму па карку,
І хто ні сеў на плечы — доўга ехаў.

Пасля ж, разбуджаны вялікай навальніцай,
Вінтоўку ўзяў, маўкліва йшоў наперад.
— Ах, гэта ж наша родная для ўсіх зямліца,—
Шапталі вусны з новай сілай, верай.

І я гляджу на гэты ў крушні камень,
Праходжу па даўно вядомым полі,
Уваскрашае зноў выразна, ярка памяць
Той дзень, які не вернецца ніколі.

*1957*

## РАЗМОВА З БЕССМЯРОТНАСЦЮ

Запыталася гордая бессмяротнасць:
— Хто ты такі? Адкуль? Ды з якога роду?
— Я з тых, што вякамі жылося гаротна,
Сын занядбанага адвечна народа.
Сын спапялёных гарадоў і вёсак,
Лясоў і поля, акропленых густа крывёю,
Дзе сіняе неба злілося ў гул і пошчак,
Дзе сонца пакрылася свінцовай імглою.
Не верыш?! Дык скажу табе толькі:
У нас на кожным кроку крыніца гаючая,
Глянь, як, абмыўшы раны і болькі,
Ідзе Беларусь бессмяротная, неўміручая.
І не затопча ніякая нелюдзь
Празрыстых вытокаў гаючай крыніцы
І поля, дзе рунню густой зелянеюць
Бязмежныя гоні жытоў і пшаніцы.
І не раскрышыць ніякая зграя
Горад, дзе трубы пасталі, як клічнікі...
Бачыш, Радзіма ідзе дарагая
Дарогай Вялікага Кастрычніка!
Зноў запытанні ляцяць неадвязна:
— Хто ты такі? Адкуль? Ды з якога роду?
На ўвесь голас скажу, вымаўляю выразна:
— Сын неўміручага беларускага народа!..

*1957*

## НА ПАРОЗЕ СЕЛА ВОСЕНЬ...

На парозе села восень,
А ў мяне вясна у доме.
Хто ж сюды старую просіць?
Хто паклікаў? Невядома.

Пасядзі. На клямцы дзверы...
Я ж табе не адзавуся.
Ці дасцё вы, людзі, веры,
Прычапілася бабуся...

*1957*

## ВЫПАЎ БЕЛЫ СНЕГ НА СКРОНІ...

Выпаў белы снег на скроні...
Пэўна, не растане?
Ліха рвуцца мае коні,
Мчуся да змяркання.

Даганю я свае леты
Хоць на ўскраі свету,
Маладосць мая! Ах, дзе ты?!
Не відаць адгэтуль.

*1957*

## ПАПЛЫЛІ БЛАКІТНЫЯ АБЛОКІ...

Муляр — сінявокая дзяўчына
Глянула з высокіх рыштаванняў,
Кельню палажыла на хвіліну,
Вось і нечаканае спатканне.

Кроквы ставіў цесля сінявокі
Тут жа, побач з гэтым самым домам.
Паплылі блакітныя аблокі,
Паплылі дарогай невядомай.

Грымнуў кран жалезнаю калыскай,
Падаваў раствор на мур высока,
Муляр і цясляр былі тут блізка,
Дом ад дому побач, недалёка.

І намоўкі розныя разнеслі
Людзі, хваткія на смех гарачы,
Што сякера падае у цеслі,
Калі цесля муляра убачыць.

*1957*

## СПАТКАЎ ВЯСНУ...

Я з шчасцем не спраўляў заручыны,
Падчас хадзіў, тугою скручаны.
Цвіла тайга парошай шэраю,
Нягод адведаў поўнай мераю.
І рэха ноччу, нібы з кпінамі,
Мой голас рвала за цяснінамі,
І ў месячным між скалаў водбліску
Мне слаў парог глухія воплескі.
У друзе, ветрам перамолатым,
Шукаў, знаходзіў часам золата,
Тады і совы мне зайздросцілі,
Да досвітку крычалі злосліва.
Аднойчы сонца шчодрай жменяю
Мяне ўзбадзёрыла праменнямі.
І калі лёд ішоў, патрэскваў,
Спаткаў вясну сваю з пралескамі.

*1958*

## НА АРШАНШЧЫНЕ ЛЯ СІНЯЕ РАКІ

*Міколу Сямашку — паэту і салдату*

За балотам, за узгоркам гэтым,
Дзе прабег гасцінец праз лясок і гаць,
Полаччына блізка. Дом паэта,
Глянеш, дык здаецца, як рукой падаць.

Яблынька у полі на паўмежку,
Возера, якіх не бачыў свет.
Не адну дарожку я і сцежку
Пратаптаў, праездзіў там як след.

Не з адной рачулкі і крыніцы
Вусны прагныя, гарачыя пілі,
І смачнейшай, вось як там, суніцы
Не сустрэць на ўсёй зямлі.

І дзяўчат з вачыма-васількамі
Прыгажэйшых, лепшых не шукай.
Там, здаецца, ажывае камень,
Калі прыйдзе свежы, светлы май.

І вяснянкі — песні залатыя —
На узгорку над ракою чуў.
Дайце крылы, і ў мясціны тыя
Ластаўкай імклівай палячу.

Ёсць куток далёкі, сэрцу мілы
На Аршаншчыне ля быстрае ракі...
Там насыпаны высокія магілы
У зацішку вербаў і ракіт.

І вось там, дзе ўсё агнём палала,
А цяпер вянкі — на просценькіх капцах,
У радах салдацкіх больш не стала
Простага вясковага хлапца.

Полаччына блізка, прад вачыма,
Дзе прабег гасцінец праз лясок і гаць.
Спіце, слаўныя! Квітней, мая Радзіма,
Кожны за цябе гатоў жыццё аддаць.

*1958*

## О, ЧАМУ Ж ТЫ, СОНЕЙКА, ДЫ НЕ ЗДАГАДАЛАСЯ?

О, чаму ж ты, сонейка, ды не здагадалася,
Чаму я ў сукенку белую прыбралася?
Хмарыцца, хмурыцца, хмарыцца паволі.
Выгляні, сонейка, засвяці над полем!..

Едзе мой міленечкі і прыедзе скора,
Сокал мой далёкі аж з Чорнага мора.
Гляне сінявокі, як калісьці, гляне.
Гэта ж я прыбралася, выйду на спатканне.

Узніміся, сонейка, ды над нашым лесам!
Едзе мой міленечкі, едзе аж з Адэсы...
Хіба ж ты не бачыш мяне маладую?
Едзе чарнаморац, хіба ж я жартую?

Гляне ён у вочы ды на русы косы,
Ён жа не забыўся, хоць і стаў матросам.
Хіба ж ён забудзе мяне маладую?
Хіба ж не абніме і не пацалуе?

О, чаму ж ты, сонейка, ды не здагадалася,
Чаму я ў сукенку белую прыбралася?!
Хмарыцца, хмурыцца, хмарыцца паволі.
Выгляні, сонейка, засвяці над полем!..

*1958*

## СУСТРАКАЙ, МАЦІ, СЫНА!

Вестка птушкай ляцела ў хаціну,
І маланкай прыйшла тэлеграма...
Сустракай, маці, сына!
Даражэнькая мама,
Пэўна, ты і не сніла,
Што прыедзе Даніла.

Вартаваў твой Даніла граніцу
Там, дзе горы і цемень-цясніна,
Вартаваў ад чужынца.

Сустракай, маці, сына!
Ты, напэўна, не сніла,
Што прыедзе Даніла.

Прывітанне сябрам і суседзям
І маёй сінявокай Алесі.
Днямі любы прыедзе
На радзіму — Палессе...
Мо Алеся не сніла,
Што прыедзе Даніла.

Калі ж сэрца Алесі занята,
Калі слова сказала на вецер,
Будзе мне цяжкавата —
Ўсё бывае на свеце...
Ці чакала, ці сніла?!
Ой, ці верна любіла?!

Нібы птушка, ляцела навіна,
І маланкай ішла тэлеграма.
Сустракай, маці, сына!
Даражэнькая мама,
Пэўна, ты і не сніла,
Што прыедзе Даніла.

*1958*

## ХАЙ ЛІТВА І БЕЛАРУСЬ ЯМУ ПРЫСНЯЦЦА

*Памяці Кастуся Каліноўскага*

Кастуся вялі на смерць, на згубу,
У вачах свяціліся і боль і мука.
Камандзір канвою адазваўся груба,
Барабан замёр і больш не стукаў.

Толькі з веек Кастуся слязіна
На зямлю пад ногі не упала.
Знаў сваю зямлю і быў ёй сынам,
Знаў, што слёз на ёй, крыві нямала.

Глянуў ён на ўсход, дзе светлым пукам,
І сказаў: — Не нам, дык нашым ўнукам
Промень сонца выбіўся з туману,
Давядзецца на свабоду глянуць.

Хай Літва і Беларусь яму прысняцца,
Дзве сястры, дзве родныя краіны,
Што, як волаты, змаглі узняцца
І ісці дарогаю адзінай.

*1958*

## А ЧАС ЛЯЦІЦЬ...

Страсае ціш начная з неба зоры,
А раніцай зямля палае ад ападкаў.
Мае сляды чарнеюць, як разоры,
А я ж прыйсці сюды хацеў украдкам.

Каб незаўважаным паслухаць гул пчаліны,
Употайкі пачуць, што шэпча лісце,
Каб прыгадаць, як я назваў адзінай
Сваю далёкую і блізкую калісьці.

*1958*

## ХТОСЬЦІ СТУКАЕЦЦА ДА МЯНЕ

Выткаў месяц у хацінцы на сцяне
Залацістыя прывабныя акенцы,
Ноччу хтосьці стукаецца да мяне,
Просіцца хаця б зайсці у сенцы.

Цёмны профіль вырас у акне,
Бляск вачэй мігнуў, іскрыстых і пякучых:
— Ну няўжо ж забыўся пра мяне?
Прысвячэннямі ж мяне калісьці мучыў...

— Дарагая! Толькі голас твой,
Пэўна, прыляцеў з часоў далёкіх?..
Пэўна, гэта сон? Ты будзіш неспакой...
Навальніц былых уваскрашаеш рокат...

*1958*

* * *

Я не жораў, ды і я ляцеў
З выраю нязвычнага дадому.
Мабыць, толькі круглай сіраце
Хваляванне гэткае вядома.

Як раней, пераступіў парог
Даўняга таварыша і друга.
Да яго я не зайсці не мог,—
Хіба ж п'яніца я, валацуга.

І ўвайшлі са мною пах смалы,
Подых кедраў і таежных елак.
За дарожны час, хоць не малы,
Пахі выветрыцца не паспелі.

Але тут ва ўсім інакшы пах,
Колер пераважна бірузовы,
Сцены і падлога ў дыванах...
Сцепаюся я ў сваіх кірзовых.

— Прабачай, калі патурбаваў.
На дварэ слата, а я з дарогі...
Хоць бы ён па імені назваў,
Хоць бы ў вочы глянуў — не на ногі.

Сэрца, гэта ты сюды вяло,
З дня на дзень чакаючы сустрэчы.
Чуеш, як пякуча абдало
Скразнячком паўночнай халадэчы!

Бачыў я не раз ледавікі,
Холад і мароз даўно вядомы.
Вытру ногі аб палавікі,
Выйшаўшы з твайго, мой дружа, дому.

*1958*

## КАЛОДЗЕЖ Я КАПАЎ...

Калодзеж я капаў. Дубовым зрубам
Пясок спяшаўся затрымаць сыпучы,
А майстар-дзед часамі нават груба
Мяне навукаю грабарскай мучыў:

— Няроўна гоніш клін! Ямчэй трымай рыдлёўку!
Па гэтым камені кувалдаю удар як трэба!..
Святла над намі ўверсе з залатоўку,
Над намі з залатоўку быў кавалак неба.

І калі з першай жылкі ў падзямеллі
Жывыя кропелькі пабеглі, паліліся,
Зруб пасвятлеў, і мы памаладзелі
І, як сябры, любоўна абняліся.

І я пачуў, што там, над нашым зрубам,
Крылом жаўрук успляснуў нечакана
І песню заспяваў сваёй сяброўцы любай,
Сваёй адзінай, роднай і каханай.

*1958*

## СНІЎСЯ СОН ПЕРАД ПАХОДАМ

Між зарасцін кашлатых
У палатцы пад ялінай
Сон зламаў, схіліў Марата,
Задрамаў, заснуў хлапчына.

Цісне рэмень паясніцу,
Звіслі важкія гранаты.
Сон нялёгкі хлопцу сніцца,
Сніцца сон цяжкі Марату.

Вось, здаецца, ён за партай.
Светлы клас. Акно у поле.
І яго заве да карты
Моцны голас чыйсьці ў школе:
— Пакажы, Марат, мой браце,

Гарады сваёй краіны.
Не знаходзіш іх на карце?
Кажаш, тут адны руіны?
Дзе ж тут сінія азёры,
Рэкі светлыя, крыніцы?
Што ж ты хмурышся ад гора?
І чаму табе не спіцца?
Што? Крывёй яны заліты?
Што? Касцьмі яны услачы?
Дымам сёлы апавіты,
Нівы ворагам стаптаны?
Ты адпомсці ім за гора!
Смерць ім, ворагам заклятым!

Разбудзіў Марата шорах
Дзікіх зарасцін кашлатых.

Так аднойчы у палатцы
Сніўся горкі сон Марату.
Перад боем часта сняцца
Сны трывожныя салдату...

*1959*

## ШЫНЕЛЬ МАРАТА КАЗЕЯ

Ён у Станькаўскім знаходзіцца музеі,
Шэранькі шынель адважнага Казея.
Зведаў той шынель дажджы і вецер,
Снег, нягод нямала ў белым свеце.
Многа раз над ім свісталі кулі,
Праляталі побач, не кранулі...
Ад снарадаў і шумлівых мінаў
Рваліся асколкі і ляцелі міма.
На шынель гляджу, і мне здаецца,
Адчуваю стук Маратавага сэрца.

*1959*

## ДЗЕ БЫЎ, РАЗВЕДЧЫК, НОЧ І ДЗЕНЬ?

Ноч. Цемень. Толькі ля шашы
Ледзь чутна дрот гудзе.
Як прывід між лясной глушы,
Слуп бачны дзе-нідзе.

Кранае сэрца нудны шум...
Як добра б знаць, пачуць,
Пра што фашысцкі звоніць тлум,
Пра што загады шлюць.

— Размову іхнюю спыню,
Прымушу іх маўчаць! —
Марат сказаў свайму каню,
Зняў аўтамат з пляча.

Напагатове аўтамат,
І Орлік, верны конь,
Куды скіруе друг Марат,
Імчыцца, як агонь.

Вось блізка знанае сяло,
Тут блізкія сябры.
І ўзялі хлопцы пілы, лом
І ўзялі тапары.

На збітай танкамі шашы
Трывала ціш... Спакой...
І не было жывой душы
У цемені глухой.

Употай хлопцы падышлі,
Нячутным быў іх крок.
Драты сваё ўжо аджылі,
Навечна гул іх змоўк.

Напагатове аўтамат,
Ляціць Марат наўпрост.
Вязе навіны ён у штаб,
Аб'ездзіў многа вёрст.

— Дзе быў, разведчык, ноч і дзень?
І стаў Марат у рост:
— Скрышылі сувязь дзе-нідзе
На добрых дзесяць вёрст.

*1960*

## ГАРА
## МАРАТА КАЗЕЯ

Леніна імем
Названы калгас,
Славу Станькава
Час не развее.
Ёсць на ўзлессі гара,
Ёй нядаўна ў нас
Далі назву —
Марата Казея.

Ціхі слаўны хлапчук
У цяжкія часы
Верным ленінцам быў,
Баявым піянерам.
Ён пайшоў з партызанамі
Смела ў лясы
І у справу іх мужную
Верыў.

Калі слаўся над рэчкаю
Золкі туман,
Праз кусты прабіраўся ён
Раненька-рана,
І прыносіў у штаб
Піянер-партызан
Падрабязныя весткі
З варожага стану.
Ды аднойчы фашысты
Шарэнгай густой
Акружылі гару,
Дзе хлапец быў заўзяты,
Закіпеў там смяротны,

Напорысты бой.
Лезлі вылюдкі дзікія,
Лютыя каты.

Калі хцівы фашыст
Перамозе быў рад
І з пагрозай глядзелі
Ствалы аўтаматаў,
Раптам выбух асколкамі
Сыпнуў, як град,
Вораг паў, ды не стала
Казея Марата.

Ён не здаўся жывым.
І вось з тое пары
Ходзіць слава
Аб хлопцу-герою,
І завуць месца бітвы
Малы і стары
Імем новым —
Марата Казея гарою.

*1959*

## НАВАЛЬНІЦА

Анямелы лес,
Бывае, загамоніць,
Зашумяць надрыўна
Велічныя сосны.
Сотнямі падкоў
Зямлю капыцяць коні,
І маланкі-шаблі
Крэсляць хмары злосна.

Калі толькі ґучна
Грымне навальніца,
Чую водгулле далёкае
Заўсёды:
Аж зямля дрыжыць,
Так хутка полк імчыцца
У адважныя і слаўныя паходы.

Спешна на акопы
Ворагаў-злачынцаў
Хваляю магутнай
Крочаць партызаны.
Не хадзіць чужынцам
Па гасцінцах,
Не стагнаць
Радзіме зрабаванай!

Хіба мсціўцаў
Хто стрымае ці супыніць?
Хто загасіць злосць,
Што ў сэрцах так глыбока?!
Вунь мігнуў і скрыўся
Аўтамат Казея...
Ён бясстрашны хлопец —
Яснавокі сокал.

Калі лес
Раптоўна загамоніць,
Зашумяць надрыўна
Велічныя сосны,
Сотнямі падкоў
Зямлю капыцяць коні
І сякуць маланкі
Хмары злосна.

*1960*

## ДАЗНАННЕ

*Памяці*
*Зоі Касмадзям'янскай*

Чакалі вылюдкі,
Што загаворыць Таня,
Раскажа — хто яна
І хто яе сябры.
Дазнанне цягнецца
Да самага світання,
Халодны, снежны вецер
Кружыць на двары.

Маўчыць... І раптам ворагі
Аслупянелі,
Дзяўчына ўскрыкнула:
— Хіба ж мне страшна
Смерць?
Ды гэта ж страх забраўся
Ў вашыя шынелі,
Вы запалоханы,
Гнісці вам тут
І тлець...

Змяце народ,
Змяце мая краіна
Ваш блудны след
З дарог сваіх,
Сцяжын,
Вам аглянуцца страшна,
За плячыма
Ступае ваша смерць
З палёў, лясоў,
Лагчын.

Я ж толькі кропелька
Ў вялікім моры,
Іскрынка з полымя
Нягаснучых агнёў.
Праз краты ржавыя,
Заслоны, шторы
Народ пачуе боль мой,
Праўду маіх слоў.

— І гэта ўсё? —
Спытаў фашыст санліва.
Акурак ткнуў,
Стушыў аб Танін твар.
А за сцяною вецер
Гнаў імкліва
Табун над лесам
Разарваных хмар.

Калі вялі на смерць
Фашысты Таню,
Схавала сонца
За хмурынкі твар.

Стаялі людзі
Моўчкі да змяркання,
У сэрцы помсты
Бушаваў пажар.

*1973*

## ЮНЫЯ ПАРТЫЗАНЫ

Снегам сыпучым замецены шлях,
Ані слядоў, ні сцяжыны.
Круціць мяцеліца, вые ў кустах,
Хіляцца, стогнуць яліны.

Два юнакі цераз гурбы паўзком
Крадуцца ў лес. За плячыма — патроны.
Кожны ім кусцік — прытулак і дом,
І небяспека за кожным адхонам.

Стрэл раздаецца. І мсціўцы уміг
Цераз узгорак стралой сіганулі,
Але адзін з іх схіліўся, прыціх...
Раніла хлопца варожая куля.

— Не, не здадзімся! — ён шэпча праз боль
І з аўтамата ворагаў цэліць.
Круціць, віхурыцца снежная золь,
Гойсае сотняю лютых мяцеліц.

Цёмнаю ноччу да ціхіх палян
Сосны хілілі задумныя кроны.
У партызанскі ўстрывожаны стан
Юныя мсціўцы прынеслі патроны.

*1960*

## ГОЛАС СЛУХАЙЦЕ, ПАКАЛЕННІ

*Памяці землякоў,*
*спаленых нямецкімі фашыстамі*
*ў вёсцы Літавец*
*Дзяржынскага раёна*

Падыдзі, супыніся, паслухай —
Б'юцца сэрцы людскія глуха.
Шэпчуць вусны знясіленай маці:
— Не душыце дзяцей, не кідайце!..
Шле праклёны, каб людзі пачулі,
Голас хрыплы збялелай бабулі.
На пагорку растуць не ялінкі,
А пабеглі гарэзы дзяўчынкі.
Не стары клён расце ў наваколлі,
Гэта дзед углядаецца ў поле.
Хіба ж гэта стаяць вербалозы? —
У дзяўчатак расплецены косы...
Не дубкі каля лесу на ўскраю,
А нарогі хлапцы папраўляюць.
Шэпчуць вусны людскія глуха.
Падыдзі, супыніся, паслухай!..
Шапку скінь, нахіліся з паклонам
Перад гэтай палоскай-загонам.
Голас слухайце тых, пакаленні,
Хто не здаўся, не стаў на калені.

*1968*

## СТРЭЛАЧНІК КАРУГА

На ускраіне за станцыяй таварнай
Цягнікі імчацца часта, хутка,
Рэйкі ў далечы знікаюць хмарнай,
І на іх глядзіць старая будка.

Там жыве стары Тамаш Каруга,
Стрэлачнік вусаты, добра знаны.
У яго сцяжок заткнуты за папругай
І ў руках ражок з вяровачкай мядзяны.

Калі ў школу мы бяжым, бывала,
Ён, хоць справай пільнаю заняты,
Нагаворыць нам цікавага нямала.
Крыкне: — Гэй, куды вы, кураняты?!

Але вось надоечы пад вечар
Разбурылі Тамашову будку.
Скрынку серабрыстую з шырокім вечкам
І ліхтар паставілі ў закутку.

Неяк ад рабочых мы фабрычных
Вестачку пачулі пра Каругу:
— Стрэлачнік цяпер аўтаматычны
Вашага змяніў старога друга.

Беглі мы гуртом са школы сёння
Каля насыпу квяцістым лугам.
На сцяжынцы, на крутым адхоне,
Бачым, тупае стары Каруга.

— Добры дзень! — мы крыкнулі Каругу.
Усміхнуўся, рад Тамаш без меры,
Пальцамі памацаў ён папругу,
Кажа: — Я цяпер пенсіянерам.

Расказаў, як некалі бывала
(Не забудзе гэтага да скону),
Як з гранатамі падкраўся ён па шпалах,
І цягнік варожы паляцеў з адхону.

А калі ж пабеглі мы дахаты,
Кепкай узмахнуў, нібы сцяжком зялёным:
— Ах мае вы,— крыкнуў,— кураняты!
Ах мае вы, хлопцы-ветрагоны!..

*1957*

## ДЗЕДАЎ ПАРТРЭТ

Гляньце, паглядзіце
На партрэт,
Хто гэта ў будзёнаўцы?..
Гэта ж дзед.
Злева ў дзеда шабелька,
Справа — наган.
Конь пад дзедам чорны,
Як груган.
Дзед з панамі біўся
На вайне.
Дзіўны конь пад дзедам
Шыю гне.
Не ў адным паходзе
Дзед мой быў.
Белых генералаў
Часта біў.
Лезлі яны, хцівыя,
На наш край.
Усё, усё да каліва
Ім аддай.
Дзед зямлю Савецкую
Бараніў.
Вось мой дзед адважны
На кані.

*1960*

## МЯСЦІНА КАЗАК І ПРАЛЕСАК

На многа год памаладзеў
Я ў гэтай казачнай мясціне...
Стаіць сланечнік на градзе,
Нібы дзяўчына у хусціне.

Гладыш, аддаўшы малако,
Прыгорбіўся на частаколе,
Кусты разбегліся наўкол,
Уздоўж дарог, ажно на поле.

На шост узбіўся ветрачок,
Дзіцячай зроблены рукою,
Махае крыллем, рве цвічок
І не дае людзям спакою.

У неба, пэўна б, паляцеў,
Калі б знайшоў ён толькі сілы,
На развітанне затрымцеў,
Нібы жаўрук на небасхіле.

Радзіма, казачны мой кут,
Лясы старыя, пералескі,
Знаходзіў я калісьці тут
Паміж пратал інаў пралескі.

На крушню сяду, пасяджу
Пад клёнам тым, што пры дарозе...
І чую рокат, чую шум —
Павольна сунецца бульдозер.

Жалезны высунуў падол,
І верне пні, і рве карэнні,
І круціць, горне ў чорны дол
Старыя шэрыя каменні.

Усё змяніла свой памер,
Няма з мінулым падабенства...
І не саб'е тут ног цяпер
Маё далёкае маленства.

На многа год памаладзеў
Я ў гэтай казачнай мясціне...
Стаіць сланечнік на градзе,
Нібы дзяўчына у хусціне.

*1960*
*в. Масцішча*

## СПАТКАННЕ
## СА СТАРАСЦЮ

Прыходзіць старасць у мой сад,
Глядзіць налева і направа,
Мяркуе тут заняць пасад,
Не маючы на гэта права.

Кранае вершы па чарзе
І, не сказаўшы чі паўслова,
Мне рыфмаў добры пук вязе
З прыметнікаў і дзеясловаў.

О, не! Адсунься ад мяне
І прэч нясі свае тавары.
Ты разглядзіся і мінеш
Мой сад, бо ты мне не да пары.

Спакойна у маіх грудзях
Пульсуе, б'ецца кроў па жылах,
Пабудзь хвіліну у гасцях:
Ты, бачу, нават затужыла.

Каго ж з сабой ты узяла,
Мяркую, пэўна, гэта крытык.
З яго пукатага чала
Тырчыць ґузак даўно набіты.

Ты нешта кашляеш? Дрыжаць
Твае падкошаныя ногі.
Нібы ты села на нажак
І скамянела ад трывогі.

Правер у адрасным стале
Свае фальшывыя паперы,
Напэўна, ў поцемках, імгле
Зайшла сюды не ў тыя дзверы.

*1960*

## СОНЦА КЛІЧА

Спіць стары збуцвелы камень
У тумане над ракою,
Выбівае пліска танец,
Не дае яму спакою,

Бо ўжо сонца паднялося,
І ў густым зялёным жыце
Перапёлка жартам просіць:
— Дзе я?!. Дзе я?!. Падкажыце!..

Спіць стары збуцвелы камень,
А ля вербаў рыбаловы
Над пустымі паплаўкамі
Хіляць пільныя галовы.

Спіць стары збуцвелы камень.
Па балоце бусел ходзіць,
Скачуць жабкі пад нагамі,
Каля бусла карагодзяць.

А рыбак з дарогі збочыў,
З вудзільном над галавою
Прасядзеў над рэчкай ночку
І стаміўся ад спакою.

Спіць збуцвелы чорны камень
І не чуе, што вясною
Сонца яснае над намі
Нібы кліча:
— Гэй, за мною!..

*1960*

## ШЧАСЛІВАЙ ВАМ ДАРОГІ, ЖУРАВЫ!

Шчаслівай вам дарогі, журавы!
Вас не дагоніць злосніца-зіма.
Маркотна апусцелі сенажаці-паплавы,
Імшарышча сумуе, што ўжо вас няма.

Шчаслівай вам дарогі!
Край чужы,
Прыветліва сустрэнь паўночных пасланцоў.
Нялёгка без гнязда і без радзімы жыць.
Курлы! Курлы! — чуваць з усіх канцоў.
Шчаслівай вам дарогі, жураўы!
Вяртайцеся здаровымі дамоў.
Вам дыванам рассцелюцца наўкола паплавы,
Як родны край убачыце вы зноў.

*1960*

## НАД РЭЧКАЮ ШЧАРАЙ

Раскінула ночка асеннія чары
Над рэчкаю казачнай, ціхаю Шчарай.
Заснулі навокал лясы і імшары,
І месяц укрыўся ў шэрыя хмары.
І толькі між вербаў санлівых, кашлатых
Не спіць рыбакова на беразе хата.
Не спіцца і мне вераснёваю ноччу,
Па беразе сцежкай выбоістай крочу.
І чую, як дышуць за ціхаю Шчарай
Глухія лясы, хмызнякі і імшары.

*1960*

## БАЛАГОЛЫ

Грукаюць колы —
Едуць балаголы.
Грукаюць колы па гасцінцы.
— Не бяжы на вуліцу, сынку, голым!..
Грошай — ні капейкі на гасцінцы...

Едуць з Мінска ў Шацак,
Шмат крамніны, цацак,
Корту і паркалю, хустак, шаляў скрынкі...
Вечарэе. Хутка зоры загарацца.
Едуць балаголы безупынку.

Зашумела голле...
Едуць уздоўж поля. Зашумелі дрэвы лістам.
Тупаюць коні. Вечар... Прахалода...
— Гэтаю дарогай,— кажа маці,— прыстаў
Гнаў у горад бацьку за падводай.

Грукаюць колы —
Едуць балаголы.
Едуць па выбоістым гасцінцы.
Бачу, як пабеглі дзве слязіны долу,
Бачу дзве слязіны ў маці на хусцінцы.

*1960*

## ЛЯСНОЕ ВОЗЕРА

Іду, мне хочацца прайсціся пехатою,
На возера лясное наглядзецца,
Дзе кветкі з чалавечай дабратою
Глядзяць, кранаючы ўстрывожанае сэрца.

Не быў ад самага маленства тут ніколі,
Дзіцячы след аддаўна растаптаны,
Дарогай жытняю, паўзлескамі і полем
Спяшаюся да казачнай паляны.

Іскрыцца возера і хвалямі паволі
Штурхае бераг з аерам зялёным.
Разбегся верас па старым шыголлі,
А сосны сонцу аддаюць паклоны.

Гаворку дрэў і хваляў, спеў птушыны
І голас траў, вятры мае, не гасце,
Бо нават кусцік, шэпчучы навіны,
Аж захлінаецца ад радасці і шчасця.

Іду, мне хочацца прайсціся пехатою,
На возера лясное наглядзецца,
Дзе кветкі з чалавечай дабратою
Глядзяць, кранаючы ўстрывожанае сэрца.

*1960*

## Я НЕ БЫЎ НІКОЛІ ДАМАСЕДАМ...

Чую, сэрца мне трывожыць штосьці,
І трывога гэта, як пакута...
Я нікому ў свеце не зайздросціў,
Зайздрасць мне здавалася атрутай.
А цяпер падкралася ўжо старасць,
Не схаваю, не сатру, не змоўчу.
Нават смешна, стаў яе ахвярай,
І нутро мне точыць днём і ноччу.
Я зайздрошчу тым, што хутка ў космас
Паляцяць праз зорныя прасторы,
Я зайздрошчу тым, што ўзялі компас
І ідуць праз лес, балоты, горы,
Каб няведанае вывучыць і зведаць,
Каб прынесці скарб, што сніўся ў казках...
Я не быў ніколі дамаседам,
Я адчуў сваёй прыроды ласку.
Вось чаму трывожыўся я часам,
Паціраючы сівыя скроні,
Хочацца ісці з усімі разам —
Маладых, вядома, не абгоніш.
Я з пачуццем бацькаўскім зайздрошчу
Тым, што толькі ў сілу сваю вераць.
Не іду я вобмацкам, навошчуп —
Крочу з маладымі я наперад.

*1960*

## БРЭСТ — ПАГРАНІЧНЫ МІРНЫ ГОРАД

Брэст вее бытам пагранічным
І мае шмат адметных рыс,
Тут часам чуеш голас зычны,
Пытае ў спешцы інтурыст:
«Дзе ёсць гатэль?
Дзе крэпасць Брэсцкі?
Ён гераічна ваяваў».
Наўкол даведкі і абвесткі
Нібы хто шчодра засяваў.

Ёсць на англійскай, і на польскай,
І на французскай мове ёсць.
Глядзі, хадзі, любуйся толькі
І адчувай сябе як госць!
Калі ты ўбачыш новы горад,
Дык радасць азарае твар,
Ты, можа, сам адведаў гора,
Нашэсце бачыў і пажар...
Ты рад, што першымі ў Еўропе
Змаглі зямлю мы адрадзіць,
Дзе друз гарэлы быў і попел,
Дзе вецер з посвістам блудзіў.
Замежны госць, глядзі, дзівіся,
Як Брэст узняў высока герб,
Дзе знітаваліся, зліліся
У вечнай дружбе молат, серп.

*1960*

## КАЛЯ РУІН ЦЫТАДЭЛІ

Крышылі кулі мур,
Снарады камень рвалі,
Жах сэрцы не скаваў —
Яны мацней ад сталі.
Жалезны лёскат плыў,
Зямля ў агні кіпела.
Паддаўся крэмень — мур,
Не здрыганула цела.

*1960*

## КАЛЯ ПОМНІКА НЕВЯДОМАМУ САЛДАТУ

Дамоў не прычакалі маці і сястрыца...
На п'едэстале стаў, трымае аўтамат.
Вось кропелька дажджу на шынялі іскрыцца.
Радзіма плача па табе, салдат!

*1960*

## НА БРАЦКАЙ МАГІЛЕ

Зялёны лісцік не сарвала восень,
Ён вытрымаў навалу ўсіх вятроў...
І на шыпшынніку (не, гэта не здалося)
Жывая сочыцца і чырванее кроў.

*1960*

## «ПАМРОМ, А НЕ ЗДАДЗІМСЯ!»

Няспынны залп гармат узняў зямлю гарою...
Хіба ж герояў шквал смяротны пахісне?
«Памром, а не здадзімся!» — раненай рукою
Выразны надпіс зроблен на сцяне...
Ні полымем-агнём, ні кулямі яго не сцерці.
Нянавісць к ворагу мацней ад смерці.

*1960*

## РАЗВЕДЧЫКІ

Здубянеў шынель салдата,
Шапку мокры снег укрыў.
Дзень у дзень акоп быў хатай,
Дзень у дзень мароз, вятры.

Дзень у дзень свісталі кулі,
Грукаў грозна мінамёт,
Смерць спраўляла побач гулі,
Мерзла цела навылёт.

Там, дзе дрот уплёў калючы
Поле ў некалькі радоў,
За ракою па-над кручай
Прытуліўся родны дом.

У сяброў такое ж гора,
У сяброў не лепшы лёс...
Паказаў салдат узгорак:
— Тут я жыў і тут узрос.

Тут знаёмыя мне сцежкі,
Кожны камень, куст, і яр,
І крыніцы, і узмежкі,
І вунь той лясны гушчар.

— Што ж, ідзі тады ў разведку! —
Адазваўся камандзір,
Карту выняў ён з планшэта,
Пальцам зяблым павадзіў.

— Гэты лес мяне цікавіць.
Трое вас. Ды шлях адзін...
Вас чакаем неўзабаве...
Раніцою ў шэсць гадзін.

Аўтамат салдат агледзеў,
Дзе дзьмухнуў, а дзе працёр.
Прыгадаў усіх суседзяў,
Брата, маці і сясцёр.

«Мо жывыя? Мо чакаюць?
Мо пабачу іх цяпер?
Добра ведаю і знаю,
Там блукае вораг-звер».

А мяцеліца гуляла,
Гурбы снежныя раслі.
Праз халодныя завалы
Тры салдаты папаўзлі.

Холад. Цемень. Ноч як сажа,
Лес шуміць, трашчыць, гудзе.
Хто падкажа, хто пакажа,
Хто наперад павядзе?

Толькі сэрца. Толькі прага
Чэсна выканаць загад.
Толькі мужнасць і адвага,—
Гэта ведае салдат.

Вось узгорак. Вышай, вышай...
Далей рэчка, выган, плот.
На шнурку за кожным лыжы
Труцца, брынкаюць аб лёд.

Смела, спрытна, ціха, ўпотай
Праз хмызняк і па трысці
Бліндажы, акопы, дзоты
Трэба ўмела абысці.

Вось звярнула ў бор дарога,
Побач вёска, родны кут.
І надзея і трывога
Сябравалі побач тут.

Хаты чорныя стаялі.
Ні гаворкі, ні агню.
Пеўні песень не спявалі
Надыходзячаму дню.

І пабачылі салдаты
Танк, што ўкрыўся, нібы крот.
І амаль ля кожнай хаты
Агароджаў ржавы дрот.

Шпарка мчаліся на лыжах
Праз хмызняк у цёмны бор.
Бліжай, бліжай, усё бліжай
Востраў з назвай Касагор.

Бо салдата сэрца знала —
І яно не падвяло,
Там хавалася ў завалах
Партызанскае сяло.

— Стой! — пачулася з-за хвоі.—
Хто ідзе? Далей не смець!.. —
Хлопцы з выглядам герояў
Выйшлі лыжнікаў сустрэць...

Людзі воч з салдат не зводзяць:
— Нашы, родныя, у нас!
— Не шуміце, браткі, годзе!
Нам ужо вяртацца час.

Мы ў разведцы! Зразумелі?
Фронт не блізка, колькі вёрст.
І цяпер, пакуль мяцеліць,
Мы пакінем ваш фарпост,—

Так сказаў салдат-разведчык,
Папраўляючы каўнер.
Абхапіў яго за плечы
Рослы хлопчык, піянер.

— Гэта ж я, твой брат, ці бачыш?! —
І разведчыка абняў.
Ледзь ад радасці не плачуць
Сваякі наўкол, радня.

— Ад цябе я не адстану! —
Кажа брату меншы брат.
Смела ён у вочы глянуў,
Вынес новы аўтамат.

І вярталіся з разведкі
Не ўтраіх, а ўчатырох.
Шамацеў асіннік рэдкі,
Храбусцеў пад снегам мох.

Спрытна, смела, неўзабаве
Роўна ў тэрмін, што далі,
На сваёй былі заставе,
У сваіх яны былі.

І папоўніўся салдатам
Франтавы пяхотны полк.
І было ў акопах свята,
Добрых вестак шум не моўк.

*1960*

## ЛІТОЎСКАМУ НАРОДУ

Разам нашы рэкі крушаць лёд вясною,
Разам прылятаюць птушкі ў Гродна і Клайпеду,
Разам на мяжы сасна з сасною
Размаўляюць, як сусед з суседам.

Разам наш народ пранёс ярмо пакуты,
Разам спалучылі нас стагоддзі,
Разам разрывалі кайданы і путы,
Разам жыць адвечна ў прыязі і згодзе.

Разам жаўрукі у нас вясною звоняць,
І вяснянка-песня разам льецца.
Сціснуты ў сяброўскім поціску далоні,
Разам б'юцца ў дружбе нашы сэрцы.

*1960*

## КВЕТКАМІ САДЫ АСЫПАЎ МАЙ...

Кветкамі сады асыпаў май
І напоўніў іх пчаліным гулам.
Закукуй, зязюля, на ўвесь гай,
Каб зямля вясну сваю адчула.

Раскрывае насцеж вокны дом,
Дрэвы выбеглі ад радасці, здаецца,
І сабраліся на ўзгорачку кругом,
Каб на сонцы раніцай пагрэцца.

У нізіне бліснула рака
Буйнаю срабрыстаю лускою,
І качыным крыкам асака
Не дае вярбе старой спакою.

Разразае хмызнякі і лес
Стужкай тонкаю далёкая дарога,
Падымае наквець сонны бэз,
Каб сказаць, што кветак будзе многа.

Калі кветам поўняцца сады,
Калі поўняцца пчаліным гулам,
Словы ў песню просяцца тады,
Каб зямля шчаслівая іх чула.

*1960*

## ТЫ ЗА НАС УСІХ ЛЯЦЕЎ ДА ЗОР...

*Юрыю Гагарыну*

Не васковыя ікараўскія крылы
Змайстраваў вялікі наш народ —
Гэтакай ніхто не ведаў сілы,
Што табе далі ў далёкі шлях узлёт.

Верылі, чакалі, што шчаслівым
Будзе той зварот з касмічнай вышыні,
І ляцелі сэрцы ўдаль імкліва,
Хоць хвіліны нам былі даўжэй за дні.

Радасці сляза паліла сэрцы,
І любоў к табе расла вышэй высокіх гор,
Сіла розуму была ў вышынях на паверцы,
Ты за нас усіх ляцеў да зор.

І за час чакання і трывогі,
Калі ты за марамі ляцеў услед,
Бліскавічны ўзлёт да перамогі
Скалыхнуў, узрушыў цэлы свет.

Не васковыя ікараўскія крылы
Даў табе вялікі наш народ —
Гэтакай ніхто не ведаў сілы,
Што дала табе ў Сусвет узлёт.

*12 красавіка 1961 г.*

* * *

Не варажыў на кветках, не гадаў,
Не рваў на лузе белыя рамонкі,
Калі гнялі мяне ці смутак, ці бяда,
Ляцела песня праўдзе наўздагонкі.

Не падпявалі, кпілі салаўі,
А ў горах рэха смешна рагатала,
Ніхто не знаў, што песняй боль гаіў,
Што мне прастору ў свеце не ставала.

Без сполаху глядзеў заўжды усім у твар,
Не кланяўся я тым, хто меч узносіў сцята,
Хацелася згарнуць пасцілку шэрых хмар,
Калі было святла на свеце малавата.

*1960*

## МЫ НЕ ПОЙДЗЕМ СЛАВЫ ПАЗЫЧАЦЬ...

Не, мы не пойдзем славы пазычаць,
Па прыгажосць не пойдзем на чужыну.
У нашых адбіваецца вачах
Праменны дзень, якім жыве краіна.

Маланкаю ляцяць ракеты у Сусвет,
Знаходзім, што было ў прыродзе пад замкамі,
Здзяйсняецца, квітнее і жыве,
Што марай недасяжнаю было вякамі.

*1960*

## МАЛЕНСТВА ПЛЫЛО ШМАТГАЛОСАЕ...

*Сцяпану Ліхадзіеўскаму*

Побач
Будучыня і старасветчына —
Лук з жалабком ракетным
Зашчэмлены ў штыкеты.
Хлопчыкі з выглядам сталым,
Дасведчаным
Шпурляюць пад неба
Самаробныя ракеты.

І ляцяць аж са свістам
«Удалыя» і «няўдалыя» —
Пасланцы да нязнаных
Далёкіх зорак.

Падаюць поблізу
Нетрывалыя,
А цудоўныя і выдатныя —
У хмызнякі за ўзгорак.

Лук да апошняга,
На ўсю сілу нацяты.
Прыйдзе разгадка
І чаканая ўдача.
А канструктар,
Завэдзганы і мурзаты,
Пальчык скалечыў
І, схіліўшыся, плача.

І сабралася ля яго
Уся ваколіца,
Нават бінт прынеслі
І зрабілі павязку.
Пацяшаюць: — Загоіцца!
Зажыве! Загоіцца!..—
І забыліся касманаўты
Пра свае абавязкі.

І натоўпам
Гарэзліва-ўзнёслым
Пабеглі на бераг,
Дзе здружыліся лодкі,
Падняліся узмашыста
Вострыя вёслы,
І пачуліся жвавыя,
Частыя ўсплёскі.

Паплылі касманаўты
І назвалі сябе маракамі,
Паплылі хлапчукі
Капітанамі і матросамі,
І над рэчкаю пырскі
Закружыліся ветракамі,
І наперад маленства
Паплыло шматгалосае.

*1961*

## КАСМІЧНЫМ АРЛАМ

Чарада арлоў касмічнага бяздоння,
Гляньце, свет вам пляскае ў далоні.

Гарады, і сёлы, і сталіцы,
Ўсё жывое вамі ганарыцца.

Даў народ вам казачныя крылы,
Даў любоў для невычэрпнай сілы.

Расчыніла будучыня дзверы,
Трыумфуе шчасце новай эры.

*1962*

## ГОЛАС ДВУХ БРАТОЎ

Чуваць, як б'е прыбой і залівае дзюны,
І сосны векапомныя шумяць на ўскраі.
Тут Райніс жыў і сэрцам вечна юным
Сагрэў і асвяціў прасторы свайго краю.

І гэтае святло не ведала граніцы,
Прайшло муры, заслоны і заставы.
Яно ляцела ў свет маланкай-бліскавіцай,
Вяло народ да подзвігаў і славы.

Сваю любоў да блізкай Беларусі
Прынёс у Мінск паэт. Яго вітаў Купала.
У лад адзін зліваліся іх гуслі,
Іх песня дружбу вечную кавала.

Чуваць, як б'е прыбой і залівае дзюны,
Як хвалі шумна рвуцца на прычалы.
На гэтых берагах гучаць няспынна струны
Двух песняроў народных — Райніса, Купалы.

*1962*

## РАЙНІСАВЫ СОСНЫ

Сотня вятроў расшумелася хорам,
Рокатам страшным хлынула мора.
У наступе грозным пеняцца хвалі,
Чорнай заслонай завешаны далі.
Туляцца сосны адна да другое,
Туляцца гуртам з нямым неспакоем.
Сто навальніц наляцела імклівых,
Вецці спляліся ў абдымках маўклівых.
Меч-бліскавіца кранае іх гучна.
Сосны спляліся, стаяць неразлучна...
Сто перуноў іх не зломяць, не скрышаць,
Мора скарылася, стомлена дыша.
І распаўзацца прыходзіцца хмарам —
Бліснула сонца на ўсходзе пажарам.
Сонца ўсміхнулася, з шчодрае жмені
Сыпле, як зерні, шчасця праменні.

*1962*

## ЛЯ МАГІЛЫ РАЙНІСА

Няма тут надмагільнай цішыні,
Жыццё прагнала ноч, рассыпала праменні,
І нават шэры цень схаваўся, знік...
Гамоняць дрэвы, шэпчуцца камені.
Юнак прачнуўся. Далеч ажывіў
Парывам смелым, подыхам глыбокім.
Пульсуе сіла у яго крыві,
І ззяе сонцам позірк яснавокі.
Жыве народ, і Латвія жыве.
Краіна мужна распраўляе плечы.
Вей, свежы вецер, над зямлёю вей,
Нясі вялікі голас чалавечы.

*1962*

## РАЗВІТАННЕ

> Пакідаючы ў 1941 годзе апошнія кіламетры беларускай зямлі, Янка Купала адышоў на грудок каля дарогі, павярнуўся на захад і доўга глядзеў на палаючую ў агні радзіму. Вусны паэта шапталі словы, поўныя любві да свайго народа і нянавісці да ворага.
>
> *З біяграфіі паэта*

Дзе скрыжаванне выбітых дарог
Людскі паток паволі прапускала,
Знямогу, боль і роспач перамог,
На груд падняўся стомлены Купала.

На захад глянуў. Падаў за раку
Чырвоны сонца дыск, чужынцам расстраляны.
Сляза гарачая упала на шчаку,
І свежыя адчуў паэт на сэрцы раны.

Ён павярнуўся і пайшоў на ўсход,
Панёс з сабою смутак і надзею.
Ён верыў: скрышыць кайданы народ,
Панішчыць вылюдкаў і ліхадзеяў.

Зямля пачула слова песняра,
Яно вяло, на подзвігі ўзнімала.
З сядзібы кожнай, з кожнага двара
Ішлі на фронт,— і з імі быў Купала.

*1962*

## У ЛЯЎКАХ

Дзе сосны — дзён яшчэ нядаўніх сведкі,
Акопы... Дрот калючы... Сплюшчаная каска...
Беразнячок на ўзгорышчы сабраўся рэдкі,
Паслухаць хоча спеў вясёлага падпаска.

Дняпро няспынна гоніць ўздыбленыя хвалі,
Спяшаецца на поўдзень, неўгамонны.
Стрыжы імклівыя уводдалі расталі,
Іх праглынуў блакіт празрысты і бяздонны.

Дзе сосны — дзён яшчэ нядаўніх сведкі?
Вайна сталетнюю сям'ю зламала і скрышыла.
Але ўжо цягнуцца зялёныя падлеткі,
Сасновы маладняк узняўся з новай сілай.

Да тых мясцін, дзе жыў калісь Купала,
Не зарастуць травою дзікай сцежкі.
Любоў народная прыйшла і адшукала
Яры паэтавы, пагоркі і узмежкі.

Дзе сосны — дзён яшчэ нядаўніх сведкі,
Жыве і не сціхае ў песні пошум шматгалосы.
З былою пекнатой растуць наўкола кветкі,
І раніцай гараць, іскрацца росы.

*1962*

## КАЛЯ ФАНТАНА «ХЛОПЧЫК НА ДЭЛЬФІНЕ»

Скача хлопчык на дэльфіне
З вадзяным бічом.
Хвацкі звер на дно не скіне
Смелае хлапчо.

Пырскі веерам агністым
Падаюць на твар,
А на шыі звіс маністай
Кропелек янтар.

Дык імчы, дэльфін, імкніся
Між кіпучых хваль!
Гэй, ляці, маленства, рвіся
У люстраную даль.

*1962*

## ЧАЙКА

Ты з якога мора
Прыляцела, чайка?
Мо з паўдзённых хваль,
Можа, з цёмнай поўначы?
І чаго шукаеш
У люстранай водмелі,
Неспакойна кружачы
І трывожна стогнучы?
Можа, ты забылася,
Дзе жыла, радзілася?
Мо гняздо згубіла ты
Між густой травы?
Ты, мая далёкая,
Што ж ты разгубілася,
Змоўкла і на поплаў
Паляцела зноўку?..

*1962*

## ПАЛЯШАНАЧКУ СУСТРЭЎ...

Там, дзе засень над ракою гнуткіх дрэў,
Паляшаначку чарнявую сустрэў.
Вылівала з чоўна светлую ваду,
Да яе нясмела, ціха я іду.

Апусціла белы карац на зямлю,
Я іскрынкі у вачах яе лаўлю,
— Як даплыць туды, дзяўчыначка, скажы,
На той бераг, дзе бярозка на мяжы?

Дзіўна бровы тонкія згінаюцца ў дугу:
— З баязлівымі я плаваць не магу,
Пачакай, калі раку скуе мароз,
Непатрэбен будзе, хлопча, перавоз.

Там, дзе засень над ракою гнуткіх дрэў,
Паляшаначку чарнявую сустрэў.

*1962*

## КАЛІ ПЕСНЮ ТВАЮ ПАЧУЮЦЬ...

*Рыгору Рамавічу Шырме*

Загарыцца расінка колерам ранняй вясны,
Кветка-папараць зацвіце ў анямелым лесе.
У калысцы прысняцца малому чароўныя сны,
Беласнежная яблыня шаты развесіць,
Калі песню тваю пачуюць...
Салавейка прыціхне, спыняць бег ручаіны,
І жаўрук страпянецца над жытамі пад сонцам,
І замоўкне над краскамі голас срэбны пчаліны,
Скалыхнецца суніца ў нахіленай гронцы,
Калі песню тваю пачуюць...

*1962*

## ЖЫВАТВОРНАЯ КРЫНІЦА

Б'е крыніца каля рэчкі Вершупітэ,
Распасцерлі сосны рукі-кроны,
Воддаль мора злосна і сярдзіта
Гоніць хвалі з рокатам шалёным.

Тут легенду кожны кут раскажа,
Казкі шэпча кожны куст шыпшыны...
Ноч была цямнейшая, чым сажа,
Вылі зверам морскія пучыны.

Мачты навальніца раскрышыла,
Абарвала ветразі навала,
І з шалёнай, адзічэлай сілай
Карабель яна на скалы гнала.

Затанулі смелыя матросы.
Карабель на трэскі быў разбіты,
Вецер рагатаў, няспынны, шматгалосы,
Аж да раніцы шугаў сярдзіты.

Толькі аднаму матросу удалося
Даплысці да вусця Вершупітэ,
Паў ён на карэнні стромкіх сосен
І ляжаў, знямогаю разбіты.

На бязлюдным беразе радзімы
Ён, самотны, спадзяваўся смерці.
Дзесь на дне матросы-пабрацімы,
Прыйдзецца яму на беразе памерці.

У гарачцы страшнай, прадсмяротнай,
Ён убачыў, падае крыніца,
Безнадзейны, хворы і гаротны,
Прагна поўз з яе вады напіцца.

Калі ён глынуў вады крынічнай,
Калі ён апырскаў ёю раны,
Калі ён абмыў сваё аблічча,
Дык адчуў, што будзе ўратаваны.

З тых часоў да светлае крыніцы
Многа сцежак і прамых дарожак.
Той, хто змог вады з яе напіцца,
Знаў, жывучая заўжды паможа.

Той вады крынічнай і гаючай
Райніс юнаком у Латвіі адведаў,
Ды таму за песняй неўміручай
Нашчадкі ідуць шырокім следам.

*1962*

## СКАРЫНА Ў ПРАЗЕ

Скарына расціраў камяк зямлі
У шурпатых пальцах,
Карэнне зелля разглядаў,
Што, нібы ніткі, звіты.
Хоць лекавых раслін аддаўна
Быў вядомым знаўцам,
Расліну ж распазнаць не мог
Вучоны самавіты.

Нарэшце асвятліла твар
Уміг здагадка.
Нібы пасля цямна
Убачыў ён заранкі.

Батанік на калена стаў
Ля самай градкі:
— Ды гэта ж з тых раслін,
Што ў нас растуць ля Абалянкі!..

Радзіма,
я пакінуў сам твае лясы,
Палі, і гарады, і сёлы,
Пайшоў у свет шукаць я для цябе
Святло навукі...
У Празе прыязнай не знаю
Адзіноты невясёлай.
А сэрца неспакойна ўсё ж, бывае,
Б'ецца ад нязнанай мукі.

Хай не крыўдуюць чэхі
(Кожнага лічу з іх братам),
Што па радзіме тут, бывае,
Іншы раз сумую.
Я ж травы гэтыя і дрэвы —
Сад багаты! —
Для нашай еднасці і прыязі
Душой гадую.

І тут, каля крыніцы, што бруіцца
З-пад заімшэлай камяністай кручы
І вільгаццю няспынна поіць
І дубы, і травы,
Я зелле-кветкі вырасціў,
Што маюць сок гаючы
Для нашых ран,
І лаўры пасадзіў
Для вашай і для нашай славы.

*1962*

* * *

Не кахаў цябе, а сніцца
Голас твой і твае вочы,
Не магу ніяк забыцца
Пра цябе ні днём, ні ўночы.

Не кахаў цябе аддаўна,
Сам сабе кажу, упэўнен,
Што такой харошай, слаўнай
Больш нідзе я не сустрэну.

Не кахаў цябе, вядома...
Што было, таго не будзе.
Ля твайго ж блукаю дома,
І глядзяць здзіўлёна людзі.

*1962*

## ДЛЯ ЦЯБЕ ЗБЯРОГ...

Вось і вуліца знаёмая, знаёмая даўно.
Нехта яблыньку старую зрэзаў у двары,
Хтось завесіў штораю цёмнаю акно,
Каб не чуць гамонку звонкай дзетвары.

Той жа самы сунецца, гоніцца трамвай,
Тыя ж сама колы сцішана грымяць...
Тут мы расставаліся, тут сказаў «бывай»,
Тут нясмела вымавіў я тваё імя.

Пройдзена, пратоптана шмат крутых дарог,
У халоднай памяці многа думак, сноў.
Для цябе чароўнае слова я збярог,
Каб на гэтай вуліцы нам сустрэцца зноў.

*1962*

## ТУТ БЫЛІ МЫ ХЛАПЧУКАМІ

Тут, бывала, хлапчукамі
Беглі поймай напралом,
Тут мурзатымі рукамі
Мы з пяску ляпілі дом,
Па вадзе шпурлялі камень
І ныралі пад паром.

Час ішоў, і мы сталелі.
Незабыўнаю вясной
Пагайдацца на арэлях
Мы сабраліся ізноў.
Тая светлая надзея
Стала даўнім дзіўным сном.

І аднойчы цёплым летам
Нехта песню збіў дзяўчат,
Нібы грымнуў гром над светам,
Скалыхнуў зацішак хат:
— Гэй, сябры, хутчэй адгэтуль!
Гэй, хлапцы, ў ваенкамат!..

Покліч той стрывожыў сэрцы,
Сціснуў грудзі моцны боль.
Кожны ведаў — вораг прэцца,
Што няроўным будзе бой,
Кроў юнацкая пральецца
За наш мір, за наш спакой.

Сціхла страшная навала,
Праляцеў за годам год,
Засталося блізкіх мала,
Многіх зрэзаў кулямёт,
Хлопцаў танкамі стаптала,
Зрашаціў асколкаў шрот.

Тут былі мы хлапчукамі...
З воч скацілася сляза.
Дзед стары развёў рукамі,
Слова горкае сказаў.
Над траншэяй з раўчукамі
Ў смутку гнулася лаза.

На руінах-папялішчах
Дзень сустрэлі перамог.
На гулянку, на ігрышча
Зноў прыйшлі сюды, хто мог,
Пад гармонік хлопец свішча
І тупочуць сотні ног.

*1963*

## СПІ, ДРУЖА!..

*Памяці Андрэя Александровіча*

Тvae сябры схілілі над магілай
Маўкліва, ціха сумныя галовы.
Спі, дружа! Смерць няўмольная скасіла,
Забрала ў вечныя цяжкія сховы.

Ды толькі голас малады, задорны
Яна забраць і пахаваць не можа.
Паэта слова — смерці непакорна,
Яго не спыніць вецер непагожы.

*9 студзеня 1963 г.*

## ЗВОНЯЦЬ БОМЫ...

Тараса пагнаў з сабой пан
З роднае краіны...

*Янка Купала*

Звоняць бомы, звоняць бомы,
Гразь шпурляюць спіцы.
Па гасцінцы невядомым
Едзе пан, імчыцца.

Звоняць бомы, звоняць бомы,
Нікне ў небе месяц.
Едзе, едзе пан дадому,
Коні ржуць у лесе.

Звоняць бомы, звоняць бомы.
Цемень. Дождж імжыцца.
У карэце, як і дома,
Пану добра спіцца.

А на козлах, на падножках
Знатнае карэты
Хлопца-служку вецер хвошча,
Едзе ледзь адзеты.

Па дарозе, па гасцінцы
Гразь у каляінах.
Вочы сплюшчыць — хлопцу сніцца
Маці Украіна.

Па дарозе, па адхонах
Цемень, глуш лясная.
Сняцца сёстры пад прыгонам.
Дзе яны? Не знае...

Пад сярмяжнай мокрай світай
Гнеўна б'ецца сэрца,
Расквітацца з панскай світай
Прагне, не дажджэцца...

Звоняць бомы, бомы звоняць,
Лесам прэ карэта.
Думкі-мары у пагоню
Паляцелі светам.

Дзе ты, воля? Дзе свабода?..
Дзе народ раскуты?
Год ад году, год за годам
Роспач і пакуты.

Надрываюцца пастронкі,
Гразь шпурляюць спіцы.
Звоняць бомы звонам звонкім.
Воля хлопцу сніцца.

*1964*

## ЛОМІЦЬ ПАДЛЕТАК БЭЗ...

Ломіць падлетак бэз,
Падаюць долу белыя кветы.
Чуе, паскрыпвае пратэз
На сцяжынцы, сонцам нагрэтай.

І слова вострае, як нож,
Выкрыкнуў з болем калека:
— Хлопча, што робіш? Нашто ж? —
Горыч збудзілася ў чалавека.

Падлетак глянуў, пачырванеў:
— Я ж, дзядзечка, нямнога...—
Хусцінка мігнула ў акне,
Дзяўчына глядзіць на бязногага.

Хлопчык у гушчу пужліва залез.
Моўчкі пайшоў нязнаны.
Падае белы на ўзмежак бэз,
Спрытнай рукой зламаны.

Доўга тужліва скрыпеў пратэз.
Постаць салдата зелень схавала.
Выскрыпваў пратэз вайне пратэст,
Той, што жыццё надламала.

*1964*

## ГОНІЦЬ ЦВІК У СЦЯНУ ДАБРАДЗЕЙ...

Чую раніцай ціхі стук,
Нібы дзяцел у ствол — цюк, цюк...
Пэўна, гоніць іржавы цвік
Мой сусед у стары чаравік.

Дзе там! З рынку прынёс дыван —
Белых лебедзяў караван.
І ўбівае не ў чаравік,
А ў сцяну непадатлівы цвік.

І павесіць красу дыван,
Белых лебедзяў караван
На лазурку між траў і гор,
Як мастацтва высокі ўзор.

І настойліва дабрадзей
Пра мастацтва спытае ў людзей.
Ах вы, рыначныя дываны!
Плача з крыўдаю бель сцяны.

*1964*

## ЧАКАЎ ШЧАСЛІВАЕ ПАРЫ...

Падымаўся, каб дастаць да падаконніка
І на шыбе папараць крануць.
Набліжаўся ранак, я ж да сонейка
Не зазнаў спакою і ні сну.

Папараць жадаў сарваць. Нягодніца,
Для мяне яна ніколі не цвіла.
Дык навошта з дзіўнай цырымоніцца?..
Выцер пот з халоднага чала

І падумаў: пэўна, серабрыстую
Сеялі халодныя вятры...
Я ж дарэмна дзве далоні выставіў
І чакаў шчаслівае пары.

*1965*

## ХТО ЦЯБЕ, ЗІМА, ЗАВЕ?..

Павуцінка маршчакоў лягла на твар.
Гэта ж восень крочыць на задворкі,
І зіма з-за цёмных снежных хмар
На праменні юных светлых мар,
Нібы ведзьма, глянула з-за шторкі.
Ажно смешна. Хто цябе заве?..
У мяне спатканне з маладосцю.
Не баюся я тваіх завей,
Ты спраўляй з другімі злосны рэй
І ў нябыт знікай з адвечнай злосцю.
Не заходзь, зіма, у мой шырокі двор,
Тут для холаду зусім не знойдзеш весніц,
Але для вясны і радасці прастор,
Слова тут звініць, як майскі бор,
І яго не выкінеш ты з песні.

*1965*



У пералесках буйная расла трава,
І засцілала папараць яры і долы.
Я марыў кветку цудадзейную сарваць,
Каб жыць шчаслівым, радасным, вясёлым.
Ды танкі пакрышылі дрэвы і кусты
І папараць ушчэнт змясілі і стапталі.
На полі адзічэлым, голым і пустым
Вароны звар'яцелыя крычалі.
На ўзгорку безыменныя ляглі рады магіл.
Слязіўся дождж над свежымі пяскамі.
І вырас над старым акопам дзівасіл,
Які не рос ніколі тут вякамі.
Я жменьку лісцікаў яго сабраў.
О, жыватворная трава, збудзі у жылах сілы,
Каб мог я засланіць навалам і вятрам
Дарогу на Радзіму, край мой мілы.
Каб змог я на магілах пасадзіць
Жывыя ружы, што агнём палаюць,
Каб змог навечна памяць абудзіць
Па тых, каго ніколі не спаткаю.
Каб вечнымі былі нянавісць, мужны гнеў
Да катаў, прайдзісветаў, вылюдкаў, забойцаў,
Каб зрок ніколі ясны не мутнеў
І над зямлёй свяціла ярка сонца.

*1965*

## ЛЯСНІК І СМЕРЦЬ

### З НАРОДНАГА

Пайшоў стары ляснік у лес,
А Смерць за ім услед...
Адтуль валок наперавес
Галля вязанку дзед.

Ён на прагаліне глухой,
Стаміўшыся, прысеў,
А Смерць з бліскучаю касой
Яму руку трасе:

— Пара, саколік, на той свет!
Сваё ты адхадзіў!
І адказаў спакойна дзед:
— Дай крыху пасядзім!

Як толькі люльку пакуру...
Уваж на пяць хвілін...
Чаму ў халодную пару?
Мо свет сышоўся ў клін?

Сцвярдзела, змерзлася зямля,
Што ломам не ўдзяўбеш.
Сядай, красуня, ля камля.
Ну, хто паслаў цябе?

Няма каму зрабіць труну
І выкапаць мне дол.—
Ляснік глыбока уздыхнуў
І глянуў навакол.

— Лепш насячы,— ён кажа,— дроў.
Я ўнукам занясу.
Ты ж аб маю благую кроў
Завэдзгаеш касу.

Дзед усміхнуўся, падмігнуў:
— Паддай мне на плячо! —
Пятлю вяроўкай зацягнуў,
Пайшоў, нібы хлапчо.

За ім ідзе бабуля Смерць,
Кассё ўзяла ямчэй,
Ухваціць сук, касою верць —
І дробна пасячэ.

Дзед усміхаецца старой,
Нібы які юнак.
Зусім знясілеў той парой
Ад працы, небарак.

Але ж змарыў ушчэнт і Смерць,
Што рукі не падняць.
І папялася, як мядзведзь,
Пад вываратень спаць.

І сніцца ён той зух ляснік
У засені дубоў.
Старое сэрца у агні,
Яго пячэ любоў.

*1965*

* * *

Куст каліны ўвіты хмелем-плюшчамі,
Што ж зрадніла вас і што злучыла?
Вочы любая мая заплюшчыла,
Уздрыгнула, нібы што сасніла.

Ты ўвесь час была прытворшчыцай.
Ты ж не дрэмлеш пад зялёным ясенем?..
Прымушаеш уздыхнуць і моршчыцца,
Хочаш, каб нудзіўся ў гэтай засені.

Я ж пайду шырокай каляінаю,
Што па лузе лукаткамі сцелецца...
Хмель абвіўся з белаю калінаю,
І пялёсткі сыплюцца мяцеліцай.

*1966*

* * *

Увесь дзень свяцілася для людзей,
Грэла ласкай цёплаю родны край,
А пасля схавалася у вадзе.
Ну, бывай, харошае, ну, бывай.

Я прыйду на досвітку зноў сюды,
Пракладу на беразе першы след.
Лебедзем на ўсходзе вынырнеш з вады,
Зноў святлом узрадуеш цэлы свет.

Крыкну сваймy сонейку: — Добры дзень!
Прывітаю яснае, як заўжды.
Усміхнецца любы мой дабрадзей,
За гарой прачнуцца ветры і дажджы.

*1966*

## ЗА ГАРОЙ,
## ЗА НЕБАКРАЕМ

Я, напэўна, нецвярозы,
Майскім сонцам захмялеў.
Разбягаюцца бярозы,
Як пачулі звонкі спеў.

Вось ужо за мной дарога
І глыбокія сляды.
Я іду квяцістым логам
Немаведама куды.

За гарой, за небакраем
Ёсць чароўны белы сад.
Там мяне калісь кахала
Ненаглядная краса.

І ляжаць наўкол пялёсткі
Тых садоў, што адцвілі,
Спіць пад плотам вецер порсткі,
Што прыбіў іх да зямлі.

За гарой, за небакраем
Мора плешчацца ізноў.
Я не ведаю, не знаю,
Ад чаго ўскіпела кроў.

*1966*

* * *

Не хачу я сэрца іншага, чым маю,
Хоць яно дашчэнту пакалечана.
Можа, мокрым вераснем,
А мо ў квяцістым маі,
Можа, ясным днём, а можа, цёплым вечарам
Водпуск у нябыт навечна атрымаю.
Але ж тыя кветкі (называюць «сном» у нас)
Зноў з-пад снегу выб'юцца і на сонца глянуць,
Голас салаўіны пырсне усхвалёвана.
На засохлым веццi дурнап'яну
Страказа замрэ іскрынкаю прыкованай.
А цудоўным цёплым і квяцістым ранкам
Хлопцы і дзяўчаты пройдуцца паўмежкам,
Сэрцу майму любая песенька-вяснянка
Над маёй забытай узнясецца сцежкай.
І цягнік гукне за мілым мне паўстанкам.

*1966*

## ШЫНЕЛЬ

Прымяраў шынель чужы, не свой,
Марыў, каб хутчэй ісці ў салдаты.
Не па мне быў вымераны крой,
І крысо звісала аж на пяты.

Дзень за днём ляцелі у нябыт...
Калі хлынула вайны навала,
Гнаў ракою я за плытам плыт:
Там я быў, куды жыццё паслала.

Забіраўся ў нетры мёрзлае зямлі,
Нагружаў рудой платформы і вагоны.
«Усё для фронту» — ўдалечы гулі
Рэйкі гулам доўгім, неўгамонным.

Прымяраў шынель нядаўна я не свой:
Неяк сын-салдат забег дахаты.
Не па мне быў вымераны крой —
Мне шынель быў трохі цеснаваты.

Часам вестка устрывожыць кроў:
За мяжой вайну паны прарочаць.
Я шынель заўжды адзець гатоў —
Стаць за мір, якога людзі хочуць.

*1966*

## ДАРОГА

Спяшаемся праз лес густы,
Ідзём выбоістай дарогай.
У пацерках стаяць кусты:
На іх расы іскрыстай многа.
Усё маўчыць. У небе шнур
Накрэслен зніkшым самалётам.
— Таварыш родны, твар не хмур!
Тут сонца шмат. Навошта слота?..
А ён маўчыць. Іскрынкі слёз,
Гляджу, скаціліся на вейкі.
— Нашто ты сум сюды прынёс?..
Нашто рукой прыкрыў павекі?..
Ён прыгадаў былы расказ.
Стары расказ. Мне стала горка.
Закукавала ў гэты раз
Зязюля шэрая з пагорка.
Прачнуўся лес. Загаманіў,
Каб мы душу яго адчулі.
І сэрца, нібы у агні,
Здалося, рвецца з-пад кашулі.
— Сюдой,— ён кажа,— іх вялі.
Пасля, прывязаных да танкаў,
Праз лом, карэнні, па галлі
Цягнулі неспакойным ранкам.
— Таварыш родны, дай руку!
Людзей мільёны сіроцелі...
Зязюля, змоўкні, не кукуй,
Ты чуеш, боль нямы у целе...
Мы зноў ідзём праз лес густы
Выбоістай старой дарогай.
Яшчэ не высахлі кусты,
На іх, як слёз, расінак многа.

*1967*

* * *

Пабажуся сінім морам,
Паклянуся светлым небам,
Прыплыву сюды няскора,
Тут нічога мне не трэба.

Але шкода чайкі шэрай,
Што знікае у сінь-нябёсах,
Ды шкадую стромкі бераг
Ля глухіх нязнаных плёсаў.

Ды шкадую белы ветразь,
Што удалеч плаўна рвецца.
Абяцаў, здаецца, летась
Зноў з табою тут сустрэцца.

*1967*

* * *

Праз пахілыя вербы, чароты, кусты,
Тысячу бочак бразглівых, пустых
Гром-грукатун пракаціў.

Перад раптоўным шумлівым вылетам
Усё з іх дажджамі выліта,
Сцежкі сухой не знайсці.

Я ж па вільготнай прамоклай цішы
Да любай далёкай адзінай спяшыў
І спазніўся на безліч год.

У грудзях маіх частачка скрылася грому.
Ой, як далёка да мілага дому!..
Над ракою са мною сумуе чарот.

*1967*

* * *

Над Мінскай ратушай чырвоны ўзвіўся сцяг,
У неба яснае урэзаўся глыбока.
Жандар пераадзеты зубы моцна сцяў,
Завулак цёмны мераў зайчым крокам.

Маўчала цэрква і маўчаў касцёл,
Не зналі, за каго цяпер маліцца,
А людзі, нібы рой імклівых, шумных пчол,
Калонамі ішлі, чакалі, дзе спыніцца.

Нядаўна страшным быў шырокі моцны дом,
Дзе высіўся арол цыбаты, двухгаловы.
Натоўп спыніўся тут, і — нібы грымнуў гром,
Калі пачулі простыя і шчырыя прамовы.

Я ашчаперыўся за бацькава крысо
І па складах чытаў плакаты, транспаранты,
Не знаў, што ў гэты час гісторыі лязом
Зразаюцца навекі дзён былых гнілыя транты.

Не ведаў, што праз многа зім і лет
Мне будзе пакаленне новае зайздросціць,
Бо бачыў, як стары ўздрыгнуў, хіснуўся свет,
І эра новая прыйшла навечна ў госці.

Бо бачыў, як узвіўся першы сцяг,
Які пазваў народ узняцца за Саветы,
Як вечна сонцам ленінскім палае у вачах,
Ён вечна ў памяці усёй душой сагрэты.

*1967*

## Я СВЕТЛАЙ РАНІЦЫ ПАДАЎ РУКУ...

Я з першай перапёлкаю сустрэўся ў час зары,
Яна крычала у зялёным жыце:
— Замры, пужлівы драч, замры!
Звяжыце бегуна, звяжыце!

Яшчэ драмала сонца за гарой
І спалі, на рацэ згарнуўшыся, лілеі,
А цені ўжо цягнуліся за мной
Няроўныя, даўжэзныя, як шлеі.

Калі я лодку адпіхнуў вяслом,
Дык сонца страпянулася і глянула на плёсы,
І салаўіны хор за згорбленым сялом
Азваўся песняй ціхай, шматгалосай.

Кукуй, зязюля шэрая, кукуй,
Лічы не леты, а мае дарогі!
Я светлай раніцы падаў ужо руку
І свету расказаў пра боль мой і трывогі.

*1967*

## ЧАКАННЕ

Калі б вы ведалі, як дораг мне канверт,
Як дарага пісьмо, якога я чакаю.
Я за яго аддаў бы цэлы свет,
Усё, што толькі меў, усё, што толькі маю.

Але яго няма. Не прыйдзе паштальён.
Не скрыпнуць веснiцы, як калісь, нечакана.
Не біся, сэрца, у грудзях, як звон,
І боллю не шчымі, мая старая рана.

Па рэйках ляскае, грыміць цягнік,
Вось чую свіст уводдалі ягоны,
А тое шчасце, да якога я прывык,
Свае дарогі мае і законы.

*1967*

* * *

Я знайшоў зярняткі на дарозе,
Аднясу, хай прыме цёплая зямліца.
Калі быў я ў забыцці, знямозе,
Нехта ж пра мяне не мог забыцца.

Можа, слоў маіх жывучыя зярняты
Звіснуць коласам на пульхнай глебе...
Людзі паспрачаюцца заўзята
Аб патрэбным ім адвечным хлебе.

*1967*

## ДАКОР

Бывае, дробязных турбот мяне атуліць лёд
І не хапае звыклага цярпення,
Імкнуся вырвацца, бяскрылы, я ў палёт,
Так, як ракета ад зямнога прыцяжэння.

Мяне ўжо вабяць далячынь, прастор,
Якія ў сне часамі толькі сняцца,
Кідаю сам сабе ўсхвалёваны дакор,—
Чаму ж вышэй адважна не узняцца.

Пералятаю межы, сцежкі-рубяжы,
Якія лёс мой краяць ад калыскі,
І не збіраюся, не думаю кружыць,
Шукаю шлях да сонца самы блізкі.

Гляджу, як растае счарнелы лёд
І свет мяняецца ў адно імгненне,
І адрываюся ад дробязных турбот,
Нібы ракета ад зямнога прыцяжэння.

*1960*

## ДОМ ПЕРШАГА З'ЕЗДА РСДРП

Над Свіслаччу у засені драўляны дом,
Нікім ён не забыты год ад году.
Адгэтуль светач камунізма вырваўся агнём,
Каб асвяціць шляхі працоўнаму народу.

Нямала ураганаў, навальніц прайшло,
Навала за навалай бушавала,
Вяло яго вялікае святло,
Каб новы свет знайсці за цёмным перавалам.

Тут, маці-партыя, твой першы родны дом,
Адгэтуль ты свой поступ акрыліла.
Ты скалыхнула свет.
З «Аўроры» грозны гром
Над спененай Нявой раздаўся гучнай сілай.

І я, як кожны твой салдат і сын,
І я, як кожны сын твайго народа,
Прыходжу ў гэты дом мужнець, набрацца сіл,
Каб зноў з табой ісці наперад год ад году.

Не небаскроб, не велізарны гмах,
А просты дом над Свіслаччу-ракою
Навеяў тронам царскім жах і страх,
Для чорнае ганні стаў вечным непакоем.

Праз засень дрэў глядзіць на рэчку светлы дом,
А побач вуліца кіпіць няспынным валам.
Эпоха новая размашыстым пяром
Старонку першую тут смела напісала.

*1968*

## ЛЯЦІЦЕ, ПТАХІ...

Снег растае. Пад капяжом
Люстэркам ззяе лужына.
Зноў крышыць лёд, нібы нажом,
Вясна рукамі дужымі.

Над ярам хутка на вярбе
Галлё аблепяць коцікі,
Раўчук вадзіца праграбе
І з рокатам пакоціцца.

Падымуць крыгі плечукі,
Каб плыць за хваляй гонкаю,
Разбудзяць поле жаўрукі
Чаканай песняй звонкаю.

Калі адмерае цяпла
Вясна нам мерай шчыраю,
Пачуем голас з-за сяла,
Паўднёвы голас з выраю.

Ляціце, птахі, ў добры час,
Шчасліваю пуцінаю,
Мы любім вас, чакаем вас
Над роднаю краінаю.

*1968*

## НА КУРГАНЕ НЕЎМІРУЧАСЦІ АДАМА МІЦКЕВІЧА

Я жменьку чорнае зямлі
На твой курган прынёс,
Яна крывёй акроплена
Маіх бацькоў і продкаў.
Няхай расце курган
Да сонечных нябёс,
Няхай жыццё шуміць
Імкліваю паводкай.

А на зямліцы чорнай,
Роднай для мяне,
Узыдзе кветка простая
У дзень вясны ласкавы.
Няхай яе злы вецер
Не кране,
Яна — ў вянок бяссмерця,
Вечнай славы.

*1968*

## ШТО БЫЛО — НЕ ВЕРНЕЦЦА...

Капалі кропелькі ціха з капяжа...
Ты мне сэрца рэзала без нажа.
А здалася блізкаю, хоць была чужой.
Гром бабахнуў воддалі вогненным ружжом.

Час бяжыць. Ваколіцу беліць снег.
Што было — не вернецца, знаю, не...
Войкнула. Сказала: «Зноў спаткалася...
Як жа гэта, любы, здарылася, сталася?..»

Фальш даўно дабраўся да нутра, крыві...
Не мані, душою не крыві...
Што было — не вернецца. Ля страхі
Вытрасае вецер снежныя мяхі.

*1968*

## БУДУ КВЕТКАЮ-ШЫПШЫНАЮ...

Назбіраю я ў бярэзнічку
Маладзенькага любезнічку,
Завару пітво над кручаю —
Ненасытнае, пякучае.

Чараўніцаю-вядзьмаркаю
Пашапчу над поўнай чаркаю.
Напаю цябе... Без памяці
Пахінешся, як ад замеці...

Ахіне цябе бяссонніца,
І маё жаданне споўніцца:
Буду я тваёй адзінаю
Дзікай кветкаю-шыпшынаю.
. . . . . . . . . . . .
Не знаходжу я ў бярэзнічку
Чараўнічага любезнічку,
Бо вядзьмарка маладзейшая
Тут хадзіла, пэўна, першая
І парвала ўсё да каліва
На ліхое тое варыва.

*1968*

## СМАРГОНСКІЯ ПАЧАСТУНКІ

Дзед для ўнука мог аддаць душу,
Але строгасць напускную не стрымаў:
— Рукі вымі! Апусці, унучак, калашу
І не швэндайся па закутках дарма!

— Любы дзед, куды сабраўся? У Смаргонь?
Што ты ў воз пад сена палажыў?
У аглоблях галаву спусціў пануры конь,
Пэўна, сілы з яго вырвалі гужы.

— Што вязеш на продаж? На кірмаш?
Пернікаў і абаранкаў прывязі!
Пугаўём махнуў дзядуля наадмаш,
Пугаўём для смеху пагразіў.

Позна вечарам вярнуўся ў вёску дзед,
Выпрагаў каня і доўга тупаў на двары...
На мяне з усмешкай хітраватай паглядзеў,
Скрутачак падаў, сказаў:
«Унук, бяры!»

Над магілай дзеда вырас веліч-клён.
Час бяжыць, і я ужо стары.
Многа за жыццё пражыта розных дзён,
Многа дзе пабыў я з той пары.

Хату дзедаву, гнілы старэнькі хлеў
І гуменца у вайну спаліў агонь.
Лепшых пернікаў я за жыццё не еў,
За якімі дзед калісьці ездзіў у Смаргонь.

*1968*

* * *

Калі ў грудзях для сэрца мала месца,
Калі ў палёце не хапае моцных крыл,—
Мне шчасце ў марах блізка адгукнецца,
Я прыпыняюся ў парыве новых сіл.

І зноў — у даль, у новыя прасторы,
Каб не гібець, не гнуцца, не старэць,
Ніштo мяне не спыніць і не зморыць,
І размінецца зноў,
Адступіць далей смерць.

*1968*

## НЕ МАЎЧЫЦЕ, КУРГАНЫ-МАГІЛЫ!

Раскажыце, не маўчыце,
Курганы- магілы,
Як з гушчарнікаў, з укрыццяў
Выйшлі нашы сілы.

Як за волю, за свабоду
Партызаны нашы
Ў завіруху, непагоду
Крочылі бясстрашна.

Як зямля гула, стагнала,
Ляскаталі кулі.
Не адна сляза упала
Горкая ў матулі.

Не адна чакала маці
З таго бою сына.
Не узняць іх, не падняць іх,
Родная краіна.

Але болей па гасцінцу,
Па дарозе роднай
Не ступаць ужо чужынцу,
Хеўры злой, нягоднай.

Раскажыце па-над кручай,
Курганы нямыя,
Словы праўды неўміручай
Пра часіны тыя.

*1968*

## ЗЛІЦЦА ПРАГНУ З НАВАЛЬНІЦАЙ...

Наляцела навальніца,
Грозіць громам з паднябесся,
І пайшло усё кружыцца
Ад дажджу па грозным лесе.

Раскрывае бліскавіца
Таямніцы ночы цёмнай.
Лес дрыжыць. Яму не спіцца.
Голас чуецца нястомны.

Сэрца выскачыць гатова,
Зліцца прагне з навальніцай.
Я стаю, шукаю слова,
Каб стыхіі не скарыцца.

Запяваў — і гром змаўкае...
І вядуць наперад мары.
Сцежка сцелецца глухая,
Вецер рве цяжкія хмары.

*1968*

## РАСЦВІЛА НА РЭЧЦЫ ЛОТАЦЬ...

Расцвіла на рэчцы лотаць,
Хіліцца лаза,
Каб умеў я спрытна лётаць,
Так, як страказа,
Абляцеў бы ўсе абшары
І лугоў, і ніў,
Аб якіх я часта марыў,
Аб якіх я сніў.

Зазірнуў бы ў вір бяздонны,
Ў люстраную сінь,
Дзе красою непаўторнай
Серабрыцца плынь.

Дзе чарот, укрыўшы плёскат
Шумных качанят,
Паглядае на бярозкі,
Што пасталі ў рад.

Расцвіла на рэчцы лотаць,
Кветка-чарадзей,
Цешыць сонца сваю постаць
Ў люстраной вадзе,
А мая бяжыць сцяжынка
Аж за небакрай.
Вось яна, мая радзіма,
Вось мой родны край.

*1968*

* * *

У марах плыў бурлівым акіянам.
Рваў вецер ветразь. Ракатаў у хмарах гром.
І вось адкрыў я востраў нечакана,
Сваю зямлю і свой далёкі дом —

Той дом, якога я не меў ніколі,
Зямлю, якой не ведалі бацькі.
І на маім цярністым, камяністым полі
Раслі паэм няпісаных радкі.

І, нібы снегам, асыпае квецень
Нікому не вядомы белы сад.
Я расхіліў галін кашлатых вецце
І глянуў на даўно знаёмы спад.

Ты паляцела спуджанаю птушкай,
Юнацтва светлае, у незнаёмы край.
Галінку твой парыў яшчэ нясмела гушкаў,
А я крычаў табе: — Бывай! Бывай!

*1968*



Айсбергам халодным прыплыла туга,
Аглянуўся, а ільды над самым бортам.
Не заву нікога ратаваць і памагаць,
Вырвуся я з рук любога чорта.

Прылажы руку да сэрца, апячэ...
Ну якому ж урагану яго зрушыць?..
Я стырно бяру, хапаюся ямчэй.
Густа белы снег мяне цярушыць.

Б'юцца хвалі. Узбярэжжам плыць
Не да твару мне, не выпадае.
Між лядовых гор, лядовых глыб
Карабель няспынна праплывае.

Дзе вада і неба, дзе глухая даль,
Там, дзе разяўляе пашчу мора,
Я праб'юся пеклам страшных хваль,—
Для усіх зайздроснікаў на гора.

*1968*

## СЯБРАМ

Апіраюся зноў на парэнчы над Свіслаччу —
Той жа дол, тыя ж вербы і тыя таполі...
Толькі болей да вас я насустрач не выскачу,
Не спаткаю я вас на ўзбярэжжы ніколі.

Вас чакаў я з-пад Волгі, Дуная і Одэра,
Я чакаў вас, як птушак з далёкага выраю.
У музеях ляжаць пасмяротныя новыя ордэны,
Не адною услаўлены шчыраю лiраю.

Я чакаў вас з Урала, Саянаў, Алтая,
Дзе і мною пратоптаны сцежкі-пуціны.
Лісце падае. Восень ідзе залатая.
Чую голас адлёту трывожны, птушыны.

Абапруся не раз на парэнчы над Свіслаччу,
Гляну ў сінюю даль, што ў вадзе адлюстравана.
Можа, ў песні сваёй расказаць ўсё не выстранчу,
Але думы і струны для вас накапаваны.

*1969*

## ВЯСНА Ў ШУШАНСКІМ

Жаўрук пад небам заміраў ад радаснае песні,
Хаця шарэў яшчэ наўкол зляжалы снег.
Над чорнаю праталінай малюсенькі прадвеснік
Па промнях сонца кіраваўся ўверх.

На ганку Ленін стаў. За подыхам вясеннім
Ён доўга здзіўлена, разважліва сачыў.
Хадзілі саннаю дарогай крумкачы,
Як паліцэйскія, з пустым задавальненнем.

Шэсць тыдняў, а мо больш не будзе з дому
Ні пісем,
Ні газет,
Ні вестачкі адзінай.
Кранецца хутка лёд, наробіць груку, грому,
Ды не прыйшла яго апошняя гадзіна.

Да рэчкі рваліся, кіпелі ручаіны,
Пялёскаліся вераб'і пад капяжом заўзята.
Усе вясны чакалі, светлае хвіліны,
Яна ж прыходзіла марудна, пазнавата.

А сонца шчодра сыпала праменні,
Цяпло кранала мора, акіяны.
Лянівa спіны грэлі чорныя каменні,
І белізною ззялі недаступныя Саяны.

Вясна.
Чало задумліва нахмурыў Ленін,
Пра тых, хто скрышыць лёд няволі, думаў.
Жаўрук шугаў уверх па сонечных праменнях,
Да Шушы раўчукі ляцелі з шумам.

А ў кузні чуўся звон ад накавальні,
На абмалотках цэп стагнаў на прыгуменні.
Ляцеў дзіцячы крык з ваколіц дальніх,
Сцябло з пупышкамі сціскаў хлапчук у жмені.

Якое хараство пад сінім светлым небам,
Якая прыгажосць у велічных прасторах...
Свабода толькі для людскога шчасця трэба,
Расплавіць трэба лёд людскога гора.

Жаўрук будзіў зямлю няспыннай песняй,
Здавалася, ён крыльцамі лавіў праменні.
І час далёкага народнага прадвесня
Вітаў і уяўляў вялікі Ленін.

*1969*

## ЖУРАЎЛІНАЯ ГОРКА

Жураўлінаю песняй устрывожыўся бор,
Кружаць птахі ў танцы асеннім, адлётным.
Перадвылетны крык, перадвылетны збор
За імшарышчам рэхам разліўся журботным.

Верасы на пагорку крутым, на балоце багун
Павуціннем срабрыстым прыбраны.
Праз асеннюю сінь, цераз тысячы сонечных струн
У адвечным спакоі бялеюць Саяны.

Дрэмлюць сосны, і вецер на ўзгорышчы змоўк,
А бяссмертнік сухі у пясок ушчарэпіўся збіты.
Лапік сіняй вады, як адгладжаны шоўк,
Паміж лозаў блішчыць, асакою абвіты.

Вось сцяжынка, дзе ленінскі стомлены след
Ні дажджы, ні завеі не сцерлі, не знеслі.
Ленін бачыў адгэтуль наш век і наш свет,
Рэвалюцыі бачыў вялікай прадвесне.

*1969*

## ХМЕЛЬ

*У. І. Ленін і Н. К. Крупская ў Шушанскім садзілі кветкі і хмель*

Вíся і расці, зялёны хмелю,
Двор увесь завесь ад вока чужаніцы,
Па сцяне пляціся буйнай зеллю,
Шыбы заслані, як аканіцай.

Будзь для прыстава ступелага загадкай,
Хай ад водару твайго ён ачумее,
Хай ён больш не круціцца украдкам
Ля паркана чорным гідкім змеем.

Смела віся па высокіх тычках
Злому на згібенне, добраму на славу.
Тут, на гэтай грудцы невялічкай,
Чарадзейнае займей навокал права...

Хмель расце. Буйныя звесіў кветы,
Разаслаўся па сцяне зялёным лістам.
Шэпчуцца мужчыны і кабеты:
— Ну чаго так часта топчацца тут прыстаў?..

*1969*

## НА ПАРАХОДЗЕ

Склікаў кароў ражком пастух,
Трубіў пад вечар у лагчыне.
Саянскіх гор бялеў ланцуг,
Гнаў вецер хмары па вяршыне.

І цень даўжэў ад дрэваў, скал,
Туман паплыў на касагоры.
Паток імклівы шумных хваль
Ляцеў са злосцю праз шывёры.

Бурліў кіпучы Енісей,
Нікім яшчэ не ўтаймаваны.
Кідаў ён пену пакрысе
На бераг, галькаю услany.

І пыхкаў, рваўся параход,
Аж лопасці трашчалі ў колах,
Здавалася, хацеў пад спод
Загнаць узняты шум і шолах.

На палубе ў палоне дум
Стаяў каля парэнчаў Ленін.
Яго не кратаў гэты шум,
Не паланіў яго здзіўленнем.

Ён думаў пра цудоўны край
І пра народ, няволяй скуты,
Дзе турмаў шмат, дзе безліч крат,
Дзе, што ні крок,— адны пакуты.

І часта ў ленінскіх вачах
Іскрынкай радасць усплывала.
Відаць, што ў сэрцы Ільіча
Надзей бурлілася навала.

Ён бачыў вольным гэты край,
Ён бачыў збітыя кайданы,
І Енісей, дзе жах, адчай,
У марах быў утаймаваны.

*1969*

## БЫВАЙ, СЯРГО!

Над Ангарою дрэмлюць скалы,
Сінее воддаль ціхі плёс.
Маўчыць тайга. З глухой прагалы
Арол узняўся да нябёс.

Ён кружыцца, не знае стомы,
Над выганам яшчэ пустым,
Як страж таемны, невядомы,
Глядзіць на пні і на кусты.

На беразе сышліся двое,
У лодцы аглядаюць дно.
Яны з трывогай, непакоем
Аб чымсьці раяцца даўно.

Гарыць касцёр. Сухія трэскі
Палаюць полымем густым,
Смала ў катле ўскіпела з трэскам,
І дыму цягнуцца хвасты.

Дзень выдаўся зусім кароткі...
Крануў вясло рукой Сярго,
Пасля памацаў днішча лодкі,
Галля падкінуў у агонь

І коратка сказаў: — Гатова!
Бывай, таварыш Мікалай!
А той не шчодры быў на слова:
— Ну што ж, шчасліва адплывай!

І лодку плаўна гоняць хвалі,
І рэжуць вёслы, як мячы.
Уніз, уніз, адгэтуль далей
Да ранку трэба уцячы.

Паплыў Сярго. І доўга ў цемень
Глядзеў панура Мікалай.
А іскры над кастром мігцелі...
— Бывай, Сярго! Бывай! Бывай!

Бягуць гады. З тых дзён нямала
Прайшло суровых навальніц.
Нішто старога не зламала
І не схіліла долу, ніц...

Выходзіць часта на ўзбярэжжа,
На камень сядзе, гляне ўдаль.
Арол крылом паветра рэжа,
Часамі спусціцца да хваль.

Стары вясло бярэ у рукі,
Яшчэ пульсуе ў жылах кроў,
І часта голас чуе ўнука:
— Ну, як рыбалка?.. Жыў?.. Здароў?..

А ўнуку болей за паўсотні.
І усміхнецца раптам дзед,
І ўжо знікае сум маркотны,
Зноў маладым глядзіць на свет.

І прыгадае час далёкі,
Калі ля гэтых берагоў,
Ля скал сівых, між гор высокіх
Ён часта раіўся з Сярго.

Прыпомніць, як калісь жандары
Шукалі доўга ўцекача,
Як пагражалі лютай карай,
Як ён на допыце маўчаў.

На схіл скалісты узбярэцца,
Сам-насам стане Мікалай,
Праз многа год яму здаецца,
Што толькі выкрыкнуў: — Бывай!

Плывуць штодзённа цеплаходы
Уверх, на ўсход, на Бачуган,
Здзяйсняюцца ўжо год ад году
Задумы, мары Ільіча...

І шчодраю вялікай мерай
Дасць Ангара наўкол жыццё,
Прачнецца загібелы бераг,
Прагоніць ноч у небыццё.

І прагне жыць яшчэ нямала
Стары, ссівелы Мікалай,
А хвалі шумным страшным валам
Ляцяць за сіні небакрай.

Бывай, Сярго! Стары не верыг
Што тут яго няма даўно.
Вось-вось ён стукне яму ў дзверы
Або загляне у акно.

*1969*



Сям'я Пятра Шушкевіча —
старшыні вольнанаёмнага рабочага камітэта,
Другога коннага лазарэта Заходняга фронту:
дачка Браніслава, жонка Ружана, сын Станіслаў,
Пятро Шушкевіч, сыны Браніслаў і Вацлаў, 1916 г.



Да другога берага засталося 8 кіламетраў.
Ангара, 1956 г.



Станіслаў Шушкевіч і Кацярына Дабравольская —
студэнты Белпедтэхнікума, 1928 г.



Група маладых беларускіх пісьменнікаў:
Аркадзь Мардвілка, Змітрок Астапенка,
Віктар Казлоўскі, Юлі Таўбін,
Валеры Маракоў і Станіслаў Шушкевіч, 1928 г.



Змітрок Астапенка
і Станіслаў Шушкевіч, 1929 г.

* * *

Кілімы снежныя развесіла зіма,
Іх хараство не выказаць мне прозай...
Падняўся чуб на елачцы старчма,
З-пад хусткі белай прыглядаецца бяроза.
Я западаю ў снег. І праз глыбокі след,
Як гномік, выглянуў стары пянёк адразу.
Маленькі дзяцел здабывае свой абед,
І срэбра сыплецца з галін амшэлых вязу.
Сініца ціўкнула: «Куды ідзеш, куды?..»
І ў сівізну кустоў нырнула нечакана.
Радзеюць сосен стройныя рады.
І вось яна, мая далёкая паляна...
Я да яе ішоў не дзень, а цэлы век,
Аж стомленае сонца глянула праз хмары.
Сціраю льдзінкі дробныя з павек.
Дзень добры, родныя сняжыстыя абшары!

*1969*

* * *

Я абыходзіў чорных змей,
А гэтую бяду,
Якая злосці зласлівей,
Ніяк не абыду.
Яна гатова сорак джал
Пусціць у кроў маю.
Я да грудзей руку прыклаў,
Як скованы, стаю.
Ну што ж чакаць? Вазьмі і джаль,
Даткніся да мяне.
Хіба ў цябе з'явіўся жаль?
Ты, можа, не кранеш.

У зрэнках выспелых вачэй
Агонь вастрэй ляза.
Хачу ўцячы, ісці хутчэй.
Стаю, як хто звязаў.

*1969*

## ЗВАНІЦЕ, ЗВАНЫ, У ХАТЫНІ!

Званіце, званы, у Хатыні,
Зганяйце санлівую стынь!
Хай голас народнай святыні
Кране ўсіх краін далячынь.

Будзіце сумленне няспынна,
Штурхайце злачынцаў на суд,
Ад імя мільёнаў нявінных
Выносьце суровы прысуд.

Званіце трывожна, балюча
Ад спаленых сэрцаў і хат,
Ад тых, каго дротам калючым
Вязаў перад допытам кат.

Ад тых, хто ад голаду падаў,
Хто ў шахтах і турмах зачах,
Хай будзе ваш гул кананадай,
Слязою адплаты ў вачах.

Званіце балюча, няспынна,
Званіце ад веку у век,
Каб з попелу сэрцы нявінных
Пачуў, зразумеў чалавек.

*1970*

## БУДУЧЫНЯ ВАС АКРЫЛІЦЬ...

Будучыня вас натхніць, акрыліць,
На́шчадкі мае, сыны часоў далёкіх.
Паляцяць ракет магутных эскадрыллі,
Скалыхне прастор адважны рокат.

Пазайздросцяць шэрыя сталецці,
Здзейсняцца часоў адвечных мары.
Пройдзеце па знойдзенай планеце,
Назву ёй дасцё сваю — Гагарын.

І з касмічнай невядомай далі
Падасцё зямлі кароткае пасланне,
Што ўжо першы дом пабудавалі
Цесляры старыя — смаляне,

Што ў падмурак светлай пабудовы
Жменю ўклалі роднае зямліцы,
Што расце нязвыклы горад новы,
Першая касмічная сталіца.

*1970*

* * *

*Івану Мележу*

Дзяркач крычаў і любаваўся рэхам,
Якое за імшарышчам трохкратна ракатала.
Дарогаю выбоістай я адзінока ехаў,
А воз рыпеў да дальняга прычала.

Цякла рака імклівы, і сінелі плёсы.
Здранцвела бакен горбіўся на хвалі,
Па восі у пясок схаваліся калёсы,
І плыў туман вячэрні у лясныя далі.

Маўчала вёска на малым пагорку.
Касцёр дыміўся. Шмат яшчэ дарогі.
Было маркотна, крыху нават горка,
Ды раптам месяц выглянуў друхрогі.

Пачуўся голас з цёмнае лагчыны,
І песня музыкай вячэрняй узлятала.
Крануў настрой нязнанае дзяўчыны,
Якая любага, каханага чакала.

І ўсё змянілася. Пайшло адменным кругам.
Цудоўны край — і блізкі, і нязнаны.
Пачулі зоры: «Ой, пайду я лугам».
Палессе, я навек табой зачараваны.

*1970*

## МЯЦЕЛІЦА

Нас абвеяла мяцеліца з табой,
Закружыў, загуў сняжынак белы рой,
Не відаць ні дрэў, ні поля, ні ракі,
Закрычалі ў цёмнай далі ашалелыя гракі.

Шмат завей мы бачылі, праходзілі з табой,
Але сэрца б'ецца, звоніць непакой.
Хоць, здаецца, да вясны рукой падаць,
Дзе ж пралескі з колерам вачэй тваіх сабраць.

Пасмы белыя на скронях серабром,
Дахі бразгаюць, грымяць назло, як гром,
Не відаць ні дрэў, ні поля, ні ракі,
Чую толькі поціск вернае рукі.

*1970*

## А ЖЫЦЬ НА СВЕЦЕ ХОЧАЦЦА...

У рай дарожкі дрэнныя,
А ў пекла хіба лепшыя,
Дык, можа, непатрэбны я,
Каб бегчы паміж першымі.

У пекла ліпнуць выскачкі,
У рай шчасліўцы гоняцца,
Не маюць часу выспацца,
Змагаюцца з бяссонніцай.

П'юць шчасце з асалодаю,
Мензуркай часам мераюць,
Сябруюць з новай модаю,
Чарцям, анёлам вераюць.

Хоць дні ў мяне не майскія,
А жыць на свеце хочацца,
Пякельнае і райскае
Няхай далей адпрочыцца.

*1970*

## ВАЛАЧОБНІКІ

Блукалі валачобнікі пад ранак за сялом.
За хмарамі падранымі ўжо зоркі не было.
Між імі, гарлапанамі, крычаў старэнькі дзед:
— Вясна прыйшла жаданая, прыйшла на цэлы свет...
Мяне між імі, юнага, тады там не было,
Аб гэтым і не ведала вясновае сяло.
І так яно праходзіла нямала зім і лет...
— Вясна прыйшла жаданая,— крычаў ахрыплы дзед.
Ах, дзе ж вы, валачобнікі, і я гадамі дзед...
Вясна прыйшла жаданая, вясна-красна на свет.

*1971*

## ЗА СІВЫМІ ХМАРАМІ

Да мяне ты горнешся.
Вецер дзьме сустрэчны.
Мне здалося, з гор знясём
Снег і лёд адвечны.
На апошнім покаце
Падаць не збіраемся.
Прыйдзем і на покуце
Дома паспрачаемся.
А ільды счарнелыя
Паляцяць абваламі.
Хоць не так і смелыя,
Але ж мы бывалыя.
І з табой пад раніцу
У паход зноў вырушым.
Любая выбранніца,
Даль скарыцца вымусім.
За сівымі хмарамі,
На крутой вяршыні
Зноў з табой памарым мы,
Васілёк мой сіні.

*1971*

## КАНЯ

Ляцела каня над глыбокай багнай,
Балюча білася, стагнала і кружыла.
Як і ў мяне, напорыста і прагна,
Кроў бушавала, рвалася ў набраклых жылах.

Чаго галосіш, птах, у сонечных прасторах?
Блішчыць вада і ў рэках, і ў крыніцах.
Няўжо гнятуць цябе бяда і гора?
Няўжо не можаш смагу згасіць і напіцца?

Мо плачаш, што тваё мінула лета?
Мо дзеці паляцелі ў край нязнаны?
І я ж не раз над невядомым светам
Гаіў ускрытыя вятрамі злыя раны.

Ляці і не кружы у непрытомнай млосці.
Глянь, колькі радасці ў лясах і полі.
Не вычарпаць нікому нашай маладосці,
І наш узлёт не спыніцца ніколі.

*1971*

## ДУБЫ НАД СВІЦЯЗЗЮ

Стаяць ля Свіцязі
Дубы, як віцязі,
Страсаюць шэрань снежную
З імшыстых крон.
Бярозка хмурыцца,
Ад сонца жмурыцца
І чуе смех пусты,
Сарочы звон.

Не хмурся, гнуткая!
Імчыцца хуткая
Вясна жаданая
З-пад шэрых хмар.

Гартуйся смеласцю,
Будзь стойкай, пругкаю,
Прабі плячом сваім
Нямы гушчар.

У цёмнай зараслі
Пачуем зараз мы
Кіпучы голас
Прамяністых струн.
За кволым ясенем,
Прагнаны з засені,
Струхнелы бог прылёг,
Стары Пярун.

З закутай завадзі,
З люстранай наледзі
Яліна ўбачыла
Свой белы твар.
А вунь на покаце,
А вунь на захадзе
Граб сонца выхапіў
З падраных хмар.

Стаяць ля Свіцязі
Дубы, як віцязі,
І ціха хмурацца
Ад даўніх дум.
І, пэўна, у памяці
Вятры і замеці,
Марозы лютыя,
Траскучы шум.

*1972*

## ІМЖАЦЬ ДАЖДЖЫ...

Ідуць дажджы,
Імжаць дажджы.
Лясныя сцежкі
Ў бросені,

А лісце коўдраю
Ляжыць,
Так, як заўсёды,
Ў восені.

А у мяне
Такі настрой,
Нібы сады
У квецені,
Здаецца, воддаль
За гарой
Ёсць хмелем
Дом уплецены.

Там юныя
Мае гады
Былі па бераг
Шчаснымі,
Гарэў ад радасці
Тады,
Глядзеў у вочы
Ясныя.

Глядзеў у вочы
Любай той,
Што пра мяне
Забылася,
За рэчкай той,
За той гарой
Вясна мая
Згубілася.

Там віўся хмель
Кудзёркамі,
Аж хмелем думы
Поўняцца,
За рэчкай,
За пагоркамі
Старэнькі домік
Помніцца.

*1972*

## У БЕЛАЙ ШЭРАНІ САДЫ

Здаецца снежань маладым,
Май на двары, а не каляды,
У белай шэрані сады,
Лясы расквечаны, прысады.

Знікае лёгкіх санак след
У пералеску на пагорку.
Дарожны слуп — гарбаты дзед —
Сароку песціць — тараторку.

Мой зрок да наквецi прырос,
I нібы мроіцца ці сніцца,—
З-за сініх гор, з сівых нябёс
Ляціць чаканая сініца.

Стаяць збялелыя стагі,
Маўчыць у наледзі крыніца.
Паўночны сябар дарагі,
Хутчэй ляці, мая сястрыца!

*1972*

* * *

Хоць сорамна руку цыганцы падстаўляць,
Але ж даюць і просяць, каб гадала,
Бо з таямніцы прагнуць збіць пячаць,
Зняць з невядомага цяжкое пакрывала.

I я часамі сустракаў ману,
Пустому і прыдуманаму верыў,
Здавалася, што шчасце ўміг крану,
Што да яго расчыняцца мне дзверы.

Ілюзія, самападман... Імжа
Не раз мне далеч злосна засланяла.
Сляпое шчасце мае і кажан,
А чалавеку шчасця гэтакага мала.

*1972*

## ГУДУЦЬ НАД ДАХАМ ПРАВАДЫ...

Гудуць над дахам правады,
Мароз кранае пальцы, вушы.
Над комінам падняўся дым
І ў высь завоблачную рушыў.

На плоце ціўкнуў верабей,
Нялёгка босаму, нялёгка.
Лядок шкляны не разграбе,
Як тут ні рвіся і ні войкай.

Скрыпіць пад ботам крохкі снег,
На ўсходзе сонца дыск чырвоны,
Антэну шэрань долу гне,
І з лесу пырхнулі вароны.

Гудуць над дахам правады,
На шыбе папараць віецца,
Як добра днём у час хады
Сваімі думкамі пагрэцца.

*1972*

## НАПЭЎНА, ЁСЦЬ...

Напэўна, ў вас пахучы бэз
Цвіце вясеннім ранкам
І кветкі вам наперарэз
Спускаюцца над ганкам?

Напэўна, ёсць і ў вас такі
Куток пад дахам дома,
Дзе днём шчабечуць ластаўкі
На мове невядомай.

Напэўна, ёсць наўкола вас
Сябры з часоў няблізкіх,
З якімі вы, як я якраз,
Зрадніліся з калыскі.

*1972*

## ВЯСЕННІ
## НАСТРОЙ

Бывае, ў лютым
Па-вясенняму заплачуць капяжы,
Па-маладому сонца
Страпянецца ад спакою,
Але пад вечар зноў
З застрэшка ледзяшы
Пагрозліва нацэляцца
Ў цябе над галавою.

Адчуеш, што зіма —
І злосная, і злая,
Адчуеш холад,
Вецер за спіной,
А хата зробіцца
Табе нязнаным раем.
І дома цёплым
Зробіцца настрой.

Падкінеш дроў у печ,
Прыпомняцца зямлянка,
Мароз траскучы
І глыбокі снег,
І рукі апячэ
З гарачым чаем шклянка,
Каб не драмаў, не жыў
У забыцці і сне.

Ты страпянешся
І прагоніш стому,
Уключыш тэлевізар,
Каб убачыць свет,
Адчуеш, што табе,
Напэўна, як нікому,
Наперад крочыць трэба,
Не брысці ўслед.

І прыгадаеш зноў сяброў,
І блізкіх, і далёкіх,
І зайздрасць хлыне...
Пэўна ж, ты адстаў?..

З кутка маленькага
Убачыш свет шырокі,
Адчуеш, што не лёгкая
Наперадзе вярста.

Нарэшце дзверы насцеж
Адпіхнеш імгненна,
Прагоніш ціш,
З палёгкай уздыхнеш.
Праз люты холад
Зноў настрой вясенні
Уклініцца у твой
Неспадзяваны верш.

*1972*

## КАРУКАЎКА

По загаду генерала Хойзінгера нямецкія акупанты-фашысты ў 1943 годзе знішчылі 7000 жыхароў у горадзе Карукаўка на Чарнігаўшчыне.

Зямля набракла чалавечай крывёю,
Сямі акіянам не змыць яе,
Сямі сонцам яе не высушыць.
Тут сем тысяч сэрцаў загінула.

Карукаўка! Твае крыніцы бруяцца жалем,
Твае лясы шумяць трывожна,
Твае вятры клічуць адпомсціць забойцам
Нават пасля іх звярынай смерці.

Твае льняныя нівы цвітуць колерам вачэй сямі тысяч,
Твае лясы мужна стаяць перад навальніцай,
Сем тысяч акрываўленых зор мігцяць у глыбокай ночы,
З сямі тысяч хмар майскім ранкам падаюць слёзы.

Зямля набракла гарачай крывёю.
Тут сем тысяч сэрцаў загінула.
Бясконца іскрацца расінкі жыцця на кветках.
Сем тысяч застаюцца бессмяротнымі.

*1972*

## ХАТА ДАЎЖЭНКІ

Гаруе старэнькі журавель
над збуцвелым калодзежам —
Чэрпаў, чэрпаў, а вады аж па самую покрыўку.
Усміхаецца хата маленькім слепаватым аконцам,
І вярба нахілілася ад празмернай цікавасці.

Выразаў з яе хлопчык Алеська калісьці
Тонкую дудачку, галасістую, аж звінела ваколіца,
Каля Убедзі — рэчкі празрыстай у Сосніцах —
Салаўі ёй зайздросцілі, заміралі дубы ў задуменні.

Хлопчык вырас. Стаў Аляксандрам Пятровічам,
А голас дудачкі, узрошчаны сокам зямлі,
чысцінёю крынічнаю,
Звініць на ўсю Чарнігаўшчыну, на ўсю Украіну,
І пачулі яго і ў Еўропе, і далёкай Амерыцы.

«Людзі, жыццё кароткае. Спяшайцеся тварыць дабро!..»
Гаруе старэнькі журавель над збуцвелым калодзежам.
Дзе ж яму вычарпаць з нетраў зямных вадзіцу,
Тую, што насіў калісьці Алеська
драўляным вядзерцам мацеры...

*1972*
*г. Сосніцы, хата А. Даўжэнкі*

## КАЛЯ МАГІЛЫ НЕВЯДОМАГА САЛДАТА

Спі, дарагі, спакойна спі, салдат!
Нянавісць тваю сябры данеслі да Берліна...
Смеласць, мужнасць, геройства, твая перамога
Сцягам чырвоным залупалі над рэйхстагам.

Праменіцца полымем піянерскіх гальштукаў
Твая любоў да людзей. Дзеці прынеслі кветкі.
Упала іскрыстая расінка на фіялку,
Сарваную над ціхай ракой Дзясною.

Гэта моўчкі плача старая маці.
Каб магла яна стаць птушкай-зязюляй,
Майскім ранкам яна б кукавала няспынна,
Гукала б сыноў, што не вярнуліся з фронту.

Дарагім брыльянтам упала сляза на магілу.
Спі, юны, спакойна спі, салдат!
Вечны агонь не згасне ля тваёй магілы,
Не састарыцца аб табе памяць мільёнаў.

*1972*
*Чарнігаў*

## ЦЯСНІНА ЦЫХЕРВА У АБХАЗІІ

Прыйшоў. Апошняя вярста...
Звісае глыба-камень.
Пад дрэвам фігавым я стаў,
Ліст цераблю рукамі.

Ім не прыкрыць далёкі след
Гісторыі балючай.
Мірт з ценю выглянуў на свет
Між церняў-дзід калючых.

Ліст цераблю... Хіба лістком
Я свой настрой прыкрыю?..
Крычыць ішак, мяце хвастом,
Падняў высока шыю.

Каменны плот. Стаіць за ім
Між дрэваў дом абхазца,
Нібы якімсьці лёсам злым
На ўзвышша ўзнесла трасца.

Гляджу я ўніз. Усё цвіце,
А побач лаўр зялёны.
І лезуць скалы ў змрок і цень
З імшыстае пацоны.

*1972*

## КАЛЯ ПОМНІКА ЯКУБУ КОЛАСУ

Ты, пэўна, зноў, паэт, убачыў Мінск
Сівы, далёкі і зусім адменны?
Разбіты брук, на рынку шум і віск...
Гарадавых, і конку, і мяшок каменны,
Стары астрог. Астрожных вартавых...
Сядзіш у строгім і спакойным задуменні
І насцярожыў чулы пільны слых.

Рамізнік згорбіўся на козлах каля брамы,
У шыльдах дом. Драўляны тратуар.
І ястрабком глядзіць з маленькай крамы
Адвечна заклапочаны гандляр.
Звіняць званы няспынна на званіцы,
Здаецца, што гучыць увесь абшар.
І водар ладану плыве з капліцы.

Бляе каза ў пустым глухім завулку,
Аж певень спудзіўся і выпырхнуў на дах,
А па Сляпянскай вуліцы разбітую качулку
Пагналі хлопцы босыя ў палатаных штанах,
Такія ж хлопцы, гаваркія гімназісты,
Панкі-панічыкі, ідуць у школьны гмах,
А побач прэцца ў акалодак прыстаў.

О, не пра гэты горад думае пясняр,
Губернскі Мінск даўно ўжо забыты.
Душа напоўнена святлом цудоўных мар,
Пачуцці з мужным поступам народа зліты.
Знаёмых, родных, блізкіх не злічыць
Там, дзе хістаюцца бярозак белых світы,
Спяшаюцца твае на працу чытачы...

Вось гэта той народ, якому моцна верыў,
Якому ўсё аддаў — душу і сэрца.
Бягуць са школы блізкай піянеры,
Павольна, з роздумам, ледзь-ледзь ідзе, здаецца,
Ступае ў інстытут вядомы ўсім вучоны,
А крыху далей гурт студэнтаў рвецца...
Як не пабыць на лекцыі ягонай!..

На Ленінскім праспекце рух няспынны —
Аўтобусы, тралейбусы, таксі і пешаходы...

Адным на фабрыкі, у інстытуты, магазіны,
Другім на камбінаты і заводы.
У творчым поступе кіпіць сталіца,
Бурліць жыцця няспынны подых.
Паэт задумаўся. Яму не спіцца.

Паэт усхваляваны на хвіліну.
Сымон-музыка змоўк, маўчыць і дзед Талаш.
На Ленінскім праспекце рух няспынны,
Цвіце сталіца, горад родны наш,
А незабыўны, мудры, велічны, кіпучы
Бярэ рукою моцнай каранадаш...
Ён вечна з намі тут. Ён неўміручы.

*1972*

## МЕТАЛ НЯЗВЫКЛАЙ ПЕКНАТЫ

Здавалася, што расціраю попел на далоні,
А гэта ж быў метал нязвыклай пекнаты.
Сказалі, пераплаў, заззяе яркі промень,
І ляжа на далонь кавалак залаты.

І з той пары, і з таго дня па сёння
Я шмат парод пазнаў не толькі залатых,
Даведаўся, што зззяе яркім промнем
Часамі тое, што завём пустым.

Зліваецеся ж, радкі, у маналіт адзіны,
Губляйце шэрасць, папялісты цвет,
Не трацьце дарам дарагой часіны,
Ідзіце смела да людзей у свет.

*1972*

## МІЛЬГАНУЛІ ДНІ МАЛЕНСТВА ПТАХАМ...

Памятаю дзень вялікай восені,
З хлапчукамі бегаў я па бруку.
І салдат сказаў нам: — Вось яны,
Хто спазнае шчасце і навуку.

Сцяг чырвоны віўся па-над домам.
На сцяне расклееньі газеты...
Пралятала конка з шумам-звонам,
Аж ляцела гразь на шэрыя штыкеты.

І цяпер, калі праспектам я праходжу,
Дзе тралейбусы бягуць, аўтамабілі,
Мне здаецца, бачу агароджу,
На якой мы пасядзець любілі.

Бачу той балкон і тых прамоўцаў,
Што так голасна і часта выступалі,
Чую бабкі пасівелай слоўца:
— Ну чаго раты паразяўлялі?..

Затыкалі мы за пазухі адозвы,
А чытаць яшчэ зусім не ўмелі...
Грукалі па рэйках паравозы
І ад станцыі паспешліва ляцелі.

А цяпер, калі пабачу моладзь, дзетак,
Калі побач разам з імі крочу,
Як салдат калісьці, гэтаксама, гэтак,
Будучыню ім вялікую прарочу.

*1973*

## СТУПАЕ СВЯТА ПЕРАМОГ...

Звініць аркестраў звонкі рог
Шчаслівa і прыўзнята.
Ступае свята перамог,
Кастрычніцкае свята.

Вядзе чырвоны сцяг людзей
Па вуліцах прасторных,
У незлічонай грамадзе
Адзін парыў задорны.

Вялікай мірнай працы плён
Відаць па ўсёй планеце,
Тварыць, расці — вось наш закон,
Вядомы ўсім на свеце.

Не засцяць хмары наш уздым,
Хаўрус маной багатых,
Руку мы смела цiснем тым,
Хто здаўна нам сабратам.

І мізарнее позірк злых,
Хто чэрніць нас, ганьбуе,
Сказаць ім цяжка праўду ўслых,
Як мы жывём, працуем.

Звініць аркестраў звонкі марш.
Шчаслiва і прыўзнята
Ідзе народ вялікі наш
На радаснае свята.

*1973*

## Я СЁННЯ ЗНОЎ У ЛЕПЕЛІ...

*Памяцi Тодара Кляшторнага*

Тады над ціхім Лепелем
Спускаўся цёмны вечар.
Мы думалі, што лепей нам
Хутчэй ісці ў Парэчча.
Маўчала, спала возера,
За хмарай зоры спалі,
І мы цікаўным позіркам
Удалеч пaглядалі.
Як здані, над дарогаю
Слупы драты цягнулі,

У зараслі з трывогаю
Драчы гуртом шугнулі.
Назаўтра слота, лужыны...
Укрылі хмары далі.
Так у Парэччы, дружа мой,
З табой не пабывалі.
Я сёння зноў у Лепелі.
Зазімак. Ціха. Раніца.
І востраў з небам злеплены
Лаўжом счарнелым цягнецца.
Я зноў цікаўным позіркам
Гляджу у бок Парэчча.
Бушуе, плешча возера,
Нагадвае сустрэчы.

*1973*

## МЧЫЦЦА ПОЕЗД...

Дзе ж канец сталёвай стужкі?
Чуцен рэек гулкі звон.
Мчыцца поезд. Нават птушкі
Не памкнуцца наўздагон.

Поле, рэкі, лес, азёры,
Гор далёкіх ціхі спад.
У нябесным сінім моры
Тоне дзіўны далягляд.

Ты не спознішся, я знаю,
Незнаёмы машыніст,
Там, удалечы, чакаюць,
Дык хутчэй, хутчэй імкні.

Пройдзе ноч, надыдзе ранак...
Добры дзень, куток стары!
Вось маленькі мой паўстанак,
Вось далёкія сябры...

Машыніст, твой твар суровы,
Сэрца ж тоіць шмат дабра.
Ты маўкліва супіш бровы,
Вочы ж шчырасцю гараць.

Я стаю, гляджу на рэйкі.
Поезд знік. Маўчыць прастор.
Над дарогай з жалем нейкім
Каня кінула дакор.

*1973*

## ПАЛЯЦЕЛІ ГУСІ Ў ВЫРАЙ...

Прабіваецца праз хмары
Жоўты месяц пад-над борам,
Паляцелі праз імшары
Гусі шляхам невядомым.

Месяц, месячыку ясны,
Асвятляй ім шлях далёкі,
Змоўкні, вецер, ані шасні,
Расступіцеся, аблокі.

Паляцелі чарадою...
Ночы рань ідзе на змену.
Я вас, гусанькі, вясною
Новай песняю сустрэну.

*1973*

## БЕЛЫЯ ЖУРАВЫ

Агарнуў мяне аднойчы смутак
І зусім прыціснула туга.
Праз імшарышча ішоў нямала сутак,
Боты збіў і пачынаў кульгаць.

Знахадкі бываюць для шчаслівых,
А мяне, падумаў, крыўдзіць лёс...
Глянуў, а пад хмарай двух імклівых
Белых жураваў таежны вецер нёс.

І адзін з іх крыкнуў праразліва,
Узмахнуў знядужаным крылом.
Мне яны здаліся цуда-дзівам...
Падае пяро на заімшэлы лом.

Я паклаў пяро ў рукзак глыбокі,
Прыгадаў расказ тунгуса з глуш-тайгі:
— Зблізку іх не ўбачыш, а здалёку,
Гэты птах у тундры самы дарагі.

Знойдзе шчасце той, хто ўбачыць птаха,
Найшчасліўшы, хто пяро рукой кране...
Тонкі лёд трашчаў на лужыне, як бляха,
Гэты трэск здаваўся мілым мне.

Зняў рукзак паспешліва ў палатцы,
Нібы скарб, у рукі ўзяў пяро.
Мне здалося, што жыву ў палацы...
Цёплая пасцель. Яда. Дабро...

Выняў нож. Пяро як след надрэзаў,
У чарніла памакаў і ліст пішу.
Шастае палатку вецярок-гарэза,
Радасць запаланіла душу...

Пяць канвертаў выбраў і заклеіў,
Пяць канвертаў падпісаў зараз,
Пяты год чакаю, сэрца млее,
Ну калі ж сябры прышлюць адказ.

*1973*

## РАБІНАВЫЯ ГРОНКІ

З мудрацамі я не бегаў наўздагонкі,
Да славутых я не лезу ў пабрацімы,
Для мяне рабінавыя гронкі
Вечна свяцяцца увосень прад вачыма.

Я ж не раз сады садзіў вясною,
І яны для ўсіх цвітуць на свеце.
Калі яблык напалову я раскрою,
Дык зярняткі, як іскрынкі, свецяць.

Нехта ж іх старанна у зямлю пасадзіць,
Нехта вырасціць і выпестуе дрэвы.
Мне здалося, што дарог ужо з паўпядзі...
Маладыя леты, дзе вы, дзе вы?!.

Калі вецер ад марозу звонкі
Гне дадолу трапяткое голле,
Бачу я рабінавыя гронкі
Блізка, нізка, аж на частаколе.

*1973*

## НАДЗЕЯМ ЗБЫЦЦА ЗДАРЫЦЦА...

Даўно жытцо пасеяна,
Зазімак выпаў раніцай,
А я шукаю, дзе яна,
Маёй вясны абранніца.

А я пытаю, дзе яна,
Чарнявая русалачка,
Ды, мусіць, хоць не ўпэўнены,
Што ходзіць недзе ўдалечы.

І неяк мне не верыцца,
Што збудзецца чаканае,
Што маладосць зноў вернецца
І знойдзецца каханая.

Але мне сніцца, мроіцца,
Аб чым толькі не марыцца,
Што боль душы загоіцца,
Надзеям збыцца здарыцца.

*1973*

## У ПРОБЛІСКУ МАЛАНАК

Пярун расшастаў на кавалкі дуб,
Таму і неба плача, да зямлі прыпалі лозы,
Клён з роспачы лахмаціць цёмны чуб,
Стаіць не то п'яны, не то цвярозы.

А мне ад радасці схацелася крычаць,
У проблісках маланак я пабачыў:
Дубкі і ясені над рэчкаю стаяць
І навальніцай цешацца няйначай.

*1974*

## ЛІХТАР МАЛЕНЬКІ СВОЙ...

На цёмным небе многа зорачак і зор,
Па-рознаму яны і свецяць і мігаюць,
Для іх нязведаны, нязмераны прастор,
Арбіты працціраюцца сузорныя бяскраю.

Я знаю, што маленькі светлячок і той
У цемень-ноч святлу адчыніць дзверцы.
Мне хочацца знайсці ліхтар маленькі свой,
Каб месца не было ў сяброўстве паняверцы.

*1974*

## ВЯСЕННЯЯ ПАРА

Бывае цёмнай ноч у месяцы красавіку,
Ніводнай зорачкі не ўбачыш над сабою.
Крычыць сава. Не ведаеш адкуль.
І голасу сычоў няма нідзе адбою.

І толькі займецца наперадзе зара,
Дык салаўіны хор прачнецца побач, радам.
І ты адчуеш, што вясенняя пара
Цябе сустрэла і прыходу рада.

Ты прыгадаеш сад і недалёкі час,
Чаромху белую у квецені-паркалі.
Адчуеш, што ў душы агонь яшчэ не згас,
Што тут чакалі нас і некалі кахалі.

*1974*

## САМ
## НЕ ВЕДАЮ...

Пахне яблыкамі
І канoплямі,
Рутай-мятаю
Жоўты сад.
Нібы пальцамі,
Часта кроплямі
Дожджык стукае
Неўпапад.

Дзікай конніцай
Хмары гоняцца.
Ну куды ж ляцяць
І за кім?..
Хутка спыняцца,
Хутка зморацца,
І прыстанішча
Будзе ім.

За павецямі
Ліпа вецямі
Размахалася,
Ажно страх,
Дакранаецца
Да паплецiны,
Упіраецца
Ў чорны дах.

Мне ж так хочацца
Выйсці раніцай,
Дзе забытыя
Быльнягі,
Дзе каліны куст,

Як паранены,
Дзе калісь не знаў
Я тугі.

Пахне яблыкамі,
Пахне грушамі,
Рутай-мятаю
Жоўты сад.
Сам не ведаю,
Чым я ўзрушаны,
Чаму вырвацца
Ў поле рад.

*1974*

## ПАРТЫЗАНСКІ КАМЕНЬ

Імшысты камень засланіў ад куль
Хлапца калісьці — баявога партызана.
Адкуль ён быў? Не ведаюць адкуль,
Ды знаюць, што агнём іскрылася паляна.

Ды знаюць, што шчарбін на камені сівым
Было тады насечана без ліку.
Ад стрэлаў гучных падымаўся дым,
І рэха стромкі бор з палёў паклікаў.

Не здаўся хлопец. Воўчая гання
Фашыстаў дзікіх спешна адступала.
Дабег адважны да свайго каня,
Густая дрэў сцяна яго схавала.

Не далічыўся многіх вораг у той дзень
На мядзельскай выбоістай дарозе.
Крычалі чайкі гучна на вадзе,
А Нарач увесь час была ў трывозе.

Хто ж ён? Чый агрызаўся аўтамат?
Адно вядома, сын зямлі ён нарачанскай.
І ўжо нямала год, нямала дзён падрад
Завуць імшысты камень партызанскім.

*1974*

## НАД НАРАЧЧУ

*Міхаілу Ціханавічу Лынькову*

Здалася казачнаю ноч.
У хвалях месяц, зоры-седні...
Злавіць іх хоча чорны корч,
Ён рукі выставіў — карэнні.

Схіліўся ў завадзі чарот,
Шукае золата ў пясчынках,
Дрыжыць асінка, чортам чорт,
Вужом нырнула ў лес сцяжына.

І нібы церам-церамок,
Дзе чарадзей жыве сівенькі,
Стаіць над берагам дамок,
Балкон на ім, нібы сявенька.

Люблю блукаць і ўноч, і ўдзень,
Ступаю берагам спакойным,
А ў церамку, як авадзень,
Прыёмнік брынкае задорны.

Я знаю здаўна гэты дом,
Пачуў адгэтуль эпапею.
Як палахлівы прывід-гном,
Сюды зайсці ніяк не смею.

Гасцінны добры гаспадар
Сваім святлом пакой чаруе,
І дум вялікіх шчыры дар
Ён для людзей здаўна гартуе.

Не раз ягонай цеплынёй
Я быў прывабліва сагрэты.
Ён мне казаў: — Галубянё,
Палёт нялёгкі у паэта...

Дзе б я ні жыў, дзе б я ні быў,
Я чарадзея памятаю.
Спяць ноччу ціха галубы,
А заўтра ў лёт. Да небакраю.

*1974*

* * *

Задрамаў я крыху. Як па грэблі,
Птушаняты цераз твар прабеглі —
Можа, гэта пліскі? Што ж, магчыма...
След пакінулі на твары пад вачыма.

Ад вачэй да вуснаў след шнурочкам.
Вечарэе. Хутка прыйдзе ночка.
Паляцелі птушаняты нанач
Некуды далёка, аж за Нарач.
Пэўна, і мая там маладосць начуе?
Можа, клікнуць? Лепей памаўчу я.
Маршчакі-слядочкі чым жа змыеш?
Нарач, мы з табой не маладыя,
Але непакоімся, ірвёмся і не тужым,
Мы на зайздрасць створаны для дужых.

*1974*

* * *

Завеяны сляды юнацкіх дзён
Вятрамі, ранняю мяцеліцай,
І ўжо ў цябе сгралою наўздагон
Бабулька-старасць неспадзеўку цэліцца.

А ты руку падняў, каб засланіць
Сябе ад гэтай хітрай неадступніцы.
З усмешкай кажаш:— Не крані,
Твая ж страла надломіцца, прытупіцца.

І крочыш далей. Бачыш дзіўны свет.
Збег вецер стомлены ў нязнаныя аблогі.
Бярэш на станцыі ў далёкі край білет
І марыш зноў пра новыя дарогі.

*1974*

* * *

Маўчыць над возерам старэнькі лес,
Бо сонца глянула ў нязмерныя глыбіні,
Па шыю востраў у ваду залез,
Здаецца, патане і назаўжды загіне.

Шугнулі чайкі. Будуць ратаваць
І з крыкам кружаць, рвуць сівыя хвалі.
Шапоча жорсткая засохлая трава
І просіць, каб вясну ізноў прыслалі.

Мне доўга плыць. Дзе ж тыя берагі?
Я знаю, што мяне чакае прыстань.
Ад бакена бягуць шырокія кругі,
І жыць мне хочацца яшчэ гадоў са трыста.

*1974*

* * *

Карункі белыя на елках і асінах,
І нават чорны пень напяліў белы шлём.
Сасонка над абрывам, як дзяўчына,
Гарыць убранне сонечным агнём.

А за гарой, за сінім небакраем,
Падняўся дым слупамі з каміноў,
Сінічак-непасед сарока данімае,
Учора тут была і круціцца ізноў.

Яшчэ няма слядоў. Замецена дарога.
Гудуць басіста струны-правады.
Ад раніцы тут не было нікога,
Апроч каменнай соннай чарады.

Прыйшлі камені, пэўна, каб напіцца,
Вады знайсці ў глыбокай Нарачы глыток.
Ды і заснулі. Ім зімою сніцца
Прыбой высокіх хваль і цёплы жвір-пясок.

А можа, сняць яны вайны былой грымоты
Гул мінамётаў, кулямётны шквал.
Зямлю не раз чарнілі самалёты,
Не раз аж да вады каціўся смерці вал.

Дык не будзіце ціш, цяжкія успаміны,
Няхай маўчыць і спіць заснежаны прастор.
Пад сонцам палыскуюцца праталіны-ільдзіны,
І тчэ стары мароз нязвыклых форм узор.

*1974*

* * *

Над люстрам ледзяным шуміць чарот,
Зноў снежныя завеі, завіруха.
Зноў хвалі спяць, і на глыбінях вод
Жыццё прыціхла і пануе скруха.

Зноў апранула Нарач на сябе
Срабрыстае халоднае убранне,
А вецер кіпцямі нябачнымі грабе,
З-пад покрыва вось-вось ваду дастане.

Не... Нарач не прачнецца да вясны.
Вартуе сон яго магутны бор наўкола.
Зіма шалее. Аж да белізны
Начысціла бакі каменнем голым.

Лёг човен лёгкі на тугія паклады,
З ім побач бакен стаў зусім змярцвелы.
Ім цяжка спачываць без хваляў і вады,
Глядзець на краявід наўкола белы.

Над люстрам ледзяным шуміць чарот,
Адны і тыя ж у завей мелодыі і гамы.
Нясі, халодны тэлеграфны дрот,
Дадому цёплыя адгэтуль тэлеграмы.

*1974*

## АДДАЦЬ УСЁ ЛЮДЗЯМ

*Сыну Станіславу*

У нашай працы ёсць
З асноў аснова.
Таймуеш атам,
Я гартую слова.

Усё аддаць людзям
У нас душа гатова:
Магутны мірны атам
І шчырай сілы слова.

*1974*

* * *

Мароз кусты сівыя прычасаў,
Як чуб, тырчаць на покаце узвышша,
Заечы след згубіла мудрая ліса
І топчацца на снезе, неспакойна дыша.

Ну, уцякай, дурненькі, уцякай,
Табе, мой шарачок, я спачуваю.
Вунь незамерзлая цячэ рака,
Ты пераскоч яе, хутчэй бяжы да гаю.

Залезь у цёмныя калючыя кусты,
Няхай ліса, шукаючы, свой нос наколе.
І будзе пошук у яе пусты,
А ты пасля шугнеш у баразну, на поле.

Я зайца шэрага, як бачыце, вучу,
А сам ліслівых, хітрых адагнаць не ўмею.
Не раз я ў свеце фальш і крыўду чуў,
А на дабро ніколі не губляў надзею.

*1974*

## КІПІЦЬ, ПАЛАЕ І ГАМОНІЦЬ НАРАЧ...

Арменіі маленькай сын вялікі,
На бераг Нарачы прыйдзі у бурны дзень,
На хвалі глянь, на пеністыя блікі,
У фарбы яркія ты палатно адзень.

Прыйдзі на Нарач, новы Айвазоўскі,
Пра гнеў і радасць хваль кіпучых раскажы.
Глянь, на вадзе гарацъ нязвыклыя палоскі,
Глянь, упіваюцца ў баркас нязвыклыя нажы.

Праменні сонечныя закруціла Нарач,
На часткі рве, кідае ў берагі.
Ляцяць спалоханыя чайкі ўдалеч
І апантана робяць смелыя кругі.

Кіпіць, палае і гамоніць Нарач,
Вось-вось і вырвецца з пясчаных берагоў,
Яе не скорыць, не ўтаймуе старасць
І не прыдушыць друз нязлічаных вякоў.

*1974*

* * *

Хіба каханне можна зважыць або змераць,
Да кроплі вычарпаць, да кропелькі аддаць?..
Якая ў юнага Петраркі і ссівелага Гамера
Магла заліць агонь душы халодная вада?

Як Сонца вечнае Зямлю маленькую кахае,
Цяпло, жыццё і хараство ёй аддае,
Я пра далёкую і думаю, і дбаю,
І ўсё, што я прыдбаў, збіраю для яе.

Я ведаю, што Месяц любіць горы і пустыні,
Патрэсканыя скалы, дзюны і пясок.
Не будзьце ж, вочы, у мяне пустымі,
Не замыкайце шчырасць і каханне на замок.

*1974*

## НА БЕРАЗЕ ВОЗЕРА

У хлопца рыбкі на далоні,
Іх толькі выкінулі хвалі.
Мо ажывуць? Галоўку хіліць.
Чаму малыя паўміралі?

Цярушыць дождж асенні. Слота.
І ў сэрцы хлопчыка малога
І боль, і ласка, і пяшчота,
І крыўды гаркаватай многа.

Ён тхнуў на рыб. Яму здаецца,
Што ажылі. Шпурнуў за камень.
І радасць страпянула сэрца.
Пабег дамоў. Раскажа маме.

*1974*

## ТАРОПІЦЬ ЧАС МЯНЕ...

Як чайка на зіму,
Я пакідаю Нарач.
Больш не прыйду на бераг
Хмурны, апусцелы.

Сасонкі пабялелі,
Засланілі хмары далеч,
Тырчаць ілбы чаўноў
З-пад снежнае пасцелі.

На ўзвышшы помнік высіцца.
Зара чырвоным сцягам
Прарвалася праз шчыліну
Прыземістых аблокаў.

Да цішыні прыкаваны
І сэрца, і увага,
І мары, летуценні
Зноў мае далёка.

Як чайка, палячу
Шырокім светлым шляхам.
Таропіць час мяне.
Збудзіўся, як ад грому.

Залапатаў прапелер,
І вялікім шэрым птахам
Вялізны самалёт
Панёс мяне дадому.

*1974*

## ВЯСЕЛЛЕ

Белы снег шляхі ім сцеле,
След па ім праклалі шыны,
Едуць, мчацца на вяселле
Гаманлівыя машыны.

Ну няўжо ж вясны ім мала?
Дзе ж быў май? Цяпер жа снежань.
Лупіць хлопец па цымбалах,
А гармонік польку рэжа.

Не зіма, а май квяцісты.
Белы сад квяціста зорыць.
З хлебам, соллю урачыста
Крочыць маці з бацькам поруч.

На спатканне за вароты
Шмат людзей прыйшло калгасных,
Сёння танцамі да поту
Клуб ускружаць, гэта ясна.

За сталом гасцей пасадзяць,
Будзе аж праз меру тостаў...
Стоп, машыны! Ўжо вылазяць
На падворак шчасных мноства.

Кружаць хлопцы і дзяўчаты,
Снег віхурыць з-пад абцасаў.
Сваццля пышная са сватам
Тон задалі гэтым часам.

— Госці, ў хату, калі ласка!
Ну, далоў з бутэлек коркі.
Пачалі ў далоні пляскаць,
Закрычалі: — Горка! Горка!..

Снег пярыну ў полі сцеле,
Засыпае хату пухам.
За вярсту гучыць вяселле,
Гулкіх танцаў завіруха.

*1974*

## ЦВІЎ ВАСІЛЁК УВОСЕНЬ...

Цвіў васілёк увосень.
Чорная ралля
Да небасхілу
Слалася далёка.
Вароны каркалі
З пахілага галля,
І на слупку дарожным
Выгіналася сарока.

Ты ж здаўна сын вясны,
Мой родны васілёк,
І я твой брат,
Сваяк вясны і сонца,
Тутэйшыя з табою,
Не здалёк,
І дорым хараство
Сваёй старонцы.

Цвіці ж, мой родны!
Наш кароткі век.
Я многа ўжо пражыў,
Прайшоў дарог нямала.
Ты ж малады,
Табе не ў галаве,
Што блізка снежная,
Халодная навала.

Кароткі ж у нас час,
Жыцця кароткі міг,
Мы толькі летам
Бабчыным сагрэты.
Ды знаю я з жыцця,
А не з таўшчэзных кніг,
Што страшны холад
Для душы паэта.

Але ўжо тыя,
Хто пабачыў нас,
Напэўна, праўду скажуць,
Фальш адгоняць.
Мы не збіраліся
Шалёна на папас,
Былі ўсім роднымі
І ўчора і сягоння.

*1975*

## АСЕННЯЯ МЕЛОДЫЯ

Скрозь лісце мокрае,
На сцежках лужыны,
Скрозь хмары цёмныя
Ўкрываюць небасхіл.
Бярозы белыя,
Вятрамі спуджаны,
Ў зямлю ўпіраюцца
Што маюць сіл.
Аж правады гудуць,
Імжу страсаючы,
Аж лозы хіляцца
Над рэчкаю да хваль.
У вырай гусі
З крыкам адлятаючы,
Тугу пакінулі,
І смутак свой, і жаль.
А мне ўжо мроіцца
Вясна з пралескамі,
Здаецца, водарам
Дышу зялёных траў.

Нібы ізноў іду
Я тымі сцежкамі,
Якія добра так
Калісьці знаў.
Там я не выказаў,
У дні кіпучыя,
Тых майскіх дум,
Якімі заўжды жыў.
Іду пагоркамі,
Іду над кручамі,
Уніз спіхаючы
Струхнелыя лаўжы.
А сэрца зноў маё
Гарыць жаданнямі
Дарыць цяпло душы,
Усё як ёсць аддаць.
Здаюцца прывідам,
Здаюцца зданямі
Асіны кволыя,
Што ўводдалі стаяць.
Лес зліўся з хмарамі,
З імжою змрочнаю,
Палаюць гронкі
У засені рабін.
Вятры халодныя,
Вятры паўночныя
Слязінкі-кропелькі
Трасуць з галін.

*1975*

## НЕ ПАДГАНЯЙ МЯНЕ, СУРОВЫ КАЛЯНДАР!

Не падганяй мяне, суровы каляндар!
Старэць не ўмею, а душою маладзею.
Мяне ўздымаюць крылы светлых мар,
У сілу іх не страціў я надзею.
З вышыняў глянуць прагну на Зямлю,
Падобную да казачнага дыску,
На кропельку на ёй, якую так люблю,
Краіну Беларусь — маю калыску.

*1975*

## ДАРОГАЮ ДА ЛЕСНІКА

Клубочак дыму шмат што нагадаў,
Ён насмаў рвецца на ускраі лесу,
Сасонак стромкіх маладзенькіх чарада
Стаіць самлелая ад дзіва-інтарэсу.

Даўно не бачыў сябра-лесніка,
Іду заснежанай ад станцыі сцяжынай,
Укрыта лёдам сіняя рака,
Укрыты вербы покрывам сняжынак.

Ля моста мноства цёмных катлавін,
Сляды вайны жыццё яшчэ не сцерла.
Калісьці з яру, з зарасляў лагчын
Гарматы выстаўлялі свае жэрлы.

Здаецца блізкім домік лесніка,
А да яго зусім яшчэ не блізка.
Лічыў жывымі многіх, іх шукаў...
Імёны іх глядзяць на ўзгорку з абеліска.

Імёны мармур захавае на вякі,
А ў сэрцы — захаваюцца да смерці,
Бо выпаў лёс сябрам маім такі,
Што іх з жыцця не вырваць і не сцерці.

Даўно не бачыў сябра-лесніка,
Лясны салдат пра многае раскажа.
Укрыта лёдам сіняя рака,
Над домам дыму тоненькая пража.

*1975*

## КАТЭДЖ ПАСТУХА

На ліпе ля узгорка бусел жыў,
Гняздо аддаўна ім старанна звіта.
А побач хата. Знатны старажыл
Таксама час праводзіў самавіта.

Ён слыў вядомым у калгасе пастухом,
Усё Палессе знала яго статак.

Рашылі даць старому новы дом,
Каб ён адчуў у ім і роскаш, і дастатак.

Каля ракі катэдж двухпавярховы рос.
Пад'езд — асфальт. Паркан наўкол, газоны.
На якасць і камар не падаткне свой нос,
Усё тут мае свежасць, новыя фасоны.

А колькі сонца ў вокнах! На балкон
Як ступіш, дык відаць адтуль паўсвету.
Пастух садзіцца часам на услон,
Каб кнігу пачытаць або газету.

Здаецца, што смуткуе часам па старым,
Падойдзе на загончык, дзе стаяла хата,
Тут дзед з бабуляю памерлі без пары,
Тут бацька вырасціў яго і брата.

Смяюцца ўнукі. Ходзіць да буслоў
Наш родненькі на нейкія сакрэтныя размовы.
Рукой дакнецца да сівых вусоў,
Далонню лоб кране, папраўіць пальцам бровы.

Не па старым сумуе і глухім,
Каму патрэбна тое, што аджыта?
Ён не шукае заімшэлае страхі
І спарахнелых сцен, шалёўкаю закрытых.

Тут столькі гора, болю пераждыў,
Тут столькі страшнага, няшчаснага пабачыў.
Успомніць, сэрца рэжуць невядомыя нажы
І вочы самі падсвядома плачуць.

Усё змянілася. А белыя буслы,
Як сотні год таму назад, шчасліва кружаць,
І плешчацца вада ў рацэ кіпеннем злым,
І сцелецца туман пад вечар, нібы кужаль.

Душа, як кніга у старога жыхара,
У ёй гісторыю радзіма запісала:
І невядомага, і страшнага гара,
І светлага, і добрага нямала.

*1975*



На дрэвах шэрань белым кветам,
У белы пух прыбраўся куст,
А хмары снежныя над светам
Зямлю прыкрылі сотняй луст.

Каб сілу меў, тады б плячыма
Развёў заслону шэрых хмар,
І ўсё, што ёсць, што мець магчыма,
Аддаў бы сонцу я, як дар...

Узяўшы яркія праменні,
Я асвяціў бы цэлы свет
І сам упаў бы на калені,
Што дасягнуў адвечных мэт.

*1975*

## РАЗЬБЯР

*В. Альшэўскаму*

Парыў твой творчы быў падобен шторму,
Прачнуўся талент смелы разьбяра.
І дрэва ажыло і набывала форму,
І трэскі пырскалі, і падала кара.
Калі ж адкінуў вострую сякеру
І да разца крануўся стомленай рукой,
Ты сам цяпер у моц сваю не верыў,
Цябе асіліў страшны непакой.
У пошуках прайшло імклівых дзён нямала,
Ты працаваў, тварыў, настойліва вяршыў,
Ды ў творы пэўнай рысы не ставала,
Была задума, не было душы.
Ты не знаходзіў рысы самай простай,
Якую мае кожны мужны твар,
Дае арлінную герою постаць,
Дае душы яго няспынны жар.
Калі ж пабеліць снег кудзёрыстыя скроні,
Тады, праз доўгі час, пазнаеш ты,
Што трэба страшнае пераступіць бяздонне
Да самай блізкай і праўдзівай прастаты.

*1975*

## ЁН ЗАСЛАНІЎ МАЛЮНАК СВОЙ...

Уміг паранілі настрой
Падлеткаў вёрткіх галасы.
Юнак лічыў, што ён герой,
Бег, распусціўшы валасы.

Другі свістаў. З сінелых губ
Тырчалі пальцы, як кручкі,
А трэці лісце з дрэва скуб,
Ламаў нявінныя сучкі.

І вось хлапчук гадоў пяці,
Што крэсліў крэйдай тратуар,
Ускрыкнуў: — Ты куды ляціш?!
Чаго крычыш як на пажар?!.

А сталыя ішлі цішком,
Шапталі: — Золата дзіця...
Маленькі хлопчык, нібы гном,
Кулак дзіцячы моцна сцяў.

Ён засланіў малюнак свой,
Яму аддаў малыш душу.
І анямеў дзікун герой,
Утаймаваў і крык і шум.

*1975*

* * *

Мне вецер расчыніў акно,
Прабег шумлівы праз пакой,
Аж на стале стары блакнот
Падняў трывожны неспакой.

Смялей гартай, мой добры друг,
Дыхні паветрам ніў і траў,
Перагарні старонак круг,
Парадак ціхіх дум папраў.

З табою я гатоў ляцець
У край нязведаных дарог.
Я за сталом не ўмею тлець...
Шумі, трубі ў вясенні рог.

*1975*

## ЦЯСЛЯР

*В. Ждановічу*

Цясляр лязо ў сякеры адтачыў,
Падкінь пушынку, напалам разрэжа.
Панёс на ўскрай ён крокву на плячы,
Без даху дом стаяў яшчэ, як вежа.

Не роўна ліштву маладзейшы ўмацаваў.
Убачыў, прыпыніўся і сякерай грукнуў.
Перарабіў і хлопцу паказаў:
— Глядзі і праяўляй у кожнай справе рупнасць.

Яно б у нас сышло і гэта так,
Кажу табе без злосці і прыдзірак.
Але ж сумленне дзе? Ты ж не лайдак.
Рабі, каб шчылін не было і дзірак.

Прыбі не так, не гэтак падгані,
Глядзіш, і ўцягнешся, хлапчына, ў абыякасць.
І недаробкі не абгоніш на кані,
І ў бездань паляцяць і хараство і якасць.

А я, пра хараство пачуўшы сказ,
Прыпамятаў, як некалі цяслярыў,
І у мяне ж здаралася не раз,
Рабілася не так, як думаў я і марыў.

Спачатку адтачы да немага лязо,
Цяшы, каб гэблям не было дзе правіць.
Раз адпілуй, прымерай сто разоў,
І пойдуць і ў цябе, як і ў старэйшых, справы.

*1975*

## НА ВІЛКАЎСКІХ КАНАЛАХ

З-пад вясла ўзняліся пырскі,
Залацістых кропляў веер,
У дзяўчыны шлях не блізкі,
Ветрык светлы чуб развеяў.

Ходзяць вёслы хутка, жыва,
Мкне стралою быстрай лодка,
А насустрач тарапліва
На чаўне плыве малодка.

Поўны кош стаіць расады,
Ля яго у скрынцы кветкі.
Расказаць навіны рады
Гаварлівыя суседкі.

Весялушкі-сакатушкі
То смяюцца, то рагочуць,
Часам шэпчуцца на вушка,
Тут размоў на дзень, да ночы.

Абарваліся размовы,
Нібы суха стала ў роце.
На чаўне шырокім новым
Едзе бабка, бабка Моця.

— Ну! Канал загарадзілі!
Хоць лупі вяслом па карку.
Што, яшчэ не ўсіх абмылі?
Знаю кожную пляткарку.

З цёцяй Моцяй не да спрэчак,
Бо такіх на свеце мала.
Абарвалася сустрэча,
Стала ціха над каналам [1].

*1975*

---

[1] Вілкава — дунайскі гарадок на каналах.

## НА ВОСТРАВЕ СТАРЭНЬКАЯ КАПЛІЦА...

На востраве дунайскім шэрая капліца.
Спынілася. Куды крыжы ёй несці?
Наўкол вада. Тут можна праваліцца.
Стаіць і, як малых, яна на карку несціць.

На цвінтары бабулі з кветкамі ў падолах
Прыйшлі здалёку гуртам на памінкі.
Гудуць, варушацца, як днём лагодным пчолы,
Слязліва моляцца набожныя румынкі.

Спакойна спяць пад помнікам салдаты,
Іх боль старэнькіх матак не кранае.
На сценах не адной замшэлай хаты
На фота іх усмешка, як жывая.

На востраве дунайскім шэрая капліца.
У многіх месцах мур кранулі кулі.
Яшчэ нямала год і плакаць, і маліцца,
І кленчыць будуць добрыя бабулі.

*1975*
*Дунай, борт цеплахода «Якуб Колас»*

## У ДЫЯМЕНТАХ НЕЗЛІЧОНЫХ ТРАВЫ

Закончу кнігу, прынясу
Ў яе [illegible] духмяных траў расу
І надвячорны колер гаю,
А болей што, я сам не знаю...
*Тудор Аргезі («Слова»)*

Для хараства хіба знайсці мне мерку...
Буркуюць галубы у хмызняках высокіх,
Любуецца вярба ў Дунай-люстэрку,
І будзіць хвалі быстрай лодкі рокат.

У дыяментах незлічоных травы.
Да сонца кветкі нагінаюць плечы.
Яно ж кідае погляд ім ласкавы,
Самотна марыць аб вялікім нечым.

А на руінах мшыстых камяніцы
Падняўся вінаград, нясе з сабою кветы,
Шукае выступ, каб ямчэй абвіцца
І паказаць сябе ўсяму навокал свету.

Жаўрук павіс на нітачках праменняў,
Не хоча ў небе патанаць бяздомным,
Аж хмуры вяз прыгнуўся ад здзіўлення
І голле распасцёр на светлыя загоны.

Асколак заржавелы даўняе гранаты,
Стары, а між каменьчыкаў ён навасёлам,
Мне прыгадаў падзей вялікіх даты,
Калі палалі гарады і сёлы.

*1975*

## О, ДОБРЫ КАЗАЧНІК НАШ ХАНС!

*Вялікаму датчаніну*
*Хансу Крысціяну Андэрсену*

Бываў я ў розных гарадах,
Наведаў вёскі, сёлы.
Ёсць людзі ў латаных штанах,
Але ж не бачыў голых,
А галышамі па зямлі
Часамі ходзяць каралі.

І рагатаў я ад душы,
Смех чуўся на паўмілі,
Калі такія галышы
Каля мяне хадзілі.
Мне казачнік, датчанін Ханс,
Прывёў вяльможу напаказ.

Кружылася мая радня,
Як ястраб над плячыма,
Бо на брыдкое качаня
Глядзеў не іх вачыма.
І паказаў мне добры Ханс,
Надыдзе праўды светлы час.

Я знаю, дацкі востраў Фюн
Майстрам маны не любы,
І не адзін прайдоха-ўюн
Склаў для прakляцця губы.
О, добры казачнік наш Ханс,
Прыходзь, гасцюй часцей у нас.

Бываў я ў розных гарадах,
Наведаў вёскі, сёлы.
Быў парабкам маленькі Стах,
Але не быў ён голым.
А галышамі па зямлі
Паны хадзілі, каралі.

*1975*

## ПАМЯЦІ ВЕРЫ ХАРУЖАЙ

Клуб «КІМ». Тут «Маладыя араты» [1]
Пакойчык меў і цёмны і халодны,
Задорна разгараліся юнацкія дэбаты,
І голас тут яе быў сціплы і лагодны.

Яна умела справай сэрцы запалоніць,
Гарачым словам заклікаць наперад,
Здаецца, бачу зноў яе я сёння,
Зноў перад намі камсамолка Вера.

На мінскіх вуліцах яе не стала.
А можа, едзе, стоячы, у звонкай концы?
Ды у яе ж заўсёды часу не хапала,
Спяшалася, у клопаце была бясконцым.

Імя Харужай я штодзённа чую,
Адклікнецца, напэўна, спыніцца на скверы.
Сяброўку простую і дарагую
Шумлівыя акружаць піянеры.

---

[1] На Камсамольскай вуліцы, у клубе «КІМ», знаходзілася ў пачатку дваццатых гадоў рэдакцыя газеты, а пасля часопіса «Маладыя араты». Тут часта бывала Вера Харужая, яна прымала актыўны ўдзел у абмеркаванні матэрыялаў.

А ў парку гарадскім удараць барабаны,
І песня «Журавель» працяжна разліецца,
Аж коннік з шабляю, вуглём намаляваны,
З шпалернага абрыўка сокалам рванецца.

Гавораць, затрымалася ў атрадзе партызанаў,
З задання не вярнулася... О, вы не верце.
Яна прайшла лясныя сцежкі і паляны.
Жыве. Пайшла дарогаю ў бяссмерце.

*1975*

## ПЕТРУСЮ БРОЎКУ

Залатая крочыць восень,
Шчодрасцю ўквечана,
А ў мяне радочкаў восем
Для цябе прысвечана.

Я калісь алмазы кратаў:
Рэжуць сталь, не томяцца...
Не злічыць тваіх каратаў,
Што аддаўна помняцца.

*1975*

## ЗВАРОТ ДА МУЗЫ

Муза, ад рыторыкі мяне пазбаў,
Дай мне прастату і болей шчырасці,
Меней лаўраў, больш гаючых траў,
Заміж руж — няхай шыпшына вырасце.

І раешнікі з паэзіі гані,
Плоскія вершы-завітушкі,
На Пегасе — змораным кані —
Не прывозь дрындушкі і частушкі.

*1975*

## ВЯЗЫНКА

Тут салаўі мяняюць часта трэлі,
Чаруюць кожны куст і кожную галінку.
А перапёлкі досвіткам з мурожнае пасцелі
Пераклікаюцца штодзённа безупынку.

Камені нават будзіць звонкі хор птушыны,
На рэчцы аер ускіпае галасамі,
А совы ў дуплах плачуць без прычыны
Або сычы рагочуць сонныя часамі.

Шпак можа перадаць слаўцо людское
І дражніць вераб'ёў і ластавак няспынна.
А на дарозе воз з нязнаным непакоем
Каня рахманага таропіць тут бязвінна.

Тут хаты заваражаны зялёнымі садамі,
Паданні тояць даўнія, старыя,
Тут кветкі ў агародчыках сабраліся радамі,
І хараство і водар іх не скрыеш.

Тут памяць аб дабры ніколі не ўмірае,
Хоць могілкі зусім ад вёскі недалёка,
І песні, складзеныя чараўнічым краем,
Кранаюць сэрцы вастрынёй глыбокай.

Тут спелянала волата хлапчыну маці,
Які, калі падрос, назваў сябе Купалам,
Ён мудрасцю людской краіну узбагаціў,
Тут славу вечную зязюля пракувала.

На кожным кроку адчуваеш чары,
На кожным кроку дзіва ўсюды бачыш.
Душу і сэрца не ўкрываюць хмары,
І подых песні чуецца гарачы.

*1975*

## ЁН ЗАСТАНЕЦЦА ВЕКАПОМНЫМ

*Памяці Івана Мележа*

Змоўк салавей, і гай прыціх,
Асірацелы дуб схіліўся ў полі.
Не зможа больш сюды прыйсці
Сын ціхіх ніў, лясоў ніколі.

Не зможа больш сюды прыйсці
На роднае сваё Палессе...
Хмель тычку моцна абхапіў,
Дадолу кветкі нізка звесіў.

У камячок згарнуўся боль,
Згас голас у зязюлі ў роце,
І спахмурнелі навакол,
Прыціхлі людзі на балоце.

Нечаканае прыйшло
У Глінішчы здалёк расстанне,
Над азярцом, што нібы шкло,
Згубілі вербы яркі глянец.

Зноў ажывуць і лес, і гай
І загавораць неўгамонна,
Пакінуў сын палескі край,
Ды застанецца векапомным.

*1976*

* * *

Цвілі рамонкі па лугах
І васількі у жыце,
І рассцілалася смуга
Пад сонцам у зеніце.

Усё жывое на зямлі
Даўно дажджу чакала,
На кветках сонныя чмялі
Гулі ледзь чутна, вяла.

Адзіны дуб паміж ялін
Прасцёр свабодна плечы,
Сарокі шумна між галін
Спрачаліся аб нечым.

І адступаў лясцамі лес,
І слаліся выгары,
І чорны пень на ўзвышша ўзлез,
Нібы уцёк ад кары.

Трымцелі лісцікі асін
І пляскалі ў далоні,
Ад іх пустых лядачых кпін
Прыкрыў ляшчыннік скроні.

А я угледзеў жоўты мох,
І, пэўна, мне здалося,
Што чую топат ціхіх ног,
Што крочыць полем восень.

Глядзелі кветкі на лугах
На сонца у зеніце,
Неўтаймаваная туга
Схавалася у жыце.

*1976*

* * *

Ля маёй палаты ходзіць смерць,
Я ж тут не адзін, ляжу з сябрамі.
Ноч блудзіла, пачало ўжо днець,
І не выбрала нікога паміж намі.

Ну, а мы, чацвёра, заадно:
Будзем працаваць, дружыць, змагацца.
Сонца усміхнулася ў бальнічнае акно
І пайшло далей свяціць і усміхацца.

*10 мая 1976 г.*

* * *

Губляю з кожным годам я сяброў
І добра ведаю, што век і мой кароткі,
Але ж пакуль яшчэ пульсуе кроў,
Жывуць у памяці калегі-аднагодкі.

Але ж, калі я гляну, навакол
Так многа шчырых, родных, блізкіх,
І часта пісьмы укрываюць стол
Ад тых, каго выносіў я з калыскі.

Адрозніць кветкі рознае пары
Часамі цяжка, нават немагчыма...
Не адчуваю я сябе старым,
Хоць кайстра год цяжкая за плячыма.

*1976*

* * *

Катловішча ад бомб укрылі хмызнякі,
Акопы лесам зараслі зялёным.
І ўжо, здаецца, ўсё было такім,
Як і да дзён страшэнных, векапомных.

Калі ж руку на грудзі палажыў,
На помнік глянуў пры дарозе адзінокай,
Кранулі сэрца вострыя нажы
Нямога болю і тугі глыбокай.

*1976*



## МАЕЙ РЭСПУБЛІКІ СТАЛІЦА

Мне прыгадаўся Мінск стары,
З замшэлымі дамамі і царкоўным звонам,
З бразгучай конкай, што імчалася з гары
І на гару паўзла як мокрая варона.
Дом губернатара на плошчы ля касцёла,
Арол на шыльдзе у астрожным замку,
Спеў жаласлівы жабракоў наўкола —
На цвінтарах царкоўных і ля ганкаў.
Стук малаткоў у нізенькім заводзе,
Шынкі, і корчмы, і засмечаныя рынкі,
Завулкі, дзе гулялі дзеці «на выгодзе»,
А на задворках голас хрыплае катрынкі.

*1984*

* * *

Калі ж людзей Кастрычнік акрыліў
І край змянілі Леніна законы,
Кавалі спешна, дружна кавалі
Для новае зямлі плугі, сярпы, бароны.
І на руінах чорных, і пустэчах
Усталі гмахі фабрык і заводаў,
І творчы подых працы чалавечай
Змяняў краіны воблік год ад году.

*1984*

## КАВАЛАК ГУСЕНІЦЫ

Сталёвы смертаносны конь
Знайшоў і сам аднойчы смерць,
Ляжаў на ўзбочыне,
Гарачай мінай падарваны.
З ім расквіталіся,
Змаглі паспець
Як след расправіцца
Салдаты-партызаны.

Фашысцкі танк даўно
Адвезены на злом,
А збоку, нібы ў сховішча
Завалены, укрыты
У яміне гніллём,
Напоўненай суздром,
Кавалак гусеніцы
Шчэрыцца забыты.

Ён не падкова, да якой
Працягваюць далоні...
Ляцеў калісьці танкавы табун,
Каб растаптаць усё і сцерці.
Сталёвыя раўлі,
Грымелі грозна коні
І не знайшлі нічога,
Апроч смерці.

*1974*

## КРЫЛАТАМУ МАЛЕНСТВУ

У кожнага шчаслівы твар
І позірк быстралётны.
О, колькі руху, колькі мар
У птахаў бесклапотных.

Іх шлях да сонца і да зор,
У мірны свет шырокі.
Для іх — нязведаны прастор:
Лугі, лясы, аблокі.

Іх засланяе ад нягод
Радзіма шчодрай ласкай.
Няхай няспынна з году ў год
Жыццё іх будзе казкай.

*1970*

## НЕ ПАМЁР САЛДАТ
## У ПАМЯЦІ НАРОДНАЙ

На магіле невядомага салдата,
На пліце з суровага граніту
Дарагіх вянкоў было багата,
Стужкаю жалобнай апавітых.

Панавала цішыня. Маўкліва
Надпіс гаварыў пра час далёкі.
Над зямлёй свабоднай і шчаслівай
У далёкі край плылі аблокі.

Дзеці акружылі памятны куточак.
Цішыня прапала ад гамонкі.
Кожны пакланіцца нізка хоча,
Васількі ўскладае і рамонкі.

Не памёр салдат у памяці народа,
Подзвігу яго ніколі не памерці,
Хоць бягуць няспынна год за годам,
Каб сляды часоў далёкіх сцерці.

Над зямлёй вясенняй сонца свеціць,
Васількі цвітуць, цвітуць рамонкі,
І чуваць, як голасна спяваюць дзеці,
Шчасцем поўніцца іх голас звонкі.

*1978*

## НА ВУЛІЦЫ ЯНКІ КУПАЛЫ

Калі праходжу вуліцай,
Дзе жыў Купала,
Дзе вербы шэпчуцца
Над Свіслаччу-ракой,
Здаецца, сцежку напаткаў,
Якой хадзіў, бывала,
Зайшоў у дом паэта,
У яго пакой.

— Дзень добры!
Вас даўно ужо не бачыў.
Я крышку, мне здаецца,
Пастарэў.
У Вашым садзе
Ўсё цяпер іначай,
Нязменнай постаць Ваша
Засталася паміж дрэў.

Але вачам сваім
Не хочацца даць веры,—
Тут папараць
Імгненна зацвіла.
Вакол людзей сабралася,
Як па кіпучым скверы,
Іх кветка шчасця
У сад вядомы прывяла.

Мо гэта сон?!.
Ды бачу, як з крыніцы
Струменьчык жыватворнае
Рассыпаўся вады.
Я не адзін прыйшоў
Паэту пакланіцца —
Па слова неўміручае
Народ ідзе сюды.

Я не адзін прыйшоў,
А ўся краіна,
З усіх рэспублік
Вольныя сыны.

І ад мяне ж такі
Сардэчны, як ад сына,
Паклон прымі,
З якім прыйшлі яны.

*1972*

## ТЫ ЛЮДЗЯМ ЖАДАЛА ШЧАСЦЯ

На адхоне, ля паўстанка,
Я сустрэў яе той раз.
Незнаёмая смуглянка
З кветак высадзіла сказ.

Пажадала людзям шчасця,
Каб на свеце быў спакой.
Клекатаў на мірнай хаце
Бусел той.

І цяпер я чую клёкат,
Хоць даўным-даўно было,
Ля чыгункі бачу блёкат
І маўклівае сяло.

Шчасця ты і мне жадала,
А забрала мой спакой.
Сцежак пройдзена нямала
Ўжо з часіны даўняй той.

Ды застаўся незабытым
І паўстанак, і адхон,
Загарэлы твар адкрыты,
Вочы сінія, як лён.

*1971*

## ГУЧАЦЬ,
## НЕ ЗМОЎКЛІ СТРУНЫ

*Памяці народнага артыста СССР*
*Іосіфа Жыновіча*

Не веру ў смерць.
Гучаць, не змоўклі струны.
Хто стужку чорную
Паклаў наверх цымбалаў?..
Руку падняў прыветліва...
Настрой кіпучы, юны.
Ах, хто пасмеў сказаць,
Што роднага не стала?
Ён чараваў душу. Мог сэрца
Каменнае сагрэць адразу.
Аддаў народу скарб,
Які шукаў гадамі,
Ён не памёр —
Лічу я за абразу
Гаворку сумную
І крыўдную між намі.
Я чую, шуганула песня
У нямое паднябессе.
Я адчуваю боль і радасць,
Смутак, летуценне...
Не веру ў смерць.
З прыветлівай усмешкай
Да струн жывых
Кранаюцца жывыя рукі.
Над Свіслаччу ступае
Непратоoранаю сцежкай,
Чароўнай песні льюцца
Па-над краем гукі.

*1974*

## ЗІМЫ ХАЛОДНАЙ ПАСЛАНЕЦ

Па мяккай коўдры лісцяной
Ступае ціха лістапад,
На небасхіле лес сцяной
Стрымаць, здаецца, сонца рад.

Але ў вясёлкавым агні,
У кожным месцы з рань-пары,
Куды ні глянь, што ні крані,
Гараць сняжынкі-ліхтары...

Зімы халоднай пасланцы
Уміг губляюць прыгажосць.
І восень зноў ва ўсе канцы
Ступае, як жаданы госць.

Наўкол багаты лістапад,
Наўкол спакой і цішыня,
Глыбокі сіні далягляд
Увесь зямны абшар абняў.

*1973*

## НАМ КРЫЛЫ ЧАС НЕ АПАЛІЎ

Чытаю пісьмы ад сяброў
З Алтая і Саянаў,
І закіпае часам кроў
Раптоўна, нечакана,
Што гэтак рэдка ім пішу,
Нібы пісаць не ўмею,
Што ўжо самотнасць у душу
Крадзецца спрытным змеем.

Мне помняцца ледавікі,
Гуў вецер ашалела.
Хацеў сапхнуць нас да ракі,
Што рвалася, шумела.

А мы стыхіям грозным тым
Дарог не саступалі
І нашу моц між скал крутых
Адважна гартавалі.

Не астудзілі маразы
Парывы сэрцаў нашых,
І лёгкіх лыжаў палазы
Круты абрыў не страшыў.
Мы памятаем, выпаў снег
На маладыя скроні,
Ды не былі ніколі, не,
Халоднымі далоні.

І адчуваем поціск рук,
Іх цеплыню і шчырасць,
Мы не згіналіся у крук
І не шукалі вырай.
І дзе б мы сёння ні былі,
Адзін другога ўспомнім,
Нам крылы час не апаліў,
Не згасіў дружбы промень.

*1978*

## ВЫЙШЛА ВОСЕНЬ З-ЗА ЎЗГОРКАЎ РАНА

Памірала лета. Перад сконам
Паднябессе ўкрыла сінім парасонам,
Захаваць хацела свае рысы.
А палын сухі на ўзвышшы лысым
Шалясцеў і ганьбіў гэту моду.
Цяжка ашукаць спрадвечную прыроду.
І тады неспадзявана, нечакана
Выйшла восень залатая рана,
Жоўтыя развесіла наўкола фарбы,
Плён багаты спалучыла, дзіва-скарбы,
Хмары паплылі, ды без маланак, грому,
І прагналі спёку, супынілі стому.

*1978*

## ЯК СОНЦА, ХАРАСТВО ІСКРЫЦЦА

Хоць звечарэла, цемені няма,
На небе месяц, і мігаюць зоры,
Дзяркач не можа голас свой стрымаць,
Крычыць, і сон яго ніяк не зморыць.

Калі туман пад раніцу ўсплыве,
Прыкрые сенажаці лёгкаю хусцінай,
Усё замрэ у хмызняках, траве,
Наступіць анямелая хвіліна.

Пасля ўсё закіпіць і ажыве,
І загаворыць радасцю зямліца,
І не прыкрые больш ніхто навек,
Бо харасгво, як сонца, заіскрыцца.

*1978*

## Я Ж ЗБЯРУСЯ Ў НЕВЯДОМУЮ ДАРОГУ

Калі выпраменіць сэрца цеплыню дарэшты
І ў грудзях зімовы застанецца холад,
Крыкну сонцу: «Дарагое, дзе ж ты?!»
І пачуе ўсё жывое тут наўкола.

Людзі, кветкі, вербы над ракою,
Птушкі, матылі, чмялі і пчолы,
Пэўна, страпянуцца з непакоем...
Хіба ж не любіў я гарады і сёлы?!.

Тую песню, што спяваў калісьці,
Вусны маладых дзяўчат адновяць,
Ветрык шугане ў зялёным лісці,
Залюляюць хвалі ў сіняй бухце човен.

Зварухнуцца васількі ў зялёным жыце,
Высунуцца да глухога логу,
Сонца цеплынёй заззяе у зеніце,
Я ж збяруся ў невядомую дарогу.

*1978*

## ЛУІ АРАГОН У МАСКВЕ

Не неба зорнае над велічнай сталіцай,
Не гмахі новыя з агнямі светлых вокан,
І не гасціннасці спрадвечны звычай,
І рух машын, што мігацеў навокал,—

Людскія вочы ўсхвалявалі Арагона,
Гісторыю ў іх прачытаў народа,
І ў памяці паэта, у душы ягонай
Прабегла рэвалюцыя імгненна год за годам.

За шэсць дзесяткаў год, шчаслівых і нялёгкіх,
За шэсць дзесяткаў год, вядомых свету,
Прыдбалі людзі сілу, што не снілі продкі,
Свабоды сонца асвяціла ўсю планету.

Парывам маладым прачнулася натхненне,
Да светлых вобразаў адкрылася заслона,
І новыя радкі ў адно імгненне
З'явіліся у сэрцы Арагона.

*1978*

## І Я ЦЯПЛО ДЛЯ ЎСІХ ДАРЫЎ

Не раз ракою плыў адзін
Праз бурныя парогі,
Не раз праз глуш тайгі хадзіў,
Не знаючы знямогі.

Не раз я думаў пра сяброў,
Якіх даўно не бачыў,
Спакою не давала кроў,
Пякла агнём гарачым.

Шугаў увысь, гарэў касцёр,
А ноч была бясконцай:
Я ранкам рукі распасцёр,
Калі убачыў сонца.

Уцяміў я з тае пары,
З часоў, людзьмі забытых,
Што я цяпло усім дарыў
Для ўсіх душой адкрытай.

Я адчуваю на плячы
Дасюль рукзак паходны,
Іду, імкнуся ўдалячынь,
Спакойна жыць нязгодны.

*1978*

## Я ЗГУБІЎ СТАРУЮ СЦЕЖКУ ДА СЯЛА

За аселіцай кудзеляцца снягі,
За аселіцай мяцеліца гудзе,
Дуб не ведае спакою і тугі,
Пасмы снегу рве магутны чарадзей.

Адзінокі ў шумным полі, як і я,
Вось, здаецца, ён рванецца і ўцячэ.
Дзе ж знаёмая сцяжыначка мая?
Праціраю снег з заснежаных вачэй.

За ваколіцай, мне помніцца, я домік знаў.
Дык няўжо яго мяцеліца змяла?
Роў глыбокі... Катлавіна — баразна...
Ах, куды ж ты мяне, памяць, прывяла?

Больш не ўбачу светлы ганак, ціхі дом.
Яго чорная крывавая мяцеліца змяла.
Не ўкрывай снягамі, вецер, быльнягі
старыя, лом,
Я згубіў старую сцежку да сяла.

*1977*

## БЫЛА ВЯСНОЙ НАПОЎНЕНА ДУША

Ніхто мяне спяваць не прымушаў,
Сама ад сэрца музыка гучала,
Была вясной напоўнена душа,
Ты здзіўлена сядзела і маўчала.

Маўчалі ў наквецці і белыя сады,
Схіліліся ў задуме стройныя таполі,
Я памятаю, ты, каханая, тады
Сказала, што не ўбачымся ніколі.

На захад сонца спешна наплыло,
І вечар запаліў на небе зоры,
І выліў месяц яркае святло
З-за шэрай хмары, з-за нябеснай шторы.

Гукнуў цягнік за цёмнымі лясамі,
А я прыйшоў у свой глухі завулак.
Не ўпершыню бывала так часамі,
Што ты рабілася чужою і нячулай.

Але ж цяпер праз сотні вёрст нязнаных
Адчула боль былы, мой горкі смутак,
Прыслала шчыры ліст, кароткі, нечаканы,
Ён зведаў шмат дарог, яму нямала сутак.

Туды ён прылятаў, дзе белыя Саяны,
Дзе рвуцца ашалела вадаспады,
Зноў, як калісь, ішоў я ўсхваляваны.
Не пелі салаўі. Былі цяпер каляды.

*1979*

## ПРА СМАЛЕНШЧЫНУ ЗАБЫЦЦА НЕЛЬГА

Ад зямнога прыцяжэння адарвацца марыў,
Скаваны любоўю быў нязмернаю зямною.
У нязнаны космас паляцеў Гагарын,
Клікаў арлянят ён смелых за сабою.

Першы крок шматмільны быў нялёгкім...
Зверху невялічкімі здаліся горы, акіяны,
Але ж у прасторы, светлым і далёкім,
Ад зямлі не быў ён адарваны.

Хіба ж пра Смаленшчыну забыцца можна,
Пра лясы, лугі, крыніцы, рэкі?
На сваю Радзіму, знае кожны,
Ён глядзеў, не мог прыкрыць павекі.

Славу ён аддаў вялікаму народу,
Аддаваў яму душу сваю і сэрца,
Дык таму жыве ён год ад году,
Памяць у стагоддзях не сатрэцца.

*1979*

## ВЕЧНА БУДЗЕМ ЧУЦЬ МЫ ПАЗЫЎНЫЯ

Ты наш родны, сінявокі, чарнабровы,
Светлым шлейфам след удаль адзначыў...
Не шуміце, цёмныя дубровы,
Я самотна і без вас паплачу.
Боль і смутак цёплых слоў не гасне,
Вочы, горкую слязу стрымайце!..
Мы жадалі на дарогу шчасця,
Чорны ж крэп гаворыць нам аб страце.
Хай жа сэрца безнадзейна больш не ные...
Ён ляціць, яшчэ жыццём натхнёны.
Вечна будзем чуць мы пазыўныя
У касмічным посвісце шалёным.

*1971*

## СПАТКАННЕ Ў ТАШКЕНЦЕ

*Памяці Сцяпана Ліхадзіеўскага*

Ты паказаў руіны, дзе твой дом стаяў,
Арык маленькі з светлаю вадою,
І я адчуў, што тут бяда твая
Была агульнаю народнаю бядою.
Засох, памёр на тычках вінаград,
Прысыпаны сухім саманным друзам.
Твая бяда, ташкенцкая бяда,
Была няшчасцем усяго Саюза.
І ўвесь Саюз твой горад аднаўляў.
Па Коласавай вуліцы з табой хадзілі,
Паўсотні год з табой я сябраваў,
І першы раз, здалося, заблудзілі.
Ішлі між маладых, квітнеючых прысад,
Дзе велічна пасталі камяніцы.
Іх будавалі Мінск, Масква і Ленінград,
Тут шчодрасць братняя не ведала граніцы.
Спыніліся мы ля музея Наваі.
Цябе цікавілі навіны з Мінска.
Я радаваўся поспехам тваім,
І Беларусь была зусім, здалося, блізка.
Цяпер на Случчыне тваёй зіма.
На вуліцах, на дахах белы кужаль.
Чакаў, прыедзеш... А цябе няма.
І не прыедзеш, мой далёкі дружа.

*1979*



## *З крымскага сшытка*

### 1. СТАРЫ КРЫМ

Тут Багдановіч [1] сцежкі абхадзіў,
Маліўся хараству у людпай адзіноце.
У час такіх хвілін, у час такіх гадзін
Натхнёныя радкі ядналіся ў блакноце.

Ён імі жыў, кіпеў імі, гарэў.
Зялёных гор свяціліся абрысы.
У зараслях садоў чуў салаўіны спеў,
Глядзеў на задумёныя на ўзвышшы кіпарысы.

Калі спякотны дзень паэта ў цень
Зайсці, знямоҗанага, на хвіліну змусіў.
У марах ён, акрылены, ляцеў
На гоні роднай і далёкай Беларусі.

*1978*

### 2. УВЫСЬ, УВЫСЬ НА АРГАМЫШ [2]

Світала. Над гарой зара
Ужо заззяла, як касцёр.
Максім сказаў: «Пара, пара!»
Міжвольна рукі распасцёр.

---

[1] Вялікі беларускі паэт Максім Багдановіч пэўны час жыў у г. Стары Крым.
[2] Вялікая гара каля горада Стары Крым.

Павольна падымацца стаў
На Аргамыш крутую ўверх.
Цяжкая кожная вярста,
А штось тароніць і заве.

І вось вяршыня. Далягляд
Бязмежны. Сонейка гарыць.
Максім сваёй прагулцы рад,
Глядзіць уніз на Крым Стары.

У цёмнай зелені сады.
Кароў пастух у поле гоніць.
Пабеленых дамоў рады...
Іржуць каля Чурук-Су [1] коні.

Як лёгка дыхаць. Ды уніз
Імкнецца ён хутчэй спусціцца.
На бераг куст ажыны звіс,
І над ракою церн іскрыцца.

Хоць мутнаватая рака,
Але ж ёсць месца, каб памыцца.
І апускаецца рука
Ужо ў бурлівую вадзіцу.

Хутчэй за стол. Хутчэй у дом.
Які ж прыгожы сёння ранак!
Там, на акне, раскрыты том,
Блакнот з радком недапісаным.

А Аргамыш бялее зноў.
Якія сонечныя промні!
Расчынена у сад акно.
Максім далёкае успомніў...

А салавей каля ракі
Пяе на ясені высокім,
У памяці ужо радкі
Аб родным, блізкім і далёкім:
«У Максіма на кашулі вышытыя галубкі;
Я за тое вышывала, што цалуе губкі...»

*1981*

---

[1] Невялікая рачулка.

## 3. ПІСАЎ АПОШНІ ВЕРШ

ТРЫЯЛЕТ

Пісаў апошні верш крывёй душы,
Паэт у памяці народнай не забыты.
Астанкі, а не творы, камень прыдушыў.
Пісаў апошні верш крывёй душы.
Не вечнымі бываюць на магілах пліты,
Глянь, вецер мармур раскрышыў.
Пісаў апошні верш крывёй душы,
Твор, вечнай славай апавіты.

*1981*

## 4. КАЛЯ МОРА, У ДАЛЁКАЙ ЯЛЦЕ

Ёсць на покаце гары магіла,
Каля мора, у далёкай Ялце.
На зямлі пяшчотнай, многім мілай,
Ёсць на покаце гары магіла.

Зоры, вы над ёй святла не гасце,
Сонца, промні пасылай магутнай сілай!
Ёсць на покаце гары магіла.
Ружы белыя, на ёй вы не ўмірайце!..

*1981*

## 5. ЛІСТ ДА БАЦЬКІ З КРЫМА

ТРЫЯЛЕТ

Душою за народ хварэў,
Усход ён бачыў яснымі вачыма.
Хоць смерць стаяла за плячыма,
Душою за народ хварэў.

Жыць у няволі немагчыма.
Нядоля, цемра хай памрэ.
Душою за народ хварэў,
Апошні ліст пісаў ён з Крыма.

*1981*
*Ялта*

## 6. «...Я НЕ САМОТНЫ, Я КНІГУ МАЮ...»

Спяваў салоўка песню маю,
Раса на травах, як сляза.
«...Я не самотны, я кнігу маю...» —
Паэт суцешана сказаў.

Хоць больш жарствою ціснуў грудзі,
Ён неспакоем не даймаў.
Ёсць кніга. Верш паходняй будзе.
У думках роспачы няма.

Стаяць панура кіпарысы,
А сонца ззяе з-за гары.
Лятаюць чайкі па-над мысам,
Крычаць балюча з той пары.

*1981*
*Ялта*

## 7. НЕ ЗГІНЕ НАД ДНЯПРОМ ТВОЙ СЛЕД

*Памяці Аляксея Пысіна*

Агонь душы тваёй кіпучай,
Твой гнеў, парыў, любоў, узлёт
І голас песні неўміручай
Пачуў вялікі наш народ.
Ішоў у бой адразу з бою
І зведаў боль нялёгкіх ран,

А з дзюбай хцівай над табою
Не раз кружыў вяшчун-груган.
Ты з Магілёвам неразлучны,
Застаўся над Дняпром твой след.
Жывым ты крочыш па-над кручай,
Ідзеш няспынна ў новы свет.

*29 жніўня 1981*
*Кактэбель*

## 8. НЕ КОЖНЫ Ў РОДНЫ ДОМ ВЯРНУЎСЯ

Я восень скараціў, прадоўжыў лета,
Ля бухты Кактэбель на беразе я жыў.
Зямлі я крымскай дзякую за гэта,
Магутны подых хваль мяне зачараваў.

Тут сердалікі не шукаў і не збіраў агаты,
Пабачыў шмат мясцін, дзе галаву схіляў.
Куток маленькі, а падзеямі багаты,
Крывёй заліта крымская зямля.

Сыны Расіі, Украіны, Беларусі
Грудзямі засланялі гэты край.
Не кожны ў родны дом прыйшоў, вярнуўся,
Навекі засланіўшы Крым ад ашалелых зграй.

Я восень скараціў. А хіба час скароціш?
Падзеі сёння аднавіў, як чарадзей.
І далягляд празрысты, чысты, сіні
Няспынна ў невядомае мяне вядзе.

*1981*
*Кактэбель*

## 9. НЯХАЙ ПАНУЮЦЬ МІР, СПАКОЙ НА СВЕЦЕ

Чаго шукаеш у глыбінях мора, месяц,
Чаго ты углядаешся у бездань усю ноч?
Задумаўся, што вецер днём здаўмеўся
Магутнай хваляй выкінуць на бераг корч.

Яшчэ нядаўна рос вялікі над абрывам
Зеленалісты ясень паміж скал,
А навальніца шквалістым парывам
Зваліла дрэва ў вір кіпучых хваль.

Ушчэнт паломаны былі сукі і голле,
Астаўся толькі чорны каранасты пень.
Маўчыць, знямела наваколле,
Яшчэ не скора гляне ясны дзень.

Палоскай светлаю пад зорамі ракета
Мігнула шпарка. Дзе ж яна? Няма.
Няхай пануюць мір, спакой над светам,
І сіла знойдзецца навалы затрымаць.

Чаго ўглядаешся з вышыні, месяц?
У шэрых поцемках, што хочаш ты знайсці?
Праменні не свае, чужыя ты развесіў,
Чужым святлом ты мора асвяціў.

*1981*
*Кактэбель*

## 10. КАЛЯ МАГІЛЫ АЙВАЗОЎСКАГА

Армянскіх літар завіткі спляліся,
Трымае іх спакойная магільная пліта.
Кароткі сказ: «Смяротным ён радзіўся
І пасля смерці несмяротным стаў».

Мастак не раз пісаў і штыль, і штормы,
«Дзевяты вал» гудзе на палатне...
Я веру: прыйдзе новы геній, непаўторны,
Аб векапомнай страшнай расказаць вайне.

Напіша шторм крывавы і магутны.
Аб тым, як тут матроскі рваўся вал,
Раскажа ён пра бітвы і пакуты,
Пра таямніцы невядомых крымскіх скал.

*1978*

## 11. АДЖЫМУЖКАЙСКІЯ КАМЕНЯЛОМНІ

Пра гэта тысячы гадоў
Народы будуць помніць,
У памяці людской
Жыць будзе ліхалецце.
У цемені сырой,
Глухой каменяломні
Ад газу задыхаліся
Салдаты, старцы, дзеці.
Грудзьмі малых прыкрыўшы,
Падалі жанчыны,
Зямля стагнала,
Рассыпаўся і калоўся камень,
Яны, бясстрашныя, ўміралі
За цябе, Айчына,
Жывымі, бессмяротнымі
Застануцца вякамі.
Не змыць злачынства
Вылюдкам ніколі,
Не змыць крыві фашыстам
З рук паганых.
Тут вецер стогне
На сухім пясчаным полі,
Тут боль, і смутак,
І жывыя раны.

*1978*

## 12. ЯКОЕ ШЧАСЦЕ Ў НЕБА ЎЗВІЦЦА

Над сіняй бухтай чайкі кружаць.
Няўжо надыдзе навальніца?
Бялее мора, нібы кужаль,
Над сіняй бухтай чайкі кружаць.

Якое шчасце ў неба ўзвіцца,
Прагнаць смяротную нядужасць.
Над сіняй бухтай чайкі кружаць.
Зазяла воддаль бліскавіца.

*1981*

## 13. ПРАЗ СТАГОДДЗІ

У цёмнай глыбіні марскіх прастораў
Нямала таямніц нязведаных нікому.
Абломкі караблёў ляжаць між друзу-лому,
Цяжкія якары глынула бездань мора.
Было даўно, вядома, што не ўчора:
Спяшаўся карабель з далечыні дадому,
Цяпер на дне ляжаў не знаны ён нікому.
Забыліся няшчасце, роспач, гора.
А шторм кіпучы выкінуў кавалак борта,
На ім пазначаны быў надпіс порта,
Дзе быў прыпісаны. Вядомай стала прыстань.
Знайшлі імёны і матросаў, капітана.
Хоць год прайшло не менш як трыста,
Падзея яснай стала нечакана.

*1981*

## 14. МІЛЫ ВЕРНЕЦЦА

Не стрымала слёз дзяўчына,
Карабель прычал пакінуў,
Мора больш салёным стала,
Бо сляза ў ваду папала.

Але ж верыцца,
Мілы вернецца.
Куды ж дзенецца?..
Праплыве яе каханы
Усе моры, акіяны,
І не знойдзе хлопец лепшай,
Бо была адзінай, першай.
Ля прычала ні душы.
Сонца, слёзы асушы!
Глянь, вясёлае, з вышынь.
Пэўна, мілы уздыхнуў,
Вецер хвалі скалануў,
Чайкі крыкнулі над морам
І адно крыклiва ўтораць:
Верыцца, вернецца,
Мілы вернецца.
Ды куды ж ён дзенецца?..

*1981*

## У ЛУЧНАСЦІ ІДЗЁМ АДЗІНАЙ

Азёрны край, цудоўны край,
З прыгожай назвай Зарасай.

Тут Дагучай, тут Авіляй,
Маўчаць сады, шапоча гай,
Шуміць часамі стромкі бор.
Рассыпана, як жменя зор,
Блакітных сонечных азёр,
Прыроды казачны убор.

Наведаў сёння я Літву,
Каб пакланіцца харастау
Яе азёр, зямлі, людзей.

Адна дарога нас вядзе
У заўтрашні вялікі дзень
Людскога шчасця і вясны.
Мы неразлучныя сыны...

У лучнасці ідуць адзінай
Літва і Беларусь няспынна.

*1981*
*Літва, Зарасай*

## І Я ЛЯЦЕЦЬ, КІПЕЦЬ ЖАДАЮ СЁННЯ

Сон агарнуў Браслаўскія азёры,
І сосны прыбярэжныя знайшлі спакой,
Але раптоўна ў светлыя прасторы
Шугнулі чайкі шумнай чарадой.

Прачнуўся лес, і нават травы
Зашалясцелі ля вады па касагоры,
А з поля вецер разагнаўся жвавы,
І хвалі узняліся нібыта у моры.

Здаецца, востраў знікне і затоне,
Штурхаюць лодку вал за валам.
І я кіпець, ляцець жадаю сёння,
Як некалі кіпеў, ляцеў, бывала.

*1981*

## БРАСЛАЎСКІ КАЗАЧНІК

Каля возера ёсць хата на пагорку,
Часта прыбягаюць сюды дзеці.
Лодка ля сцяны старая на задворку,
А пад дахам вёслы, і шнуры, і сеці.

Тут даўно жыве рыбак старэнькі,
Любы ён усім, усім як ёсць вядомы.
Ён збірае ўнукаў шустрых і маленькіх
І не мае у гаворцы стомы.

Столькі казак і легенд раскажа,
Усю ноч малым сны будуць сніцца.
Доўга, доўга спаць стары не ляжа,
Вогнік лямпы у вадзе будзе свяціцца.

*1981*

* * *

Іншы раз у верш прыходзіць рыфма
Звонкая, і светлая, і маладая,
Нібы з лесу казачная німфа
З'явіцца, з усмешкай паглядае.

Ты ж чакаў яе, марнеў і думаў.
Хіба лёгкая ў паэта праца?
Не для ўсіх бывае шчасце кумам,
І задумам не заўжды збывацца.

Калі наўпрасткі ў цябе дарога
І да мэты смела, мужна крочыш,
Нечакана прыйдзе перамога,
І здабудзеш тое, чаго хочаш.

*1981*

## ДЗЕ Ж ТЫ, МАЯ ЗОРКА ДАРАГАЯ?

Ты калісьці ўмела мне прарочыць,
Шчабятала з вечара да ночы.
Ты ж умела ткаць, і прасці,
І дабро прадбачыць, шчасце.

І прабегла бурных год нямала,
Не адзін навой каханая наткала,
Больш не бачу я ўжо тваіх кросен,
Нечакана развітацца давялося.

Месяц з сонцам, зор не гасце!
Ты была маёй надзеяй, шчасцем.
Засланілі зорку маю хмары,
Туманы укралі майскія абшары.

Крамнае нашу, заморскае бывае...
Дзе ж ты, мая зорка дарагая?!

*1981*

## ДНІ ЮНАЦТВА ВЕЧНА ЖЫВЯЦЬ ПАМЯЦЬ

Тое ж хараство, але пара не тая,
Васілёк зацвіў увосень.
Журавоў чародка адлятае,
І, здалося, гаманлівыя галосяць.

Па сваёй вясне я не рыдаю,
Бо люблю пару, калі ўжо ўсё даспела.
Свой зазімак рана сустракаю,
Але не дрыжу душой і целам.

У асенняй кветкі век кароткі,
Васілёк памрэ на родных гонях.
Паляцелі ў вырай шумныя чародкі,
Іх вятры халодныя на поўдзень гоняць.

Я душой ніколі не жаўцею,
Не хістаюся, калі на сцежках замець,
І жыву вясной, не горблюся, не тлею,
Дні юнацтва вечна жывяць памяць.

*1981*

* * *

Ноччу зорка падала без шуму,
А яна мільёны год свяціла,
Ды не меней стала у Сусвеце тлуму,
Млечны Шлях, вядома, не змяніла.

Днём усе пагасіць сонца зоры,
Бо ў яго святла не змераць.
Зорка падала імклівa, скора,
Толькі аж да раніцы свяцілася Венера.

Але ў той маленькай і іскрыстай,
Можа, цеплыні, святла было не меней.
Адарвалася ад зорнае маністы,
Згасла, знікла у адно імгненне.

*1981*

## ДЗЕНЬ ВЕКАПОМНЫ ЎСПАМІНАЮ

Здаецца, сёння, як калісь,
Саборнай плошчаю я крочу,
Хоць конка коціцца уніз,
Ступаюць коні неахвотна.

Упершыню чырвоны сцяг
Над мінскай ратушай палае,
Паціху дрэвы шалясцяць,
І ліст павольна ападае.

Касцельны і царкоўны звон
Трывожна і няспынна звоняць,
За хмаркай хмарка наўздагон
Адна другую спешна гоняць.

І раптам плошча ажыла,
Званы заціхлі, сціхлі дрэвы,
І песня крылы узняла,
Шугаюць баявыя спевы.

Прамоўца ў шэрым шынялі
Стаў на балкон, руку падняўшы:
Няма больш панскае зямлі,
Заводы, фабрыкі ўжо нашы.

Кастрычнік ленінскай рукой
Ярмо адвечнае адкінуў.
За мір і праўду кліча ў бой,
Каб цемры,
гвалту свет загінуў.

*1981*

## ГОЛАС
## ЗВАНОЎ ХАТЫНІ

*Роберту Санчэсу Ферэру,*
*кубінскаму кампазітару,*
*аўтару вакальна-сімфанічнай*
*паэмы «Хатынь»*

Хіба ж сатрэцца,
Змоўкне ці згіне
Голас жалобны
Званоў Хатыні?!

Рокатам грому
І навальніцы
Жальба людская
Ляціць праз граніцы.

Голас праклёну,
Роспачы,
смерці
Вылюдкам-катам
Ніколі не сцерці.

Боль невыносны
Вялікае згубы
Людзі пачулі
З далёкае Кубы.

Праз акіяны,
Горы, пустыні
Чуецца голас
Мінорны Хатыні.

Свет не забудзе
Гукаў магільных,
Кожны з нас, людзі,
Павінен быць пільным.

Хай жа больш сонца
Ніколі не свеціць
Майстрам вайны
І аматарам смерці.

Хай жа лунае
Над кожнай краінай
Песня братэрства
І дружбы няспыннай.

*1981*

## ЛЯЦІ,
## ПАЎНОЧНІЦА МАЯ

Сінічка, холад не прароч!
Так многа сонца і цяпла.
Яшчэ не скора прыйдзе ноч,
А хмары змецены датла.

Лагодны вее вецярок,
Маўчаць дубровы і сады.
Ты звоніш сёння, як знарок,
На ўсе зімовыя лады.

Мая паўночніца, ляці,
Ляці далей, ляці у глуш!
Я зведаў многае ў жыцці,
Цяпла душы маёй не руш.

*1981*

## РАНА ПРЫПЛЯЛАСЯ
## БАБКА-ВОСЕНЬ

Ледзь трымаецца душа у вераб'іным целе,
Скурчыўся і скача на дарозе,
Клён апошні ліст пад ногі сцеле,
Бо зіма ўжо стала на парозе.

Белы паўкажушак клён накіне
На свае прыгорбленыя плечы,
А ў мяне на скроні белы іней
Выпаў летнім днём у час сустрэчы.

Памятаю прыгарад, паўстанак.
Там і развітацца давялося.
Ападае лісце вельмі рана,
Рана прыпялялася бабка-восень.

*1981*

## НЕДЗЕ ЗОРКА ЁСЦЬ МАЯ Ў СУСВЕЦЕ

Між мільёнаў кропелек, маленькіх зорак
Ёсць мая далёкая ў Сусвеце.
Праляцець гадоў патрэбна з сорак,
Каб пабачыць, як яна агніста свеціць.

Цяжка даляцець туды, дабрацца...
Але ж знойдзецца для крылаў маіх сіла.
Буду ў Млечны Шлях надзейна прыглядацца,
Каб журба ў палёце не скасіла.

*1977*

## РЭХА БУДУЧЫНІ

Чую рэха заўтрашняе песні
З поля, лесу, з-за гары высокай.
Нібы гром узняўся напрадвесні,
З далечы чуваць працяглы рокат.

Я мелодыю жыўлю ў гарачым сэрцы,
Слова трапяткое не завязне,
І яно прачнецца, не сатрэцца,
У крыві не захліпнецца і не згасне.

*1977*

## ТЫ ЗАПАЛІЎ ДУШЫ СВАЁЙ СВЯТЛО

*Паэту Гаўрылу Шутэнку,*
*салдату-разведчыку,*
*які ў час Вялікай Айчыннай вайны*
*быў цяжка паранены і страціў зрок*

На фронце смелым быў
Твой кожны крок.
Шрацінка сталі крупаўскай
Засела каля сэрца.

Навекі агарнуў цябе
Халодны змрок,
Але не паў ты
У страшнай паняверцы.

Ты запаліў душы
Сваёй святло,
Яно падобна
Да святла зарніцы.

І адступіла смерць,
І адступіла зло.
Ты цемру ад сябе
Прымусіў адступіцца.

Сын стэпаў дальніх
І каўказскіх ніў,
Ты сынам стаў
Лясное Беларусі.

Спявай жа радасна
Пра нашы дні,
Звініце велічна
У руках паэта, гуслі.

*1978*

## ЧАЙКІ НАД МОРАМ

Чайкі над морам высока ляцяць.
Бяздоннае неба, бяздоннае мора.
Вецер заснуў, як малое дзіця,
Ў ціхіх блакітных прасторах.

Хочацца ўбачыць бераг зямны,
Мяккія дзюны і стромкія кручы,
Сосны і збожжа буйныя ганы,
Стужкі дарог, клапатлівых, кіпучых.

Чайкі над морам высока крычаць.
Шызыя, дзе ваш спакой і прыпынак?!.
Мора застыла, хвалі маўчаць,
Скораным зверам замерла пучына.

Мора не любіць ціш і спакой,
Грозна прачнецца і грукне у скалы.
Мора, я прагну узняцца з табой,
Кінуцца ў шлях для мяне небывалы.

Буду плысці да крутых берагоў,
Дзе маякі непакорныя сталі.
Там, дзе блукае па сцежках любоў,
Дружба мацней ад граніту і сталі.

Чайкі над морам высока ляцяць...
Неба бяздоннае. Ціхае мора.
Вецер заснуў, як малое дзіця,
Бераг далёкі наблізіцца скора.

*1967*

## ВЕРЫЛІ Ж, ВЕРНЕШСЯ

*Памяці брата Вітальда,*
*які не вярнуўся*
*з Вялікай Айчыннай вайны*

Бразнула ў браме закрутка-клямка.
Сэрца ўстрывожана ад нечаканасці.
Ліст уручаюць з чорнаю рамкаю.
Гасне апошні праменьчык радасці.

Надламаліся мар блакітныя ветразі,
Не чытаючы, ведаю: гладжу канверцік скамечаны.
Верылі ж, вернешся. Не вясною, дык верасием
Або днём, маразамі расквечаным.

Любы брат!
Ты між тых, што не вернуцца.
Аплаканых, спаленых, кулямі скошаных.
Хутка ў кветкі лугі і паляны адзенуцца.
Горкім літарам, веснікам смерці, не верыцца.

*Красавік, 1945*

* * *

Пусты радок не пераплавіш,
Навечна ён ідзе на злом,
Але ж у многіх ён, як клавіш,
Здагадак выбівае гром.

Разумным часта тое лічаць,
Дзе кроплі сэнсу не было,
Такім не рэдкі бачым звычай,
Такое людзі сеюць зло.

І варта тут знайсці дарадцу,
На спрэчку клікнуць малыша,
Разважліва ў яго спытацца,
Без фальшу ж у яго душа.

І, як філосаф, ён раскрые,
Раскажа вам не абы-як,
Пакажа думкі залатыя,
Пакажа попел, друз і шлак.

*1977*

## ДНІ ПРАЖЫТЫЯ

Ды за тымі хвоямі,
Ды за тымі елкамі
Ноччу совы шэрыя
Безупынна войкалі.

Над старым акопам
Дуб ляжаў апалены,
Навальніцай скрышаны,
Вырваны і звалены.

Ў памяці прачнуліся
Дні даўно пражытыя,
Скрышаныя дрэвы,
Кулямі прашытыя.

Над магілай свежаю
Немы голас мацеры...
Задрыжалі зоры,
Залатыя пацеркі.

З хмары месяц выбіўся,
Паглядае з мукамі,
Цягнікі паўз лесу
Коратка загрукалі.

Ды за тымі хвоямі,
Ды за тымі елкамі
Ноччу совы з болем
Безупынна войкалі.

*1977*

## МАЯ СПАДЧЫНА

Будаваў людзям дамы, палацы,
Не стагнаў і не умеў хістацца.

Рукі зацвярдзелі з мазалямі,
А мяне ж інтэлігентам называлі.

Ну якую ж спадчыну пакіну
Ўнуку роднаму, дачцэ ці сыну?

Калі раптам сплюшчацца павекі,
Песню хай маю бяруць навекі.

*1980*

## БАБЧЫНА ЛЕТА

На разорыне свежай
Зацвілі адуванчыкі з васількамі,
На развіліне сцежак
Палыскуецца камень.

Надыходзіць бабчына лета.
Неба цёплае і празрыстае.
Радуецца старая кабета,
Нібы якой урачыстасці.

Глядзіць кляновы лісцік,
Абірае з кусціка павуцінне,
Прыгадала, хадзіла калісьці
На дарогу-гасцінец.

Чакала, што сын вернецца,
Многія ж папрыходзілі...
Аж дагэтуль ёй верыцца,
Што ён у паходзе.

Але ж ліст прыляцеў з-пад Берліна.
Вербы цвілі вясною.
Кароткая вестачка пра сына
Не дае з той часіны спакою.

Прыплялося бабчына лета.
Неба чыстае, сіняе, светлае.
На разорыне чорнай многа кветак,
Паглядаюць яны прыветліва.

*1980*

## ТАМ БЫЛА РАДЗІМА Ў БЕЛАКРЫЛАЙ

На пясчаным беразе пад вечар
Чайкі пазбіраліся на веча,
Белакрылыя крычаць, гамоняць.
Што ж трывожыць іх, турбуе сёння?

Мо чакаюць навальніцу ноччу?
Што крыклівыя гуртом прарочаць?
Паднялася з іх адна высока,
Знікла паміж хмар далёка,

Воддалі чарнеў зялёны востраў,
Воддалі расло сасонак мноства.
Паляцела з незвычайнай сілай,
Там была радзіма ў белакрылай.

*1980*

## СТАРЫ ЗАМОК

Бульдозер выгарнуў замок стары з-пад друзу,
А разам з ім заіржавелую пагнутую завалу.
Лам'ё ускінуў экскаватар у вялікі кузаў,
І самазвал за горад паваласк памалу.

Што ж пільнаваў, сцярог замок вялізны?
Склады ці крамы ў час, даўно адпеты?
А можа, ім у стайні замыкаў рамізнік
Каня і скурай фаэтон пакрыты?

А можа, замыкаў, хаваў муку, тканіны,
Калі ў чарзе стаялі, млелі людзі?
Як волава, цяжкія успаміны
У сэрцы думкі і здагадкі будзяць.

На месцы папялішча і руін квартала
Пасадзяць днямі каштаны, таполі,
На хлеб людзям калісьці грошай не хапала,
І на замкі пудовыя была замкнута доля.

*1977*

## УСКРАІНА

Хочацца пачуць па грудах грукат колаў,
Збегаць у маленства маё далёка,
А тут праносяцца аўтамашыны наўкола
І новыя дамы усміхаюцца вокнамі.

Былая мая ўскраіна, старэнькая і знаёмая,
Пад неба паверхамі высокімі палезла.
Старое балотца — зззяе блакітнымі вадаёмамі,
Разлятаецца па ўзбярэжжы голас дзятвы гарэзнай.

Не засталося і следу ад заімшэлага доміка,
Століка ля акенца, як шчыліна, і гарышча,
Дзе прачытана сотні тамоў і томікаў,
Якія праглынула ў вайну папялішча.

Шчакочуць вятры сароку белабокую,
І яна нястрымна стракоча.
Любая мая, ускраіна далёкая,
Памяць расставацца з табою не хоча.

*1977*

## ДЗЕ СЦЕЖКА ГОРНАЯ МІЖ СКАЛ?..

Пад вокнамі шуміць вярба,
Вятруга непакоіць,
І закрадаецца журба
У мой малы пакоік.
Да ўтульных сцен я не прывык,
Зноў крочу праз Саяны.
Шукаю зорка дажджавік,
Рукзак напакаваны.
Дзе сцежка горная між скал,
Планшэт, ружжо і лыжы?
Грукоча воддалі абвал,
Вяршыня бліжай, бліжай.
І адклікаюцца сябры,
Услед ідуць за мною.
Да голых выступаў гары
Кранаюся рукою.

*1977*

## ДАЎНО ПАКІНУЎ АНГАРУ

Я выбіваў не раз кайлом
З халодных скал пароду
І адчуваў заўжды цяпло
Паміж снягоў і лёду.

Стаялі скалы ля мяне
Насуплена, сярдзіта,
І смешным мне здаваўся гнеў
Тых волатаў падбітых.

Даўно пакінуў Ангару,
Тайгу, цясніны, кручы,
Кайло не грэе маіх рук,
Рукзак мяне не мучыць.

Калі ж убачу я сяброў,
Няшчырых і надзьмутых,
Кіпіць нястрымна ў сэрцы кроў,
Смех разрывае путы.

Гляджу, дзе дзелася кайло
І малаток са сталі!
Чаго ж вачамі, нібы шкло,
Вы над душою сталі?

І хочацца з халодных скал
Цяпла іскрынку выбіць,
І за дабро падняць бакал,
І без крыўлення выпіць.

*1977*

## У НОВУЮ ДАРОГУ

Хвалююся, чакаю на паўстанку цягніка
Навіслі хмары воддалі, як шторкі.
Я не збіраюся адгэтуль уцякаць,
На тыдзень пакідаю ў засенях падворкі.

Хвіліну памаўчу. Адкрыты семафор.
Як многа свету за жыццё аб'ехаў.
Грукочуць колы з-за ссінелых гор,
Ляціць знаёмае аддаўна рэха.

Вось-вось пачуецца раскацісты гудок,
Пакажуцца вагоны зводдалі з-за хмаркі,
А ў сэрцы акрыліцца сонечны радок,
Як у юнацтве, нечаканы, цёплы, яркі.

*1980*

## ЗАСТАЮСЯ Я ТВАІМ ЮНКОРАМ...

*Газеце «Чырвоная змена» ў дзень 50-годдзя*

Быў і застаюся я тваім юнкорам
Праз усе гады, мая газета...
Можа, мне і скажа хто з дакорам:
— Ты ж без камсамольскага цяпер білета...

Прылажу руку тады да сэрца —
Тут ён у пачуццях і імкненнях...
Не старэе, не спыняецца, не гнецца
Гартаванае табою пакаленне.

Ты ж людзей расціла партыі адданых,
Нас вучыла вернасці народу.
Зналі шчасце, смутак, гнеў і раны
І ішлі наперад год ад году.

Я твой радавы, мая газета,
Гавару аб гэтым голасна, прыўзнята,
Камсамольскай шчырасцю сагрэты,
Адзначаю сёння тваё свята.

*1971*

## Я ЖЫЎ ПАЭЗІЯЙ ЦУДОЎНЫХ КНІГ

*Памяці пісьменніка Уладзіміра Лідзіна*

Над Юрмалаю дожджык церушыў,
Шумелі Райнісавы сосны каля мора.
І тут жа побач, у лясной глушы,
Чуваць быў хваляў неспакойны шорах.

А пад тугім суком старэнькае сасны
Замерла, прытулілася сініца.
Я сэрцам успрымаў таемны рух вясны,
І мне здалося, сон цудоўны сніцца.

Глядзеў на плюшч. Ён клён стары абняў.
Ля ног цвіла наўкола медуніца.
Цябе пабачыўшы, адчуў я, што ў крыві
Далёкай прыязні цяпло яшчэ бруіцца.

Я жыў паэзіяй тваіх чароўных кніг,
Гатовы прозу быў на музыку пакласці.
Сустрэчы момант, толькі гэты міг,
Быў для мяне і радасцю і шчасцем.

Ты нам калісьці, бойкім хлапчукам,
Жадаў да мэты светлай смела крочыць.
Да праўды і дабра вучыў нас шлях шукаць,
Як чараўнік, умеў прадбачыць і прарочыць.

Над Юрмалаю дожджык церушыў,
Ля сосен Райніса былі у нас сустрэчы.
Застаўся ў сэрцы, у маёй душы,
Твой светлы позірк чалавечы.

*1979*

## ПАЭТ З РУЖЖОМ

*Памяці Эжэна Пацье —*
*аўтара «Інтэрнацыянала»,*
*парыжскага камуніста,*
*удзельніка барыкадных баёў*
*з версальцамі*

Набатны спеў неўтаймаваны
Ўздымае смелы грозны рух:
«Паўстань, пракляццем катаваны,
Паўстань, хто з голаду век пух».

Паэт з ружжом на барыкадах,
І песня разам, нібы гром.
Версальцаў цёмная армада
Вар'яцкі лезе напралом.

Ляціць з разбітых вокан камень,
Патронаў, зброі не стае.
Рабочы дужымі рукамі
Прэнт з аканіцы дастае.

Крычыць: — Ах, т'араўская нелюдзь!
І афіцэру трушчыць лоб.
А на яго штыкамі цэляць,
І падае бядак, як сноп.

Паэт з ружжом на барыкадах,
А побач родныя сябры.
Зноў кулі б'юць няспынным градам,
Квартал задымлены гарыць.

Дым апавіў двары, завулкі,
І ў сутарэннях дым і чад.
Сцяг палымнее. Заклік гулкі:
— Не пройдзе Т'ер!
Не пройдзе кат!..

Кліч песні зліўся з громам стрэлаў.
Наперад, змучаны народ!
Падзе свет турмаў звар'яцелы,
Падзе няволя і прыгнёт!..

І песня смелая Камуны
З тых дзён не сціхла, рвецца ў свет,
Твайго бяссмерця, славы струны
Заўсёды чуем мы, паэт!..

Набатны спеў неўтаймаваны
Ўздымае смелы грозны рух:
«Бурліць наш розум збунтаваны,
Няволі кліча рваць ланцуг».

*1980*

## ВЫЙДУ Я
## Ў ДУБРОВУ

Я душу лячыў
Тваёю дабратою,
Словам ласкавым,
Тваёй усмешкай.

У сям'і людской
Не быў я сіратою
І не быў былінкай
На паўзмежку.

Каня просіць піць,
Лятае ля азёраў,
Кліча дождж.
Хіба вады ёй мала?

Драч у травах
Голасна рыпіць,
Сёння і яму
Чагось не стала.

Крылаў для палёту
Не стае,
Я і не збіралася
Ляцець далёка.
Салаўі лясныя,
Любыя мае,
Вы ж тут ля мяне
Сабраліся пад бокам.

Калі мала ласкі,
Кволай дабраты,
Калі ў дзень вясенні
Хтось мяне не чуе,
Выйду я ў дуброву,
Дзе хадзіла ты,
Дзе цябе сустрэў
Калісьці, дарагую.

*1981*

## СЭРЦАМ МАЛАДЗЕЕМ

Хмары-пасцілкі трасе
Вецер над лясамі,
Поле снегам занясе,
Паімчацца сані.

Будуць пырскаць капыты
Снегам ледзяністым,
І адчуеш, пэўна, ты
Подых лесу чысты.

Хуткіх коней не стрымаць,
Хоць наўкол мяцеліць.
Пражылі мы недарма,
Лепей, чым хацелі.

Хіба ж злічым мы шляхі,
Сцежкі і пуціны?
Шмат прабегла дзён ліхіх,
Ты ж была адзінай.

Вечарэе. Дацямна
Ў дом стары заедзем.
— Ап'янелі без віна,—
Скажуць нам суседзі.

Мы аддаўна так жывём,
Гора, шчасце дзелім.
Не старэем. З кожным днём
Сэрцам маладзеем.

Ну вядома, дацямна
Не адна хвіліна.
Сэрца вычарпаў да дна
Для цябе адзінай.

*1979*

## ГАРЭЦЬ, СВЯЦІЦЬ, ІСКРЫЦЦА

Калі душа старэе ў маладога
І зрок яго слабее ў ясны дзень,
Калі, апроч сябе, няма ў яго нікога
І сілу кволую не знае куды дзець.

Калі няма дарог да светлай мэты
І шчасце пакаёвае ў яго аснова ўсіх асноў,
Ён мёртвы чалавек і загадзя адпеты,
Ён апусціўся ў твань, яго не грэе кроў.

Гарэць, палаць, свяціць, іскрыцца,
Ісці наперад, бачыць далячынь,
Мець сэрца і душу, як светлую крыніцу,
Народу ўсё аддаць. Радзіму берагчы.

Такі дэвіз. Такое шчасце ў свеце
Мець чалавеку трэба для душы,
Тады не будзем ведаць ліхалеццяў,
Тады нікому праўду, дружбу не скрышыць.

*1979*

## МНЕ НАГАДАЛА РУНЬ ВЯСНУ

Чародка стомленых буслоў
Ляцела ў невядомы край.
Пазнаў мелодыю без слоў:
— Радзіма, родная, бывай.

Рунь зелянела, і вясну
Мне гэты колер нагадаў.
Прабіўся промень і бліснуў,
Хоць сонца ў небе не відаць.

Рабіна чырванню гарыць
На ўскраі поля над ракой.
Гамоняць шумна трактары
Куды ні глянь, куды ні кінь.

Кароткі дзень уміг прабег,
Не за гарой вячэрні час.
Без слоў спяваю сам сабе:
Парыў вясны яшчэ не згас.

*1979*

## СПЯЦЬ ЯШЧЭ ДАЖДЖЛІВЫЯ ВЯТРЫ

Завітала восень. Вось і верасень.
Жаўцізна кранула голле гаю.
Хораша наўкола, як у дзіўным сне...
Важка яблыкі з галін звісаюць.

Чырванее ў садзе ля платоў
Адзінокая пахілая каліна.
Пралівае, пэўна, сто патоў
Пад цяжкімі гронкамі рабіна.

Спяць яшчэ дажджлівыя вятры
За далёкімі ад нас лясамі.
Сонейка, ад хмарак твар пратры,
Пабывай, вясёлае, між намі!

Верасень бярозавым лістком
Часта след па сцежках значыць.
Хутка ў вырай паляцяць гуртом
Жураўы з працяжным горкім плачам.

*1980*

## ПАМЯЦІ ЛАРЫСЫ АЛЕКСАНДРОЎСКАЙ

Перапёлачка замоўкла ў жыце.
Пэўна, ножкі ў росах прастудзіла.
Што ж ты анямела?! Падкажыце...
Кроў ад жалю застывае ў жылах...

Змоўклі салаўі ў густых дубровах,
І яны чакалі дзіўных гукаў.
Ты маўчыш. Не вымавіш ні слова.
Сум, журба, і слёзы, і дакука.

Не!.. У памяці народа ты жывая.
Мілы голас чуцен твой навокал.
Песня неўміручая над краем пралятае
І кранае сэрцы нам глыбока.

*1980*

## ШЛЯХ З ТАБОЮ ПРАЛОЖЫМ ДА ЗОР

Пачакай, хуткалёт мой
У нязведаны край!
Я прашу цябе, пачакай!
У мяне не сабраны багаж,
Ну, уваж мне, мой мілы,
Уваж.

Пачакай, хуткалёт мой,
На хвалінку, на міг.
Я збяру яшчэ некалькі
Сэрцам напісаных кніг.

Дапішу самы просты
І шчыры мой твор.
Беззваротны мой шлях
Тады ляжа да зор.

*1980*

## ГАРЫЦЬ ІЗНОЎ ЛЯСНЫ КАСЦЁР...

Купальскі памятаю карагод,
Касцёр высокі на лясной паляне.
Было нам усяго па дваццаць год.
Ноч, нібы знічка. Ранняе світанне.

І першы промень сонца залаціў
Тваю хусцінку, ільняныя косы.
Здалося, ў паднябессе мы ляцім.
І спеў птушыны льецца шматгалосы.

Юнацтва, маладосць пабеглі у нябыт,
І засталіся пні ад лесу над ракою.
Спіць салавей у зараслях ракіт,
А голас і цяпер мне не дае спакою.

*1979*

## ВЯСНА ПА ЛУЖЫНАХ СТУПАЕ

Шумяць на ўзгорку раўчукі,
Вясна па лужынах ступае.
І на алешыне гракі
На ўсю ваколіцу гукаюць.

Завуць цяпло. За небакрай
Ляціць крыклівы шумны голас.
Хоць ты бярозку затрымай,
Забралася ў ваду па пояс.

Нібы на нітачцы вісіць
Жаўрук над пачарнелым лугам,
Клякоча бусел, аж асіп,
І па буслянцы ходзіць кругам.

Уводдалі цягнік мігнуў,
Грукочуць колы ашалела,
Я прыгадаў цябе адну,
І сэрца зноўку зашчымела.

Мігнуў цягнік за небакрай,
І грукат колаў замірае.
Ізноў вясну, квяцісты май,
Як і калісьці, сустракаю.

*1979*

## У ПОСТУПЕ МУЖНЫМ

На першай праталіне
Першае месца
Вякамі праслаўленай
Сіняй пралесцы.

На першай гулянцы
Вясновай парою
Вясёлай вяснянцы
Звінець над гарою.

Днём Першага мая
У поступе мужным
Народы яднае
Вялікая дружба.

*1979*

## ЗАЙГРАЛІ КАПЯЖЫ

На струнах кропель залатых
Зайгралі капяжы,
І ўжо на покаце крутым
Раўчук стары ажыў.

Вясновым шумам закіпеў
Вясёлы гурт прысад,
Птушыны неўгамонны спеў
Пачуў знямелы сад.

Там, дзе чарнее сена стог,
Грукочуць трактары,
І пырскі ціўкаюць з-пад ног
Вясёлай дзетвары.

Вясна ў прыродзе і душы...
Ля лесу,
            пад гарой,
Бягуць машыны па шашы,
Вясновы ў іх настрой!

*1980*

## РОЗДУМ

Яшчэ выразней і ярчэй
Убачыць наш народ
Здзяйсненне ленінскіх ідэй
Праз сотню светлых год.

І прамяніста ў вышыні
Наш сцяг будзе лунаць,
І ленінскіх ідэй агні
Зырчэй будуць палаць.

А поступ наш да перамог
Хіба ж каму спыніць?
А хто ж прыцьміць,
скажыце б, змог
Радзімы нашай дні?!

*1980*

## РАДЗІМА

Калі я ўспамінаю нашы годы ў Дзяржынаве, мяне апаноўвае кранальнае пачуццё. Я зноў адчуваю радасць маіх тагачасных дзіцячых настрояў...

*Ф. Э. Дзяржынскі*

Хіба ж могуць хоць калі забыцца,
Сцерціся у сэрцы палымяным
Светлыя рачулкі і крыніцы,
Сенажаці, пералескі і паляны.

Не забудзецца і голас салаўіны,
Што вядомы з год яшчэ дзіцячых,
Пліска шустрая на кусціку каліны,
Каня, што ад ранку над балотцам плача.

Нават волат,
непарушны камень,
Што ляжыць вякамі пры дарозе,
Вам захочацца крануць рукамі,
Прыхіліцца да яго ў знямозе.

Прыгадаюцца бярозкі пры гасцінцы,
Родны дом, які стаяў калісьці,
Папялішчы, што пакінулі чужынцы,
І асенні шум пажоўклых лісцяў.

Вечна ў сэрцы, любая Радзіма,
Цёплыя пачуцці родзіш, будзіш,
Незабыўнымі заўжды перад вачыма
Працавітыя і шчырыя аддаўна людзі.

*1977*
*Дзяржынава*

## ПЭЎНА,
## ТЫ ЗА ПЕСНЯЙ ПАЛЯЦЕЛА

*Памяці Еўдакіі Лось*

Выпала раса халодная на дрэвы,
Вецце дыяментамі ў садах іскрыцца.
Змоўклі птушкі. Дзе ж вы селі?!. Дзе вы?!.
Не прыйшла да вас пявучая сястрыца.

Нават дуб, паранены вайною,
Па-самотнаму сукі развесіў.
Чайка ўскрыкнула над люстраной ракою,
Рэха адгукнулася у лесе...

Дзе ж ты, неспакойная, са светлымі вачыма?!.
Тая, што душой гарэла, а не тлела...
Ты ад нас пайшла. Ды гэта немагчыма.
Пэўна, ў партызанскі край па песню паляцела?!.

*1977*

* * *

На магутным акіянскім караблі
Ёсць знаёмых у мяне нямала —
У мясцінах многіх пабылі,
Не адна навала гартавала.

Дык таму, я гэта не стаю,
Іх вяртанне радасна вітаю,

На ўзбярэжжы зачараваны стаю,
Бачу, выплылі з-за хмар, з-за небакраю.

Пабывалі вы, сябры, ў гасцях,
Пабывалі вы ад нас далёка.
Мужнасцю натхняў на мачце сцяг,
Ён над вамі палымнеў высока.

*1975*

## ЁН БЫЎ НЯДАЎНА ТУТ

*Памяці Міхася Лынькова*

Трывожна зашумеў над Лёзнам бор,
Журботна ўскалыхнула Нарач хвалі,
А Друць і Днепр удалеч шлюць дакор,
Падалі голас і засумавалі.

На росных верасах глыбокі след,
Круг ад вясла вада яшчэ не сцерла,
А чайка гулка крык тужлівы шле,
Шугнула у чарот, здаецца, што памерла.

А ён жывы... Ты глянь, наперад глянь...
За небакрай дарогаю ступае.
Цвіце зямля. Палае сонцам рань,
І ясны дзень наўсцяж людзей вітае.

Паходкай мужнаю, адважнаю ідзе,
На ім не выцвілі шынель і гімнасцёрка.
Ён быў нядаўна тут. Здаецца, кагадзе.
Не стала паміж нас. О, як балюча, горка.

*1975*

* * *

Сівой мінуўшчыны я не крану,
Шмат пройдзена дарог, ды і пражыў нямала.
Здаецца, лёгкую кашулю апрануў,
Іду расхрыстаны, як некалі бывала.

Здаецца, юныя вярнуліся гады,
І песня з вуснаў рвецца маладая.
Стаяць таполі, задумёныя дзяды,
І яблынька-бабуля хітра пазглядае.

Я радасць бачыў, гора перажыў,
Настрой спакойны часам боль трывожыць,
Бо зарастаюць мохам пліты і крыжы,
А ў памяці жывуць, хто ўстаць ужо не можа.

*1976*

* * *

Як многа год таму назад,
Зноў яблыня цвіце вясною,
Зноў белы шаль накінуў сад,
Зноў сэрцу не знайду спакою.

Зноў на абочыне дарог
Надзьмуўся шэры адуванчык,
На полі дуб стары, як стог,
Чакае летніх дзён гарачых.

Шумлівых птушак дружны хор
Напоўніў гоманам імшары.
Больш не гняце мяне дакор,
Збыліся думы мае, мары.

Зноў стрэлка сунецца далей
Ў гадзінніку на цыферблаце,
Я сам кажу сабе: — Не тлей!
Вясна прысела ў нашай хаце.

*1976*

* * *

Счарнелы снег ляжаў на беразе ракі,
А на лугах наўкол цвілі пралескі.
Званочкам звонкім абуджалі жаўрукі
Дубровы ціхія, нямыя пералескі.

З надломанай галінкі, як сляза,
З бярозы кропелька упала соку.
Дзіцячы голас поле пранізаў —
Малыя пелі дзесьці недалёка.

Вясна прыйшла. Жаданая прыйшла.
Плугі плылі за трактарамі.
Дарогі пракладалі.
І на крыніцу светлую, нібы са шкла,
Вярбінкі кволыя няўмела наступалі.

*1976*

* * *

Зайздросціў музыкантам я калісь
І часта марыў то пра скрыпку, то цымбалы,
Раслі патроху на далонях мазалі,
І адвыкаў ад музыкі памалу.

Не быў да гукаў тонкіх я глухі,
Чуў, як лістота шэпчацца вясною.
Пытаў сябе: ды за чые грахі,
Свайго няма, а ўсё вакол чужое?

Калі па полі зелянела рунь,
Калі ўжо птахі паляцелі ў шлях прывычны,
З такімі ж, як і сам, пусціўся ў грунь,
Пачуўшы словы «Ленін» і «Кастрычнік».

*1976*

## ПЛЫВУЦЬ ЦЕПЛАХОДЫ

Вясенняе сонца
Бязлітасна паліць,
У лукаткі ходзяць
Дунайскія хвалі.

То пруцца нясцерпным
Парывістым валам,
То ў борт цеплахода
Ўдараюцца шквалам.

Знаёмых і родных
Імён тут нямала —
Заслонаў, і Колас,
І Янка Купала.

Плывуць цеплаходы...
Прасторы... Прасторы...
Наперадзе мора,
Наперадзе мора...

Тут сіняе неба...
І я, як сініца,
Мне поўнач радзімы
Далёкая сніцца.

Вясенняе сонца
Бязлітасна паліць,
Няспынна ірвуцца
Дунайскія хвалі.

*1975*

## ЛЯЦЕЛІ ГУСІ З ВЫРАЮ

Вясёлыя, імклівыя
Ляцелі гусі з выраю,
Спусціліся на Вілію
Чародкаю крыклівую.

Нібы сказалі: — Сорамна!
Нібы сказалі: — Гора нам!
Мы крылы навярэдзілі,
Шпакі нас апярэдзілі.

І стала ціха-ціха так...
Ды не змаўкаў на дрэве шпак,
Узнёсла, устрывожана
Вітаў ён падарожнікаў.

Зноў шэрыя, імклівыя
Ўзняліся па-над Віліяй,
Сустрэў іх месяц з зорамі
Над рэкамі, азёрамі.

Ляцяць яны, гамонячы,
Хутчэй, хутчэй да поўначы,
Дзе тундра — багна мшыстая,
Вада наўкол празрыстая.

*1981*

## ЛЯ ВОЗЕРА ВЕЧАЛЛЕ

*Рыгору Барадуліну*

Калісьці раніцай уздоўж
Хадзіў ля возера я Вечалле.
Як змей, звісаў з абрыву лоўж,
Аж дуб спалоханы самлеў.

Былых крывавых дзён сляды
У завадзі я ўбачыў вязкай,
Тырчала ржавая з вады,
Прабітая чужая каска.

Праменні залацістых хваль
Старую вабілі ляшчыну,
Такую ж і ў вадзе амаль
Уніз вяршыняй хтосьці кінуў.

На бераг лозы ўпалі ніц,
Струменьчыкі цяклі ля іх,
Пачатак бралі з тых крыніц,
Дзе драч крыклівы толькі сціх.

Нядаўна я хадзіў, гасціў,
Быў салаўём зачараваны,
А водар крашанскіх мясцін
Зрабіў мяне як апантаным.

Ад светлай радасці п'янеў,
Глядзеў, прачнуліся камені.
Тут сябра добрага сустрэў,
Быў ад яго я ў захапленні.

*1981*

## ВЯСЕННІ СПЕЎ

Гэта бэзу нябеснага кволага цвет
Да тваёй дакрануўся гарачай шчакі...
Не кідай у вірлівую бездань букет,
У шумлівыя хвалі халоднай ракі.

Чараўніца-вясна абудзіла ўвесь свет,
Разліла трапяткі летуценны настрой.
Падаруй сінявокай сяброўцы букет.
Больш нікому, а ёй. Толькі ёй, толькі ёй.

Па шырокай рацэ хутка кветкі плывуць.
Раскажыце, пялёсткі, наўкола людзям:
Лёгкім водарам майскім я сёння жыву,
Майму сэрцу прасторна і вольна ў грудзях.

Чараўніца-вясна абудзіла ўвесь свет,
Разліла трапяткі летуценны настрой,
Падаруй сінявокай сяброўцы букет.
Больш нікому, а ёй. Толькі ёй, толькі ёй.

Вось і мора бушуе і раўецца, як звер.
Кветкі носіць, гайдае уздыблены вал.
Дзе ж ты, любы, каханы, блукаеш цяпер?
Хвалі шумным прыбоем кранаюцца скал...

Чараўніца-вясна абудзіла ўвесь свет,
Разліла трапяткі летуценны настрой.
Падаруй сінявокай сяброўцы букет.
Больш нікому, а ёй. Толькі ёй, толькі ёй...

*1965*

## МЫ ЎСЁ ДЗЯЛІЛІ ПАПАЛАМ

Цяпло успомніў рук тваіх,
Адчуў вачэй святло.
Калісь дзялілі на дваіх
Усё, што ў нас было.

І час настаў, людское зло
Адзін я ў свет панёс,
Цябе са мною не было,
Такі нам выпаў лёс.

Мы ўсё дзялілі папалам,
Цяжар ліхіх гадзін
Табе ніколі не аддам,
Нясу яго адзін.

*1971*

## ВЯЧЭРНЯЯ МЕЛОДЫЯ

Над Свіслаччу чайкі
Ад раніцы кружаць
І вербы ўглядаюцца
У сінія хвалі,
А мы бесклапотна
Плывём і не тужым,
Вяслуем спакойна
Ўсё далей і далей.

Ўсё далей і далей
Па водных прасторах,
Вось вечар запаліць
Срабрыстыя зоры
І хутка рассыпле
Такія узоры,
Што казкаю дзіўнай
Пакажацца горад.

Хоць неба шарэе,
Па парках, алеях
Хусцінкі, сукенкі
Усюды бялеюць.
І кожны куточак
Кіпуча і звонка
Напоўнілі спевы,
І смех, і гамонка.

Няспынна вяслуем...
Куды? Невядома...
І чуем, хвалюе
Нас штось пакрыёма.
На беразе кветкі
Спусціла шыпшына.
І дзе ж тое слова
Для любай, адзінай?..

Знайсці хачу слова
Ад самага сэрца!
А лодка ўсё далей
І далей імкнецца...
Табе, самай лепшай,
Цудоўнай, адзінай,
Я слова шукаю
У гэту хвіліну.

У пасмы туману
Нізіна прыбрана,
Як зводдалі люба
На горад свой глянуць,
Як люба з табою
Нам тут летуценіць,
А хвалі імклівa
Мяняюць адценні.

Па Свіслачы плаўна
Гайдаецца лодка,
Здалося спатканне
Хвілінай кароткай.
Да новых спатканняў,
Да новай сустрэчы!
Над горадам шчасцем
Напоўнены вечар.

*1948*

## А ЎЖО ЦЁМНА СТАЛА Ў ЛЕСЕ

Я хадзіла мшыстым лесам
Памаленечку
І знайшла на пні старэнькім
Грыб-апенечку.

Ды куды ж мне яго несці?!.
З кім параіцца?!.
А ўжо цёмна стала ў лесе,
Бо змяркаецца.

Прыйдзі, мілы! Прыйдзі, родны,
На паляначку,
Паднясі мой кош дадому,
Аж да ганачку.

Я ж хадзіла мшыстым лесам
Ды стамілася,
Без цябе, мой родны, любы,
Заблудзілася.

*1972*

## КАНСТАНЦЫІ БУЙЛО

Забрала смела, мужная,
Навекі сабе ў спадчыну,
Любоў да краю роднага,
Чароўную Ашмяншчыну.
Твой спеў з Масквы, шчаслівая,
Ляціць да небакраю,
Як ластаўка імклівая,
Заўжды вясну гукаеш.
Ты ж узяла Ашмяншчыну
Навечна сабе ў спадчыну.

Тут смела партызанілі,
Крышылі, білі ворага,
Зямля, крывёй набраклая,
Прасякла дымным порахам.
Тут зоры гаслі яркія,
Дыміліся пажарышчы,
У перамогу верылі,
Не гас ніколі жар душы.

Усё, усё тут роднае,
Усё для сэрца дорага,
Хай песняй непаўторнаю,
Багатаю, шчаслівaю,
Твой край жыве і цешыцца,
Як птушка пасля выраю.

Хай людзі працавітыя
Жывуць сям'ёю дружнаю,
Ідуць наперад радасна
Паходкай смелай, мужнаю
І радуюцца шчыраю
Тваёй праўдзівай ліраю.

*1979*

## КАЛЯ БРАЦКАЙ МАГІЛЫ Ў ЗАРАСАІ

Сілай грознаю былі калісьці партызаны
З Латвіі, Літвы і Беларусі.
Навальніцаю шумелі сцежкі і паляны,
І лясны салдат не кожны ў дом вярнуўся.

Усе яны былі з мясцін няблізкіх,
Але мэтаю адзінаю з'яднаны.
Хіба ж злічыш помнікі і абеліскі,
Пад якімі пахаваны партызаны.

Многа на магілах яркіх кветак,
Ускладаць іх людзі будуць вечна.
Хай жа кветкай ад мяне, паэта,
Ляжа на магілу верш сардэчны.

*1981*
*Літва, Зарасай*

## РОЗДУМ ЛЯ МАЎЗАЛЕЯ ЛЕНІНА

Вось тут шпурнулі пераможцы вобзем
З фашысцкай свастыкай штандары.
Хто нёс вайну, упаў змяёю ніц.
Гром славы прагрымеў аб мужнай перамозе.

Паў люты вораг, не пазбег ён кары.
Ён нёс ярмо, нас заняволіць марыў,
Але пасеяў свае косці на чужых абшарах
І быў ён змецены ад нашых меж-граніц.

Мы бальшавіцкай мудрасцю
Знітованы і загартованы з маленства...
Быў, ёсць і будзе вечна з намі
Жывым і неўміручым геній.

Заслонім край у час любы ад ворага,
Ад хцівага вар'яцтва і шаленства,

Бо ў нашых справах мірных вечна з намі
Вялікі, непаўторны Ленін.

Ад зор крамлёўскіх мы бяром агонь
Для роздуму, душы і сэрца,
Каб асвятляць шырокія шляхі,
Дарогі незлічоныя і пуцявіны.

Народу нашаму не быць
Ніколі ў забыцці і паняверцы.
Вядзе нас кожны дзень наперад правадыр,
Жывы, вялікі, мудры і адзіны.

*1981*

## ДУША КІПІЦЬ КРЫВЁЙ ГАРАЧАЙ

Ураган, смяротны і грымучы,
Праляцеў над лесам і над полем,
Ён зваліў дубы над цёмнай кручай,
У вадзе яны прасцерлі голле.

Сотні год магутныя стаялі,
Не згіналіся ад ветру, навальніцы,
Нібы вылітыя з гартаванай сталі,
І прыйшлося волатам зваліцца.

Пралятае чайка над вадою,
Крыкнула ад радасці і болю.
Гнуцца вербы воддаль чарадою,
Не пабачаць слаўных яны болей.

Але ж сойкі жалуды разнеслі,
Неўзабаве вырасце дуброва,
Салаўі ўсхваляваныя песні
Заспяваюць пічыра, з сілай новай.

Шмат імён вялікіх ведаюць скрыжалі,
Уміралі людзі, а жывуць навекі,
Сэрца часта разрываецца ад жалю,
Плюшчацца ад горкіх слёз павекі.

Я па тых гарую, каго бачыў,
Плачу і па тых, каго не ведаў.
Сэрца поўніцца крывёй гарачай,
Ненавіджу вылюдкаў і людаедаў.

*1981*

## ХАЙ ЖА ВЕЛІЧЫ ТВАЁЙ ГРАНІЦ НЕ БУДЗЕ

Ты не раз, схіліўшыся, Радзіма,
Ля руін стаяла і пустэчы,
Горкім чадам, чорным курадымам
Абліваўся смутак чалавечы.

Безыменныя капцы-магілы
Дзе ні глянь, і курганоў нямала...
Ды граніц не мелі твае сілы,
Ты нявольніцай пакорнаю не стала.

Клікнеш — голас рэхам шматмільённым,
Громам пераможным адгукнецца:
І ляцяць вагоны пад адхоны,
Сталь гармат варожых плавіцца і гнецца.

І штандары тых, хто свет збіраўся
Здратаваць, стаптаць каванымі нагамі,
Палі на зямлю, і ты прайшлася
Пераможцаю над чорнымі шматкамі.

Хай жа велічы тваёй мяжы не будзе,
Хай ляціць твая далёка слава,
Хай навек жывуць шчасліва людзі,
Любая Савецкая дзяржава!

*1969*

## ПРАБІТЫ КАЦЯЛОК

На досвітку туман
Лагчыну завалок,
Раптоўна стрэл пачуўся
Ў цішыні над Бугам.

Прабіла куля ворага
Паходны кацялок,
Ім зачарпнуў салдат
Вады для раненага друга.

Вады хоць крышачку усё ж збярог,
Далонню прыкрываючы, прынёс,
Сухія вусны ажылі,
Знямелі боль і смага,
І смелы лёскат кулямёта
Рваўся да нябёс,
І непахіснаю была
Салдацкая адвага.

А памяць пра сяброў
Не згіне праз вякі,
Пад друзам кацялок ляжаў
Асколкаў і шрапнелі.
Ім чэрпалі ваду
Жывучую з ракі —
Ляжыць рэліквія цяпер
У Брэсцкай цытадэлі.

*1977*

## КАЛІ ІДУ ЛЯ СВІСЛАЧЫ

Здаецца, сэрца выскачыць
Ад радасці бязмежнае,
Калі іду ля Свіслачы
Сцяжынкаю заснежанай.

Над рэчкай вербы хіляцца,
Лядок пад імі крышыцца,
З-за хмары сонца шчырыцца
Падняцца і узвышыцца

Пад неба гмахі светлыя.
Тут вуліца прасторная.
І ўсё глядзіць прыветліва,
І ўсё тут непаўторнае.

Заводы, школы, фабрыкі,
Алеі ў снежнай квецені...
Тут сонечнымі фарбамі
Жыццё кіпіць і свеціцца.

Як сэрцу тут не выскачыць
Ад радасці бязмежнае,
Калі іду ля Свіслачы
Сцяжынкаю заснежанай.

*1978*

## ЗАПАЛАНІЎ КАЎКАЗ

Аварскай мовы хараство
І гор тваіх, Каўказ,
Данёс да сэрца і душы
Гамзатава мне сказ.

Мяне вяршыняў яркіх бляск,
Іскрыстых, як алмаз,
Няспынна вабіў, захапляў,
Запаланяў не раз.

Крутой сцяжынкаю дайшоў
Туды, дзе лёд і снег,
А ля падножжа стромкіх гор
Я ж кланяўся вясне.

Халодны лёд і белы снег
Такія ж, як і ў нас,

Тваіх паэтаў, твой народ
Я палюбіў, Каўказ.

Хачу дзяліцца я з людзьмі
Тым, што здабыў, збярог,
Каб рэкі нашы, поле, лес
Каўказ пабачыць мог.

Каб нашай мовы хараство
Пачуццямі любві
І у сыноў суровых гор
Бруілася ў крыві.

*1980*



## ГРОНКІ ВІНАГРАДУ І РАБІНЫ

Можа, хто пасее прыгаршчамі кпіны,
Калі ў паэтычны сад загляне.
Гронкі вінаграду і рабіны
У мяне заўжды ў адной пашане.

Не збіраўся я ніколі ў вырай,
Хоць і цешыўся паўднёвым сонцам,
І на поўначы бываў я з лірай,
Палюбіў паўночны край бясконца.

Так і падружылася рабіна з вінаградам,
Я на іх з любоўю буду прыглядацца.
Ярка свеціць сонца над маленькім садам,
Спорыцца пад сонцам мая праца.

*1984*

## КРЭДА

Збіраў руду я рэчаіснасці
І ў сэрцы плавіў,
Заўжды гарэў агнём я
Неўгамонным...
Цябе, Радзіма,
Усёй душою славіў,
Цябе люблю
Няспынна і нястомна.

Метал радкоў маіх,
Гадамі змацаваных,
Не пакрываецца
Налётнаю іржою,
Жыву адданасцю
І вернасцю загартаваны,
Не ведаю ў жыцці
Прыпынку і спакою.

*1978*

## БЕЛАРУСЬ
## УМЕЛА БАРАНІЦЦА

Беларусь не ўмела падаць ніцма,
Беларусь умела бараніцца.
Летам, восенню, зімой, вясною
Партызанкаю была яна лясною.

Прыгадае вораг нашы сосны,
І яму адразу стане млосна.
У баях крывавых пала нас нямала,—
Кожнага чацвёртага не стала.

І з сям'ёй народаў моцнай, дружнай
Здабылі мы перамогу мужна.
Беларусь не ўмела падаць ніцма,
Беларусь умела бараніцца.

*1946*

## ПАТРЭБЕН МІР

Патрэбен мір на ўсёй зямлі,
І злагада, і ласка,
Каб людзі вылюдкаў змялі,
Што зброяй могуць ляскаць.

Каб пазмяталася ўсё прэч,
Што шкодзіць мірнай працы,

Каб чорных не было пустэч,
Сады раслі, палацы.

Каб дзеці ў парках і дварах,
Як птушкі, шчабяталі,
Пра голад, холад, жах і страх
Не ведалі, не зналі.

Каб поціск братніх добрых рук
Быў моцны і праўдзівы,
І праўды яркую зару
Сустрэлі ўсе шчасліва.

*1982*

## ІШОЎ САЛДАТ З ВАЙНЫ

Дзе вербы нізка хіляцца,
Сцяжынкай ля прысад
Ішоў салдат на мыліцах,
Ішоў з вайны салдат.

Было на сэрцы радасна,
Бо яблыні цвілі,
А думы, нібы ў ясных снах,
У родны дом вялі.

На горцы па-над рэчкаю
Палын ды лебяда,
За бэзам і парэчкамі
Стаяў, чарнеў будан.

Сустрэлі жонка і сыны
Салдата ў будане,
Чакалі ж — вернецца з вайны.
Настаў канец вайне.

Сыны, нібы былiначкі,
Прыселі навакол,
А хлеба ні скарыначкі,
Пустуе бедны стол.

Здалося, яркае святло
Бліснула ў цёмны склеп,
Бо выняў, палажыў на стол
Салдат жытнёвы хлеб.

Дзе вербы нізка хіляцца,
Сцяжынкай ля прысад
Прыйшоў баец на мыліцах,
Прыйшоў з вайны салдат.

*1986*

## РАДАСЦЬ СКАЛЫХНЕ ДАЛІНЫ, РЭКІ, ГОРЫ

На аснежанай старой яліне
Давялося затрымацца зорцы.
Сніліся ўсю ноч арэхі на ляшчыне
Рыжай, у старым дупле, вавёрцы.

Вохкала сава, схаваўшыся у вецці,
Яркі месяц шэрай вочы сплюшчыў,
Заваліўся на паляне ў гурбы вецер,
А пад дубам лось заснуў у пушчы.

У маленькай леснічоўцы за парканам,
У бярозавым утульным і глухім зацішку,
Непакояць думкі ветэрана-партызана,
Ён з трывогай у руках трымае кніжку.

Ад падзей на свеце кроў у жылах стыне,
Ёсць вар'яты за шумлівым акіянам,
Хочуць спапяліць усё, зрабіць пустыню,
Хараство на свеце апаганіць.

Апускаецца на захад смела месяц,
І знікае найярчэйшая на свеце зорка,
А дзікі ў даліне снег глыбока месяць,
І зара прасцерла чырвань на пагорку.

Прыгажосцю край мой можа ганарыцца,
Неба сінім стала пасля ночы.
Прамільгнула шустрая сініца,
Добры дзень яна усім прарочыць.

Прачынаюцца і гарады, і сёлы,
Гляне сонца з вышыні на ўсе прасторы,
Рытм жыцця пачуецца узнёслы і вясёлы,
Радасць скалыхне даліны, рэкі, горы.

*1983*

## ПРЫГАДАЎ Я ЧАС ДАЎНЕЙШЫ

Прыгадаў я час даўнейшы.
Ён не вернецца ніколі.
Ноч у закутку тутэйшым.
Зоры яркія над полем.

Прыгадаў я час даўнейшы.
Прыдарожныя абшары.
Камінок. Пішу я вершы.
Тут пра лепшы час я марыў.

Прыгадаў я час даўнейшы.
Конь імчыць дарогай саннай.
Пралажыў я след тут першы.
Набліжаўся яркі ранак.

На заснежаным асфальце
Бачу след аўтамашыны.
Хто праклаў? Ды не гадайце —
«Жыгулёў» і «Волгі» шыны.

Над страхою не дыміцца
Больш стары аблезлы комін.
Дом высокі. Камяніца.
Час даўнейшы я успомніў.

*1983*

## МІРНЫ СЦЯГ ЗАЗЗЯЕ НАД ЗЯМЛЁЮ

Спарахнелы камень ад падмурка хаты,
Спаленай тады, у час вайны Айчыннай,
Вось і ўсё, што мне пакінулі звяругі-каты.
Гляну: пра той час забыцца немагчыма.
Да магілы мацеры пайду, схілюся,
Пад бярозкай надмагільнай стану:
— Маці, я твой сын, радзіме Беларусі
І табе навечна я адданы.
У несакрушальны гмах Айчыны мілай
Пакладу нязвыклай моцы камень,
Каб навалы, ураганы дзікай сілы
Не маглі крануць ніколі нас, вякамі.
Гмах наш мы зніт уем цеплынёю дружбы,
Нашае крыві і сэрцаў цеплынёю.
Ў поступе наперад смелым, мужным
Мірны сцяг заззяе над Зямлёю.

*1984*

## А ДУДКУ НАВАТ СЛУХАЮЦЬ КАМЕННІ

У дудачку на лодцы хлопец грае.
Каго ён цешыць, калі ўсюды пуста?..
З усходу сонца ўстала, пазірае,
З любоўю прабіраецца праз хмарак лусту.

Напэўна, палюбіла дудара за тое,
Што мае дзіўныя душу і рукі,
Таму і слухае паціху, залатое,
Якія простыя і шчырыя ліюцца гукі!..

Прыходзіць раніца. Яшчэ пануе ціша,
А сонца сыпле шчодрыя праменні.
І падымаецца, вялізнае, ўсё вышай,
А дудку нават слухаюць каменні.

*1981*
*Браслаўскія азёры*



Студэнт Вышэйшага педінстытута,
1933 г.



Станіслаў Шушкевіч і Кацярына Аляксееўна,
1959 г.



Станіслаў Шушкевіч
з жонкай Кацярынай Аляксееўнай.
Ангара, вёска Кокуй, 1956 г.



Паэты — Станіслаў Шушкевіч
і Сцяпан Ліхадзіеўскі, 1961 г.



Уладзімір Дубоўка,
Станіслаў Шушкевіч і Янка Маўр, 1963 г.



Калгас «Камінтэрн»
Дзяржынскага раёна, 1969 г.

## БАЛАДА
## АБ ПАРАНЕНЫМ САЛДАЦЕ

Кроплямі, святлейшымі за расу,
Плакаў пасечаны кулямі сук.
Хоць бы салавейка боль той загаіў...
Паляцеў ён з песняю ў далёкія гаі.

А бярозы ў роспачы сталі ў рад,
Пад адной з іх ранены малады салдат.
Ён сваю Радзіму мужна бараніў
Ад навалы ворагаў — хцівае гайні...

Сочыцца па кропельцы кроў з грудзей,
Дзе ж сябры-таварышы? Дзе вы?!. Дзе?!.
На глухой паляне не сціхае бой.
Камандзір ускрыкнуў: — Гэй, за мной!..

Чуе покліч-заклік ранены салдат,
Стрэлы і грымотныя выбухі гармат...
Капае па кропельцы на зямельку сок,
Арасіў травіцу, арасіў пясок.

А ў салдата вусны прагныя гарэць,
Хоць бы кроплю вільгаці як дастаць.
І сабраўся з сілаю салдат,
Да грудзей прыціснуў аўтамат:

— Хоць бы мне пасунуцца з пядзю ці на крок...
Капае халодны на зямельку сок.
Смутна паглядае ранены баец:
— Пэўна, смерць тут стрэну, свой канец?..

Як бы мне падняцца?.. Як бы мне устаць?..
Не, не здамся смерці! Рана паміраць...
Прасцірае ранены стомлена далонь,
Прапякае цела моцны боль-агонь.

Але ўжо у прыгаршчы жыватворны сок,
І цяплом разліўся у грудзях глыток...
Што гэта за тупат? Хто бяжыць
Па лясной разорыне, па лясной мяжы?..

Зноў напагатове верны аўтамат,
Цэліцца па ворагу ранены салдат.
— Родныя бярозы, родная зямля! —
Застагнаў паранены каля пня-камля.
І свайго таварыша добрыя сябры
На руках панеслі па лясной гары.

Прыляціць салоўка раніцай у гай,
На сваю Радзіму, у свой родны край.
Зажыве паранены куляй сук,
Будзе сонца сеяць прыгажосць-красу.

*1978*

## НЕ ПАМЕРЛА МЕЛЬНІКАЙТЭ

Вораг цешыўся. Няма ж ужо Марытэ.
Цішыня, спакой цяпер настануць.
Быў трыумф кароткі у бандытаў,
Зарасай падняўся, як ад урагану.

Паляцелі эшалоны пад адкосы.
Заклікі гучалі: «Бі бандытаў!»
Затрашчалі аўтаматы стогалоса:
Не памерла нашая Марытэ!

А калі ж у Зарасай салдаты нашы завіталі,
Дык імя Марытэ зноў чуваць усюды.
Аднавілі ўсё, адбудавалі,
Дзе ляжалі друз і цэглы груды.

Мельнікайтэ ў песнях, на партрэтах,
Мільнікайтэ ў школах, на заводах,
Мільнікайтэ ў кнігах і газетах,
Мільнікайтэ — у радах народа.

*1981*
*Літва, Зарасай*

## ГРУКОЧУЦЬ КОЛЫ ГРОМУ

На голы лес зязюля сёння кукавала.
Ледзь распускаліся зялёныя пупышкі.
Вавёркі на пустых яшчэ прагалах
Збівалі з соснаў адзінокіх шышкі.

Дразды перанялі вяснянкі-песні
У салаўёў, што ў выраі за морам,
А кветак мала. Не знайсці, хоць трэсні.
Няўжо пралескі зацвітуць няскора?

Вясна вось-вось дыхне лагодна
На поле, поплаў, лес і соннае балота,
І заіскрыцца бляскам непаўторным
На лісцях лотаці густая пазалота.

Пачуем ціхі дождж і гром вясенні,
І над ялінаю, як пад страхою,
Усё замрэ і будзе летуценіць
Пра хараство, што ўжо не за гарою.

Зязюля, не кукуй на лес пусты і голы.
Ляцяць з мясцін паўднёвых салаўі.
Прыслухайся, грукочуць колы грому,
Аж дуб замёр і подых затаіў.

*1979*

## НА МОГІЛКАХ СТАЯЦЬ МАЎКЛІВА СОСНЫ

Рассыпала вясна ў той ранак росы,
Праменнямі палалі дрэвы, поле, сенажаці.
Я бегаў па траве шчасліўцам босым.
Ах, колькі радасці было ў маёй гаротнай маці!

Схіляю галаву над матчынай магілай,
Зноў бачу раніцу такую ж, як калісьці,
Рука чыясьці ружы пасадзіла,
Я дакранаюся пяшчотна да халодных лісцяў.

Не ўмею плакаць, але боль цярплю нязносны,
Душа мая слязою горкай плача.
На могілках стаяць маўкліва сосны.
Мая найлепшая, цябе я больш не ўбачу.

*1983*

## ІШОЎ НАПЕРАД І НЕ АГЛЯДАЎСЯ

З далёкіх год быў я сабе дарадцам —
Ісці наперад і не аглядацца.
Працяжных не рабіць прыпынкаў у паходзе,
З задумаю быць непарыўна ў згодзе.

Не аглядаўся, ды на сэрцы горка.
Сябры-таварышы засталіся за ўзгоркам.
Я ж разам з імі быў, ды больш не ўбачу,
Таму душа за лёс іх часам плача.

*1983*

## БЯЛЕЛІ НА ТРАВЕ КАЛІСЬЦІ ЖОРНЫ

Вятрак згарэў, ды засталіся жорны,
Як белы блін, ляжалі на траве.
Яны агню ліхому непакорны,
Да працы іх млынар не пазаве.

Густы палын наўкол шугнуў, разросся,
Завесу ржавую, схіліўшыся, укрыў.
Каму ж яна патрэбна? Хутка восень...
Абмалацілі збожжа мокрыя вятры.

Ішоў адзін я праз выбоіны ды лужыны.
Са мною цень не адступала ні на крок.
Наўкола пуста. Быў я стомлены, знядужаны.
Паціху набліжаўся недалёкі змрок.

Праз многа год быў на той мясціне.
Ля жорнаў светлакосая бярозка ўжо расла.
У свежай зелені ляжаў гасцінец,
Кіпела радасцю жыцця вясна.

Ужо распаліся на дзве паловы жорны,
І неўзабаве іх укрыюць і трава, і мох.
Зноў час успомніўся далёкі, непаўторны,
Забыцца на мясціну гэтую не змог.

Бярозка нізкая на жорнах, нібы помнік,
Жывая, стройная, уся ў сярэбранай расе.
З вышыні сонца сыпле шчодрай жменяй промені,
І ветрык водар ранішні нясе.

Вятрак, калісьці раскруціўшы крылы,
Здавалася, ляцець удалячынь быў рад.
Бярозка з выглядам спакойным, мілым
Стаіць і прыглядаецца ў нязнаны далягляд.

Яна не бачыла гармат, варожых танкаў,
Не ведала людскога гора, горкіх слёз
І на збуцвелых жорнах, нібы ганку,
Глядзіць на гурт сясцёр сваіх, бяроз.

*1983*

## Я НАСЦЕЖ ДЛЯ ПАХОДУ АДЧЫНЯЮ ДЗВЕРЫ

Зіма пляцецца з-за паўночнага пагорка,
А восень ліст апошні ёй пад ногі сцеле,
І сэрцу робіцца неспадзявана горка,
Бо першы халадок ужо прабег па целе.

Ах, маладосць, ты паляцела ў вырай,
А я лічыў, што побач ты са мною.
Бывай, кажу, як і заўсёды, шчыра,
Як і калісьці, у мяне ні кропелькі спакою.

І недапісана і пройдзена так мала,
Хацелася б ляцець у космас на ракеце,
Быць там, дзе і штодзённа і з запалам
Сягоння твораць новае ў вялікім свеце.

Я рад, што маю сіл яшчэ багата,
Што мазалі не сцерліся ад кіркі, ад сякеры.
На дрэвах снег бялее, нібы вата.
Я насцеж для паходу адчыняю дзверы...

*1982*

## ЖЫВУ Я
## ПАД МАІМ ВЯЛІКІМ СОНЦАМ

Напэўна, тут сумуе лес, дуброва,
Зялёны гай і сонечныя пералескі,
Яны ж даўно не чулі майго слова,
Хоць не забыўся пра свае старыя сцежкі.

Птушыны спеў ніколі не сціхае,
Калі цвіце чаромха над ракою,
Тут жаўрукі спяваюць песні маю
І сойкі не даюць дубам старым спакою.

Усё маё наўкол, куды ні глянеш,
Прысады, нівы жыта і пшаніцы,
Усё маё, што бачу ад світання,
Азёры, рэкі, срэбныя крыніцы.

Тут нарадзіўся, рос у чужой хаце,
Бо не было сваёй, я ведаю, ніколі,
Тут песню родную пачуў ад маці,
Не на сваім, чужым адвеку полі.

Багатым стаў цяпер. Мне ўсе зайздросцяць,
Ад сэрца песню склаў сваёй старонцы,
Гаспадаром жыву, а не часовым госцем,
Тут, пад сваім вялікім, яркім сонцам.

*1983*

* * *

Я ў пышнай квецені прыкмеціў
Пажоўклы лісцік. Вось ён!..
Адарве ад дрэва вецер,
Хоць вясна цяпер, не восень.

Што ж, няхай ён не вяшчае
Нам дажджы, туман і слоту.
Не ў пару той памірае,
Хто прарочыць сум, маркоту.

*1984*

## НА БЕРАЗЕ ДЗВІНЫ

Над Полацкам ляцелі плаўна журавы,
Плылі Дзвіной пакрышаныя крыгі.
Вада за горадам укрыла паплавы,
А катэр прабіраўся па рацэ да Рыгі.

Скарына ўдалеч глянуў з п’едэстала,
Вясна яго абрадавала, як і ўсіх.
Тут маладосць мая даўным-даўно блукала,
Парыў яе яшчэ дагэтуль не заціх.

І раптам сэрца здрыганула пад кашуляй,
Руку халодную прыклаў я да грудзей,
Пачуў я словы далікатныя: — Дзядуля,
Ці гэта вуліца ў музей нас давядзе?!.

Юнацтва птушкай беззваротнай, хуткакрылай
За журавамі паляцела ў невядомы край,
Цяпло прыроду зноўку разбудзіла,
А я вясне сваёй сказаў: — Бывай!

*1983*

## НЕСПАКОЙ

Бывае, сам з сабою я не ў згодзе,
Змарную час, а мне — не трын-трава:
Трывожна сум падкрадзецца, як злодзей,
І нават схіліцца ад думак галава.

Тады хутчэй збіраюся я ў поле
Або імчу трамваем на завод,
Каб разам быць з людзьмі і каб ніколі
На сэрцы не ляжаў самотны лёд.

Якая радасць адчуваць і бачыць
Маёй радзімы росквіт і разгон!
Хачу, каб вечна у крыві гарачай
Кіпела любасць да шчаслівых дзён.

*1982*

## ЧАРАЎНІЦА

Кветка-сон зачаравала
Дрэвы ўсе як ёсць у лесе.
Хіба сну было ім мала,
Калі плыў па небе месяц.

Ён свяціў. Драмала вецце,
Хмарыў сон дубы і хвоі.
А цяпер жа сонца свеціць,
А яны ў нямым спакоі.

Над крыніцай спіць каліна,
І вярба як нежывая.
Не лялеча ў сне ляшчына
І асіна трапяткая.

Нат зязюля не кукуе,
У зацішку дрэмле зранку.
Салаўя ж не зачаруе —
Ён спявае калыханку.

Кветка-сон зачаравала
Майскім ранкам лес зялёны.
На паляны, на прагалы
Пахілілі дрэвы кроны.

*1982*

## УТАЙМАВАЎСЯ УРАГАН ВАЙНЫ

Не пелі, плакалі вясною салаўі,
Калі прыйшоў на папялішча хаты,
Яны ў параненым асколкамі галлі
Мне прыгадалі маці, бацьку, брата.

Куды падацца і куды ісці?..
Прастор вялікі, але ж цесна стала.
Спакойна бусел тупаў па трысці.
А чапля ля затокі, як калісьці, спала.

Каму ж пра гора, думаў, расказаць,
Тут стоячы на стоптаным пагорку.
Я з тых, што умеюць будаваць,
Трымаць кайло, сякеру і рыдлёўку.

Я не адзін, такіх было мільёны...
Святло зноў шчодра палілося ў шыбы.
Утаймаваўся ураган вайны шалёны,
Няхай яго навечна пахаваюць гневу глыбы.

*1983*

## ЗНОЎ СКРЫПКА АЖЫВАЛА

Чалавек ён быў з душой музычнай,
Скрыпку да грудзей туліў, бывала.
Іншы раз грымела яна звычна,
А часамі плакала, рыдала.

Размаўляла, адкрывала сэрцу
Казачныя, дзіўныя шляхі і сцежкі,
Заклікам, бывала, адзавецца
Або сыпле жарты і усмешкі.

А вайна, як мора ў навальніцу,
Раскрышыла мары і надзеі,
І гаспадару часамі сніцца
Голас, што зглушылі ліхадзеі.

Без рукі скрыпач вярнуўся з фронту,
Дзеці дома скрыпку захавалі,
І далёка дзесь за гарызонтам
Родныя мелодыі знікалі.

Ўнук да скрыпача прыбег аднойчы,
Прытуліўся, прыгарнуўся да старога,
Не прасіў маленькі і рухавы хлопчык
У дзядулі роднага нічога.

Глянуў ён на скрыпку сінімі вачыма,
І было адразу зразумела,
Безгалосай быць ёй немагчыма,
Што яна нібы душа без цела.

Радасць і надзея завітала,
Нібы сонца глянула ў кватэру,
Музыкант адчуў, як скрыпка ажывала,
Ён яе аддаў унуку-піянеру.

*1983*

## ПЛАЧУЦЬ МАЕЙ ПЕСНІ ПРОСТЫЯ РАДКІ

Асядлаў шырокі мост раку,
Праз яе калісьці плыў паромам.
Кораб успамінаў валаку,
Кожны дом з маленства быў знаёмым.

Вёскі больш няма на беразе другім,
Робіцца на сэрцы горка.

Толькі сена высяцца стагі,
Могілкі чарнеюць з-за пагорка.

Да сустрэчы час развёў масты,
Бачу прозвішчы на чорных плітах.
А адлегласць толькі тры вярсты
Да той вёскі, здаўна знакамітай.

На пагорку, каля берага ракі,
Стану ля магіл, пакорліва схілюся.
Плачуць маёй песні простыя радкі
Па чацвёртым кожным беларусе.

*1984*

## МНЕ ХАРАСТВО МОЙ РОДНЫ КУТ ДАРЫЎ

Снег сыплецца. Гайдаецца сініца.
Адна-аднюсенькая на ўвесь сад.
Бярозам пабялелым больш не спіцца,
Хістаюцца, чакаючы каляд.

Мяцеліцы за сінім даляглядам
Яшчэ начуюць за густым ляском.
Над дахам дома, ля дарогі радам,
Дым сцелецца парваным паяском.

Мільёны розных краявідаў бачыў,
А гэты родны мой мілей за ўсіх.
Душа і сэрца часам моўчкі плачуць,
Калі я воддаль ад мясцін сваіх.

Імчаць мяне з пагорка лыжы,
Зноў маладосці я падаў руку.
Усё далёкае мне стала бліжай,
Перасякаю поплаў і раку.

Вось і абрыў. Бывала, тут з вудою
Сядзеў, пакуль не падыходзіў змрок,
І цешыўся празрыстаю вадою,
І пазіраў на лёгкі паплавок.

Птушыны спеў не замаўкаў ніколі,
Жылі дубровы ўдзень і ноч,
А перапёлачка крычала ў полі,
І вохкаў сыч, усеўшыся на корч.

Плыў месяц. Думаў я, што рогам
Падчэпіць на пагорку дуб стары.
І не было ні стомы, ні трывогі,
Мне хараство мой родны кут дарыў.

Снег сыплецца. На яблынях карункі,
Наўкол нязвыклы казачны узор.
Зіма падносіць шчодра падарункі
З халодных серабрыстых зор.

*1983*

* * *

На першай рос праталіне
Я першаю пралескаю,
І чысціню давалі мне
Сумёты між узлескамі.

А людзі вочы цешылі,
Пасля зусім забыліся.
Я з тых, што звалі першымі
І да якіх хіліліся.

Парою цёплай майскаю
Зайздросцілі мне многія —
Сваёй сардэчнай ласкаю
Не абмінаў нікога я.

Таму і не хістаюся,
Дарога мая роўная.
Са старасцю не знаюся,
Бо з маладымі кроўны я.

Як добра быць пралескаю
Вясною на прataліне,
Не знацца з доляй кепскаю
На сонечнай прагаліне.

*1982*

## ШЛЯХ ВЫБРАЎ МЕСЯЦ ПАМІЖ ЗОР

У дыяментах снег наўкол,
Аж месяц з высі дзівіцца.
Яліна звесіла падол,
На яр націху хіліцца.

Усё маўчыць, і мноства зор
Мігцяць, іскрацца, свецяцца.
Бярозы сталі у дазор
З нахіленымі веццямі.

Няўжо ім трэба вартаваць
Дарогу між прысадамі?
Там зледзянелы снег-жарства
Вандроўніка не радуе.

Не можа доўга ціш трываць,
Спакой раптоўна рвецца.
З гушчарніку крычыць сава,
Крык вусцішна нясецца.

Шлях месяц выбраў паміж зор,
Плыве, савы не чуе.
І ляжа ён за цёмны бор,
Спакойна заначуе.

*1982*

## ІДЗЕ ЧАКАНЫ КРАСАВІК

У засені яшчэ шумелі раўчукі,
А снег яшчэ ляжаў пад дрэвамі глыбокі,
І прабіраліся па ім жукі і павукі,
А матылёк з праталіны падняўся пад аблокі.

Няшчасцем скончыўся яго палёт,
Папаў у дзюбу вераб'ю знянацку,
У шэрага маленькі, але прагны рот
І апетыт вялізарны і хвацкі.

Вада пакінула старыя берагі,
Па поплаве шырока разлілася,
Аблюбавалі чайкі мокрыя лугі
І раскашуюцца на выбраным папасе.

А я на ўзвышша падымаюся адзін,
Здаецца, ад зямлі вось зараз адарвуся,
На возеры даўно няма халодных льдзін
І адзываюцца трывожна воддаль гусі.

Ідзе чаканы, смелы красавік,
Хіба яго хто спыніць, затрымае,
А шпак, які да холаду прывык,
Для майскай цеплыні ўжо крылы прасцірае.

*1982*

## ВЯЛІКІ СВЕТЛЫ МАЙ

Цяпло і ласку не хавай,
Будзь шчодраю, вясна, на свеце!..
Пабач, як крочыць мужны Май
І яркім сонцам дружбы свеціць.

У братняй еднасці народ
Усіх краін зямнога шара,
Пачаў крышыць прыгнёту лёд
На заняволеных абшарах.

Чырвоны сцяг, ярчэй палай,
Сцяг братняй еднасці і дружбы!
Ідзі, вялікі светлы Май,
Ступай адважна, смела, мужна.

*1982*

* * *

Я радуюся чорнай баразне,
Што трактар пралажыў на чыстым полі,
І жаўруку, што гімн пяе вясне,
Што горычы не ведае ніколі.

Нясе мая ластаўка у дзюбе глей,
Палёт яе нястомны і кіпучы.
Ручай бліскучы выгінаецца, як змей,
Клякоча бусел на гняздзе над кручай.

І ўжо чаромха ў лузе зацвіла,
І касачы з балота вылезлі штыкамі,
А сцежка, што мяне сюды вяла,
Сустрэла на лясным пагорку камень.

Прысяду. Гэтулькі на свеце хараства.
Усё тут радуе душу і вочы,
Паблізу тут была струхнелая трава,
Што летась умірала неахвоча.

Бяздонне неба сіняга. Няма яму граніц,
А сонца сыпле дзіўныя праменні.
Здаецца, камень той зваліўся ў травы ніц
Ад водару і шчасця ў захапленні.

*1982*

## МІЛЬЁНЫ НЕЎМІРУЧЫХ...

Катловішчы ад бомбаў
Зараслі рабінай,
Дубы пакінулі
Апаленыя пні наўкола.
У зараслях бярэзніку,
Паміж галінак,
Чуваць птушыны спеў
Задзірысты, вясёлы.

Чабор густы павіс
Над каляінаю глыбокай,
Ля лужын падарожнік
Спеле ліст шырокі.
Старэнькая з букецікам рабіны
Павольным крочыць крокам.
А помнік на пагорку
Ўзняўся недалёка.

Яна ідзе успомніць мужа,
Дарагога сына.
Не!.. След вайны не знік,
Нічым яго не сцерці.
У памяці нязгаснай
Засталася горкая часіна,
Не падуладна памяць
Ні агню, ні смерці.

Жывуць мільёны тых,
Што палі за цябе, Радзіма,
У нашых сэрцах і пачуццях,
Подзвігах кіпучых.
Ужо дзесяткі год
За нашымі плячыма,
Мільёны ж у радах
Адвечна неўміручых.

*1982*

* * *

Адзінокі стажар на пустой сенажаці.
Чорны птах адзічэла крычыць,
Можа, плача па родным дзіцяці,
Бо нястомныя нават замоўклі драчы.

Поле шэрым было яшчэ ўчора,
А пралескі жывыя глядзяць ля кустоў.
Знаю, прыйдзе дзень сонечны скора,
Знаю, бэз зацвіце ля дарогі ізноў.

Дзе стаялі слупамі нямыя стажары,
Стануць густа ў нізінах стагі.
О, бязмежныя нашы наўкола абшары!
Край маленства майго дарагі.

*1983*

## ТОСТ ЗА ЖЫЦЦЁ ШЧАСЛІВАЕ

Расце высотны дом, аж пад аблокі цягнецца,
Кран выгінаецца павольна і без скрыгату.
Дзяўчаткі-муляры чамусьці сёння раніцай
Кранаўшчыка сустрэлі звонкім рогатам.

Ён малады, учора быў з бародкаю,
Тырчэлі вусікі уніз падковаю,
Цяпер жа ён паголены, а голас з цёплай ноткаю
Звініць задзёрыстай кароткаю размоваю.

І тое, што было учора патаемнасцю,
Зрабілася адкрытаю адгадкаю:
Ён танцаваў і размаўляў з прыемнасцю
З вясёлай і прыветлівай Агаткаю.

І ўчора на тым вечары, што доўга будзе помніцца,
Прызнаўся, пакахаў сяброўку ён без памяці...
Ён стаў яе палоннікам, яна ж яго палонніцай.
Блукалі яны ў парку аж да самай раніцы.

Ах, мілыя работніцы, ах, муляры курносыя,
Не так ужо і забаве вяселле пэўна збудзецца,
Хоць весела рагочаце, але ж зайздросна вам,
Што кранаўшчык упушчаны, бо рэўнасць нават будзіцца.

І ў доме, што ля Свіслачы па-над высокай горкаю,
Вясельны спеў пачуеце і музыку гуллівую.
Вы крыкнеце, што вельмі сёння горка вам,
Бакалы ўверх падымеце за іх жыццё шчаслівае.

*1982*

## ПРЫВІТАННЕ ВАМ, МАЕ ЎНУКІ!

Прыгадаўся прыгарад, паўстанак
І гарачы развітальны пацалунак.
Незабыўным застаецца ранак,
Хоць і за плячыма часу клумак.

Нават, калі б сэрца мець з металу,
Захацелася б перон былы наведаць
І прайсціся сцішана, памалу,
Тым далёкім, незабыўным следам.

Шпалы вытыркаліся з-пад снегу,
Семафор глядзеў з паднятым кругам.
Прадвяшчалі вераб'і адлігу,
Шчабяталі аж на ўсю акругу.

Бомбы той вакзал ушчэнт разнеслі,
Дзе перон быў — штабель рэек чорных.
Правады гудуць старыя песні
Пра той ранак смутны, непаўторны.

Подбегам спяшаюцца у школу дзеці,
Велічны, высокі дом навукі.
З-за пагорка сонца свеціць...
Прывітанне вам, мае вы ўнукі!

*1982*

## ЗНОЎ ВЯСНА ШУМІЦЬ ЗЯЛЁНЫМ ЛІСЦЕМ

Зарасла зямля густой травіцай,
Дзе з табой вясной хадзілі разам.
Май цяпер далёкі часам сніцца,
Сніцца засень пад шырокім вязам.

А буслы, што часта клекаталі
На старой прыгорбленай бярозе,
Паляцелі ў вырай, паляцелі далей,
Па нябеснай па-над хмарамі дарозе.

Дзе ж ім прызямліцца давялося?
Дзе ж знайшлі прытулак на чужыне?
Ды і нас такая ж разлучыла восень,
Прыгадаеш, кроў у жылах стыне.

Дом на покаце, на ўзвышшы,
Мы з табой ніколі не забудзем.
Вырас клён цяпер на папялішчы,
Дзе быў сад, дарогу пралажылі людзі.

Воддаль яблыні квітнеюць на пагорку,
Зноў вясна шуміць зялёным лісцем.
Хай жа маладым не будзе горка
Разлучацца назаўсёды, як калісьці.

Зарасла зямля густой травіцай,
Зарасла гадамі, не адразу,
Ды не восень, а вясна мне сніцца,
Дзень, калі з табой былі мы разам.

*1982*

## ПЯЮЦЬ ДЗЯЎЧАТЫ

У лозах вінаграднікаў пяюць дзяўчаты,
Напоўнены ўжо ягадай кашы.
Звісаюць гронкі. Ураджай багаты.
Таму і песні льюцца ад душы.

Зямля прасторная вялікай Украіны,
Багатыя і нівы, і сады,
І маляўнічыя узвышшы і раўніны.
І сёлы ў зелені, у дрэвах гарады.

І мора неабсяжнае, і рэкі, і азёры,
Чыгункі, стужкі сцежак і дарог.
Мне падабаюцца твае бязмежныя прасторы,
Я шчырую любоў табе прынёс, збярог.

У крымскіх вінаградніках пяюць дзяўчаты,
Ад сэрца льюцца песні, ад душы.
Звісаюць гронкі. Ураджай багаты,
Стаяць, як вежы, з ягадай кашы.

*1981*
*Крым*

## Я НА ВОСЬМЫМ...

На маім шырокім падаконніку
Многа кветак і прастору сонейку,
А нядаўна ў занядбайным доміку,
Што стаяў у палыне, асоце, донніку,
Меркаваў да смерці заставацца.
Давялося ўвышыню, уверх забрацца.
Сам хачу ў сябе я запытацца:
Як магло так здарыцца і стацца,
Я ўжо перастаў быць пешаходам?
Хуткім ліфтам без ніякай перашкоды
Карыстаюся ўжо болей году.
Не ў дуброве, не ў зялёным лесе,
А на восьмым я паверсе.
Хто заслоніць мне або завесіць
Светлае акно? Ледзь не кранаю месяц.
Як высока! Там за даляглядам
Мне, здаецца, блізка ўсё і радам:
Пад рукою рэчка, поле, грады,
Пералескі, ля дарог прысады.
Ды бяда, што мой паверх апошні,
Нібы я знаходжуся на пожні,

Дзе ўсё скошана і толькі колас позні
Тут пакінуты, стаіць, як падарожнік.
Я на восьмым. Бачу воддаль домік,
Крапіву, асот, палын і доннік.
Укрываюць кветкі падаконнік.
Мой пакой заслалі сонечныя промні.

*1981*

## ЦЯБЕ Я Ў ПАМЯЦІ ЗБЯРОГ

У белых шапачках платы,
У белай вопратцы драты.
У белым — поле, лес і плёс,
У белым — на падворку воз,
У белым — дах і каміны,
У белым гнуцца палыны.
Ад гэтай белай пекнаты,
Напэўна, пабялела ты.
Нібы саломінкі аўса
Ляглі на скроні ў валасах.
Бялеў ад кветак воддаль сад,
Бялела на траве раса,
І, нібы ў белым светлым сне,
Зноў прыгадалася ты мне.
Цвіў белы бэз каля дарог...
Цябе я ў памяці збярог.

*1982*

## ДАРОГА Ў КАЗАЧНЫ АБШАР

Снег і мароз. А дзень прыбыў
На некалькі мінут, не болей.
Табе ўжо мрояцца грыбы,
Сцяжынка ў васільках на полі.

Забудзешся пра час і леты,
Здаецца, зноў вясну сустрэў,
Глыбокі снег укрыў палетак,
Лёг наквеццю на голле дрэў.

Скамечыш снежку, нібы мячык,
Шпурнеш у слуп перад сабой,
Пачуеш гоман, смех дзіцячы...

Куды падзеўся твой спакой?
Шчаслівы, што ідзеш да мэты,
Ідзеш у казачны абшар,
Што ты ў палоне светлых мар.

*1982*

## НА БАБРУЙСКІМ ВАГАВЫМ ЗАВОДЗЕ

Завод. Варштаты і станкі.
Вялізны і прасторны цэх.
Шум. Гул. Сігнальныя званкі.
Матораў на падворку бег.

І раптам змоўкла ўсё наўкол.
Рубільнік шчоўкнуў. Цэх заціх.
Абед. І за варштат, як стол,
Нас запрашаюць абаіх.

Прыйшлі празаік і паэт.
У гэтай цэхавай цішы,
Здаецца, слухае ўвесь свет.
Чытаю вершы ад душы.

Узважыць твор умеюць тут
Майстры дакладнае вагі.
Заводскі цэх — мой інстытут,
Рабочы — крытык дарагі.

*1973*

## НАШ ДВОР

Быў гэты двор падобны на дрывотню...
Валяўся друз і смецце, рос палын.
І вось аднойчы ў цёплы дзень суботні
Зрабілі людзі працавітыя пачын.

Рыдлёўкі звонка разграбалі шчэбень,
І вось гатовы ямкі для драбнюткіх дрэў.
Цікаўна галубы кружылі ў ясным небе.
Заўзята працай кожны тут гарэў.

У зацішку для яблыні знайшлося месца,
Бярозкі і таполі сталі з краю ў рад.
І напісалі вучні на абвестцы
Тры словы: «Беражыце, людзі, сад!»

Праходзяць вёсны. Час ідзе няспынна.
У белай квецені заліўся салавей.
Гаспадарам маленькім выпала гадзіна
Усесціся пад дрэвам на траве.

Віхрасты жэўжык узбіраецца на лаву,
Пра коціка-свавольніка пачаў расказ.
Ён прэтэндэнт на воплескі і славу,
Ля тэлевізара сядзеў ужо не раз:

«Пайшоў коўзацца каток
На рачулку, на лядок,
Як імчаўся, на хаду
Праваліўся у ваду.
Нетрывалы быў лядок,
Непаслушны быў каток,
А яму ж казала маці,
Каб мышэй лавіў у хаце,
Каб маленькіх калыхаў
І на цёплай печы спаў...»

Успыхнуў я ад радасці бясконцай,
Для вас і я садзіў вось гэты сад.
І для мяне цяпер ярчэй палае сонца,
І сэрца біцца пачало на новы лад.

*1971*

## АПАДАЮЦЬ З ЯБЛЫНІ АНТОНАЎКІ

З капяжа цячэ, як з конаўкі,
Птушкі змоўклі, ад дажджу укрытыя,
Палыскуюцца антонаўкі,
Свежым дожджыкам абмытыя.
З па-над лесу хмары сунуцца,
На дарогах, сцежках лужыны.
З парасонікам на вуліцу
Бабка выбегла дасужая:
— Дзе ж вы, ўнукі? Дзе вы дзеліся? —
Кліча, кашляе старэнькая.
Пад павеццю яны ўселіся,
Там напоўнена сявенька
Садавінай спелай, смачнаю.
Дзед частуе. Усміхаецца.
На салому дзеці ячную
Селі дружна, з дзедам раяцца,
Дзе знайсці канькі і лыжы.
Хутка ж снег. Іх мары збудуцца.
І да дзеда бліжай, бліжай
Яны горнуцца і туляцца.
Восень. Дожджык. Дрэвы мокрыя.
З капяжа цячэ, як з конаўкі.
Чуцен голас позняй восені,
З яблынь падаюць антонаўкі.

*1981*

## СВЯТЛО ДАЛЁКАЙ ЗОРКІ

Бабуля з раніцы за прасніцай сядзела,
Павольна нітачка цягнулася з кудзелі.
Святло далёкай зоркі, сто гадоў што згасла,
Вучоныя злавіць, я прачытаў, паспелі.

За кросны сядзе добрая бабуля
І створыць кужаль тонкі і шырокі.
Я ведаю, што тчэцца новая кашуля,
А думкі аб нязнаным і далёкім.

Чым адплаціць старэнькай мне за гэта?
Мо жураўля злавіць над росным лугам?
Куплю ёй хустачку. Яна ж мяне, паэта,
Праславіць так, што будзе знаць акруга.

А дум маіх далёкія сардэчныя праменні
Калісьці нехта ўбачыць. Я ўжо згасну...

Пакуты трэба многа мець, цярпення,
Каб кволенькі праменьчык мець уласны.

Калісьці ўспомніць нехта прасніцу і верацёны,
Ніты, кудзелю і старыя кросны,
Успомніць тое, чым я быў натхнёны,
І жураўля, што не злавіў над лугам росным.

*1982*

* * *

Прыплялася старасць нечакана,
Перад ёю не зачыніш дзверы.
Я пытаю: — Што ж ты гэтак рана?
Можа, пераблытала метрычныя паперы?
Можа, адрас даў табе хапуга
Ці зайздроснік з-пад Парнаса?
Для мяне не быў ён сябрам, другам,
У яго сябры — рубель і ашчадкаса.
Глянь у вочы. Хіба ты не бачыш?
Сэрца і душу я маю маладую.
У цябе характар аддаўна лайдачы.
Што маўчыш? Няўжо мяне не чуеш?
Пахадзі яшчэ хоць чвэртку веку
І тады заходзь. Прыму як госця.
Я кажу табе без фальшу і без здзеку,
А цяпер ты для мяне, як дзірка ў мосце.

*1981*

## ПА ТАБЕ СУМУЮ

Зацвіла суніца
Ў лесе ля крыніцы.
Лось прыйшоў напіцца
Чыстае вадзіцы.
Чуе, не здалося,
Нехта крыкнуў: — Лосю,
Не тапчы ты кветак
Ні вясной, ні летам!
Не муці вадзіцу,
Не тапчы травіцу!
Уздыхнуў рагаты
На ўвесь лес кашлаты.
Быў ён тут зімою,
Каля вадапою,
Быў ён тут і ўвосень,
Каля стромкіх сосен.
Хто ж цяпер вясною
Не дае спакою?
Шэрая зязюля,
Стройная казуля?
Мо сава глухая
Ў цемры уздыхае?
Не даюць напіцца
Залатой вадзіцы.
Гэта ж тут рыкала,
Гэта ж тут гукала:
— Лосю адзінокі,
Лосю мой далёкі,
На мяне забыўся,
У гушчар укрыўся!
Па табе сумую.
Пэўна, боль мой чуеш?

*1983*

## ПА ГАСЦІНЦЫ НЕВЯДОМЫМ

Зазвінелі звонка бомы,
Аж ляцела полем рэха,
Па гасцінцы невядомым
Да каханай хлопец ехаў.

У вачах вялікіх карых
Сціпласць, шчырасць і развага.
Коні мчацца, коні шпараць,
А вазок нібы на вагах.

Хоць калгас яго багаты,
Не на «Волзе» ён нясецца,
Ён са сватам едзе ў сваты,
Як жывыя ходзяць лейцы.

Развявае вецер грывы,
Выгінаюць шыі коні.
Хлопец радасны, шчаслівы,
Мо таму так бомы звоняць.

Злёт калісьці быў раённы,
Адбылася там сустрэча.
У вачах яе лагодных
Многа ласкі чалавечай.

Шпаркім, бойкім, гонкім коням
Развявае вецер грывы.
Звоняць бомы, бомы звоняць.
Хлопец радасны, шчаслівы.

*1981*

## ЯК ВЫРАСЦЕ, ЁН СВЕТ АБ'ЕЗДЗІЦЬ

Нібы караблік вецер гоніць
У шлях далёкі і цяжкі,
Вісяць пялёнкі на балконе,
Як паміж мачтамі флажкі.

Кашулькі, распашонкі побач,
Здалося, плаўна паплылі,
Напэўна, гэта толькі спроба
Плыць на вялікім караблі.

Выходзіць маці. На балконе,
Як капітан, яна ўжо стала.
Плыві, караблік, вецер гоніць...
Дарог наперадзе нямала.

Малога ўбачыўшы, суседзі
Вітаюць, стаўшы каля ганку,
А вырасце, дык свет аб'ездзіць
Той, хто заснуў пад калыханку.

Няхай жыццё яму рыхтуе
Шчаслівы лёс. Прэч, смутак, гора!
Няхай жа маці загартуе
Таго, хто сталым стане скора.

*1982*

## ПЫРСНУЎ ДОЖДЖЫК НЕЧАКАНА

Пырснуў дожджык нечакана.
Шаляснула белая спаднічка.
Подбегам пусцілася на ганак
Мілая, прыгожая сунічка.

Кроплі часта стукаюць па даху,
Устрывожылі прыгожую дзяўчыну.
Вочы запалалі не ад страху.
Ну, нашто ж ты, дожджык, хлынуў?

Не адбудзецца чаканае спатканне.
Мокне клён наводшыбе стары.
Ну, калі ж ты сыпаць перастанеш?
Ну, нашто ж імглою ўсё пакрыў?

*1981*

## ПАЧУЦЦІ МАЙСКІЯ НАТХНЯЮЦЬ

Без роспачы гарачае ўмірала лета,
Халодным позіркам глядзелі астры,
І восень брала права без дэкрэтаў,
І сунуліся хмары, як старыя кайстры.

Я думаў, сэрца у мяне са сталі,
Усё я выцерпеў — і радасць, і нягоды,
Яго ж падзеі грозныя кавалі,
А ўжо адчуў, старэю год ад году.

Але пачуцці майскія яшчэ буяюць,
Я быльнягі тапчу змярцвелае старызны,
Няхай мае радкі натхняюць, а не раняць,
І ў свет вядуць шырокі і вялізны.

*1983*

## ДЗВЕ СТАРЭНЬКІЯ СТАЯЛІ ГРУШЫ

Дзве на ўскраі выгану раслі галіністыя грушы,
Дзве старэнькія падобныя сястры,
Злосны вецер іх не мог нколі зрушыць
І не мог схіліць іх і скарыць.

Нават навальнічным днём стаялі смела,
Іх міналі яркія маланкі, перуны,
Былі стойкімі, калі зямля грымела,
Былі моцнымі заўжды тады яны.

Але ў час вайны ім голле пакрышылі
Кулі, міны і агні ракет.
І відаць было ўжо за паўмілі,
Што з іх кожная стаіць, нібы шкілет.

Велічныя дрэвы спілавалі людзі,
Не пяюць тут болей салаўі,
А палын расце на чорным грудзе,
Пні, як помнікі, стаяць цяпер на ім.

*1983*

## ЗНОЎ СТУПАЕ ВОСЕНЬ

Дружыць часам верасень з гарачым летам,
Цеплынёй лагоднаю дыхне, бывае,
Адступае восень, і чародка дзетак
Па траве шаўковай з гоманам ступае.

А кастрычнік іх прымусіць апрануцца,
Не скупы на холад ён, дажджы.
Будуць дрэвы і шумець, і гнуцца,
А на гразь багаты ён заўжды.

Лістапад сарве дашчэнту лісце,
Сарамліва ён паклоніцца зіме,
Ён такім бывае, як калісьці,
Пад канец і ветрам снежным дзьме.

А стагі, як горы. Поўны элеватар
Важна і спакойна ўдаль зірне.
Ляжа лёгкі снег, бялюткі, нібы вата,
Лістапад тады правы здае зіме.

*1983*

## АХ, ВЯРНІЦЕСЯ, СНЫ

Гасне дзень. І на захадзе вогненным кругам
Абазначана месца, дзе сонца зайшло,
А туман белай посцілкай лёг па-над лугам,
І ўжо месяц глядзіць у азёрнае шкло.

Абхадзіў я за дзень і дарогі, і сцежкі,
Ціхі бор і жытнёвы прастор.
І драчы на балоце за цёмным узмежкам
Рэха шлюць у спакойны за рэчкаю бор.

За свой век я пабачыў паўсвету,
Зведаў мора, тайгу, не адзін ледавік,
Узбіраўся на скалы зімою і летам,
Да суровых вятроў і марозаў прывык.

Сэрца б'ецца, ад радасці рвецца,
Зноў знаходжу маленства старыя сляды.
Усе нягоды і ліха цяпер, мне здаецца,
Я мінуў і пакінуў ужо назаўжды.

Гасне дзень. Пад павеццю начую.
Водар сена да сну мяне раптам схіліў.
Ах, вярніцеся, сны! Вас пабачыць хачу я...
Каб такімі, як некалі, зноўку былі.

*1983*

## ЗНОЎ Я ГОСЦЬ МЯСЦІН СУРОВЫХ

Лёд прыкрыў раку, а хвалі
Больш не пеняцца ад ветру.
Маразы ізноў схавалі
Вадзяных глыбіняў нетры.

Гнаў плыты праз шлях бывалы,
Углядаўся я ў бяздонне.
Навальніцы і навалы
Памятаю я і сёння.

Знаў спакойныя затокі,
Знаў брады і знаў парогі.
Углядаўся я ў аблокі,
Што плылі пад плыт, пад ногі.

І мігаў мне бакен часта,—
Не зявай і знай фарватэр,—
Плыт імчаўся гнуткім пластам,
Берагоў крутых не кратаў.

Зноў я госць мясцін суровых,
Край знаёмы, лес, паляны.
Лепяць снег на вейкі, бровы
Зноў мяцеліцы, бураны.

Прыгадаліся навалы
(Успамінаў я аматар),
І пахіленыя скалы,
І узвілісты фарватэр.

*1982*

## БЛІЗКА НЕЧАКАНЫ ДЗЕНЬ

Забялелі стрэх старых папахі,
Матылькі рухавыя ляцяць з нябёс.
Верабейку снег залёг па пахі,
З поўначы наблізіўся мароз.

Прыйдуць снегапады і завеі,
Хутка вецер завіхнецца, загудзе...
І ўжо ў сэрцы мрояцца надзеі:
Блізка нечаканы лыжны дзень.

Але ж толькі завітаў зазімак,
Не прачнуўся вецер злосны, хіжы,
Хіба ж усядзець цяпер магчыма,
Палінялыя стаяць на ганку лыжы.

А яны ж сябры далёкіх дзён кіпучых,
З імі пракладаў нямала горных сцежак,
Абмінаў крутыя покаты і кручы,
Сустракаў не раз марозны снежань.

Вось нячутка падышоў зазімак.
Верабейку снег яшчэ па пахі.
Маладосць ізноў перад вачыма.
Кружаць плаўна ў паднябессі птахі.

*1977*

# Я ЛЯЧУ
# Ў ДАЛЁКІЯ САЯНЫ

Пэўна, ля мяне усеўся матэматык?
У блакноце разглядае лагарыфмы...
Аглядаюся,
Мой спадарожнік зухаваты
Вешае на строфы апантана рыфмы.

З ім ляцім мы ў снежныя Саяны,
Ён тунгус,
Я беларус, вядома.
Пазнаёміліся ў ІЛе нечакана.
Нас не морыць і не хіліць стома.

З намі чалавек, напэўна, каля трыста,
У розныя куткі ляцяць Сібіры.
Тут не адчуваем груку,
Шуму, свісту,
Ціха размаўляюць і смяюцца пасажыры.

Апускаемся мы ў Краснаярску плаўна,
Аж не верыцца, што прыляцелі скора.
А калісьці,
Ды было гэта нядаўна,
Меў за тыдзень я нямала гора.

Абдало надвор'е снегам і марозам,
Але ведаю,
Чакае цёплая сустрэча.
Казачнае ўсё здалося прозай.
Пацямнела. Набліжаецца паўночны вечар.

Прыгадалася маленства нечакана:
Гром.
А неба рэжуць бліскавіцы.
Кажа дзед, што едзе грозным панам
Па-над хмарамі Ілья на калясніцы.

Коні выбіваюць капытамі іскры,
Колы ляскаюць,
Чапляюцца за хмары.
Мне хацелася за фаэтонам быстрым
Наўздагонкі ашалела шпарыць.

І Ілья
І ІЛ не маюць падабенства,
Казачнае паштодзённай стала прозай.
Страцілі мяцеліцы сібірскія шаленства,
Самалёты нагадалі простыя абозы.

Сніцца, што Ілью я даганяю.
Не ўцячэ.
За фаэтон яго ўчаплюся.
У сяброў саянскіх, у таежным краю
Неба прыгадалася далёкай Беларусі.

*1982*

## НЕ РАЗ Я ДУМАЎ ПРА СЯБРОЎ

Не раз вясною плыў адзін
Праз бурныя парогі,
Не раз
праз глуш тайгі хадзіў,
Не знаючы знямогі.

Не раз
я думаў пра сяброў,
Якіх даўно не бачыў,
Спакою не давала кроў,
Пякла агнём гарачым.

Я адчуваю на плячы
Яшчэ рукзак паходны
І не збіраюся
ўцячы
У стан настрояў модных.

*1977*

## НАД СІНЯЙ БУХТАЙ

Крычалі чайкі. Дружныя дэльфіны
То нырцавалі, то плылі шалёна.
Караблік прыстань людную пакінуў,
Упарта хвалі рэжучы з разгону.

Схіліўшыся сяджу, і нечакана стома
Гартае ў памяці палескія прасторы.
Шкада, шкада... Дарожны зноў, не дома —
Шукаю невядомае ў шумлівым моры.

*1977*

## НЯДОЎГА ЛІВЕНЬ СКАЛЫ КАЛАЦІЎ

Над Карадагам хмурым лінуў дождж,
Маланка бліснула, пярун ударыў,
І падхапілі хвалі чорны лоўж,
І паплылі над сінім морам хмары.

Нядоўга лівень скалы калаціў,
Плылі нядаўна мутныя патокі,
А над вяршыняй цёмнай і высокай
Прабіўся пук праменняў. Ён пазалаціў

Пясчаны бераг неспакойнае затокі.
Бабулька раскрывае парасон,
Хоць дождж прайшоў. І ўжо далёкі
Імчаўся верталёт за хмарай наўздагон.

Пялёхкаліся вераб'і у мутнай каляіне,
Плаціну дзеці будавалі ў раўчуку,
Хацелася самому на гасцінец,
Пабегаць, як малому хлапчуку.

*1981*
*Кактэбель*

## ТРАВОЙ
## СЦЯЖЫНКА ЗАРАСЛА

Гаруе сойка і крычыць,
Бо жалуды не выспелі.
Замоўклі ў паплавах драчы,
І чаплі спяць за выспамі.

Мая сцяжынка зарасла
Чаборыкам і верасам.
Ну хто ж мяне сюды паслаў,
Не ведаю, не знаю сам.

Ды падказала сэрца мне
Прайсці ля рэчкі старыцай,
Не вохкаць, не стагнаць, не тлець,
Не знацца з бабкай-старасцю.

Тут песню родную прыдбаў,
Нікому не вядомую.
Мне усміхнулася вярба,
Што зноўку з ёю дома я.

*1983*
*Ляўкі*

## МОРА

### АКРАВЕРШ

Бялела мора казачнай лускою,
А ў небе самалёт прамчаўся быстры.
Гайдаўся бакен. З нейкім неспакоем
Дрыжаў на ўзгорку топаль срэбралісты.
А воддаль чайкі голасна крычалі,
Над ціхаю кружыліся затокай.
От-от, здавалася, разбудзяць хвалі,
Вястункі навальніцы недалёкай.
І хмары воддаль звіслі, нібы шторы,
Чарнелі сонныя на гарызонце горы.

*1981*

## ШЧАСЛІВЫ,
## БО СЯБРОЎ Я МНОГА МАЮ

Шуміць мяцеліца ў заснежаных прысадах,
Клуб разрываецца, шуміць ад джазу.
А побач — дым над дахам. Вее чадам.
Пазнаў знаёмы дом я зводдалі адразу.

Слупкі насунулі кудлатыя папахі,
Над імі яблынькі сагнуліся, збялелі,
Залезлі ў снег глыбокі аж па пахі,
Чакаюць ветру і ліхіх мяцеліц.

Я моднай музыкі чамусьці пазбягаю
І не люблю вар'яцкіх дзікіх танцаў,
Спяшаюся, іду калгасным гаем
І з кожным дрэвам рады прывітацца.

Пагасцяваў, бо сваякоў знайшоў нямала.
У поўнач паімчыць у горад электрычка.
Тут маладым спяваў і танцаваў, бывала,
Цяпер змянілася даўнейшая прывычка.

Ад роднай хаты спарахнеў падмурак,
Гляджу на мураваны светлы дом высокі,
Ад рэчкі Нёман да ракі Амура
Пабачыў свет і блізкі і далёкі.

Калега, сябар мой стары, нязменны,
Пагасцяваць, пабыць у вёсцы просіць,
А час бяжыць, гадзіннік б'е насценны,
Мне да ад'езду мала засталося.

Вісяць у раме светлай на сцяне
За шклом дзесяткі тры усякіх фотаздымкаў.
Шмат блізкіх, родных і знаёмых мне.
І многіх бачыць рад у поціску абдымкаў.

Вось сябар дарагі... Гады нас раз'ядналі.
Мундзір. Узнагароды. Здымак гістарычны.
Мяне ж узнагароды абміналі,
Карпеў на працы я геалагічнай.

Сентыментальным я не быў яшчэ ніколі,
Зноў песню родную аддаўна прыгадалі,
І груз цяжкой мінулай горкай долі
Падаўся ў незваротныя былыя далі.

Адзін стаю. Няма нікога на паўстанку,
Сеў у вагон пусты. Як ярка лямпы свецяць.
Прыеду я дадому толькі ўранку,
Шчаслівы, што сяброў нямала маю ў свеце.

*1984*

## ЛЮДЗЯМ АДДАЮ І СЭРЦА, І ДУШУ

На пальцы правае рукі застаўся шрам,
Ляўшою быў, ляўшою і застаўся.
Калісьці жыта жалі маці і сястра,
Я, хлапчанё малое, памагчы стараўся.

Парэзаў я руку сярпом у той далёкі час.
Цяпер, калі пішу я праваю рукою,
Той боль яшчэ шчыміць, дагэтуль не пагас,
Быў і цяпер застаўся я ляўшою.

Чужое, не сваё мы жалі ў полі,
Іржышча нізкім па загаду пакідалі.
Мо для таго, каб ногі мы калолі,
Каб за работаю ніколі не драмалі.

Ляўшою я трымаў сякеру, лом,
Кайло, рыдлёўку, малаток і кельню,
Ляўшою будаваў за домам дом,
І я ад гора не зазнаў збавення.

*1984*

## КАСЦЁР ЛЯ НАРАЧЫ

Бор задрамаў. Заснула Нарач,
А над вадой іскрыўся месяц.
Касцёр мы разлажылі нанач,
Зусім было спакойна ў лесе.

А над абрывам корч падмыты,
Трымаўся ён неверагодна,
Карэньчыкі, як пасма нітак,
Віселі над вадой халоднай.

Парушыць не змаглі размовай
Спакой і хараство мясціны.
Мы ўздоўж кастра ляглі падковай
І засыналі з той хвіліны.

І мне прыснілася няшчасце,
Трывогу нехта зноў развесіў.
Я крыкнуў: — Сын, касцёр не гасне!
І рэха грымнула па лесе.

*1984*

## ЗАВІТАЛА ВОСЕНЬ

Завітала восень.
Вось і верасень.
Жаўцізна кранула голле гаю.
Хараша наўкола, як у дзіўным сне...
Важка яблыкі з галін звісаюць.

Чырванее ў садзе ля платоў
Адзінокая пахілая каліна.
Праліваe, пэўна, сто патоў
Пад цяжкімі гронкамі рабіна.

Спяць яшчэ дажджлівыя вятры
За далёкімі ад нас лясамі.

Сонейка, ад хмарак твар пратры,
Пабывай, вясёлае, між намі!..

Верасень бярозавым лістком
Часта след на сцежках значыць,
Хутка ў вырай паляцяць гуртом
Журавы з працяжным горкім плачам.

*1984*

## Я ЗНОЎ АДЧУЎ СЯБЕ СЯГОННЯ ДОМА

Паэзіі сардэчную я аддаю тут дань,
Па узбяржжы возера ад досвітку блукаю.
Ужо [illegible] усходу зоры гасіць рань
І сонца выплывае з па-над гаю.

Зноў будуць у маім старым кашы
Баравікі і рыжыкі, лісічкі.
Цяпер у лесе ні адной душы,
Іду на кладку люстраной крынічкі,

Я не спяшаюся.
Тут прыгаршчы вады
Зачэрпаю.
Такой нідзе не знойдзеш.
Салоўка заспяваў на ўсе лады.
Так хораша.
Цудоўны будзе поўдзень.

На небе стужку сцеле самалёт.
Куды ляціць — нікому невядома.
Апошні раз дзяркач збудзіў чарот.
Я зноў адчуў сябе сягоння дома.

*1985*

## А МЫ РАСЦЁМ...

Змянілася падземнае нутро,
Цяпер пад Мінскам казачныя ёсць палацы.
Мы ганарымся велічным метро,
Мы рады, пад дамамі можам праімчацца.

Я хлапчуком калісьці сеў у конку,
На той праезд збіраў ашчадна па капейцы.
Сабачка бег за намі наўздагонку,
Фурман заўзята тузаў скураныя лейцы.

Ён пугаю гразіў свавольніку малому.
Мігалі магазіны і цырульні, крамак рад.
Імчаўся конкаю бразгучаю ад дому,
А пехатою плёўся я назад.

Калі ж у Мінску зазваніў трамвай,
Я ехаў у вагоне новым і прыстойным.
Мяняўся горад і мой родны край,
Усё было прыгожым, непаўторным.

Каля мяне студэнт сядзеў з газетай.
Зірнуў, чытае верш мой, а людзей нямала.
Я думаў, слава крочыць да паэта,
Што буду я вядомы, як Купала,

Але цяпер, калі ў метро я еду,
Калі нямала маю паэтычных кніжак,
Дык не гляджу я на газету у суседа,
А думаю, што слава стала бліжай

Не толькі для мяне, а для ўсяго народа.
Змяніўся свет, змянілася жыццё.
Сталіца наша прыгажэе год ад года,
Надзіва ўсім будуемся, расцём.

*1984*

## АПОШНЯЯ АТАКА

Здавалася, што бомбамі наскрозь
Зямля была прабітай,
А магма хлынула
З глыбокіх нетраў.
Траншэі закіпалі
Ад крыві пралітай,
Агнём і дымам горкім
Захлыналася паветра.

Калі ж на некалькі хвілін
Замоўкла кананада,
Прасторы гучнае «ура!»
Раптоўна ўскалыхнула,
Смяротныя сыпнулі
Кулі градам,
Рады здзічэлых ворагаў
Атака смелая праткнула.

Сцяг, кулямі прабіты,
Плыў наперад.
Салдаты верылі:
Чакае перамога.
І заўжды непахісная
Адвага, вера
Крывавых гнала вылюдкаў
Ад нашага парога.

Ашчэраныя,
З белымі крыжамі танкі,
З разбітымі дашчэнту лбамі
Ля дарог пасталі.
Крыклівыя знямелі
Крыважэрныя ваякі,
Рассыпалася моц
Хвалёнай вечна сталі.

Народ савецкі
Нёс людзям свабоду.
Хто мог спыніць
Адважных і праўдзівых?!.
Вясною сонца

Крышыць глыбу лёду,
А гнеў вялікай праўды
Крышыць свет ілжывы.

На папялішчах,
Друзе і руінах
Ўжо вырасталі хаты і дамы,
Заводы і палацы.
Квітнела велічна
Прасторная краіна,
Зноў мірная кіпела
Ўсюды праца.

Але ў гісторыі,
У памяці людзей,
Ніколі не сатрэцца
След атакі той кіпучай.
Нас партыя вяла,
Нас партыя вядзе,
І перамога застаецца
Неўміручай.

*1984*

## А СТАРАСЦЬ СУНЕЦЦА...

Ступаю сямімільным смелым крокам,
Пераступаю рэкі, лес, са збожжам гоні,
А старасць сунецца, і ўжо не так далёка.
Я ж усміхаюся: няўжо мяне дагоніць?

І варта супыніцца ці прысесці,
Яна ўжо неўзабаве за плячамі,
Нясе вядомыя адвеку весці
І паглядае слепаватымі вачамі:

— Сваё ты адхадзіў. Пара на адпачынак.
Адсунься на абочыну, ідзі хутчэй дадому.
— Ах, мілая, ды гэта ж немагчыма,
Не засланяў шляхоў дагэтуль я нікому.

Не ўмею я драмаць. Сардэчнаю пяшчотай
Праводжу ў шлях шырокі і сыноў і ўнукаў.
Калі спынюся, схапіш мяне ўпотай.
Не дачакаешся. Ты глянь на мае рукі,

У іх яшчэ і гарт, нястомнасць, сіла...
Дарэмна цешышся. Я мужнасць не пакіну,
А маладосць душы аддам Айчыне мілай.
Ты, старасць, ляж хутчэй у дамавіну!

*1984*

## Я СЫН ШЧАСЛІВАЕ ЗЯМЛІ

Я сілай праўды шліфаваў крышталь,
Знікае цемень, свецяцца радкі.
І прачынаецца мацнейшае за сталь
Святло пачуццяў яркіх, гаваркіх.

Яно ў глыбокіх нетрах схованых парод
Было стагоддзямі зацемненым, прыкрытым,
Маўчала, як маўчаў вялікі наш народ,
І слову адкрываецца нязвыклая арбіта.

Яно належыць тым, хто вёў смяротны бой
З адвечным ворагам, хто рваў аковы, краты.
Бярыце, людзі, мой парыў, настрой,
Нясу вам скарб вялізны і багаты.

Вы сілу волата мне смела аддалі,
Для свету сею рэчаіснасці жывыя словы,
Я сын стагоддзямі нявоcленай зямлі,
З якой сарваны путы і аковы.

*1985*

## ДЗЕ Ж ГАСПАДАР ПАДЗЕЎСЯ?

Акно хацінкі
Глянула на бераг,
Дзе ж гаспадар падзеўся,
Мікалай Бязрукіх? [1]
Чаму не закідае,
Сплецены ім, нерат,
А дзе ж знаходзяцца
Яго сыны і ўнукі?
Няма каму цяпер
Смаліць і ладзіць лодку.
Арджанікідзе знік,
Паплыў да Енісея.
Кедроўка адазвалася
Ў гушчэзным асяродку,
І дожджык кроплі
Дробненькія сее.
Тут засталася памяць
Вечнай, неўміручай.
Пасёлак вырас
Светлы і высокі.
Бурліць і працякае
Невялічкі ручай,
І сонца прабіваецца
Праз светлыя аблокі.

*1984*

## КРАНУ ВЯСЛОМ СРАБРЫСТЫЯ ПРАМЕННІ

Ноч цёмная, глыбокая ў Саянах,
А ліхтары наўкола асвятляюць прыстань.
Зару сустрэну я на ўсходзе рана,
Умыюся вадою чыстаю, празрыстай.

---

[1] Мікалай Бязрукіх дапамог Сярго (Арджанікідзе) уцячы з царскай ссылкі з паселішча Патаскуй.

Таежнае паветра зноў адчуюць грудзі,
Забудуся на стомленасць, памаладзею,
Птушыны голас цішыню разбудзіць.
Прачнуцца мары светлыя, надзеі.

Крану вяслом срабрыстыя праменні
І паплыву ўздоўж берага ў затоку,
А чайка крыкне, быццам у здзіўленні,
Што зноў сюды прыплыў і прыляцеў здалёку.

*1984*

## НАС ВЯТРЫ ПРАНІЗВАЛІ, БЫВАЛА

*Памяці майго найлепшага сябра*
*і настаўніка геолага*
*Адольфа Васільевіча Вахмістрава*[1]

Многа год прайшло,
Здаецца, што на шалі
Можна палажыць усё,
Што мы шукалі.
Ды якою ж мерай
Змераць можна
Тое, што знайшлі мы
Ў падарожжах?

На вяршынях снежных,
На высокіх скалах
Нас вятры шалёныя
Пранізвалі, бывала.
Хіба ж у вятроў
Знайшлася б сіла,
Каб на тых вяршынях
Нас скрышыла?

З нетраў і вышынь
Мы адшукалі
Тое, што не змераеш
На шалях.

---

[1] На скале ў вытоках Енісея прыбіта мемарыяльная дошка з надпісам: «Адольф Васільевіч Вахмістраў. 1920.2.4 —1983.19.7. Ён вечна з табой, Енісей».

Ад багатых выкапняў
Далі ключы Радзіме,
Марна наша праца
Не памрэ, не згіне.

*1983*

## САСОНКА НА СКАЛЕ

Зноў бачу на надколатай скале
Знаёмую даўным-даўно сасонку,
Яна у сонечным стаіць святле,
На узбярэжжы Ангары, я з ёю зноўку.

Мая прыгожая, цябе вятры
Не пахілілі, не скрышылі,
Высокі шчыт гары цябе прыкрыў,
Дажджы карэнні не размылі.

Як многа блізкага у нас,
Бываў і я, як ты, бяскрылым,
Я марыў птушкаю ляцець падчас,
Збіраў тады я мужна сілы.

Тут пад табою я спыніўся, анямеў,
Да берага другога вёрст дзесятак.
Не прыглядайся, як чужая, да мяне,
Вунь на тым беразе мая пустая хата.

Адтуль нямала вытаптаў сцяжын,
Нямала таямніц раскрыў і меў знаходак,
Не дакарай, са злосцю не дрыжы,
Мне і цяпер цябе, як і калісьці, шкода.

Ты на крутой скале не адчувай
Сябе забытай і самотнай,
І не кажы апошняе бывай,
І не хістайся сумнай і маркотнай.

*1984*

## НЕ ЦВІЦЕ НА ЎЗГОРКУ МЯТА-РУТА...

*Памяці дачушкі Наты*

Птушачка з блакітнымі вачыма,
Пра цябе забыцца немагчыма.

Побач з Ангарой, каля гары Вясёлай,
Маляўнічай, светлай, хараша наўкола.

Ты тайгу навечна палюбіла,
Тут застацца назаўжды рашыла.

Прыблукаў, вярнуўся смутак,
Не цвіце на ўзгорку мята-рута.

Шумам заспявайце калыханку, хвалі,
Тую, што жывой і радаснай спявалі.

Пра цябе з блакітнымі вачыма,
Шчабятушка-ластаўка, забыцца немагчыма.

*1984*

## ТУТ БЫЎ КАМЕННЫ ВАЛ

Паверхняй ледавік,
Як белай хусткай, свеціць,
Такім аддаўна быў,
Такім тут зноў прыкмеціў,

І сёння, як калісь,
Я зноў усхваляваны,
Панурыя сустрэў
Бязмежныя Саяны.

Рачную цішыню
Не так даўно пакінуў,
Цяпер шуміць, кіпіць
Высокая плаціна.

Тут керн я даставаў
З глыбокіх горных нетраў,
Тут плечы падстаўляў
Нястрымным, злосным ветрам.

Мой Прыангарскі край,
О колькі ў цябе сілы,
Мяне не дакарай,
Аддаўна ты мне мілы.

Тут часта бачыў я
Мядзведзя, расамаху.
Іх, страшных, не чапаў,
Таму не ведаў страху.

Ну дзе ж мае ласі,
Ну дзе ж мае алені?
Я іх хацеў сустрэць,
Пра іх я летуценіў.

Над быстрай Ангарой,
Над Верхняю Тунгускай,
Тут плавалі не раз
І лебедзі, і гускі.

Крычалі журавы,
Ляцелі плаўна, нізка,
Да паплавоў, дрыгвы
Было не так і блізка.

Я называў раку
Вялікай і цудоўнай,
Зрабілася яна
Ўжо з берагамі роўнай.

Вада падножжа скал
У глыбіню схавала,
Тут быў каменны вал,
Цяпер яго не стала.

*1984*

## МЫ НАБЛІЖАЛІСЯ ДА ХУТКАЙ АНГАРЫ

На досвітку знікалі зоры без пары
І ліхтары на ціхай прыстані згасалі,
Іскрыўся лёд бліскучы на гары,
І шчабяталі птушкі між лясных прагалін.

Мы падыходзілі да хуткай Ангары,
Ішлі пагоркам, незабудкамі укрытым.
Прайшло нямала год з тае пары,
Але той дзень застаўся незабытым.

Ляжалі на траве глыбокія сляды,
Гарэлі росы на ракіце ніцай,
Шнурком над хатай слаўся сіні дым,
І булькатала весела ля берага крыніца.

Вясною ранняю было гэта тады,
Мы крык пачулі ў небе лебядзіны.
Прыйшло пісьмо. Цвітуць у нас сады,
Пісалі з дарагой для нас радзімы.

*1984*

## ПАЛЮБІЎ САЯНЫ, ПАЛЮБІЎ АЛТАЙ

За глыбокай заваддзю,
За шырокім плёсам
Я пазнаўся загадзя
З нечаканым лёсам.

Дальнія дарогі
Зведаў і пазнаў,
Шмат было трывогі,
Многа бачыў зла.

Хоць і быў нязнаны
Мне далёкі край,

Палюбіў Саяны,
Палюбіў Алтай.

Палюбіў я поўнач,
Сівер палюбіў
І кілішкам поўным
Гора прыгубіў.

За глыбокай заваддзю,
За шырокім плёсам,
Там пазнаўся загадзя
З нечаканым лёсам.

*1984*

## ПРЫГАДАЎ САЛДАТ ПАЛЕССЕ

Паміраў салдат ля стога
Леташняга сена.
Не было людзей нікога,
Чайка побач села.

Жаласліва, крыўдна, горка
Чаянят склікала,
Толькі рэха з-за пагорка
Ў лесе не сціхала.

Не шукай сваіх ты дзетак
На зямлі разрытай,
Акрываўлены палетак,
Стоптана ўсё, збіта.

Паміраў салдат пад стогам,
Чайка паляцела.
Не было наўкол нікога.
Дзе ж ты, птушка, села?

Прыгадаў салдат Палессе,
Прыпяць і балота,

Маці, партызанку ў лесе,
Вецер, дождж і слоту.

Маці сына ўспамінае,
Маці кліча сына.
Маці слёзы пралівае,
Плача ўся краіна.

Ходзіць маці, ведай, сыне,
Ў лесе з аўтаматам.
Памяць пра цябе не згіне,
Помста знойдзе ката.

*1984*

## РЖАВАЯ ЗНАХОДКА

Быў малым, а помніцца,
Мчаліся салдаты.
Шыбанула конніца
З шаблямі паднятымі.

Страшна зачараваны
Быў суровай бітваю,
Бо рады варожыя
Ўсе былі разбітыя.

Год дваццаты. Восень.
Плакаў, неслі раненых,
Бачыць давялося
Мне людскія раны.

Я на гэтым месцы
Ў годзе сорак пятым
Бачыў папялішча
Сваёй роднай хаты.

Чорная падкова
Засталася цэлай,
Глянула сурова
З-пад разбітай цэглы.

А была ж бліскучай
Пасля бітвы конніцы,
У вадзе пад кручай
Мыў, мне гэта помніцца.

На падкову часта
Мы глядзець любілі.
Чыстую на шчасце
Да дзвярэй прыбілі.

Эх, маё ты шчасце!
Тру і выціраю.
Дзе прыбіць, пакласці,
Я цяпер не знаю.

*1984*

## ЯК ХУТКА ЧАС БЯЖЫЦЬ

Сяброўка-памяць, неадступнай будзь ты ад мяне.
Гарыць касцёр. З табою зноўку радам.
Да ранку не знікай. Як толькі стане днець,
З табою больш не ўбачым іскрападу.

Не ўбачым болей зор, а з імі я знаёмы,
Калі згінаўся за шырокай партай.
Венера толькі з неба гляне пакрыёма
І скажа, больш глядзець на нас не варта.

Падкіну дроў. Шугнуць, як пчолы, іскры.
Узнімуцца ўгару, над намі хутка згаснуць.
Кажан мігне стралою чорнай быстры.
Ад радасці неспадзявана я ў далоні пляску.

Што ж, прыгадаем гэту родную мясціну.
Тут дзічка-яблынька стаяла ў белых кветках.
Тут я знайшоў найлепшую з дзяўчат дзяўчыну,
Цяпер яна старэнькая, гарбатая кабета.

Як хутка час бяжыць. Здаецца, на скрыжалях
Запісана ўсё роднае з юнацтва, дарагое.

Салодкіх я баюся слёз. Прыдуманага жалю.
Глянь, іскры-пчолы паляцелі роем.

Быў дуб стары, старым і застанецца.
Стаіць нязменна, моцна, нерухома.
Наш човен адплывае па шырокай рэчцы,
А мы з табою застаёмся дома.

*1984*

## НЕ БЫЦЬ У БЛЯСКУ СЛАВЫ АДЗІНОКІМ

Над казачнаю ёлачкай мігаюць ліхтары
І лямпачкі няспынна ярка свецяць,
Вяршыня золатам гарыць цудоўнае зары,
На міг зялёная шчаслівай стала ў свеце.

А ўчора неба зорнае над ёй было
І месяц цешыўся заснежаным убраннем,
А сонечнае прывітальнае святло
Прыносіла ёй радасць на світанні.

Мне хочацца хаця б на час мой пры жыцці
Прынесці хараство для блізкіх і далёкіх.
Дарогаю з усімі светлаю, шырокаю ісці,
Не быць у бляску славы адзінокім.

Пустая пазалота, бляск шкляны пусты
Бывае сэрца цешаць ненарокам.
Хачу ад сонца быць заўжды на паўвярсты,
А ноччу быць ад зор сусвету недалёка.

*1985*

## НЕ СЦІХАЮЦЬ, Б'ЮЦЬ ЗВАНЫ

На пагорку палыны,
Быльнягі ў нізіне.
Не сціхаюць, б'юць званы
Галасна ў Хатыні.

Прыляцелі зноў вясной
Ластаўкі з-за мора.
Вёскі больш няма лясной,
Сум застаўся, гора.

Ў паднябессі жаўрукі
Боль, трывогу чуюць.
Дзе ж лятаюць галубкі?
Дзе яны начуюць?

Голас маці не чуваць,
Не вісіць калыска.
Дзе ні глянь — трава, трава,
Скошаная нізка.

Сіратліва каміны
Гаспадынь чакаюць.
Дзе ж кабеты? Дзе яны?
Дзе ж ля хаты мята?

Вечна спачываюць...
Дзе ж ля хаты касачы?
Вёска з году ў год маўчыць
У жалобных шатах.

*1984*

## БЛІЗІЎСЯ ЗАЗІМАК

Гаманілі хвоі ў лесе,
Кланяліся ў ногі,
Дуб стаяў, галлё развесіў
І не знаў трывогі.

Трапяталася асіна
Нават днём спакойным.
Пралятаці гусі клінам
Па-над лесам хвойным.

Зорным шляхам паляцелі
І крычаць бясконца —
Там няма завей, мяцеліц,
Шмат цяпла і сонца.

Вернуцца яны не скора
І крычаць над борам —
Там блакітныя азёры
За шырокім морам.

Гаманілі хвоі ў лесе,
Блізіўся зазімак.
Дуб стаяў, галлё развесіў,
Тут яго радзіма.

Гарады мае і сёлы,
Люд наш працавіты,
Рад быць з вамі, я вясёлы,
Шчасцем апавіты.

Хмызнякі, лясы, травіца,
Рэкі і лагчыны,
Тут меў шчасце нарадзіцца,
Я вас не пакіну.

*1984*

## СОНЕЙКУ СВЯЦІЦЬ ЦЯПЕР ПАРА

Раскрывае досвіткам заслону
Яркая, агністая зара,
Выпускае сонейка з палону,
Грэць, свяціць яму ужо пара.

На ўскраі вёскі ажывае хата,
Ёй жа трэба многа яркага святла.
Сёння і ў яе, старэнькай, свята,
І яна вясною ажыла.

Позняй ноччу я сюды прыехаў,
На хвіліну нават не заснуў.
Колы ляскалі, ляцела рэха,
Нават месяц весела мігнуў.

Адчыняю дзверы і іду на ганак,
Вымылі яго вясеннія дажджы,
У маленстве часта сустракаў я ранак,
Рад, да гэтых дзён шчаслівых я дажыў.

Памятаю, быў я тут калісьці,
Пералескамі, дарожкамі кружыў.
З кім жа пасядзець, у поле выйсці?
Сэрца, не хвалюйся, падкажы!

*1984*

## Я ВОБРАЗ ТВОЙ ЗБЯРОГ

Так многа год прайшло.
А ў памяці гарыць
Тваіх вачэй няспыннае святло.
І з незабыўнае далёкае пары,
Калі душу і сэрца я табе дарыў,
Бляск прыгадаў вясенняе зары.

Было нямала сцежак і дарог,
Тваё пісьмо ніколі не старэла.
Яго ля сэрца я насіў, бярог,
На поўначы далёкай мяне грэла.
Надзеяй жыў, не падаў і не сох,
Я вобраз твой, каханая, збярог.

*1984*

## СОНЦА НЕАБДЫМНАЕ НАД ВЕЖАЙ

Сонейка над лесам цёмным спачывала,
Я чакаў, калі ж з усходу прыйдзе.
Для мяне цяпла было на свеце мала,
Я на яснае часамі быў у крыўдзе.

А цяпер гатоў я сонца апчарэпіць,
Бо яно нязмернае, вялізнае якое,
Глянуць немагчыма, ярка свеціць,
Тысячы праменняў шле ў мае пакоі.

Досвіткам прачнуўся. Вокны насцеж.
Песня для яго гатова на паперы.
Гашу лямпу. Скінуў з яе засцень.
На расчыненыя глянуў дзверы.

Шмат яшчэ дарог, шляхоў і сцежак
Ясным, светлым днём мяне чакае.
Глянуў, неабдымнае ужо над вежай
Шчыра свеціць кожнаму, усіх вітае.

*1984*

## СМЕРЦІ Я НЕ РАЗ ГЛЯДЗЕЎ У ВОЧЫ

Уцякаў я сто разоў ад смерці,
Сто разоў збіралася мяне расцерці.
Ёй ганяцца згінула ахвота,
Мне — хавацца, абліваецца потам.
Так вось і жывём на свеце гэтым
Ні адну зіму, ні адно лета.
Я жартую, паціраю рукі,
Пасмялеў, бо выраслі сыны і ўнукі.
Смерць касу мянташыць з неспакоем,
На мяне глядзіць, як на героя.

*1980*



# *Акрыленыя любоўю і славай*

## ПУЛЬС СЭРЦА ВЕЧНА БУДЗЕ БІЦЦА

*Памяці Міхаіла Шолахава*

Замоўк, смуткуе сёння Ціхі Дон,
У вечнасць паказаў дарогу сыну,
Адчулі людзі болю горкі звон,
Іх летапісец праўды, хараства пакінуў.

У кожнай вёсцы, горадзе, станіцы
Быў між людзей ён, іх любіў без меры.
Пульс сэрца вечна будзе яго біцца,
А голас клікаць, каб ісці наперад.

*1984*

## ЗБЫЛІСЯ МАРЫ

*Памяці Юрыя Гагарына*

Сачыў за ластаўкай імклівай,
Бывала, часта ён вясной,
З усмешкай радаснай, шчаслівай
Заўсёды ў марах плыў за ёй.
Калі ад гулу самалёта
Ўсё прачыналася наўкруг,
Пляскаў далонямі да поту,
Наўскач ляцеў на поле, луг.
Ён падымаў у неба рукі,
Глядзеў, як самалёт знікаў,
З вялікай просьбаю і мукай
Ён наўздагон крычаў, гукаў:
«Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!
Я — ведай — вялікі ўжо хлопчык,

І ўмею ўжо лётаць у сне...» [1]
Збыліся мары. Наш Гагарын
Ляціць на караблі «Усход»,
Свет чуе, як грымяць фанфары,
Яго віншуе ўвесь народ.
Навечна ў космасе бязмежным
Яго застаўся смелы след.
Яго вітаў, ім ганарыўся
І вечна помніць будзе свет.

*1984*

## ЗНАЙШОЎ ПРЫТУЛАК РОДНАГА ПАЭТА

Крынічнай захацелася вады напіцца,
Нізінаю я ля гары прайшоў між дрэў.
На ўзмежках шалясцела крымская мятліца,
Касцёр наводшыбе ля доміка гарэў.

А за каменнай выветранай агароджай
Ад гронак важкіх гнуўся вінаград,
А далей, што расці ужо не можа,
Сох, выміраў стары, забыты сад.

Бялеў далей пад чарапіцай домік,
Клён ля варот разгублена стаяў,
Куляўся кот на ганку, нібы комік,
Лавіў свой хвост, сябе ён забаўляў.

Альтанку плюшч абвіў. А дах, як засень.
Аблезлы столік, а на ім пасуды стос.
У светлы дворык, дзе нагнуўся ясень,
Калісьці Багдановіча нялёгкі лёс занёс.

Пажыўшы між людзей Старога Крыма,
Старонак летапісных многа ён стварыў,
Тут абурэнне, жарт і смех Максіма
Жывуць, хвалююць аж да нашае пары.

---

[1] З успамінаў маці Юрыя Гагарына, Ганны Цімафееўны, вядома, што яе сын яшчэ ў дашкольным узросце вывучыў на памяць і палюбіў верш Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык».

Няма цяпер «бузняў» [1], цырульні «Гігіена» [2],
Была яна падобная на будку, дом сабачы,
На рынку не скубуць з вазоў каровы сена,
І не пачуеш галасоў дакучлівых, жабрачых.

Раўней, свабодна пачынае сэрца біцца,
Па-маладому адчуваеш водар дрэў і кветак.
Крынічнай захацелася вады напіцца...
Знайшоў прытулак роднага паэта.

*1981*
*Стары Крым*

## АХ ЗМОЎКНІ,
## ШЭРАЯ ЗЯЗЮЛЯ!

Не кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары...
*М. Багдановіч*

На дрэва ўселася зязюля,
Ад ранку голасна кукуе,
Галінкі лісцем яе туляць.
На дрэва ўселася зязюля.

Вяшчунка, хіба ты не чуеш?..
Ты сэрца раніш вострай куляй.
На дрэва ўселася зязюля.
Ах, змоўкні, бо паэт гаруе.

*1981*

---

[1] ...Уласна і сустрэнеш днём людзей толькі тут ды яшчэ ў «бузнях», дзе прадаюць бузу — любімы на поўдні мутна-белы напітак.
[2] ...Вось цырульня, велічынёю з сабачую будку. Назва ў яе, аднак, громкая — «Гігіена».

З крымскіх нататкаў М. Багдановіча

## ЧАКАЮ ВАС ДАРМА

*Станіславу Шушкевічу*
*з самымі прыязнымі пачуццямі дайняй,*
*яшчэ даваеннай прыязні.*
*Аркадзь Куляшоў*
*Аўтограф на кніжцы вершаў «Мая Бесядзь»*

Я памятаю сад, альтанку і арэлі,
Чацвёра нас сядзела давідна.
Не ад віна тады мы захмялелі,
Бутэльку мы не выпілі да дна.

— Чым пачалі,— сказалі,— тым давершым...
Радкі звінелі словам маладым.
Кіпелі і палалі нашы вершы,
Мы пачыналі ўзлёт, бяскрылыя тады.

І раніца прыйшла, мы салаўя пачулі.
Ён пеў для нас. Ноч правялі без сну.
Аркадзь,
Змітрок,
Я, Станіслаў,
і Юлі [1],
Так сустракалі светлую вясну.

Прыйшоў я сёння ў той старэнькі сад.
Адзін я тут. Чакаю вас дарма.
Іскрыцца на траве халодная раса.
Няма вас, дарагіх, даўно няма.

*1984*

## ЯНКУ МАЎРУ

Сярод старэйшых — найстарэйшы,
Між маладымі — малады,
Між працавітых — самы першы,
Яго не згорбілі гады.

---

[1] Аркадзь Куляшоў, Змітрок Астапенка, Станіслаў Шушкевіч, Юлі Таўбін.

Ён не бразготкі і не цацкі
Дае для моладзі, дзяцей,
А добры твор, жывы, мастацкі,
Які і кліча і вядзе.

За томам — том, за творам — твор,
І чытачоў знайшоў мільёны,
І не пашле яму дакор,
Даўно вядомы і хвалёны.

Прайдзі па свеце і спытай
Ці самалётам праімчыся —
Еўропа знае і Кітай,
І ў Афрыцы ў яго знайшліся

Сябры, сяброўкі, чытачы,
Па свеце іх жыве багата...
Ён злу умее дапячы
І шэльмам даць як след па пятах.

Ён сэрцам, вечна маладым,
Гарыць і ўдалеч ярка свеціць.
Яго не згорбілі гады,
І мужна крочыць ён па свеце.

*1963*

## ПАЙШОЎ ЁН З ПЕСНЯМІ Ў ШЫРОКІ СВЕТ

Ці ж мне над крыніцай
Журыцца ў бядзе,
Калі песня льецца
Вольная з грудзей.
*Пайлюк Трус*

З Уздзеншчыны бярэ пачатак Нёман,
Сабраў крынічкі, рэчкі і пабег у свет.
Ля берагоў кіпіць птушыны гоман,
А ў кожным доме, дзе ні глянь — паэт.

Лясныя сцежкі тонуць у пралесках,
Над азярцамі шчоткаю — чарот густы,

Па лісцях лотаці зялёнай, як па трэсках,
Імкліва пліскі прабіраюцца ў кусты.

Дубы маўчаць, а сосны з імі разам
Бывае неспакойна і трывожна зашумяць,
Нібы і сёння партызанская брыгада
Збіраецца ў паход, каб ворага прагнаць.

Хмель апавіў старэнькую рабіну,
Яна схілілася, глядзіць на паплавы,
А можа, ў гэту ясную хвіліну
Паэт касой кране духмяны пласт травы.

Паплыў з Уздзеншчыны празрысты Нёман
З гуртом крынічак, рэк у шырачэзны свет.
І Паўлюка ў Нізку [1] няма сягоння дома,
Пайшоў адгэтуль з песнямі паэт.

*1963*

## У ЛЯЎКАХ ЛЯ ПОМНІКА ЯНКУ КУПАЛУ

Не быў я ў гэтым месцы над Дняпром
Амаль паўсотні год ад таго лета...
Святціўся свежым зрубам новы дом,
Чакаў вяртання ён сюды паэта.

Калі з усходу глянуў яркі ранак
І сойкі раскрычаліся між сосняў,
Прывёў мяне Купала на шырокі ганак
Сцяжынкаю яшчэ вільготнай, роснай.

Ён коратка сказаў: «Хвілінку пасядзім!»
У хвалях на рацэ скакалі промні.
Над леснічоўкай з коміна клубіўся дым.
Купала змоўк, напэўна, нешта ўспомніў.

---

[1] Нізок — вёска, у якой нарадзіўся паэт Паўлюк Трус.

Цяпер паэтаў задумёны твар
У бронзе ўвекавечыў Анікейчык.
Купала у палоне творчых мар,
Яго хвалюе лёс, як і калісьці, нейчы.

Шмат падарожнікаў далёкіх, невядомых
З усіх краін часамі тут бывае.
Травой не зарастае сцежка каля дому,
Паэта постаць вечна тут жывая.

Жыве пясняр народны, неўміручы
Між тых, каму аддаў усё, усё пакінуў.
Прыжмурыў вочы. Чую з па-над кручы —
Знайшоў між зараслін паэт уверх сцяжыну.

Прысеў каля галіністага дрэва,
Свавольны з-за ракі павеяў вецер.
Паэт зачараваны спевам,
Над галавою дуб схіляе трапяткое веццe.

Амаль паўсотні год прайшло ад таго лета.
— Хвілінку пасядзі! — тады сказаў Купала.
Ля ног яго ляжаць букеты кветак.
Не веру, што цяпер яго не стала.

*1983*

## ЛЯЎКОЎСКІЯ ДЗЯЎЧАТЫ

На беларускую дзяўчыну,
Калі тут праўду ёй аддаць,
Ніхто йшчэ каменем не кінуў
І не пасмеліцца кідаць.

*Янка Купала*

Яны спявалі. Водгулле плыло.
Ішлі сяляне ў дом Купалы.
Аж чайка узмахнула радасна крылом,
Быў дзень сягоння небывалы.

Кранала песня сэрца і душу
Мелодыяй лірычнай і глыбокай,
І я, пакінуўшы аўтобус і шашу,
Спяшаўся да сядзібы недалёкай.

І прыпыніўся раптам. Песняй той
Быў усхваляваны, зачараваны,
У кожным слове заклік, неспакой,
Напэўна, песню склалі партызаны.

І вось ускалыхнуўся ціхі лес,
Пра нашы дні мелодыя гучала,
А салавей ад зайздрасці самлеў,
І прыгадаўся мне жывы Купала.

Я дзіўную мелодыю пачуў
І гэтым ганаруся за сваю краіну,
Купалаўскую думку паўтарыць хачу —
Ніхто ў вас каменем не кіне і не кінуў.

*1983*

## ДНЯПРО З'ЯДНАЎ НАС, СПАЛУЧЫЎ

На палубе матросаў рад,
Глядзяць на дом Купалы,
Нібы сышліся на парад
Якісьці небывалы.

Раздаўся з катэра гудок
Працяжны, ганаровы,
І чуюць зблізку і здалёк
Яго лясы, дубровы.

Кіпіць вада дняпроўскіх хваль,
На мачце сцяг палае.
Купалы славу знае даль,
Ніколі не ўмірае.

Дняпро з'яднаў нас, спалучыў
З Расіяй, Украінай,
Для шчасця знойдзены ключы.
Квітней, мая краіна.

*1983*

## ЯГО РАДЗІМА
## Ў РОСКВІЦЕ
## І ВЕЛІЧЫ БЯСКОНЦАЙ

З народам неразлучны
Быў і ёсць Купала,
Мінск перад ім шырокі
Ў бляску сонца.
Глядзіць у будучыню
Смела з п'едэстала,
Яго радзіма ў росквіце
І велічы бясконцай.

У веццях каштаноў,
Дубоў, і ліп, і клёнаў
Птушыны грай,
Як музыка цымбалаў,
Дзіцячы шчэбет
І дзіцячы гоман.
Фантан струмені сыпле
З сілай небывалай.

Задумаўся, маўчыць паэт,
У постаці ён простай.
Ад яркіх траў і кветак
Ажывіліся газоны.
Яму з людзьмі была
Чужой заўсёды ростань.
Усё тут роднае наўкол
Душы ўсхвалёванай ягонай.

*1982*

## КУПАЛА
## ДА КАСЦОЎ ІДЗЕ Ў «СОСНЫ»

Раніца. На дрэвах і на травах роса.
З-за Арэсы сонца толькі ўстала.
Выбраўся з «Камуны» па дарозе ў «Сосны»
Да касцоў у водведкі Купала.

Вось і блізка. Свежыя пракосы.
Адчуваецца прыемны водар кветак.
Дрэмле над каналам бусел даўганосы,
Хоць дзяркач-крыкун збудзіў палетак.

Што ж гэта касцоў у гурт сабрала?
Сталі кругам і глядзяць пад ногі.
На выпадак нейкі небывалы.
Сціхлі, нібы ад раптоўнае трывогі.

У руках у аднаго тры пухленькія клубочкі,
Гэта неспакойнай перапёлкі дзеці.
Плюшчаць невялічкія зярняткі-вочкі,
Нібы сонца ім праз меру свеціць.

Праз дарогу, у зялёным жыце,
Плача перапёлка, стогне, моліць:
— Адпусціце дзетак, адпусціце,
Ну нашто ж маленькіх вам няволіць?..

Пажылы касец, салдат бывалы,
Вынес невялічкіх да дарогі:
— Ну, спяшайцеся, бо маці вас гукала...
Ну, бяжыце, малышаты-крошкі!..

Прывітаў паэт касцоў знаёмых.
Просяць працавітыя паснедаць:
— Дзякую. Нядаўна снедаў дома.
Лепш з касой прайду за вамі следам.

Снедаюць касцы і паглядаюць міла,
Не спускаюць з постаці паэта вочы.
— Ах, якія ж у яго і спрыт, і сіла,
З працавітых ён, такіх, як мы, рабочых.

Не для таннага перад людзьмі паказу
Шырачэнныя паэт пракосы гоніць.
Ён прыйшоў да блізкіх і адчуў адразу,
Стаў і маладзейшым, і мацнейшым сёння.

Ён прыйшоў да тых, хто нават слёзы
Птушкі невялічкай разумеюць.
Над каналам шэпчуцца і гнуцца лозы,
Сосны ля дарогі зашумелі.

*1982*

## КУПАЛАЎСКІ БЯЖЫЦЬ ГЕРОЙ

Я на сцяжынцы ля Ляўкоў
Сустрэў малога хлопчыка.
Яму не больш як сем гадкоў.
Расці і будзеш лётчыкам!

Калісь такі хацеў ляцець,
Прасіў узяць з сабою,
Казаў: — Не будзе лётчык мець
Тут клопату са мною.

Купалаўскі бяжыць герой,
Бялявы, зухаваты,
Папросіць ён узяць з сабой
Ляцець ад гэтай хаты.

Яго натхніў Купалаў твор,
Глянь на яго аблічча!
Ляцець жадае аж да зор
Сусветам таямнічым.

*1983*

## І СПРАВЫ ДОБРЫЯ — ІЗНОЎ ЖЫВЫЯ

Скарына кніжнай мудрасці сабраў багаты плён,
Блішчэла слова золатам, іскрылася, свяціла,
Наперад рвалася за пічасцем наўздагон,
Ад цемры векавечнай і глухой будзіла.

У кнігах важкіх, непаўторнае, яно
Пайшло у гарады і сёлы Беларусі,
У свет шырокі сталася акном,
І цемрашальскі гурт па-д'ябальску здрыгнуўся:

— Судзіць!.. Спаліць!.. Публічна пакараць!..
У інквізітараў няўмольныя законы.
І кнігі на кастры палаюць і гараць,
І тупае духоўнікаў натоўп шалёны.

— Без кніг чаго ён варт? Хіба ён зможа
Руку падняць на нас і нашай сіле смець
Працівіцца? О, ясны божа,
Няхай на гэты раз адступіць смерць...

Друкар маўчыць. І новыя мясціны
Упарта клічуць, вабяць да сябе.
Ён торбу цераз плечы перакінуў.
І не ішоў — ступаў, здавалася, пабег.

«Хай паспалітае дабро памножана бывае...
Хай сеецца зярня людской асветы...»
І каганец на століку да раніцы міргае,
І рукапіс гатоў, яго душой сагрэты.

Зноў здольная рука разец бліскучы точыць,
Зноў літары сабраліся у шафу-касу,
Зноў пільна прыглядаюцца ў набор пярэсты вочы,
Зноў думка неўгамонная ляціць насустрач часу.

Зноў ажывае сказ у кнізе новай,
Яго не спаліш, не сатрэш, не змыеш...
Зноў беларускае ў свет ірвецца слова,
І справы добрыя — ізноў жывыя.

*1967*

## ТЫ ЗА АЙЧЫНУ
## Ў ТАТРАХ ПАМІРАЎ

*Памяці Змітрака Астапенкі*

Нямала ў нас было агульных спраў,
І мы з табой былі ў змаганні пабрацімы:
Ты за Айчыну ў Татрах паміраў,
А я на поўначы шукаў багацце для Радзімы.

Пра зробленае не раскажа тоўсты том...
Не намалюеш ярка, не апішаш.
Няхай не цешыцца старэнькі лжывец-гном,
Што ён знайшоў, прыдбаў сабе зацішак.

Яго, вядома, не кранулі завірухі і вятры,
На велічных дарогах не змялі, як смецце.
Гісторыя, будзь справядлівай і сатры
Усё нікчэмнае, несправядлівае на свеце.

Жывеш ты, дружа, ў памяці людской.
Квітнее неўміручая Савецкая Радзіма.
За мір і шчасце, справядлівасць і спакой
Памерці слову ў свеце немагчыма.

*1985*

## ЖАЎРУК СТАМІЎСЯ ЗВОНЯЧЫ

*Памяці Варлена Бечыка*

Жаўрук, званочак сонечны,
Стаміўся, звонка звонячы,
Больш паднябесным голасам
Ён не спявае голасна.
Там, дзе трава з рамонкамі,
Замоўклі спевы звонкія,
Там, дзе чабор расквечаны,
Заснуў ажно да вечара.
А мне даўно хацелася,
Каб лёгка табе пелася,
Каб нас пачула сённенька
Над намі наша сонейка.
Жаўрук, званочак сонечны,
Чаму ж стаміўся звонячы?

*1985*



## І ЧЫТАЛІ ЧАСАМ МЫШЫ

Ён трымаўся за сталіцу,
Як малое за спадніцу,
І лічыў ён карай боскай
Заглянуць часамі ў вёску.
Са свайго старога кія
Браў матывы гарадскія,
І чыталі часта мышы
Яго творы ў цёмнай нішы.

*1968*

## КРЫТЫЧНЫ КЛУМАК

Навязаў у томік клумак
Барадатых шэрых думак,
І ўсе з чужога дому,
І ўсе з даўно вядомых.
І спраўляе крытык фэст:
Перадаў даслоўна змест
Аж з паўтузіна раманаў,
Намякнуў, што ёсць заганы.
(На заўвагі ён мастак,
Дакажы, што тут не так...)
Але ўсім цяпер вядома,
Шмат бяды з крытычным томам:
На паліцах — некрануты,
Забыццём ляжыць прыкуты.

*1968*

## ПАКАЁВЫ ТАЛЕНТ

Пяць год вучылася Вікторыя.
Сяк-так закончана кансерваторыя.
Цяпер яна адзінаму душою служыць:
Спявае толькі свайму мужу.

*1968*

## КАЛІ НУДУ АДФІЛЬТРАВАЦЬ...

Вось томік важкі, як падняць,
Каштуе ён нямала,
Калі нуду адфільтраваць,—
Няма чаго у рукі ўзяць,
Вага зусім прапала.

*1968*

## ЛЮБЫ БАР'ЕР БЯРЭ

Хоць талент у яе
Падшыты танным лыкам,
Любы бар'ер бярэ
Заявамі і крыкам.

*1968*

## ЧАТЫРЫ РАЗЫ Ў ГОД

Ён чатыры разы ў год
Цешыць вершамі народ.
Першым ходам —
З Новым годам!
А пасля, тут кожны знае,
З Першым маем прывітае,

А пасля у вокамгненне
Прыйдзе новае натхненне...
І надыдзе зноў чарод
Прывітаць наступны год.

*1968*

## УСЁ ДЛЯ ДЗЕТАК

Сяк і так і так і гэтак
Для маленькіх піша дзетак.
Многа піску
Тут пра кіску,
А пра заек
Сотня баек.
Слова гонару я дам —
Нават вершы ёсць пра мам.

*1968*

## ПРА АДНАГО З МЕМУАРЫСТАЎ

Чыталі?.. Што ж — разявілі раты?..
Ён з класікай даўно на «ты»...
Яго калісь, бывала,
Здалёк вітаў Купала,
І пры сустрэчы Колас
Рабіў лагодны голас.

*1968*

## НЯВЕРНЫ

У творах кляўся, уздыхаў:
Да сівізны адну кахаў...
Але як толькі палысеў,
Да палюбоўніцы падсеў.

*1968*

## НЕПАТРАБАВАЛЬНЫ

Як мала трэба для такога малайца:
Сякі-такі, хоць невялічкі, п'едэсталік,
Каб пасярэдзіне паставіць шкалік,
А з краю палажыць кавалак селядца.

*1968*

## ЦЫРУЛЬНІК

Быў у мяне сусед —
памадзіў, пудрыў,
Тры валаскі умеў завіць у кудры,
Двума мог лысіну начальніку прыкрыць,
Без болю, далікатна ўмеў пабрыць.

Дзе прадчуваў мізэрненькі заробак
(І радавы пад рукі мог падсесці),
Цырульнік брытву браў —
якісьці недаскробак —
І шоргаў-скуб, аж цяжка перанесці.

З такімі ж звычкамі, амаль такой манеры,
Цяпер тут крытык год жыве на той кватэры.

*1968*

## ПРЫЙШОЎ БАЙ ДА МЯНЕ

Прыйшоў Бай да мяне
У кароткім жупане.
Расстаўляе гладышы,
Побач з імі — спарышы,
Тут капуста са смятанай,
Каша з ножкаю баранняй,
Далей з лаўрамі прыправа,
А пад ёю ляжыць слава.

Ах ты, добры мой Бай,
Усяго патроху дай,
Толькі славы — ані-ні!
Яе іншым адгарні.

*1968*

## НА ПАТЭЛЬНІ ПЕРАКЛАДЫ

У запасе жменька слоў,
Але з двух дзесяткаў моў
Месіць цеста у дзяжы,
Ажно стол пад ёй дрыжыць,
Перакладчык малажавы,
Кухар спрытны,
Кухар жвавы.
З творчай кухні
Цягне чадам,
На патэльні
Пераклады.

*1968*

## МЕЎ КРЫТЫК ПАЎДЗЕСЯТКА АБРАЗОЎ

*Аднаму з паважаных*

Меў крытык паўдзесятка абразоў,
Маліўся безліч ім разоў.
Паклоны біў паэзіі,
Цяжэй згінаўся прозе,
І выцер ён каленцамі
Дзве ямкі на падлозе.
Чаму ж быў блізка ля дзвярэй?
Каб драпануць падчас хутчэй,
Бо іншы раз нячулы бог
Штурхнуць і без прычыны мог.

*1968*

## ХАЛТУРШЧЫК

Піша ён пад Беранжэ
І ад радасці іржэ.
Хай нас бог абережэ
Ад такога Беранжэ.

*1968*

## ЗЯЛЁНЫЯ ВЕРШЫ

Лічыў, так пішуць класікі:
Плёў вершы-выкрунтасікі...
Часамі вершы кволыя
Скрыпелі, нібы колы ў іх.
Пасля стыль новы выбраў,
Паспрабаваў — верлібрам.
Рашуча ўзяўся, смела
Аддаў павагу белым.
А вершы ўсё ж ягоныя
Да костачак зялёныя.

*1968*

## ЗАКАХАНЫ БАРАВІК

Пакланіўся баравік
Удаве-апеньцы,
Выгнуў шыю, як гусак,
Стаўшы на каленцы:

— Сорак тысяч казлякоў
Так кахаць не зможа,
Як кахаю я цябе...
О, лясны мой божа!

— Ты прыкрый свой рэдкі чуб
Хоць якой пялёнкай,
Ты не шчыр свой ласы зуб,
Ля мяне не войкай.

У мяне ёсць галава,
Здаўна ж паэтэса,
Я вясёлая ўдава,
А ты сум развесіў.

Глянуў скоса баравік,
Што ж цяпер ён скажа?..
Ад кіпучае крыві
Засталася сажа.

*1968*

## НЯСЕ АД ТВОРАЎ МОРАМ

Ён працуе, гляньце, вунь дзе —
У Абхазіі, Піцундзе!
Як бліны, паэмы пляжыць,
Ціха лежачы на пляжы,
Асабліва ў дні прыбою
Думкі не даюць спакою.
Кажуць многія з дакорам,
Што нясе ад твораў морам.
Ды якое ж гэта мора,
Калі солі мала ў творах!

*1968*

## «ПЕРАКЛАДЧЫК»

Зрабіў ён перакладаў стог,
Перакладаў, як толькі мог.
І кожны новы пераклад
Рабіў на невядомы лад.
Па-свойму рытм у вершы кроіў,
Рабіў у рыфмах перабоі.
Губляўся змест. Нібы знарок
Ён сэнс у творы ператоўк.
З нуды чытач часамі сох,
Бо зразумець той твор не мог.

*1968*

## ОДА ВЕРШАРОБУ

Зрыфмаваў ён «маму-раму»,
Адчыняйце яму браму
На Парнас.
Затрубіце, трубы-горны,
Хай ідзе дарогай торнай...
Раз-два... Раз...
Вершы, нібы — лагарыфмы,
Піша часам ён без рыфмы.
Ён у нас
Хоць і цвярозы,
А мяшае вершы з прозай
Кожны раз.

*1968*

## МАЗАІКА

Ягоны твор — адна мазаіка —
Наскроб з паэтаў і празаікаў.

*1968*

## ПЕРААЦЭНКА

Так бывае: крытык бойкі
Падаб'е як след набойкі
Не да ботаў, да лапцей,—
Філасофію ўпляце,
Так высока твор ацэніць,
Ну, вядома, перацэніць.
А ў кнігарні цэны зменяць
(Кнігагандаль твор уцэніць!),
Зробяць новыя наклейкі,
Дзе рублі былі — капейкі...

*1968*

## НА СМЕТНІКУ ПАЭЗІІ

На сметніку паэзіі
Метафар шмат пустых,
Сто год ужо, як звезены
І звалены ў пласты.

«Наватары» прыкмецілі
Увесь гэты утыль,
І ўсё, што было змецена,
У свой уткнулі стыль.

Вось рэбус-верш «Наватарскі»,
Дзе сэнсу ні на грош.
Вядома, што навар такі
Шпурнеш адразу ў кош.

*1968*

## У ДОМЕ ТВОРЧАСЦІ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

Робіць змены хуткі час.
Лес расце. Старэюць дрэвы.
Тут падковы збіў Пегас,
Салаўі шліфуюць спевы.

Тут сябры спісалі стос
Беласнежнае паперы.
Мучыць шмат каго склероз,
Але ў сілу кожны верыць.

Тут няма лаўровых дрэў,
Шмат ядлоўцу і шыпшыны,
Не адзін паэт згарэў
І заўчасна свет пакінуў.

Не адзін таўшчэзны том
Тут стварылі добрай прозы,
П'юць вясною сок нагбом
Тут з няшчаснае бярозы.

Шмат раманаў і паэм
Знойдуць нашчадкі калісьці,
Але многа дробных тэм
Спарахнее драбналісцем.

Робіць змены хуткі час,
Мкне падзея за падзеяй.
Новы лес расце. Парнас
З кожным годам маладзее.

*1968*

## ЧЫТАЎ НЯДАЎНА Я РАМАН...

Раман шэрый за мора.
Не вымераеш дна...
Карпеў над ім тры ночы,
Чытаў аж давідна.

Раман як тое мора,
Нябачна берагоў...
Нямала мудрых сказаў,
Нямала рэдкіх слоў.

Чытаў, гартаў старонкі,
Гартаў і перагортваў.
Здалося гэта мора
Шырокім, але ж мёртвым.

*1968*

## ДЛЯ НАШЧАДКАЎ ЁН ШМАТ ПАДКІНЕ

Ён з тых, хто вершыкі партачыць,
Найболей крэмсае дзіцячых.
Ссівеў, але ж Пегаса гоніць,
Аж конь падобен стаў на поні.
Нядаўна, вы, напэўна, чулі,

Старых бабулек так расчуліў,
Рыдаюць, вохкаюць, ўздыхаюць,
Сваё юнацтва ўспамінаюць.
Для нашчадкаў ён шмат падкіне,
Хаця б ён толькі не здзяцінеў.

*1968*

## ДЗЕ Я, ДЗЕ Я?!

Ён дабраўся да Парнаса,
Рассядлаў свайго Пегаса
І адчуў, што маладзее,
Сам сябе пытае: — Дзе я?
А зязюля на суку:
— Тут, мой мілы! Ку-ку! Ку!
Шкода мне цябе да слёз,
Ну няўжо ў цябе склероз,
Што пытаеш: «Дзе я, дзе я?»
На гары цяпер старэеш.
Падлічы свае ты леты,
Не лічыў ты іх дагэтуль?
Не ў твае ужо гады
Заяўляць, што малады.

*1968*

## ВІНАВАТЫЯ АБОЕ

Нібы па традыцыі,
Зноў ён у міліцыі.
Працягнулася пакута,
Ой, нямала доўгіх сутак.
І за што? Засунуў жменю
Плагіятару ў кішэню.
Вінаватыя ж абое...
Бо і ён жа браў чужое.

*1968*

## АРШЫН І МЕТР

У крытыцы не робіць змен
Стары аршын і дзедаўскі бязмен,
Але часамі новым метрам
Не творы мераюць, паветра.

*1968*

## ПРЫЛЯЦЕЛА ПТУШАЧКА

Прыляцела птушка з поўдню-выраю —
І паэт схіліўся над бразгучай ліраю.
Глянула вачамі яна яснымі —
Ганарары, ясна, цяпер ляснулі.
— Што ж табе патрэбна, крошачка?..
— Залаты пярсцёнак, з дыяментам брошачка,
Завушніцы, здаўна абяцаныя,
Толькі залатыя, а не пазлацаныя.
— Усё не па кішэні, дарагая Нэла,
Ты ж сама, як золата, глянь, як парыжэла.
Але ж вейкі, бровы значна пачарнелі
Ад вады паўднёвай, ад марской купелі.
— Здаўна, нават змалку, чула я,
Што паэты — людзі чулыя,
А ў цябе не сэрца, а халодны камень...
І закрыла вочы ясныя рукамі.
А праз пальцы белыя, як вата,
Слёзак чорных сыпнула багата.
Хоць збірай іх жменяй на чарніла.
Стаў паэту свет увесь не мілы.
Зноў паэт схіліўся над бразгучай ліраю?
Прыляцела жоначка з поўдню-выраю.

*1968*

## ТРАФАРЭТ

Як вада бруіцца з рэк —
Рыфма «век і чалавек».
Ёсць на свеце небяспека,
Лопне густ у чалавека
Да паэзіі такой.
Што ж, бывае і паэт
Ужывае трафарэт.

*1968*

## НЕ ТОЙ ХАМУТ НАДЗЕЎ

Ён састарэў і збіўся з ног,
Пегаса ўсё ж такі запрог,
Але не той хамут надзеў...
Дзе ляйчына? Вуздэчка дзе?..
Хоць бачаць, што не тая збруя,
Хай думаюць, што ён кіруе,
Што ён вядомы на ўвесь свет,
Што ён пясняр, што ён паэт.

*1968*

## НА ТРЭЦІ ДЗЕНЬ ЖЫЦЦЯ

Мой трэці сын у трэці дзень жыцця
Бярэ ўсё больш упэўненыя пробы,
Стараецца да цацак, што ярчэй,
Падняцца неслухмянаю галоўкай,
Не жаўжык і не балаўнік яшчэ,
А як ужо захоплен трэніроўкай.

*Артур Вольскі*

Трохдзённы сын захоплен трэніроўкай.
Зрывай, малы, пялёнак шэрых бінт!
Напэўна,
У шэсць месяцаў пад бацькаву дыктоўку
Напіша верш свавольнік-вундэркінд.

*1968*

## КРУЦІМ СВАІМІ НАГАМІ...

...Как будто кто сослал их всех на каторгу
Вертеть ногами
Сей шар земной.

*Сергей Есенин. «Пугачев»*

...шар обожженный
тяжко повертывается
на оси.
Мы его вертим
своими ногами...

*Наум Кислик.*
*«Первая молодость — первая рота»*

Адзін — бландзін,
другі — брунет,
І кожны з іх пясняр-паэт.
Дальбог,
праверце гэта самі,
Яны ж падобныя часамі.

*1968*

## ТРЭСК З КАПЕЛЮША

Нядаўна галовы трашчалі ад куль,
І сёння трашчаць яны, толькі ад думак.

*Раман Тармола*

Непакой наўкол, здзіўленне.
Можа, ў нас землетрасенне?
У дзвярах ужо затор,
Людзі з дому пруць на двор.
Людзі, ціха! Людзі, ша!
Шум ляціць з капелюша.

*1968*

## ЦЫРКАВЫ ЎЧЫНАК

...Да Праўды і Дабра,
Як па карнізе,
Заўжды ішоў
І ўсё яшчэ іду.

*Сяргей Грахоўскі.*
*«Развітанне з кнігай»*

Ах! падсцяліце сена ці травы,
Паэт учынак робіць цыркавы,
Ён па карнізе крочыць да Дабра,
Не кожны так умее акрабат.

*1968*

## ХМАРУКІ

Глядзіце, дзень бязвоблачны які —
Здаецца, сінь на санцапёку тае.
А недзе ўжо з-за даляў падступае
Халодны дзень, што гоняць хмарукі.

*Паўлюк Пранузa.*
*«Глядзіце, дзень бязвоблачны які»*

Дзень бязвоблачны які!
Ды з-за лесу хмарукі
Лезуць, нібы парсюкі.
Ах, мае ж вы хмарукі,
З маёй лёгкае рукі
Многа слоў і не такіх...

*1968*

## УСПАМІНЫ СТАРАЖЫЛА

Быў галодным і стомленым свет,
Мы схаваліся ля вадапою.
І глядзеў я, як мамантаў след
Запаўняецца рыжай вадою.

*Леанід Дайнека.*
*«Прамяністы вясёлак салют»*

Я ўспамінаю вадапой,
Глухі ў пячоры кут-пакой,
І мамантаў глыбокі след,
І стомлены галодны свет.

Я прыгадаў усё цяпер:
Як пачынаючы Гамер
Прасіў, згінаючыся ў крук,
Паэму прапіхнуць у друк,
Як Пушкін пачынаў пісаць,
Пяро не ўмеючы трымаць.
І хоць ірваўся з усіх жыл,
Ніяк не ўспомню, старажыл,
Час недалёкі, час нядаўні —
Усё ў былым, у старадаўнім.

*1968*

## ПА ШЧЫРАСЦІ

Плюс на плюс,
Мінус і плюс
Воляй, няволяй
Вечны саюз.
Полюс на полюс,
Паміж — ассё,
Няма, каб адзін толькі
Полюс, ды ўсё...

*Алег Лойка. «Шчырасць»*

Як не плюсуй і як не множ,
Адно тых знакаў поўны кош.
Плюс, мінус, полюс і «ассё» —
Вось вам, па шчырасці, і ўсё.

*1968*

## ЗА ВЕРШАМІ ЧАРГА

На вуліцы сапраўдная пурга,
Збівае з ног мяне мяцеліца.
Гляджу, за вершамі Шушкевіча чарга,
Ажно вачам маім не верыцца.
А можа, гэта ў сне было?
Да поўначы гняла бяссонніца...
Я мацаю спацелае чало
І адчуваю, што вянок лаўровы колецца.

*1968*

## ЖАРТАЎЛІВАЯ ЛІРЫКА

### I

Я ўвесь з уранавай руды,
Кладзі мяне ў рэактар,
Дык буду рухаць паязды,
Вадзіць у полі трактар.
А сэрца кропелька майго
Ўзнясе людзей на зоры,
Яно вулкан, яно агонь,
Яно як шторм на моры.
Але адкіньце сполах прэч
І шыльду «Асцярожна».
Рукзак здымаю з моцных плеч,
Усім падходзіць можна.
Да кроплі радасць я раздам
Старому і малому.
Але слязы ніколі сам
Не адпушчу нікому.

### II

Верш рыфмай таннаю аброс,
Як снегам елка ў полі.
Паперы спісанае стос
Лёг каменем на столік.
Пішу, пішу... І знаю сам,
Што кожны сказ, як гіра.
Пяро брынчыць, нібы аса,
Трашчыць пад локцем ліра.
Не радуйся, сусед-паэт,
Не смейся са старога.
Па часу, можа, я і дзед,
Але звалю любога.
Я не звалюся вобзем, ніц,
На лёдзе не спаткнуся.
Сто тысяч шумных навальніц
Уздрыгнуць не прымусяць.
Ды толькі чэрствую душу,
Калі ў каго убачу,
Свой твар аддам капелюшу
І ўпотайкі заплачу.

### III

Часамі лаўры і вянкі
Даюцца не па праву,
Нагбом з шырокае ракі
П'юць хціва людзі славу.
Але папраўкі ўносіць век.
І тое, што сатлела,
Адкіне ў бездань чалавек,
Сатрэ і пляму з цела.
Калісьці быў я маладым,
Знаў воплескі і славу.
Цяпер люблю кухонны дым
І лаўры на прыправу.

*1968*

## БАГАМАЗЫ

Даўно, ў сівы далёкі час,
Мастак-партач, іначай багамаз,
Прывёз вялізны воз
На рынак абразоў.
Гукае шмат разоў
І хваліць да нябёс
Ён вырабы свае.
І гэткую дае
Ім пахвальбу
І звонкую рэкламу!
Пот выплыў на ілбу.
Але мінаюць людзі краму.
Не ведае мастак
За што і ухапіцца,
Як збыць тавар,
Як заклікаць.
І распачаў на рынку
Ён крычаць:
— Купляйце, любыя,
Калі не прыгадзіцца
На абразы мае маліцца,
Дык будзеце гаршкі
У кухні накрываць!..

*1968*

* * *

Праз шмат гадоў
Я выстаўку мастацкую наведаў.
Мастацтвазнаўца
Крочыць следам
І хваліць зробленае
На дзяшовенькі паказ.
Я глянуў на партрэт,
І прыгадаўся багамаз...
Партрэт на ўсю сцяну,
Ды ім нічога не прыкрыеш...
Нямыя фарбы, лініі сляпыя.
Тлумач сагнуўся ў крук
І хваліць фальш-тандэт,
Ікону хваліць, не партрэт,
Мо перапала што
Яму з нячыстых рук?
Па ўсім відаць,
Мастак —
яму бутэлечны сябрук...

*1968*

## ГЭТА ДЗЕЛЯ РЫФМЫ

Мора так бушуе, аж ляцім на рыф мы...
Вось такі пачатак толькі дзеля рыфмы.

Што ж, зусім не страшна, не крычы, не ахай,
Круг выратавальны ў кожнага пад пахай.

Карабель разбіўся. Усплываюць шчэпкі...
Гэта ж для пачатку, гэта ж для зачэпкі.

Вось ужо і мора, як у бочцы піва,
Улеглося, села ў берагах маўкліва.

Вось і вершык зроблен. Для чаго? Ці варта
Раскрываць задуму з кпінамі і жартам.

Радуйся памеру і удалай форме
І зусім забудзься аб імклівым шторме.

Толькі дзеля рыфмы, толькі дзеля рыфмы
Часам пром заўзята карабель на рыф мы.

*1968*

## Я КУПЛЮ БІЛЕТ ТРАМВАЙНЫ

Ссядай з сядла, злазь з каня...
*З народнай песні*

Дзе пасецца мой Пегас, хто скажа?
Не вадзіў крылатага я на папас,
Ясным днём ці ночкаю, як сажа,
Пехатою шлёпаў кожны раз.

Мне ж гавораць, злазь з каня, ды годзе,
Ты сваё ад'ездзіў, адгайсаў...
Ну няўжо майго Пегаса злодзей
Звабіў, даўшы торбачку аўса?

Ды на чорта конь такі дзяшовы
І рахманы, што да ўсіх брыдзе.
Хай адваляцца ў яго падковы,
Не хачу я на яго глядзець.

І куплю білет за тры капейкі,
Сяду у трамвай, дзе шмат людзей.
Ці ж тады мне скажа злыдзень нейкі:
— Злазь з трамвая, мілы дабрадзей!

Пакажу білет, што маю права
Ехаць на любую плошчу ці завод,
А са мною разам — злева, справа —
Людзі працавітыя, народ...

*1968*

## ЛОЎКІ ЦЕСЦЬ І СПРЫТНЫ ЗЯЦЬ

Працавалі ў адным трэсце
Зяць Рыгор з Міколам-цесцем.
Цесць любіў, любіў і зяць
Для сябе чужое ўзяць.
Бралі крышачку, драбніцу,
Каб з пасады не зваліцца.
Бралі ўмела, пакрыёма —
Гэта ўсім было вядома.
Каб ніхто не знаў, не бачыў,
Будавалі воддаль дачы,
Пакуплялі «Масквічы»...
За чые?..— Ну, памаўчы!
За свае ж. Хіба ня можна?!
Эканоміць можа кожны,
Недап'е і недаесць,
Ну, вядома, зяць і цесць,—
Так казалі падхалімы,
Зяця, цесця пабрацімы.
Праваліўся цесць і зяць,
Хоць умелі спрытна браць.
І на чым жа? На драбніцы
Ім прыйшлося праваліцца.
З-за драбніцы і сядзяць
Лоўкі цесць і спрытны зяць.

*1968*

## ГАЛУБКІ

Ёсць у нашых галубоў
Неймаверная любоў:
Сядуць побач на карніз,
Разам звесяць дзюбы ўніз.
І глядзяць на ўсё як след.
О, які прыгожы свет!
А нанізе ёсць сусед,
Ды такіх не ведаў свет,
І суседка, не ў дакор,
Яе знае дом і двор.

Разам чай шалёны п'юць,
Па чарзе пасуду б'юць,
Распускаюць кулакі,
Густа садзяць сінякі.
Аж па скуры пне мароз
Ад іх лаянкі, пагроз.
Іх каханне і любоў
Часта страшаць галубоў.
Тыя ж скрыюцца пад дах
І буркочуць: «Жах і страх...»

*1968*

## ЗІНА МАЯ...

Пахнуць твае вусны нікацінам,
Зіна мая, сэрца маё, Зіна!
А на вуснах пласт ляжыць памады,
Пацалую, буду сам не рады.
Настаўляць, вучыць цябе не стану,
Скрыта не ўсміхнуся, калі гляну.
Ты падклеіла, здаецца, вейкі?
Ну, вядома, гэта не навекі.
Давядзецца часам праслязіцца,
Як тут чорнай фарбе не размыцца?
Сівізна на валасах, бы нарасць.
Ну, навошта ж імітуеш старасць?
Прыйдзе яна, прыйдзе нечакана,
Падмаладжвацца пачнеш старанна.
Застанецца пах той нікаціну,
Зіна мая, сэрца маё, Зіна!..

*1968*

## А ЦЯПЕР МЫ СТАРЫМСЯ

Цалаваліся з табой
Мы калісь наперабой,
А цяпер мы старымся,
Лаемся і сварымся.

Пройдзем, любая! Не стой!
Знойдзем кветку — зверабой,
Ад залушша, слепаты
Ачуняем я і ты.
З хлопцамі і дзеўкамі
Зазвінім прыпеўкамі,
Нацалуемся з табой,
Як калісь, наперабой.

*1968*

## РЭСТАРАННЫ ДУЭТ

Выступаюць на эстрадзе
Ў рэстаране з цёцяй дзядзя.
Ад іх хлёсткага дуэта
Скокнуў куфель рыкашэтам,
А талеркі задрыжалі,
Шклянкі тоненька заржалі:
Гі-гі-гі! Ці-лі-лі!
Спевакоў мы нажылі.

Стала ў місцы цесна цесту,
Не было ж у песні зместу.
Кісне, лезе цеста ў кухні,
Барабан стары як бухне,
А раяль разбіты ўторыць,
Скрыпка хрыпатам гаворыць:
Бух-бабах!.. Ці-лі!.. Ці-лі!
Ну і песню ж нажылі...

Каб было паэту пуста,
Сэнсу мала, трэску густа.
А з ім модны кампазітар
Ноты, пішучы, паблытаў.
Таракочуць на эстрадзе
Ў рэстаране з цёцяй дзядзя.
Гіб-га-га! Цю-лі! Лю-лі!
Каб жа вас пярун спаліў.

*1968*

## НЕ КРАЎ,
## НЕ БРАЎ

Ён верным быў вялікім справам,
Ну гэта кожнаму яскрава,
Ён не які-небудзь прайдоха,
Лічыў, ідзе ў нагу з эпохай.
І раптам, можа, і знарок,
Яму падклалі хабарок.
Куды? Вядома, не ў кусты...
Багажнік быў той раз пусты,
І рэвізорава машына,
Нібы вагалася на шынах.
Паставіў ён яе ў гараж,
Пайшоў, вядома, не на пляж...
Пасля праверкі і нарады
Крыху хістаўся, ледзь не падаў.
І не заўважыў ля машыны,
Што ў яе прыселі шыны.
Прыехаў ён дадому позна
І сыну з жонкай крыкнуў грозна:
— Парадак навядзіце самі,
Як кажуць, самі вы з вусамі...
А што ў багажніку, дальбог,
Не бачыў ён ды знаць не мог.
Праз дзень-другі, а можа, трэці
Ікс напісаў у сценгазеце,
Што рэвізор з саўгаса прывалок
Даволі важкі хабарок.

*1968*

## ПЕСЕНЬКА
## МІНЧАНІНА

Не ў сне і не спрасонку
На ўскраіне пустой
Бачыў я адну сасонку
З пашарпанаю карой.
Аглянуўся я, павер,—
Там шуміць зялёны сквер...

Дзе-нідзе стаялі хаты,
Голы быў наўкол прастор.
Глянь, «зубры» і «зубраняты»
Завадскі занялі двор.
Пракладае трактар след,
Дзе збіраў апенькі дзед...
Ах, зусім змяніўся свет!

Вунь дамы, нібы палацы,
Клубы, фабрыкі, сады.
Не магу я разабрацца,
Як дабрацца мне туды,
Дзе надоечы блудзіў,
Дзе з каханаю хадзіў...
Ну, як кажуць, заблудзіў...

Хоць ступаю крокам вольным,
А трывог на сэрцы шмат.
Пападаю на камвольны,
На камвольны камбінат,
Дзе тры тысячы дзяўчат.
Мо знайду сваю? Наўрад!..
Там тры тысячы дзяўчат...

*1968*

## СУСЕДЗІ

Ходзіць дзед, як малады,
Без вусоў і барады,
А затое ў юнака,
Барада, як асака.

Абціранне робіць дзед
І арлом глядзіць на свет,
Малады ж увесь у шэрсці,
Нават цяжка рот працерці.

Дзед умее і прытупнуць,
Бо ў яго людскія туфлі,
Малады ж у шыланосых
Ступіць крок і кажа: «Досыць».

Крыжачок,
часамі полькі,
Дзед танцуе з добрым толкам,
Гнецца хлопец ад натугі,
Калі скача бугі-вугі.

Дзед з гасцямі выпіў чарку,
Паспяваў,
скурыў цыгарку,
Малады ж за пяць хвілін
Праглынуў віна графін.

Дзед пайшоў на ложак спаць,
Дзед пайшоў адпачываць,
Малады ж ляжыць пад плотам,
Ловіць мух адкрытым ротам.

*1968*

## ПРА БЛАГОГА ЛЕСНІКА

Даў суседу (той прасіў)
Дзераўцо на бэльку,
А ён добрых пяць зваліў
За адну бутэльку.

Даў я куму на слупок,
Даў адну сасонку,
А той дзесяць павалок
Гэткіх стройных, гонкіх...

Тым на плот, на частакол,
А таму на латы,
Парадзеў лясок наўкол,
Стаў на пні багаты,

Падрастай, маладнячок,
Дрэнна пахнуць справы!..
За хабар, за першачок
Крок да страшнай лавы.

Лес зялёны, бор і гай,
Радасць — пералескі!..
Аж па самы небакрай
Толькі пні ды трэскі.

*1968*

## ЛІСА-МОДНІЦА

Ліса модніца была,
Туфлі-шпількі нажыла.
А праз год і на платформе,
Ўсё было па новай форме.

Шмат пачула яна кпін,
Асабліва ад жанчын.
Тут смяяліся з Лісіцы
І Зайчыхі, і Львіцы.

Хоць Лісе і назалялі,
Хоць Ліса і з мазалямі,
Але Леў сказаў: — Ліса!..—
І за вухам пачасаў.

Калі глянуць збоку трошкі,—
Нібы точаныя ножкі.
І хоць з твару чапяла,
Многіх з розуму звяла...

*1968*

## МОЙ РЭЦЭПТ

Лечаць п'яніцу Міколу,
Кружаць лекары наўкола,
А ў яго няма папраўы —
Выгляд сонны, выгляд млявы.
Есць за трох. Часамі здуру
Крыва гляне на мікстуру.

Уздыхне. Хіба ж ён здольны
Піць настой безалкагольны?
Дарагія лекары,
Чорт вас лысы пабяры!
Свой рэцэпт і свой дыягназ
Вы закіньце дзесьці ў багну,
Не пускайце абібока
Без работы ані кроку.
Хлеба лусту. Збан вады,
І ні грама больш яды.
Справа пойдзе на паправу —
Медыцыне ж будзе слава...

*1968*

## СПЕЮЦЬ ГРУШЫ НА ВЯРБЕ

— Бачыш, як разросся сад,
Садавіны шмат збяру.
Сябар крывіцца — не рад
І таміць не хоча рук.
— Груш з вярбы я воз натрос,
Адвязу і ўсе прадам...
У райфа мой друг данос
У тры аркушы аддаў.
Ну і там былі сляпцы:
Закіпелі не на жарт:
— Для прыватніка — капцы!
Ён таго даўно ўжо варт...
Напісалі шмат папер,
Наламалі многа дроў...
Я ж даведаўся цяпер,—
Трэба знаць сваіх сяброў!

*1968*

## ПАРТФЕЛЬ-КАЛОДА

— Скажы, Мядзведзь,—
Ліса спытала з асалодай,—
Чаму ты сунешся ледзь-ледзь,
Партфель звісае, як калода?!

— Ах, родная мая Ліса,
Пайшло цяпер у моду,
Каб быў партфель ад пахі да крыса,
Нялёгка з ім пралазіць праз кусты.
Ды глянь, ён у мяне пусты
І з дзіркаю вялізнай спадыспаду.

*1968*

## П'ЯНІЦА І ПЕВЕНЬ

Вядомы п'яніца Пілін
Да Певуна прыстаў-прыліп:
— Як ты пасмеў
Маўчаць,
Брыдота!
Не абудзіў мяне, лайдак,
Я гэта не пакіну так,
Бо праз цябе спазніўся на работу.
— Не вінаваты я! — казаў Пявун,—
Тут кожны ведае, што я крыкун,
Што я спяваў світаннем да знямогі,
Ты ж спаў, спусціўшы з ложка ногі.
— Ага,— дык ты яшчэ ілгун...
І певень трапіў у чыгун.

*1968*

## ПАМЫЛКА

Вагон касметыкі завезлі не ў той бок,
На поўдзень слалі, а прыйшоў на поўнач.
Дэльфінія гаруе, пісем-скарг паток,
А ў Маржовіі — трыумф, бо фарбы поўна.
Маржыха кожная малюе вусны, твар,
Фарбуе валасы, фарбуе бровы, вейкі.
Дэльфініхі сумуюць: іх тавар
Паплыў, як кажуць, у чужыя рэкі.
Чыгунка вінавата, гэта факт.
Заблыталі паперы-накладныя.
Вядома, склалі на віноўных акт,
Вымоваю намылена была злачынцу шыя.
Дэльфіны разрываць пачалі шлюб,
Без фарбы бачыш праўду у натуры.
Маржам выдатак лішні быў не люб,
Яны таксама аж вылазяць з шкуры.
Разводы на ільдах, разводы ў цёплых водах.
Фальш і падман відаць як след былі.
Вядома стала — гора робіць мода,
Нарэшце зразумець усе гэта змаглі.
Не ўсюды так было, не ўсюды гэта ліха,
Не ў кожнай галаве гуляе вецер.
Не кожная праз меру фарбавалася Маржыха,
Былі Дэльфініхі, што шчасце мелі ў свеце.
Дзе натуральнае, сваё, дык моцнае, як сталь,
Там шчасце, прыгажосць бываюць разам.
Такая ў гэтай баечцы мараль,
Вы ж гэта самі бачыце адразу.

*1968*

## КАГО ПАКАХАЦЬ?..

Пакахала б лётчыка,
Слаўнага малойчыка,
Але ж ён, вядома вам,
Сёння тут, а заўтра там.
Пашукала б марака,
Але ж буду наракаць,

Бо і ён, як вам вядома,
Вечна ў моры, а не дома.
Мяне ўзяць шафёр бы мог,
Ды ў шафёра сто дарог:
Як імчыцца, хто там знае,
На каго ён паглядае.
Трактарыст на гонейках
Вечна брудны, чорненькі,
Часта пахне ён бензінам,
А я ж модніца-дзяўчына.
Пакахала б пастуха,
Буду вечна уздыхаць,
Бо з вясны да восені
Ён за статкам носіцца.
Выйду, стану над ракой,
Бо на сэрцы непакой,
Буду думаць і гадаць...
Ды каго ж мне пакахаць?

*1968*

## ЯК ІШОЎ Я
## ПРАЗ СЯЛО

Як ішоў я праз сяло,
Мяне ў лукаткі вяло.
Нехта гікнуў наўздагон:
— Паглядзіце, што за ён?
Я спяваў «Шумеў камыш...»,
На курэй крычаў «акыш»,
Лаяў слуп і так і сяк,
Разганяў калом сабак.
Як я выйшаў за сяло,
Дык не помню, што было,
І дазнаўся ад суддзі,
Дзе хадзіў і дзе блудзіў.

*1968*

## ЯК САБАКІ БРЭШУЦЬ НА ВАЎКА

Воўк пажывіцца ноччу рад,
За вёскай лёг на скрад.
Сабакі брэшуць неўпапад,
На вуліцы засеўшы ў рад:
— Гад-гад! Гад-гад! Гад-гад!
Відаць былі ўжо праз паркан
Два вокі-аганькі.
І Жук, і Лыска, і Палкан
Паціху брэшуць: — Пан-пан, пан! —
І ў будкі ўцяклі.
Абнюхаў воўк павець і хлеў
І па двары ідзе.
Зусім астыў сабачы гнеў,
Сёй-той забрэша дзе-нідзе:
— Дзед-дзед! Дзед-дзед! Дзед-дзед!
Вось блізка воўк зусім цяпер,
Шмыгнуў ля будкі куляй.
І чуе люты хцівы звер,
Сабака лямантуе:
— Ай-ай! Ай-ай! Дзядуля!

*1968*

## ПТУШЫНАЕ ВЯСЕЛЛЕ

Салаўя жанілі,
Музыка грымела,
Чулі на паўмілі,
Як капэла пела.
Мядовае зелле
Як ракой лілося.
Ой, на тым вяселлі
Елася, пілося.
Танцавала сойка,
Разам з ёй сарокі,
Барабаніў бойка
Дзяцел чарнабокі.

А варона-сваццяя
Каравай насіла
І саву у хаце
Штурхала, будзіла.
Тая так заснула
Ля сыча пад лавай,
Пэўна, і не чула,
Як крычалі: — Слава!
Слава ўсім гулякам,
Слава ўсяму дому!
Салавей заплакаў
З радасці, вядома.
Вераб'і з прыгорка
Закрычалі: — Горка!
А дзяркач у жыце:
— Мёд падсаладзіце!
Музыка грымела,
Салаўя жанілі.
Як капэла пела,
Чулі на паўмілі.

*1968*

## У БЮРО ЗНАХОДАК

Шумела ўсё наўкола,
Людзей — не размінуцца,
Пад Новы год, як пчолы,
Усе кудысьці пнуцца.
Так з кожным можа стацца...
Хоць цэлыя кішэні,
Згубіў сваё юнацтва,
А чым яго заменіш?
Адзіны толькі сродак,
Адну надзею маю:
Пайсці ў бюро знаходак,
А мо знайду, пазнаю.
Дзе-небудзь на паліцы
Між кульбаў, банак, шрубаў,
Між ботаў, рукавіцаў
Ляжыць, напэўна, згуба.

Ды я хаджу дарэмна
І службу непакою.
— Глядзі, які ён кемны! —
Смяюцца ў тым пакоі.
Сіл мала на цярпенне,
Кракчу, пацею, гнуся.
— А можа, ў вас сумленне
Згубілася, дзядуся?..
— Ды не, яно ля сэрца...
Хіба вам невядома?..
— Тады, як нам здаецца,
Прапажа ваша дома.
Так можа з кожным стацца —
Мо днём было, мо ўночы —
Згубіў сваё юнацтва,
Ніхто вярнуць не хоча.

*1968*

## ЗНАТНАЕ ВЫХАВАННЕ

Сын у бацькі на адкорме —
Атрымоўвае па норме
Для сякіх-такіх патрэб...
Але толькі не на хлеб!
Бацька знатны і вядомы,
Часта ён вучоным тонам
Учыняе з жонкай спрэчку,
Хоць надзень яму вуздэчку:
— Стаўлю рубам я пытанне,
Ўсё аддай на выхаванне!..
Тады маці (што тут зробіш!)
Аддавала сыну дробязь.
Рос сынок, нібы баран,
Знаў дарогу ў рэстаран,
На замежны пнуўся лад —
Быў свайму карыту рад.
Рос ён гледзячы на лес,
І ў кішэнь чужы залез.
Дасталося гора-мукі
Вырваць сына за парукі,

А ўжо тым, хто дапамог,
Выдаў бацька, колькі мог.

. . . . . . . . . . . . . . .

Ставіць бацька так пытанне:
Ўсё аддам на выхаванне!

*1968*

## ЁН УВЕРХ ТАПЫРЫЦЬ НОС

Ўсім высокім і вядомым
Быў ён ростам да спіны,
Называлі яго гномам,
Майстрам, схільным да маны.
І не можа ён расстацца
З гэтым і цяпер мастацтвам.
І на пядзю не падрос,
А ўгару тапырыць нос.

*1968*

## ДЗЕ Ж ПАДЗЕЎСЯ ВЕЦЕР-ДЗЕД?

Мы сказалі ветру,
Што нам неабходна.
Ён дагнаў над полем
Брата роднага —
Яму сказаў,
Той стрыечнага дагнаў —
Яму сказаў.
Памчаўся па свеце.
Трэці вецер
Дагнаў чацвёртага!
Той перадаў пятаму, крылатаму.

*Эдзі Агняцвет. «Наша жаданне»*

Кружаць брацікі-вятры,
Родныя, стрыечныя...
З іх, здаецца, добрых тры,
Ёсць і небяспечныя.

Вецер крыкса і хрыпун,
Папяроса ў роце,
Лезе ў жытнюю капу
На сухім балоце.
Дзе ж падзеўся вецер-дзед?
Можа, спіць вяльможа?
Пэўна, цёця Агняцвет
Адказаць нам зможа.

*1985*

## ОДА МУЗЕ

О, Муза, стомы прагані,
Калі я за сталом.
Хачу кіпець, як у агні,
Грымець, як майскі гром.
Хай слова мае вастрыню,
Як добры моцны меч.
Усё фальшывае, брахню,
З дарогі гоніць прэч.
Мая сатыра, смех і гнеў,
Суладны будзьце дню,
Хай творы маюць сілу, гарт,
Шырокую ступню.

*1983*

## ТАІСЕ БОНДАР

Змілуйцеся, зрабіце літасць,
Крыху суцішце баявітасць,
Крытычны меч схавайце ў ножны,
Самой парэзацца ім можна.

*1985*

## МАЯ СУСЕДКА — ПАЭТЭСА

Бабулька манку варыць на пліце,
Бывае так, што двойчы яе соліць,
А іншы раз і вершыкі пляце
І кволенькімі рыфмамі сваволіць.

Такую кашу цяжка праглынуць,
Сухарыкі жуе і запівае чаем.
Мелодыю з юнацтва ведае адну
І старасці сваёй не прыкмячае.

Прыносіць мне рыфмованы тавар.
Чытаю. Нібы крочу цёмным лесам.
Гляджу на густа выбелены твар,—
Быць маладжавай хоча паэтэса.

Сяброўку мае паэтэса ў Акадэміі навук.
— Нясі, шаноўная, туды свае паперы,
Пазбаў мяне ад невыносных мук,
Не стукайся ў мае ніколі дзверы.

*1985*

## ЧАСАМІ КЛІЧУЦЬ НАС ХАЛАСЦЯКІ...

І ў дзень святочны жонкі і бацькі
Для нас пакінуць чарку забываюць.
*Сцяпан Гаўрусёў*

Часамі клічуць нас халасцякі,
І не мінеш піўнушкі-забягушкі,
Тады ўжо жонкі і бацькі
Нап'юцца дома аж па вушкі.
І прывядзе цябе сусед,
А тут няма чым пахваліцца.
Ці варта мне на белы свет
Было няшчасным нарадзіцца?

*1985*

## ЛІТАРАТУРНЫ ВІНЕГРЭТ

Не здраднікі і не каліфы —
Надзей светлых светлыя міфы,
І здраднікі і каліфы —
Падману цвярозага міфы.
Ўзыходзяць, нібыта зоры,
Заходзяць, нібыта зоры,
Міфы шчасця і гора —
Знічкі ў бясконцым прасторы.

*Алег Лойка. З верша «Міфы», прысвечанага Віктару Каваленку*

У лірычны вінегрэт,
Каб падсыпаць крошку солі,
Тым праславіўся б паэт,
Што не пішуць так ніколі.
Пасмакуйце. Што? З чаго?
Можна ўскрыкнуць: — Го-го-го!
Ведай свет і ўся акруга,
Хоць без солі, а для друга.

*1985*

## ГРАФАМАН РЫФМУЕ ПРОЗУ

Меле млын стары муку,
Графаман рыфмуе прозу,
Што ж, яму і на руку,
Бо зусім няма завозу.

*1985*

## НІНЕ ТАРАС

*Аўтару кнігі «Праметэю прыйду пакланіцца»*

Вы кланяліся Праметэю
За той агонь, што даў народу.
Нясіце ж светлую ідэю
Наперад смела год ад году.

*1985*

## МАРЫІ БАРСТОК

О, будзьце болей смелай,
Адвагі больш прыдбайце
І ўсё, што недаспела,
З Парнаса вымятайце.

*1985*

## ГАЛІНЕ КАРЖАНЕЎСКАЙ

*Аўтару кніг «На мове шчасця»,*
*«Мой сад» і іншых паэтычных твораў*

Сад казачны, шырэй расці,
Шугайце ўверх спакойна, дрэвы,
Каб салавей у іх гасціў,
Каб чуліся далёка спевы.

*1985*

## БЫВАЮЦЬ І ТАКІЯ

Зранку кыш
Крычыць малыш,
Па двары ганяе куры,
А пад вечар каратыш
Тон дае ў літаратуры.

*1985*

## АЛАДКІ БЕЗ АЛЕЮ

Да паэзіі ён падкі,
Пячэ вершы, як аладкі,
Хоць пячэ да юбілею,
А чамусьці без алею.

*1985*

## ЗНІКЛА ЗОСЯ...

> Нечакана мне здалося,
> Што на лаўцы пад сасной
> Уначы дзяўчына Зося
> Абдымалася са мной.
>
> *Уладзімір Скарынкін.*
> *«Салаўіная ноч»*

Успамінам сэрца грэю,
Бо юнацтва за гарой,
І пакрышачку старэю,
Толькі думак майскіх рой.
Знікла Зося паміж сосен,
Недзе дзынкае сініца,
І пляцецца бабка-восень,
А вясна чамусьці сніцца.

*1985*

## ПРЫЗНАННЕ

Надзея з кожным днём радзее,
На лаўры ўжо няма надзеі,
А крытык часта, нібы шашаль,
Нутро свідруе. Душыць кашаль.
Варсінкай лысіну прыкрыю,
Яна ў мяне ледзь не па шыю,
Шырокім крокам рушу ў прозу,
Я ўсё ж цвярозы маю розум,
І хоць марудна, але з часам
Я даплятуся да Парнаса,
Развеяўшы настрой цярновы,
Нырну я ў жанр, як кажуць, новы.

*1985*

## МНЕ ЛЕС ШЧАКУ ЛІЗНУЎ

> У вёсцы кінуўшы «Жыгулі»,
> Тым жа лесам і тою ж сцежкай
> Мы ў грыбы на дасвецці ішлі.
> . . . . . . . . . . . . . .
> Лес расу страсянуў за каўнер
> І шчаку лізнуў, як калісьці.
>
> *Анатоль Шаўня.*
> *«Маленства сцежкі»*

Не так калісьці мы жылі...
Хіба ж мы мелі «Жыгулі»?
Усё змянілася цяпер.
Расу бор кінуў за каўнер.
Ад раніцы яе трасе,
Аж ад здзіўлення дуб прысеў.
Не скора ноччу я засну,
Бо мілы лес шчаку лізнуў.
Я ў «жыгулёўскі» кузавок
Грыбоў нямала прывалок,
А вершаў больш у тры разы
Сабраў між пнёў і дзеразы.

*1985*

## НЕДАПЕЧАНЫ КАРАВАЙ

Над кнігаю празаік соп,
Звязаў старонкі ў важкі сноп.
Праз месяц, пэўна, можа, тыдзень,
Том пазлацаны з друку выйдзе.
Яму ўжо лёсам накanoвана
Да кніжнай базы быць прыкаваным,
Бо ён і формаю і зместам —
Як каравай з сырога цеста.

*1985*

## КАЛІ НАТХНІЦЬ КАХАННЕ КРОЎ

> Калючую, нібы ажынку,
> звонкагалосую грузінку,
> акрылены,
> заваражу.
>
> *Генадзь Пашкоў*

Хіба у наш дваццаты век
Паміж нізін сланяцца?
За чарнакосай на Казбек
Гатоў паэт падняцца.
Калі натхніць каханне кроў,
Вядзе на подзвіг сэрца.
Увысь да зор і да арлоў
Яно няспынна рвецца.

*1985*

## УТАПІЎСЯ Ў СВІСЛАЧЫ ВЯЛІЗНЫ МАМАНТ

Чуўся над ракою страшны лямант,
Горка плакала мамантаніха.
Утапіўся ў Свіслачы вялізны мамант.
На якое ж тупаў ён тут ліха?

Тысячы гадоў ляжаў пад глеем.
Час мяняўся. Волат быў забыты.
Не адна прайшла, збылася эпапея,
Скамянелыя над ім ляжалі пліты.

Метрабудаўцы знайшлі аднойчы
Косці маманта пад Свіслаччу-ракою.
Ад цікавасці свяціліся іх вочы,
Ад вучоных не было спакою.

Слёзы жонкі не прапалі дарам.
Мамант уваскрэс у навуковых томах.
У музеі біўняў вытыркнулася пара.
Дзе ж памерла жонка, невядома.

*1984*

## КАМАР МУХУ ПАКАХАЎ

Камар з мухаю дружыў
І не раз па ёй тужыў.
Хоць нягеглы і нядужы,
А казалі, што дасужы.
Ён прыносіў падарункі —
І каралі, і карункі.
Смяяліся: — Ха-ха-ха!
Камар муху пакахаў...
Прыляцеў — быў ясны дзень —
З поля шустры авадзень.
Прытвараўся, уздыхаў,
Лгаў, што муху пакахаў.
Авадзень чырванашчокі
Каля мухі цёрся збоку.
Сядзе побач, ходзіць радам,
Муха тлустаму не рада.
Сніцца здрада камару,
Паляцеў ён на гару.
Зазваніў, загуў камар
На увесь як ёсць абшар:
— Я ж яе кахаў, любіў,
Авадзень жыццё разбіў.
Пэўна, сэрца разарвецца.
Пэўна, сэрца разарвецца.
Валяр'янку, валідол
Ён прымаў, як сеў за стол.
Што было, каб толькі знай,
Камара праз дзень хавалі.
Уздыхалі часта, цяжка
Мошка, матылёк, мурашка.
Нават муха зазваніла:
— Моцна я яго любіла!..
Вецер лісцікі калыша,
А камар ляжыць, не дыша.
Як жывы ён у труне,
Жук стаіць і лапкі гне.
Палятушка-страказа
Ледзь не тоне ў слязах.
Стройны конік уздыхаў,
Ведаў, як камар кахаў.

*1985*

## ЛЯСНЫЯ ГРАФАМАНЫ

Піша вершы Цецярук,
Цопам, лопам, абы з рук,
Гарлапаністая Сойка
Творыць мудра, нават бойка,
Іншы раз Саве на смех,
Бо крамзоліць знізу ўверх.
А чытаць, дык знае кожны,
Зверху ўніз і знізу можна.
А Дудак, вядомы крытык,
Іншы раз ён крыху ныцік,
Нават крыху небарак,
Цвердзіць ён, што можна так.
Быццам ёсць такая форма,
Стыль такі, такая норма.
Хваліць ён Цецерука,
Ледзь не носіць на руках,
А ўжо Сойку да нябёс,
Ажно дзіўна, так узнёс.

*1984*

## ПА СЛАВУ З ЁМІСТАЮ ЛЫЖКАЙ

Хоць перапоўнена лірычным смеццем
Яго аднюсенькая кніжка,
Ужо ён марыць пра бяссмерце,
Па славу лезе з ёмістаю лыжкай.

*1985*



## ВЕРАБЕЙКА

Верабейка ўвесь дрыжыць:
— Як тут жыць? Як пражыць?
Набліжаецца зіма,
Цёплай вопраткі няма.
Цык-цырык! Цык-цырык!
Я ад холаду адвык.
І азяб я, і прамок,
Слаба грэе мой пушок.
Вецер. Холад. Дождж імжыць...
Як тут жыць? Як пражыць?
Цык-цырык! Цык-цырык!
Я ад холаду адвык.

*1957*

## ЗНАТНЫЯ ЛІСІЧКІ

Важны грыб баравік
Кпіць з маленькіх прывык:
— Танканогія лісічкі,
У вас танныя спаднічкі,
Як на смех капелюшы!
Вы крывулькі-малышы!
Хто нагнаў на вас спалох?!
Вы чаму залезлі ў мох?!
Паднялі лісічкі рыльцы:
— Мы з лісой аднафамільцы...

Хоць ты, брацік, ганарлівы,
А зірнеш — увесь чарвівы,
Нас баіцца злы чарвяк,
Не кранае аніяк.
Ты закрый, крыклівец, рот,
Між грыбоў мы знатны род.
У нас тоненькія ножкі,
У нас жоўтыя панчошкі,
У нас жоўтыя спаднічкі,
Мы вясёлыя сястрычкі.

*1957*

## ПРАКАЛОЎ КАМАРЫК НОЖКУ

Пракалоў камарык ножку
Аб паломаную дошку.
Нясе маці сына ў хату,
Дастае бінты і вату.
— Куды ж цябе ліха несла?
Ну сядай, сынок, у крэсла!
Будзем ножку бінтаваць,
Рану ёдам заліваць.

Слёзы коцяцца па твары,
Плача, войкае камарык,
Аж рагочуць каля хаты
Камарыкі-камараты:
— Вытры слёзы, памаўчы,
Больш па дошцы не скачы!

Выцер носік, выцер тварык,
Заікаецца камарык:
— Вось як ножку залячу,
Насміхацца адвучу.

*1957*

## СВАВОЛЬНІКІ

Два мядзведзі-мішкі
Падкідалі шышкі.
Як скакалі праз кусты,
Дык абшарпалі хвасты.
Селі побач на пяньку
Пад ялінамі ў цяньку,
Плачуць, азіраюцца —
Мама будзе лаяцца.

*1957*

## ПА ЛІСТОЧКУ ПОЎЗАЎ СМОЎЖ

І упоперак і ўздоўж
Па лісточку поўзаў смоўж.
След пакінуў мокры, слізкі —
Дзве зялёненькія рыскі.
За ўсю ноч у нашым садзе
Ён ледзь-ледзь прапоўз тры пядзі.
І упоперак і ўздоўж
Па лісточку поўзаў смоўж.
Сам жа думаў, што паўсвету
Ён прапоўз за ночку гэту.

*1957*

## КАМАРЫК

Камарыку ладачкі,
Ён зваліўся з кладачкі.
Давялося балазе
Стракатлівай страказе
Камарыка ратаваць,
З быстрай рэчкі даставаць.
Каб не мелкая вада,
З камаром была б бяда.
Сеў камарык на траве,
Як заплача, зараве:

— Ой, замокла кашуля,
Будзе лаяць бабуля,
Мой касцюмчык, як сажа,
Што матуля мне скажа?
Ладкі, ладкі, ладачкі,
Больш не падай з кладачкі.
Нашто плакаць і енчыць?..
Кладка мела парэнчы,
Не трымаўся, сваволіў...
Годзе плакаць, даволі!

*1957*

## НАШЫ СЯБРЫ

Снегіры, сінічкі,
Наце вам пшанічкі,
Крупак, крошак хлеба!
Вам жа мала трэба!
Ешце, любыя сябры!
Не хавайцеся ў бары,
А жывіце у двары
Да вясенняе пары.
Вось для вас кармушкі,
Птушкі-шчабятушкі,
Нашы весялушкі!

*1957*

## ШАВЕЦ-ІНДЫК

— Я шавец,— сказаў індык,—
Шыць абутак прывык...
Глю-глю-глю! Глю-глю-глю!..
Добрай дратвы нараблю
І пашыю чаравікі
Гусянятам невялікім.
Гусаку старому,
Каб хадзіў ля дому,
Адмайструю тапкі
На крывыя лапкі.

Закрычалі гусянияткі:
— Мы не можам выйсці з хаткі,
Мы даўно чакаем, просім:
Шый хутчэй, прыйшла ўжо восень.

*1957*

## ПАЙШЛА КУРКА ДА ЛІСАЧКІ

Запрашала ліска курку
Да сябе у госці:
— Выйдзі, цыпка, за рэчаньку,
За кляновы мосцік.
А я ж цябе пачастую
Грэчкай і пшаніцай,
За гарою з крынічанькі
Напаю вадзіцай.
Падмяла я сцяжыначкі,
Падмяла дарожкі.
Ідзі, курка, ступай смела,
Не паколеш ножкі.
Разаслана на ўзгорачку
Мяккая салома,
Ты ж у мяне заначуеш
Куды лепш, чым дома.

Пайшла курка да лісачкі
За кляновы мосцік.
Засталіся ад курачкі
Кіпцюры ды хвосцік.

*1957*

## ЯГНЯ

За авечкай-маткай
Бегае ягнятка,
Матку ў бок штурхае,
Малачка чакае.

— Мэ-э...— авечкі хорам,—
Як табе не сорам!..
Пі само вадзіцу
І скубі травіцу.

*1957*

## БЕРАСЦЯНАЧКА

— Берасцяначка, скажы,
Дзе ты ў лесе любіш жыць?
Ці ў нізіне ля ракі,
Ля чароту, асакі?
Ці ў глухім асінніку?
Ці ў густым крушынніку?
— Там, дзе многа сонейка,
Ў чысценькім сасонніку
Мой узгорачак відаць.
Там люблю я жыць, спяваць.

*1957*

## ПАВУЧОК-МУХАЕД

Павучок-мухаед
Злавіў муху на абед.
Просіць муха павука,
Ненажэру-крыжака:

— Адпусці, не вяжы,
Дай на свеце пажыць!
Ой, не рві ты, павук,
Маіх тоненькіх рук.
Не цягні за касу,
Не губі маю красу.
І не рэж, не катуй,
Весялушку пашкадуй.
Дзі-дзі-дзі! Дзі-дзі-дзі!
Ад мяне ты адыдзі.

Точыць нож павук,
Аж сагнуўся ў крук.
Муха скокнула —
Вязка лопнула,
Аглянуўся мухаед —
Паляцеў яго абед.

*1957*

## ХРЫПАТЫ ПЕЎНІК

Захварэў пявун, ахрып,
Быў у пеўня страшны грып.
Маці — курыцу-квактуху —
Не любіў, крыклівы, слухаць.
Швэндаўся па садзе босы,
Абтрасаў на траўцы росы,
Пасля гульняў, прапацеўшы,
Ён крычаў, на плоце сеўшы.
Па халодных лазіў лужах,
Вась таму і занядужаў.

*1957*

## БАБРОВЫ МЛЫН

У затоцы жыў бабёр,
Жыта ён у жорнах цёр.
У бабровы млын на рэчку
Вёз хамяк пшаніцу, грэчку,
Вёз ён логам ды загразу
Каля грэбелькі якраз.
Выйшаў з млына, з-пад гары
Кум-бабёр, млынар стары,
І смяецца, што хамяк
Воз не зрушыць аніяк.
І смяецца, што не змог
Ён аб'ехаць мокры лог.

Млын грукоча: так-так-так...
Дзе ж падзеўся наш хамяк?
Па гразі хамяк туп-туп,
Без мукі ён і без круп.

*1957*

## КАЧАНЁ

Плавала па лужыне
Качанё нядужае,
Лапкамі дзівоснымі
Шастала, як вёсламі.
А пасля нырнула,
Нібы патанула,
Курку напалохала,
Тая ў крык, завохкала:
— Ой, малое, кволае,
Ты ж амаль што голае.
Там як лёд вадзіца,
Можна прастудзіцца.
Качанё смяецца:
— Гэта ж так здаецца.
Не глядзі ты з горыччу,
Мне тут нават горача.

*1957*

## ПЧАЛА

Я работніца-пчала.
Дзе я толькі не была!
У лугах, садах, лясах,
На кіпрэі, верасах,
На званочках і лілеях.
Так стамілася, што млею.
Шмат было ў мяне работы,
Я насіла мёд у соты.
Пасяджу ў пялёстках трошкі,
Забалелі крылы, ножкі.

*1957*

## ХОДЗІЦЬ КОЦІК ПА СТРАСЕ

Ходзіць коцік па страсе,
Мокрай лапкаю трасе.
І злуецца, варкатун,
На свой лёс, на макрату.
Дайце коціку спакой.
Быў ён сёння над ракой,
Усю ноч сядзеў дарма,
Над вадою задрамаў.
Сон прысніўся бедаку,
Упаў коцік у раку.
Гляньце, лапкаю трасе
Мокры коцік на страсе.

*1957*

## СВІНКА

Тлусценькая свінка
Ў лужы раскашуецца,
У гразі па спінку,
І устаць лянуецца.
Вохкае і рохкае:
— Ох, жыццё нялёгкае!

*1957*

## ГУСАЧОК

— Забіяка беленькі!
Гусачок!
Звіс у цябе поўненькі
Валлячок.
Дзе блукаў, бадзяўся?
Дзе ты быў?
Дзе шчыпаў травіцу?
Чым ты жыў?

— Жыў, як на курорце,
У глухім чароце.
Там, нібы на дачы,
Рос наш род гусачы,
Дзе балотца і дрыгва,
Хіба дрэнна? Га-га-га?!

*1957*

## ПАРСЮЧОК

Парсючок пад'еў
І прыйшоў у хлеў.
Стогне: — Ух-ух-ух,
Я пад'еў за двух.
Але, пэўна б, мог
З'есці і за трох.

*1957*

## ПЛІСКА

Ля вадзіцы блізка
Лёгка скача пліска.
Ножкі, як спружынкі,
Скача безупынку.
Цёмныя вочкі,
Белыя шчочкі,
Чорная галоўка,
Шэраяватоўка.
Пэўна, ёю купіна
Назаўсёды куплена,
Бо заўсёды тут яна...

*1957*

## АДУВАНЧЫК

Адуванчык-дзьмуханок
Пад дажджом размяк, размок.
Жоўты быў, а як падсох,
Сам пазнаць сябе не мог:
Пасівеў і ўвесь распух
І рассыпаўся, як пух.
Сто маленечкіх часцін
Зачапіліся за тын,
Зачапіліся за плот,
Паляцелі ў агарод.
Дзеці з вуліцы крычаць:
— Парашуцікі ляцяць!..

*1957*

## ТЫ НЕ ПЛАЧ, НЕ ПЛАЧ, БАБЁР

Пэўна, льюцца не з дабра
Ў прыазёрнага бабра
Слёзы, быццам бы з вядра.
Як цягнуў паленца,
Абадраў каленца
І ад болю гнецца.

— Лепш бы слёзы ты абцёр,
Не бубні, не плач, бабёр,
Не салі слязьмі азёр.
Ліст да раны прылажы
І каленца абвяжы,
Больш не плач і не дрыжы.

*1957*

## БАРАДАТЫ КАМАР

Голіць муха камара
Брытваю тупою,
Дзе ж уседзець камару —
Круціць галавою:
— Не пайду я да цябе
Больш сюды галіцца,
Ты не голіш бараду,
А ірвеш, сястрыца.

Ходзіць з той пары камар
Дзедам барадатым,
Нездаволена бубніць
Каля кожнай хаты.

*1957*

## КОЛЬКІ КІПЦІКАЎ У КОШКІ

Я хацела падлічыць,
Колькі кіпцікаў у кошкі.
Мурка рвецца і мурчыць,
Пад сябе хавае ножкі.
Раз, два, тры, чатыры, пяць...
Пяты кіпцік не відаць.

Нельга Мурку утрымаць,
Я кладу яе на спінку.
Пяты кіпцік не відаць...
Круціць лапкай безупынку.
Раптам чую моцны боль,
Нібы ў рану сыплюць соль.

Я бягу пад умывальнік
Мыць руку і кроў суняць,
Мама выбегла са спальні,
Пачынае дакараць.
Пяць драпіначак відаць...
Раз, два, тры, чатыры, пяць...

*1957*

## МЫШ І КАЗЁЛ

Ішла мышка і пытала,
Дзе знайсці мукі і сала.
Паказаў казёл бародкай:
— За высокай загародкай,
Супроць млына, на прыгорку
Жыве коцік на задворку.
Паважае ён гасцей,
Хлебасол і дабрадзей.
Мышка ціха адказала:
— Пэўна, ён не мае сала?..
Потым глянула на горку
І хутчэй шмыгнула ў норку.

*1957*

## СТРАШНЫ ДЗЕД

Пэўна, дзівіцца сарока,
Бо крычыць на цэлы свет.
Бабу снежную ляпілі,
А тут выйшаў страшны дзед.

Ён стаіць з вялізным кіем.
Нос задраў — таўсты лядзяш.
Снежны дзед, ты глянь ласкава
І варон, сарок не страш!..

*1957*

## ГАНЧАРЫ

Мы былі на глінішчы,
Бралі гліну ў прыгаршчы.
Шмат на ганак панасілі,
Там мяшалі і мясілі.
Наляпілі гладышоў,
Місак, сподкаў, спарышоў.

Хіба ж мы не ганчары,
Ды не працавітыя?
Усе ж лаўкі на двары
Посудам укрытыя.

*1957*

## А МЫ КРУПКІ СЕЯЛІ...

Крупкі сеялі пад дождж,
Лебяда ўзышла і хвошч,
Нават пырнік і асот
Густа ўкрылі агарод.
Але проса і аўсянка,
Рыс шліфованы і манка
Не растуць і не ўзыходзяць...
Ураджай прапаў, дый годзе!..

*1957*

## ЖЭНЯ-АГАРОДНІЦА

Сеяла, сеяла
Буракі на градцы.
Села я, села я,
Не магу падняцца.
Я зусім стамілася,
Пасядзець ахвота.
Ажно зажурылася
Ад такой работы.
Ці ж не працавітая
Я, дзяўчынка Жэня,—
Села, як падбітая,
З буракамі ў жмені.
Буракі ў кішэні
І ў зямлі на градцы.
Ах, няма цярпення
Мне ў зямлі капацца!

*1957*

## КУХАРКІ

Мы з сястрычкай Марыляй
Кашу з манкі варылі.
Калі каша зварылася,
Мама трошкі сварылася:
Наша каша пачарнела,
Моцна знізу прыгарэла,
А мы елі, хвалілі —
Самі кашу варылі.

*1957*

## НАШ МЛЫН

Пачакай, не ўцякай,
Быстрая вадзіца,
Ты ад нас з раўчука
Не пасмееш скрыцца.

Насыпаем грудок —
Грэбельку-плаціну.
Носім, топчам пясок,
Палі б'ём у гліну.

Мы збудуем латак,
З лопасцямі кола,
Яно будзе лапатаць,
Пырскацца вясёла.

Павязуць у наш млын
Жыта і пшаніцу.
Не ўцячэш ад малых,
Шумная вадзіца.

*1957*

## БАБУЛЕЧКА ЯЎСЕЕЎНА

Бабулечка Яўсееўна,
Там, дзе грэчка пасеяна,
Шэрых гусак пасе яна.

Надзень, бабка, акуляры,
Гані гусак на папары,
Каб не мецъ за шкоду кары.

*1957*

## САМАЗВАЛ І ТРАКТАР

Самі хлопчыкі гудуць,
Так і быць павінна,
Бо за імі ўслед бягуць
На шнурках машыны.

Едуць хлопцы на вакзал,
Едуць полем, трактам.
У Сярожы — самазвал,
У Рыгоркі — трактар.

*1957*

## НАДЗІН АБРУЧЫК

Хутка бегла з дубчыкам
Надзя за абручыкам.

Біла, гнала, падганяла...
— Гэй, хутчэй, абруч! — крычала.

Прыкра стала абручу,
Калі крык такі пачуў...

Шмыг са сцежкі ды ў траву,
У жыгучку-крапіву.

Пэўна, вінен дубчык,
Што уцёк абручык.

*1957*

## НЕ БЫЛІ МЫ Ў АФРЫЦЫ

— Пацямнелі тварыкі,
Пацямнелі ножкі...
Дзе ж вы загарэлі,
Міленькія крошкі?
Мо былі вы ў Афрыцы?
Можа, ў Інданезіі?
Вы адкуль прыехалі?
Вы адкуль прывезены?
Толькі вочкі сінія,
Сінія, глыбокія...
Пэўна, вы паўднёвыя,
Пэўна, вы далёкія?
— Мы жывём у садзіку,
Садзіку дзіцячым.
Хіба ж там ніколі
Нас ніхто не бачыў?
Гэта ж наша сонейка
Нас ласкава грэла,
Загарэлі тварыкі,
Пацямнела цела.
Не былі мы ў Афрыцы,
Не былі і ў Азіі,
Вось на гэтым дворыку
Бегалі і лазілі.

*1957*

## ДУДАР

Хлопчык сцежкаю ідзе
Ды іграе на дудзе.
Дзесяць дзірачак у ёй,
А у кожнай голас свой.
Плыве музыка да хмар,
Грае хараша дудар.
Аж хістаецца чарот,
Проста просіцца ў паход.
Каля рэчкі асака
Прыпусцілася скакаць.
Салаўіны гай прыціх,
Слухаў музыку ў той міг,
Дударыку, заіграй,
Хай пачуе ўвесь наш край!

*1957*

## САД ЦВІЦЕ

Будуць яблыкі і слівы,
Бо цвіце наш сад...
Не кранай жа кветкі, лівень,
Не кранай іх, град!..

Палівай іх, дожджык, зрэдку,
Сонца, саграваі.
Калышыце, пчолы, кветкі,
Салавей, спявай!..

*1957*

## ГАРБУЗ

— Я расту, расту, расту,
Расцягнуўся на вярсту,—
Так сказаў гарбуз-таўстун.

Усміхнулася фасоля:
— Лепш не лезь, гарбуз, на поле.
Бо жывоцік свой праколеш.

Бачыш, востры частакол,
А за ім глыбокі дол?..
Ой, як страшна там наўкол!

Не паслухаўся пузаты,
Праз цыбулю і салату
Ён палез уверх заўзята,

Ды зваліўся ў баразну,
Крышку высунуў спіну
І ў цішы, цяпле заснуў.

Хоць і спаў, ды рос і рос,
Ён усіх тут перарос,
Не падняць яго на воз.

*1970*

## ЗАЙКА-ШКОЛЬНІК

Аж пусціўся зайка ў танец,
Бо купілі яму ранец.
Сшыткі, кнігі, каралдаш,
Пойдзе ў школу зайка наш.
У гушчарніку, у лозе,
Пад карчамі, у бярлозе
Баравы стары мядзведзь
Зайку вывучыць як пець,
Як чытаць, як рахаваць —
Раз, два, тры, чатыры, пяць...
Скача зайка. Вось дык танец...
Нацягнуў на плечы ранец,
Вымыў ножкі, носік, вушы,
Заўтра ў школу зайка рушыць.
На сасне крычаць ваверкі:
— Ты вучыся на пяцёркі!..

*1969*

## МЫ НІКУДЫ НЕ ДЗЕЛІСЯ...

— Паглядаю я наўкола,
Зайчаняткі мае,
На палянцы — пуста, гола.
Дзе вы? Нас не стае...
— Не бядуй, мамусенька!
Мы ад цябе блізюсенька,
Потырч з гурбы куляемся,
Тут мы! Тут мы! Сям'я ўся!
Мы нікуды не дзеліся —
Мы ў белае адзеліся...

*1963*

## БУСЕЛ КЛЁКА-КЛЁКАЛА І ЖАБА КВОКА-КВОКАЛА

— Ква-ква-квок!
Ква-ква-квок!
Гэта мая купіна,
Мой грудок.
Хораша наўкола —
Мох і твань...
Тут маё балотца,
Дзе ні глянь.
Тут я каралеўна —
Мой увесь абшар,
Мой увесь чаротнік
І гушчар.

Паглядае жабка
На куп'ё:
— Гэта, тое, тутака —
Ўсё маё.

Важна крочыць бусел —
Цоп-цоп-шась...

— Я тут каралевіч,
Я тут князь!
Тут я Клёка-Клёкала —
Гаспадар,
Гэта ўвесь навокала
Мой абшар,
Гэта мая лужына,
Мой астравок.
Хто ў чароце квокае —
Кво-кво-квок?

Бусел па чаротніку —
Цоп-цоп-шась,
А малая Квокала —
Скок у гразь.

*1963*

## БЕЛЫЯ ПАНЧОШКІ

У маленькай кошкі
Белыя панчошкі,
Беласнежны фартушок,
Белы банцік аж да шчок.
Вельмі шкода, вельмі шкода,
Што ў яе такая мода,
Бо зімой і летам
У адно адзета.
Кожны, пэўна, згодзіцца,
Часта мыць прыходзіцца.

*1960*

## ЗНЯВЕЧАНЫ КАМАР

Твар разбілі Камару,
Хто, за што — не разбяру:
Каля вока гузакі
У два добрых кулакі,

Ды сіняк на падбародку
Шырынёй са скавародку,
А глыбокі чорны шрам
Нос раскроіў напалам.

Чмель дарогай гнаў машыну,
Ткнуў Камар нагой у шыну,
Яго кола падчапіла,
Ледзь насмерць не задушыла.
Непаседа непаслушны
Пакараны вельмі слушна.

*1960*

## ГУСКІ

Туп-туп Гусак з Гускаю
Сцежачкаю вузкаю,
А за імі гусяняты,
Як адно, малышаняты.
— Га-га-га! Га-га-га!
Спяшаюцца як мага.
Нарабілі яны крыку,
Аж прачнуліся індыкі:
— Буль-буль-буль!
Буль-буль-буль!
Ах куды вы? Вы адкуль?
Качар з качкаю і тыя
Паднялі з-пад крылаў шыі:
— Кра-кра-кра! Вось абжоры!
Уцяклі з двара як скора!
Пеўнік крыламі заляскаў,
Выйшла птушніца Параска:
— Накармлю вас вобмешкай,
Гэй, куды вы подбежкам?!
Гэй, дадому, родныя,
Вы ў мяне не збродныя.

*1960*

## ЖУРАВЫ

Як пачулі журавы
Шум асенні баравы,
Паляцелі на імшары,
Пазбіраліся па пары,
Сталі дружна ў карагод,
Цешаць танцамі народ.
— Гэй, цыбатыя танцоры,
Вам ляцець у вырай скора!
Не таміце лёгкіх ног,
Не тапчыце мох, быльнёг.
Не тапчыце, журавы,
На балоце журавін.

*1959*

## ГЫЛЯ, ГЫЛЯ, ГУСАЧКІ...

Пранізае холад навылёт.
Гусі апусціліся на раку, на лёд.
Мерзнуць лапы голыя: — Га-га-га!..
Тупаюць, варушацца як мага.

— Гыля, гыля, гусачкі, у свой кут,
Лапы памарозіце, холад тут!

Гусі супыніліся і стаяць.
Колькі іх! Палічым... Ажно пяць!
Дзесяць у іх крылаў. Гэта так.
Пяць чамусьці лапак. Мала як!..
Дзе, куды схаваліся? Толькі пяць.
Трэба яшчэ гэтулькі. Дзе ж узяць?
Гыля, белапёрыя, у свой кут!
Мерзнуць лапы голыя на марозе тут!

Хтось у рукі пляснуў з усіх сіл.
Дзесяць цяпер лапак, як і крыл.

*1958*

## ПАЙШОЎ
## КОЎЗАЦЦА КАТОК

Пайшоў коўзацца каток
На рачулку, на лядок,
Як імчаўся, на хаду
Праваліўся у ваду.
Замачыў ён чаравічкі,
І касцюм, і рукавічкі.
Нетрывалы быў лядок,
Непаслушны быў каток.
А яму ж казала маці,
Каб лавіў мышэй у хаце,
Каб маленькіх калыхаў
І на цёплай печы спаў.

*1957*

## КОЗАЧКА-СВАВОЛЬНІЦА

За дзяўчынкай гоніцца
Козачка-свавольніца.
Рожкамі кальнула,
Хвосцікам махнула,
Гайсанула цераз плот
У зялёны агарод.
Пэўна, ёй, кудлатай,
Хочацца салаты?
Пэўна, ёй да густу
Морква і капуста?
Агароднік пужкай
Выгнаў валацужку.
Пыл з-пад ножак курыцца,
Як пабегла вуліцай.
Нібы зайчык, скача,
Гоніць гусак, качак.
— Ах ты, непаслушніца! —
Кажа цётка-птушніца.
Вось табе і «мэ-ка-ка» —
Пухне ў козачкі шчака.

*1957*



## ЗМЕСТ

## *Рэха маладосці*

*З крымскага сшытка*

## *Сонца над маім асеннім садам*

## *За творамі Шушкевіча чарга*

## *Казачны церам*

**Шушкевіч С.**

Ш 98 Выбранае: Вершы/Прадм. А. Марціновіча; Маст. А. Каравай.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 414 с., 9 л. іл., партр.

ISBN 5-340-00109-1.

Шушкевич С. Избранное: Стихи.

Станіслаў Шушкевіч (нар. у 1908 г.) — старэйшы беларускі паэт. У зборнік увайшлі вершы з кніг, якія выйшлі ў 1930 — 1984 гг.: «Дарогай вясны», «Вершы», «Услед за марамі», «Рэха маладосці».

Вершы прысвечаны Радзіме, сынам зямлі беларускай Я. Купалу, Я. Коласу, М. Багдановічу, брацкай дружбе народаў. Ёсць у кнізе і гумарыстычны раздзел, у якім сабраны вясёлыя жартаўлівыя вершы.

Ш $\frac{4702120200-126}{М 302(03)-88}$ 109—88 ББК 84Бел7




*Литературно-художественное издание*

ШУШКЕВИЧ СТАНИСЛАВ ПЕТРОВИЧ

**ИЗБРАННОЕ**

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

ШУШКЕВІЧ СТАНІСЛАЎ ПЯТРОВІЧ

**ВЫБРАНАЕ**

Вершы

---

Рэдактар Г. В. Роліч. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Н. У. Доваль.

ІБ № 2951

Здадзена ў набор 04.04.88. Падп. да друку 08.07.88. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 21,84+0,84 укл. Ум. фарб.-адб. 24,41. Ул.-выд. арк. 18,69. Тыраж 4000 экз. Зак. 1316. Цана 2 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

